


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**10** (996)

*КАСТРЫЧНІК*

**Выдаецца
са снежня 1922 года**



**РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

**Мінск 2012**

# ЗМЕСТ





ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»



**Мікалай ЧАРГІНЕЦ**

# СЫНЫ

*Раздзелы з рамана*

***Раман Мікалая Чаргінца «Сыны» — адзін з самых яркіх твораў гэтага выдатнага пісьменніка. Невыпадкова твор гэтак запатрабаваны чытачамі. І не толькі ў нашай краіне, а і за яе межамі, дзе выходзіў у перакладзе на многія мовы. У «Сынах» прываблівае добрае веданне аўтарам таго, пра што ён піша. Ды як жа інакш, калі з 1984-га па 1987 год Мікалай Іванавіч знаходзіўся ў Афганістане, непасрэдна ўдзельнічаў у многіх баявых аперацыях. Аднак гэты раман, як і іншыя творы М. Чаргінца, вызначаецца яшчэ і глыбокім псіхалагізмам, напружаннем дзеяння, вострымі сюжэтнымі хадамі, неардынарнымі сітуацыямі. Аб цікавасці да рамана сведчыць і тое, што яго першае выданне выйшла агромністым для Беларусі тыражом — 180 тысяч экзэмпляраў.***

---

***Чаргінец Мікалай Іванавіч** нарадзіўся 17 кастрычніка 1937 года ў горадзе Мінску. Скончыў Вышэйшую школу трэнераў Беларускага дзяржаўнага інстытута фізічнай культуры (1963) і юрыдычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1967). Пісьменнік, дзяржаўны дзеяч Беларусі. Генерал-лейтэнант унутранай службы (1993). Кандыдат юрыдычных навук (1977). Прафесар (2000). Заслужаны работнік Міністэрства ўнутраных спраў СССР (1977). З 1964 года — у органах унутраных спраў, у 1981—84 гг. — начальнік Упраўлення крымінальнага вышуку МУС Беларусі, з 1987 г. — Беларускага ўпраўлення ўнутраных спраў на транспарце МУС Беларусі. З 1993 г. — старшыня Камітэта па сацыяльнай абароне ваеннаслужачых, ветэранаў вайны і памяці загінуўшых пры Савеце Міністраў Беларусі, з 1997 г. — Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы, з 1998 г. — Парламенцкага Сходу Саюза Беларусі і Расіі па знешняй палітыцы. З 1984-га па 1987 год знаходзіўся ў Афганістане, непасрэдна прымаў удзел у многіх баявых аперацыях. Цяпер — старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі, сустаршыня Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі.*

*Піша па-руску. Аўтар кніг «Четвертый след» (1973), «Тревожная служба» (1975), «Следствие продолжается» (1977), «Финал Краба» (1979), «Приказ № 1» (1985), раманаў «Вам — задание» (1982), «За секунду до выстрела» (1983), што склалі дылогію «За секунду до выстрела», «Тайна Черных гор» (1987), «Сыновья» (1989), «Тайна Овального кабинета» (2001), «Смертник» (2002), «Последний герой» (2003), «Третья звезда» (2005) і многіх іншых. Усяго ім напісана больш як 40 мастацкіх твораў. М. Чаргінец аўтар некалькіх сцэнарыяў і спектакляў. За рознабаковыя дасягненні ў галіне культуры і навукі ў 1998 годзе занесены ў Кнігу рэкордаў Гінеса.*

***У біяграфіі «Сыноў» ёсць і яшчэ адзін не менш прыемны факт: у 1989 годзе (а ён і быў годам выхаду рамана асобнай кнігай у выдавецтве «Мастацкая літаратура») аддзел сацыялогіі тагачаснай Дзяржаўнай кніжнай палаты БССР прапанаваў чытачам спіс усіх 140 мастацкіх і дакументальна-мастацкіх кніг, што выйшлі ў рэспубліцы ў тым годзе. Пасля аналізу 1503 атрыманых анкет, ЭВМ паставіла «Сыноў» на трэцяе месца. Калі прыняць пад увагу, што першай была кніга «Знак беды. Раман. Карьер. Повесть» Васіля Быкава, а другой — «Хатынская аповесць. Публіцыстыка» Алеся Адамовіча, то вынік больш чым прыемны. Што ж, чытач заўсёды аддае перавагу сапраўднай літаратуры. Дарэчы, годам раней, кніга М. Чаргінца «Загад № 1» у выніку правядзення гэткага ж апытання заняла другое месца. Пасля кнігі «Повести» Васіля Быкава.***

***У 1990 годзе «Сыны» былі адзначаны Сярэбраным медалём імя Аляксандра Фадзеева, а ў 1995-м — залатым медалём і Міжнароднай прэміяй імя Валянціна Пікуля. Дарэчы, і сам Мікалай Іванавіч самымі любімымі з напісаных ім твораў лічыць дылогію «За секунду да выстралу» і раман «Сыны».***

***Думаецца, і тыя, хто пазнаёміцца з гэтым творам у перакладзе на беларускую мову, атрымае гэткую ж асалоду, як і чытачы, якія знаёмы з ім ў арыгінале. Шкада толькі, што часопіс «Полымя» не мае мажлівасці надрукаваць раман «Сыны» цалкам. Аднак у РВУ «Літаратура і Мастацтва» ён выходзіць асобнай кнігай.***

***Цяпер жа прапануем асобныя раздзелы з гэтага твора, у якіх расказваецца пра мінчаніна Мікалая Кобліка і ягоных сяброў, якія выконвалі свой інтэрнацыянальны абавязак у Афганістане.***

## Бой у акружэнні

Шувалаў ішоў першым. За ім, выканаўшы баявое заданне без страт, у прыўзнятым настроі рухаліся салдаты. Усе з задавальненнем, не ашчаджаючы, пілі ваду з біклаг, разлічваючы хутка вярнуцца ў падраздзяленне.

Сцежка станавілася ўсё больш пакатай, ісці было лягчэй. Шувалаў часта паглядваў то на карту, то на компас. Праз чатыры кіламетры паварот на поўнач, а там не больш чым праз кіламетр да сустрэчы са сваёй ротай. Камандзір аддзялення крыху запаволіў крок і азірнуўся. Салдаты ішлі як і трэба, вытрымліваючы дыстанцыю, у патыліцу адзін аднаму. Яны выйшлі з вузкай цясніны і пакрочылі па невялікім плато, усеяным буйнымі і дробнымі камянямі. Нейкая падспудная трывога нарадзілася ў душы Шувалава. Ён уважліва пазіраў па баках, а затым коратка загадаў:

— Перадаць па ланцужку: быць напагатове, інтэрвал паміж байцамі пяць метраў.

Аддзяленню трэба было прайсці па адкрытай мясцовасці, з двух бакоў агароджанай гарамі. А ў іх шмат шчылін, расколін, выемак, у якіх можна добра замаскіравацца.

«Так, флангі нядобрыя, таго і глядзі...» — дадумаць Шувалаў не паспеў. Справа і злева грукнулі стрэлы. Ён, падаючы, крыкнуў:

— Лажыся! Агонь!

Выпусціўшы па левай градзе кароткую чаргу з аўтамата, Шувалаў азірнуўся. Яны знаходзіліся на схіле невялікай, з пакатымі бакамі вышыні. Ні ямкі, ні

вялікіх валуноў, за якімі можна схавацца! Шувалаў зразумеў, што патрапілі ў засаду ў вельмі нязручным для сябе месцы і спадзявацца, што душманы хутка адыдуць, не варта. «Засеклі яшчэ тады, калі мы пачалі спускацца. Паспелі, сволачы, добра падрыхтавацца, ды і месца абралі ўдалае».

— Абкласціся камянямі, патроны эканоміць! Біць толькі ўпэўнена. — Ён памарудзіў секунду і зноў, імкнучыся перакрычаць грукат стрэлаў, крыкнуў: — Папоў, паспрабуй падавіць кулямётчыка!

Капаць зямлю не было сэнсу, і салдаты зграбалі камяні наперадзе сябе, закрывалі ў першую чаргу галовы.

— Камандзір! — пачуўся голас радыста. — Чуеш, камандзір, у мяне радыёстанцыю разбілі!

«Ну вось, пачынаецца!» — мацюкнуўся ў душы Шувалаў і дастаў дзве чырвоныя ракеты. Душманы заўсёды імкнуцца ў першую чаргу вывесці са строю радыёстанцыю. Цяпер ім гэта ўдалося. Шувалаў выпусціў у неба адну за адной дзве чырвоныя ракеты. «Але ж ці ўбачаць іх свае?»

Некаторая разгубленасць, выкліканая нечаканым нападам, прайшла. Думка працавала выразна і ясна. Шувалаў ужо прыкінуў, што распачаць. Гучна крыкнуў:

— Лявонаў! Кідай дымы направа, я — налева!

Дымавыя шашкі былі толькі ў Лявонава і Шувалава. Лявонаў дзейнічаў ашчадна: кінуў тры «дымы», і шчыльная аранжавая паласа расцягнулася метраў на сорак. Шувалаў зрабіў тое ж, і зараз дзве сцяны дыму на нейкі час схавалі хлопцаў ад душманаў. Душманам давялося весці агонь усляпую. Шувалаў ускочыў на ногі.

— Мужыкі, адыходзім да вяршыні вышыні!

Яны падхапілі забітага і параненага таварышаў і хутка змянілі пазіцыю. На самым версе размясціліся па крузе і пачалі абкладвацца камянямі. Кожны разумеў, як важна ў гэтыя хвіліны ўкрыцца. Салдаты ліхаманкава грэблі камяні, падцягвалі вялікія кавалкі пароды, але і «духі» не драмалі. Яны зразумелі манеўр савецкіх воінаў і, без перапынку страляючы, праз дымавую заслону рушылі наперад. Прыгінаючыся і хаваючыся за камяні, душманы хутка акружылі пакатую вышыню. Шувалаў прыкінуў, што найболей зручнай у душманаў будзе пазіцыя справа. Невысокая града камянёў дазваляла тут добра схавацца, а пакаты схіл даваў магчымасць хутка наблізіцца да акружаных. Шувалаў, паказваючы рукой на граду, загадаў:

— Лявонаў і Коблік, з ручным кулямётам трымаеце пад прыцэлам вось той участак. Папоў і Кальцоў, прыкрыйце тыл. Турлакоў! Фелікс, — паклікаў старшы сяржант рудавалосага кучаравага гранатамётчыка, — на левы фланг. Бадаеў — з ім!

Выпусціўшы кароткую чаргу па трох душманах, якія паказаліся з-за вялікага валуна, Шувалаў азірнуўся:

— Гулямаў, як у Банявічуса? Параніла небяспечна?

Невысокі і вёрткі радавы Гулямаў, канчаючы перавязваць параненага таварыша, адказаў:

— Скразное раненне ў бядро, сцякае крывёй і правае плячо.

Банявічус прыпадняўся на здаровае плячо.

— Я магу весці агонь левай рукой.

— Добра, Альгірдас. Давай да мяне. Гулямаў, дапамажы.

Шувалаў саступіў Банявічусу сваё месца за невялікім камяністым насыпам і, даўшы кароткую чаргу па душману, які паспрабаваў заняць зручнейшую пазіцыю, тут жа пачаў ладзіць новы бруствер.

Душманы ўзмацнілі агонь. Пакуль яны не рызыкавалі ісці ў атаку і, нібы зграя ваўкоў, колам абклаўшы аддзяленне Шувалава, вялі шалёны агонь і чакалі.

Задума іх была зразумелая: прымусіць дэсантнікаў выкарыстаць увесь боезапас, а затым узяць іх голымі рукамі.

Шувалаў, ярасна абломваючы пазногці, узводзіў ахоўны рубеж. Гулямаў падцягнуў даволі ладны камень.

— Камандзір, трымай!

— Дзякуй, Гулямаў, ты яго да Банявічуса падсунь, бачыш, ён дрэнна закрыты. А сам паўзі да Лявонава і Кобліка, па-мойму, там будзе цяжэй за ўсё. Пакуль у наступленне не ідуць, вядзіце агонь толькі адзіночнымі.

Лявонаў і Коблік бачылі, што ўжо не меней як тры дзясяткі душманаў знаходзяцца насупраць іх, відавочна рыхтуючыся да рыўка. Справа ад Лявонава ўладкаваўся Гулямаў. Ён нейкім чынам умудрыўся прыцягнуць яшчэ адзін даволі вялікі камень і цяпер маленькай сапёрнай лапаткай ліхаманкава дзёўб каменны грунт.

Коблік азірнуўся і ўбачыў усіх хлопцаў. Яны то стралялі, то дзяўблі лапаткамі зямлю, імкнучыся лепей укрыцца. Толькі Толя Корж ляжаў у цэнтры круга. Куля патрапіла яму ў галаву, і ён памёр, не пакутуючы. Кобліку стала не па сабе ад думкі, што Толя ляжыць навідавоку ў праціўніка і зусім не абаронены ад яго куль.

«Можа, паспрабаваць неяк укрыць Толю?» — падумаў Коблік і хацеў падпаўзці да забітага таварыша. Але тым часам зусім побач, каля скроні, засвісталі кулі. Адна з іх высекла іскру з невялікага каменя проста ў твар, другая стукнула ў металічны прыклад аўтамата. Не, высоўвацца з-за грудка нельга! Ды і вакол загінуўшага ўзнімаюцца фантанчыкі пылу: паспрабуй высунься!

Душманы ўзмацнілі агонь. Цяпер яны стралялі ўжо з трох бакоў. Толькі там, дзе знаходзіліся Шувалаў і паранены Банявічус, было пакуль цішэй.

Шувалаў ледзь ссунуўся направа, каб дапамагчы Лявонаву, Кобліку і Гулямаву. Ім даводзілася цяжэй, чым каму. Душманаў стрымліваў толькі трапны агонь Лявонава, які кароткімі чэргамі з ручнога кулямёта прымусіў іх залегчы.

Раптам Коблік убачыў, як паміж двума вялікімі валунамі ценем праслізнуў і залёг душманскі гранатамётчык. Мікалай узяў пад прыцэл камень і затаіў дыханне. Вось душман ледзь-ледзь прыпадняўся над каменем, каб стрэліць з гранатамёта. Мікалай тут жа злавіў яго на мушку і плаўна націснуў на курок. Бандыт як на спружыне падскочыў, выпусціў з рук гранатамёт і зваліўся галавой на круглявы камень.

— Малайчына, Коблік! — пахваліў салдата Шувалаў, які бачыў усё гэта.

Нечакана змоўк кулямёт Лявонава, і душманы адразу ж заварушыліся, пачалі пераскокваць ад аднаго каменя да другога, імкнучыся бліжэй падступіцца да дэсантнікаў.

Шувалаў з трывогай паглядзеў у бок Лявонава.

— Што там у цябе, Антон?!

— Кулямёт перазараджвае, — адказаў за яго Коблік.

Дзіўнае пачуццё авалодала Коблікам. Яны акружаныя, смерць побач, яна лунала над галавой у любой выпушчанай праціўнікам кулі, а Коблік не баяўся. Ён толькі ў гэтым баі, знішчыўшы некалькі душманаў, адчуў сябе салдатам. Цяпер усе яны — дзевяць жывых і адзін забіты — сталі адзіным, непадзельным арганізмам, які будзе ваяваць да апошняга патрона.

А над галавой па-ранейшаму было бялявае неба з распаленым яркім дыскам сонца. Папіць бы! Але, на жаль, біклажка пустая.

Коблік эканоміў боепрыпасы, імкнуўся страляць трапна. Ён узяў на прыцэл камень, за які толькі што нырнуў чарговы душман, і ўважліва сачыў за ім. У поле зроку траплялі і іншыя духі, якія пераскоквалі ад аднаго каменя да іншага, але Коблік чакаў «свайго». І калі душман, спрабуючы зрабіць чарговы кідок, выскокваў з-за каменя, Кобліку не трэба было марна траціць час, каб прыцэліцца: адзінкавы стрэл трапляў у цэль. Мікалай вызначаў сабе наступнага душмана, імкнучыся абраць таго, які быў бліжэй за іншых.

Раптам пачуўся рэзкі свіст, і амаль у цэнтры круга, які ўтварылі салдаты аддзялення, адначасова з асляпляльна-яркай успышкай раздаўся выбух. І тут жа пачуўся голас Шувалава:

— Папоў, гэта з вашага боку гранатамётчык б’е?

— Так. Але больш не будзе, я паспеў яго падлавіць.

А душманы ўсё ўзмацнялі агонь, усё часцей перабягалі з месца на месца, імкнучыся наблізіцца да савецкіх салдат. Цяпер Шувалаў ужо ведаў, што іх не меней за дзвесце. Было ясна, што верхавод банды не пашкадуе сваіх людзей для таго, каб захапіць у палон хаця б аднаго савецкага салдата. Перадаўшы па ланцужку, каб хлопцы акопваліся як мага лепш, Шувалаў тужліва паглядзеў туды, дзе былі высокія горы: ці паспеюць свае прыйсці на дапамогу? Ён дастаў яшчэ пару ракет, і неўзабаве яны ўзвіліся ў неба. Банявічус з сумненнем пакруціў галавой.

— Ці заўважаць ракеты ў роце, бачыш, якія горы высокія?

Адказаць Шувалаў не паспеў. З усіх бакоў, здавалася, з усёй наяўнай зброі, з новай сілай душманы ўдарылі па аддзяленні. Яны выскоквалі з-за камянёў і беглі да гмаха. Старшы сяржант перавёў рычаг на стральбу чэргамі і гучна, імкнучыся перакрычаць грукат, аддаў каманду:

— Аддзяленне, да бою!

Усе яго салдаты былі напагатове. Гучна і злосна запрацаваў аўтаматычны гранатамёт Турлакова, звонка стукнуў чэргамі кулямёт Лявонава, пачуліся чэргі ззаду.

«Значыць, з усіх бакоў пайшлі», — падумаў Шувалаў і даў першую чаргу па душманах. Трое з іх, нібы спатыкнуўшыся, зваліліся. Астатнія, нізка прыгінаючыся да зямлі, працягвалі бегчы. Банявічус таксама адкрыў агонь. Перасільваючы боль і прыклаўшы прыклад аўтамата да левага пляча, ён страляў даволі трапна. Гэта было відаць па тым, як некалькі душманаў адразу ж аселі. Першымі адбілі атаку і прымусілі духаў адступіць Турлакоў і Бадаеў. Затым Папоў і Кальцоў, на пазіцыі якіх наступала невялікая група, змаглі павярнуць праціўніка назад. Нарэшце і Шувалаву з Банявічусам удалося адагнаць душманаў назад. Але на правым флангу склалася напружанае становішча. Душманы падышлі ў гэтым месцы блізка. Іх ручныя гранаты ледзь-ледзь не даляталі да пазіцый дэсантнікаў. Шувалаў загадаў Банявічусу заставацца на месцы, а сам перамясціўся направа, і яго флангавы агонь аказаўся дарэчы. Неўзабаве душманы заляглі, а затым пачалі адпаўзаць. Атака захлынулася. Але перадышка была кароткай.

— Камандзір, — паклікаў Банявічус, — пачынаецца!

Шувалаў і сам ужо бачыў, як з-за камянёў зноў паказаліся «духі». Ён дастаў чырвоную ракету і выпусціў яе ў неба. А раптам нарэшце заўважаць свае?

Не ведаў старшы сяржант Шувалаў, што група разведчыкаў, высланая камандзірам роты наперад, убачыла менавіта гэтую ракету і паведаміла аб ёй капітану Бачарову. Савецкія і афганскія салдаты неадкладна рушылі ў гэты квадрат.

Малодшы сяржант Чайкін знаходзіўся ў групе разведчыкаў, якая прайшла далёка наперад. Менавіта ён і ўбачыў першым чырвоную ракету. Павел ужо ведаў, што знікла аддзяленне, у якім служыў Коблік, і вельмі перажываў за хлопцаў.

Да разведгрупы далучыліся асноўныя сілы савецкай і афганскай рот. Бондараў, гледзячы на карту, задуменна пачухаў падбародак: «Шувалаў хутчэй за ўсё вырашыў ісці на злучэнне з узводам праз невысокі перавал, што знаходзіцца ў чатырох кіламетрах ад таго месца, дзе заўважана ракета. Толькі б яны пратрымаліся».

А Шувалаў і яго салдаты працягвалі весці цяжкі бесперапынны бой. Боепрыпасы змяншаліся, двойчы даводзілася кідаць гранаты: так блізка падыходзілі душманы. Аддзяленне адбіла ўжо сем атак, загінуў Гулямаў, быў паранены Папоў і сам камандзір. Праўда, Шувалаў атрымаў няцяжкае раненне, а вось Папова параніла ў галаву. Яго перавязалі, і, калі яму стала лягчэй, ён ізноў узяўся за зброю. Шувалаў увесь час нагадваў:

— Хлопцы, не давайце весці агонь з гранатамётаў.

Хлопцы імкнуліся так і рабіць. Разумелі, што калі ад куль невялікія насыпы яшчэ маглі абараніць, то ад гранаты ім не схавацца.

Калі адбілі чарговы напад, Шувалаў дабраўся да Лявонава і Кобліка. Горасна ўздыхнуў, убачыўшы загінуўшага Гулямава, якога хлопцы, як змаглі, схавалі за невялікім насыпам, затым спытаў:

— Ну як, мужыкі?

— Папіць бы, — варушачы сасмяглымі вуснамі, хрыпла адказаў Коблік.

Лявонаў, не адрываючы вачэй ад камянёў, за якімі заселі душманы, буркліва сказаў:

— Не разумею іх, чаго лезуць? Глядзі, ужо чалавек дваццаць пяць страцілі. Ведаюць жа, што ўсё адно жывымі мы не здадзімся, а сваіх не шкадуюць.

— Што зробіш, гаспадары гоняць цёмных мужыкоў, вось і лезуць. — Шувалаў агледзеў пазіцыю. — Як з боепрыпасамі?

— Засталося восем гранат і палова боекамплекта.

— Камандзір, — раптам схамянуўся Коблік, — а дзе трафейныя аўтаматы і ручны кулямёт?

— Правільная думка. Іх цягнулі Турлакоў і Бадаеў. Я высветлю. Праўда, не ведаю, ці ёсць патроны, я ж казаў, каб іх знішчылі на месцы.

— У магазінах павінны застацца, — заўважыў Лявонаў і пажартаваў: — А ты, Коля, не хацеў бы смальнуць па духах з ПЗРК?

— А што, я ні разу не страляў з гэтай штуковіны.

— Не, Коблік, табе нельга, — Лявонаў зрабіў сур'ёзны твар. — Ты ж і тут умудрышся самалёт падбіць.

Шувалаў па вартасцях ацаніў гумар сваіх баявых таварышаў у такім становішчы: «Дарагія мае хлопцы! Самі бадзёрацца і мяне падтрымліваюць».

Карыстаючыся перадышкай, Кальцоў перавязваў Папова. Шувалаў дапоўз да іх і равеў дыханне, а потым спытаў, як у іх з патронамі. Кальцоў адказаў:

— Застаўся яшчэ цэлы боекамплект. Добра, што бралі па два. Але мы ў нашых апанентаў пазычылі. Глядзі, колькі іх.

Толькі цяпер Шувалаў заўважыў, што ў Папова, акрамя снайперскай вінтоўкі, ёсць яшчэ і аўтамат. Узяў яго ў рукі: заходнегерманскі, дзевяціміліметровы.

— А патроны?

— Вось чатыры поўныя магазіны і россыпам штук дзвесце будзе.

— А ў мяне егіпецкі аўтамат і чатыры ражкі, — сказаў Кальцоў.

— Парадак! Папаўзу далей. — Шувалаў знік.

Турлакоў і Бадаеў набівалі стужку аўтаматычнага гранатамёта невялікімі спецыяльнымі гранатамі.

Шувалаў агледзеўся і зразумеў, што справы на гэтай пазіцыі ідуць лепш, чым у Лявонава і Кобліка. Забітыя душманы бліжэй чым за сто пяцьдзясят метраў не ляжалі. Аўтаматычны гранатамёт — магутная зброя, ён спыняў душманаў далёка ад дэсантнікаў.

— Фелікс, а дзе трафейныя аўтаматы?

— Вунь у мяшку, — кіўком галавы паказаў Турлакоў.

— Патроны ў магазінах ёсць?

— Па-мойму, ёсць. Ты хочаш іх скарыстаць?

— Ага. Перадай пару аўтаматаў і ўсе магазіны Кобліку і Лявонаву. У іх патроны да кулямёта канчаюцца.

Не зважаючы на тое, што ў бядры ўзмацніўся боль, Шувалаў папоўз да сваёй пазіцыі. Не паспеў ён перавесці дыханне, як душманы зноў пачалі выпаўзаць з-за камянёў. Пачыналася новая атака.

## «Мой сын — салдат!»

Вера Фёдараўна паступова прывыкала да таго, што сын служыць у Афганістане. Яна стала разважаць спакайней: «Коля падзяліў лёс шматлікіх сваіх аднагодкаў. Ён стаў салдатам, а ў Афганістане знаходзіцца наша войска, такія ж, як і Коля, хлопцы. Ён не прывык ухіляцца ад цяжкасцей, я сама сыноў да гэтага з дзяцінства прывучыла». У душы Вера Фёдараўна ганарылася сынам: яе хлопчык — воін-інтэрнацыяналіст, дэсантнік. Калі сярод знаёмых заходзіла гутарка пра Афганістан, пра нашых дзяцей, якія знаходзіліся там, Вера Фёдараўна бачыла, як паважліва, з непрытоенай цікавасцю людзі глядзелі на яе. Многія лічылі, што яна ведае пра гэту краіну больш, чым іншыя. У такія хвіліны на душы ў яе станавілася спакайней, мацнела вера ў тое, што ў сына ўсё будзе добра і ён вернецца жывым і здаровым.

Вось і сёння перад заканчэннем работы да Коблік падышла супрацоўніца і працягнула маленькі лісток паперы.

— Вамі цікавіліся з вучылішча, у якім вучыўся ваш сын, прасілі патэлефанаваць.

Вера Фёдараўна набрала патрэбны нумар. Ёй адказаў намеснік дырэктара вучылішча. Папрасіўшы прабачэння, ён папрасіў адрас Мікалая і растлумачыў:

— Нашы навучэнцы хочуць перапісвацца з ім. Я думаю, што і Мікалаю будзе прыемна атрымаць ад іх вестачку. Акрамя таго, мы хочам ведаць, як вы жывяце? Ці не маеце патрэбы ў чым-небудзь?

З добрым настроем яна ішла дахаты. Было прыемна, што ў вучылішчы не забыліся на яе сына. Надвор’е стаяла сонечнае, і Веры Фёдараўне хацелася хутчэй справіцца з хатнімі справамі і выйсці ў сквер пасядзець на лаўцы, пачытаць.

Дома яна пачала хутка рыхтаваць Сяргею вячэру. Вера Фёдараўна была ўдзячная старэйшаму сыну за тое, што ён быў уважлівым, імкнуўся падтрымаць яе ў трывожным чаканні.

Званок у пярэднім пакоі прымусіў яе спачатку зірнуць на гадзіннік, а затым паспяшацца да дзвярэй. Сяргею было яшчэ рана вяртацца, значыць,

хтосьці староннi. На парозе стаяла незнаёмая жанчына. Светлыя пушыстыя валасы абрамлялі круглы твар. Яна ветла ўсміхнулася.

— Добры дзень, Вера Фёдараўна. Прашу мяне прабачыць, што ўрываюся да вас без запрашэння.

— Добры дзень, праходзьце, калі ласка. Пагаворым у кватэры.

У пярэднім пакоі госця прадставілася:

— Чайкіна Ніна Цімафееўна. Мне пра вас расказваў Іван Леанідавіч Лемехаў, а сёння я атрымала ліст ад сына. — Яна дастала надарваны канверт. — Аказваецца, нашы дзеці служаць у адным батальёне. Яны пасябравалі, і мой Паша з захапленнем піша пра вашага Колю. Я патэлефанавала Івану Леанідавічу, папрасіла ваш адрас і, не адкладаючы, адразу ж накіравалася сюды.

— Ой, якая вы малайчына! — пляснула рукамі Вера Фёдараўна. — Праходзьце, калі ласка. — І яна, ледзь падтрымліваючы пад локаць госцю, павяла яе ў залу. Яны ўладкаваліся на канапе, але неўзабаве з кухні данёсся рэзкі свісток: закіпеў чайнік. Вера Фёдараўна замітусілася.

— Ніна Цімафееўна, я зараз прыгатую чай, і мы з вамі спакойна пагаворым. Вы нават не можаце ўявіць сабе, як я рада вашаму прыходу.

Яна хутка заварыла чай, падцягнула да канапы часопісны столік, паставіла садавіну, печыва. Вера Фёдараўна з задавальненнем старалася, накрываючы на стол, з радаснай усмешкай глядзела на госцю. Разгаварыліся. Чайкіна працавала рэдактарам на тэлебачанні. У яе словах Вера Фёдараўна адчула прыхаваную трывогу за свайго сына. У гэты вечар жанчыны даведаліся адна пра адну ўсё. Дзеці хутка зблізілі матуль.

Калі прыйшоў Сяргей, яны, нібы старыя знаёмыя, вялі паміж сабой гутарку.

— Сярожа, — паклікала сына Вера Фёдараўна, — пазнаёмся: Ніна Цімафееўна Чайкіна. Яе сын служыць з Колем.

— Чайкін? Павел? А я ўжо ведаю, што яны ў адным батальёне служаць.

— Адкуль ты ведаеш?

— А я сёння ў абед забег дахаты, патрэбен быў пашпарт, гляджу, а ў паштовай скрыні ліст. Вось ён. — Сяргей працягнуў маці канверт. — Коля ў ім піша пра Паўла. Адчуваецца, што хлопцы дужа пасябравалі.

Яны доўга пілі чай утраіх, вялі нетаропкую гутарку. Пачало цямнець, калі Чайкіна пайшла.

Вера Фёдараўна спачатку прачытала ліст, а затым у добрым настроі прынялася прыбіраць са стала.

— Мам, — пачуўся голас Сяргея, які быў у сваім пакоі. — Я выведу Кузю на прагулку.

Адказу ён не пачуў, бо ў дзверы пазванілі.

— Я адкрыю, — сказаў Сяргей.

Вера Фёдараўна заспяшалася ў прыхожую. Туды ўжо заходзілі Жукін і Салдуноў. Яны па чарзе сказалі «добры вечар» і нерашуча спыніліся.

Сяргей адказаў, а Вера Фёдараўна стаяла моўчкі. Жукін нерашуча таптаўся на адным месцы.

— Вера Фёдараўна, мы да вас па-суседску зайшлі. Вельмі трэба пагаварыць.

— Пра што? — суха спытала гаспадыня, не запрашаючы мужчын у пакой.

— Гэта далікатная размова, і мы хацелі б пагаварыць з вамі адной.

Вера Фёдараўна здагадвалася, пра што яны хочуць гаварыць. Напэўна, іх прыціснулі як след у міліцыі, вось і прыбеглі. Яна ціха адказала:

— Мой сын досыць сталы чалавек, каб прысутнічаць пры далікатных размовах. Слухаем вас.

— Разумееце, Вера Фёдараўна, — няўпэўнена пачаў Жукін, — нас сёння выклікалі ў міліцыю і абвінавацілі ў тым, што мы нібы пісалі на вас ананімкі.

— А што, гэта не так? — хмурна спытала Вера Фёдараўна, ледзь стрымліваючы раздражненне.

— Разумееце, Вера Фёдараўна, мы апынуліся ў бязвыхадным становішчы. — Жукін глядзеў убок. — Мы пазбаўлены магчымасці абараняцца і даказваць, што мы гэтага не рабілі. Нас прыстрашылі: калі не папросім у вас прабачэння і вы не скажаце, што прабачаеце, то паведамяць нам на работу. Самі ведаеце, што там ніхто разбірацца не будзе.

— А вы ж ведаеце, — уставіў Салдуноў, — што Павел Сцяпанавіч займае адказны пост і карыстаецца вялікім аўтарытэтам.

— Так, а пасля такога паведамлення мне хоць з работы сыходзь, — Жукін, пацвярджаючы гэта, заківаў галавой. — А ў міліцыі і слухаць не хочуць, што мы невінаватыя. Ім трэба хутчэй закрыць справу, вось і спяшаюцца. Толькі вы, дарагая Вера Фёдараўна, можаце выратаваць нас. Вам жа няцяжка сказаць ім, што вы да нас прэтэнзій не маеце.

Веру Фёдараўну ахапіў гнеў. «Нашкодзілі, нагадзілі, гнюсы, а калі вас злавілі за руку, то нават прызнацца ў гэтым сорамна. І тут спрабуеце выкруціцца. Не, нічога ў вас не выйдзе!» — Вера Фёдараўна хацела выказаць свае думкі ўслых, але бледны твар сына, яго гнеўна сціснутыя вусны і палаючыя вочы спынілі яе. Варта ёй толькі падаць голас, як Сярожа можа не вытрымаць і накінуцца на злачынцаў.

Вера Фёдараўна старалася быць спакойнай.

— Дык вы сцвярджаеце, што ананімак не пісалі?

— У тым і справа, што не, — загаварыў Салдуноў. — Але ў міліцыі нас не слухаюць. І ў такой сітуацыі нам лепш не спрачацца з імі і не злаваць іх.

— Не разумею, калі вы не пісалі, дык чаго баіцеся?

— Мы ж вам растлумачылі... — пачаў Салдуноў, але Вера Фёдараўна яго перабіла:

— Кіньце! Што вы з сябе робіце нявінных ягнят. Я кансультавалася ў юрыста. Ён мне растлумачыў, што аўтараў гэтых ананімак варта прыцягнуць да судовай адказнасці за паклёп. Экспертыза почырку дасць заключэнне: ці ваш ён, ці не ваш. І калі гэта не вашых рук справа, то запатрабуйце, каб зрабілі экспертызу.

— Мы не хацелі, каб усё заходзіла так далёка, — прамармытаў Жукін. — Нам у міліцыі сказалі, што галоўнае — гэта ваша заява, на гэтым усё і скончыцца.

— Сярожанька, дай мне, калі ласка, ліст паперы і ручку.

— Мама, — разгубіўся Сяргей, — ты што, хочаш напісаць такую заяву?

Сяргей моўчкі паціснуў плячамі і прынёс паперу і ручку. У куце прыхожай стаяў невялікі столік для тэлефона. Вера Фёдараўна адсунула апарат у бок і, стоячы, пачала пісаць: «Начальніку міліцыі. Я, Коблік В. Ф., не маю ніякіх прэтэнзій да маіх суседзяў: Жукіна Паўла Сцяпанавіча, яго жонкі Ніны Мікалаеўны і іх сына Салдунова Мікалая Апанасавіча. У той жа час, настойліва прашу знайсці таго, хто пісаў на маю сям’ю ананімкі, і прыцягнуць яго да строгай адказнасці ў адпаведнасці з нашымі законамі».

Падпісаўшы заяву, Вера Фёдараўна працягнула яе Жукіну.

— Вось, калі ласка. Я напісала, што да вас прэтэнзій не маю.

Жукін і Салдуноў пачалі чытаць. Вера Фёдараўна назірала, як паступова выцягваліся і цямнелі іх твары.

Прачытаўшы, яны штосьці разгублена прамармыталі і адразу ж пайшлі.

Вера Фёдараўна моўчкі ўсміхнулася. Сяргей, зачыніўшы дзверы, сказаў:

— Дыпламат ты ў мяне. Цікава, як яны выкруцяцца з гэтай гісторыі?

— А ніяк. Убачыш, заўтра ці паслязаўтра прыбягуць ізноў. Ім жа няма куды дзявацца.

Вера Фёдараўна як у ваду глядзела. На наступны дзень раніцай у двары яе чакаў Жукін. З жаласнай усмешкай ён сказаў:

— Вы не будзеце пярэчыць, калі я вас трохі правяду? Мне трэба з вамі пагаварыць.

Не адказваючы, Вера Фёдараўна пакрочыла далей. Жукін пайшоў побач.

— Вера Фёдараўна, я не мог быць учора з вамі да канца адкрытым. Гутарка была настолькі далікатнай, што прысутнасць вашага сына не дазваляла мне расказаць вам усё. — Ён роблена ўздыхнуў. — Вы не ўяўляеце, як мне цяжка. Вы ж ведаеце, што Мікалай мне не родны сын. Дык вось... — Жукін шматзначна памаўчаў. — Ананімкі пісаў ён. У міліцыі ж нас абвінавацілі абодвух. Што мне заставалася рабіць? Сказаць праўду — значыць, разбурыць сям’ю. Вось і даводзіцца моўчкі трываць усё гэта. Але ў той жа час, калі напішуць мне на працу — то бывай — кар’ера. Таму ў мяне адно выйсце: прасіць вас выратаваць ад ганьбы і маю сям’ю, і асабіста мяне.

Веры Фёдараўне было непрыемна яго слухаць.

— У гэтых брудных справах я вам не памагатая. Вось мы і прыйшлі. Да пабачэння. — Яна накіравалася да пад’езда вялізнага будынка.

Прайшло дзве гадзіны, і раптам Веры Фёдараўне паведамілі, што яе пытае нейкі малады чалавек.

«Сярожа, — падумала яна, накіроўваючыся ўніз да вахцёра. Што здарылася?»

Унізе стаяў... Салдуноў.

Масляныя вочы падхалімажна ўсміхаліся.

— Вера Фёдараўна, вы мяне выбачайце, але я вырашыў пагаварыць з вамі сам-насам. Калі можна, то выйдзем на вуліцу?

— Мне няма калі, — холадна сказала Коблік. — Што вы хочаце?

Яны адышлі ўбок, каб не замінаць прахожым.

— Вера Фёдараўна, вы ж ведаеце, што Павел Сцяпанавіч мой айчым. Усё, што ёсць дома: і тэлевізар, і мэбля, і магнітафон, і халадзільнік — усё гэта купілі дзякуючы яму. Таму мы з мамай цалкам залежым ад яго. І вось такія непрыемнасці. Выклікаюць яго і мяне ў міліцыю, кажуць, што мы пісалі на вас заявы.

— Ну, не заявы, а ананімкі, — паправіла яго Коблік.

— Так-так, ананімкі. А на самай справе пісаў іх Павел Сцяпанавіч. І скажы я пра гэта, то ён тут жа расправіцца са мной і з мамай, сыдзе ад нас... Павел Сцяпанавіч патрабуе, каб я на сябе ўзяў гэту справу. Але вы ж самі ведаеце, што са мной тады будзе.

— Я не ведаю, што будзе з вамі, — цвёрда сказала Вера Фёдараўна. — Я ведаю іншае: ганебнасць павінна быць пакарана. Скажыце, а ваш Павел Сцяпанавіч ведае, што вы пайшлі да мяне?

— Не, што вы! Я вырашыў употай ад яго пабачыцца з вамі. Вера Фёдараўна, напішыце ў міліцыю пра тое, што да мяне не маеце прэтэнзій.

— З якой ласкі я буду гэта рабіць? Міліцыя мне яшчэ не паведаміла, хто пісаў гэты паклёп. Вось, калі паведаміць, тады і буду думаць. Выбачайце, мне трэба працаваць. — І яна накіравалася да ліфта.

## Жыццё і смерць ізноў стаяць побач

Коблік тужліва глядзеў праз завіслы пыл на чырванаваты дыск сонца, якое ўжо апускалася за вяршыні заходніх гор. Карыстаючыся кароткай перадышкай, ён хутка напакаваў апошнімі патронамі магазін.

— Што, канчаюцца «арэшкі»? — спытаў у яго Лявонаў, гледзячы ў бок камянёў, дзе зноў заварушыліся душманы, зноў рыхтуючыся да чарговай атакі.

— Так, палова ражка засталося.

— Патрончык-то пакінь адзін, лепш за ўсё ў асобны магазін устаў. А я для сябе гэту штучку пакінуў. — Ён паказаў на гранату, якая ляжала побач. — У сябе з кулямёта цяжка страляць.

Коблік злавіў сябе на думцы, што вядуць яны гутарку пра сваю смерць як пра звычайную справу.

«А як жа інакш, — падумаў Мікалай, — не здавацца ж нам жывымі». Думкі адразу ж вярнулі яго дадому. «Мама... бедная. Як яна перанясе, калі даведаецца? А як жа яна даведаецца? Бо мы ж усе загінем. А душманы, кажуць, нават целы савецкіх салдат забіраюць з сабой. А што, калі нашы падумаюць, што мы здаліся ворагу?»

На душы Кобліка стала нядобра ад гэтай думкі. Не, яму не было страшна загінуць. Іншага шляху ён і не бачыў. Але думка пра тое, што раптам хтосьці нават на імгненне асмеліцца падумаць, што ён, савецкі салдат, аддаў перавагу палону замест смерці, напалохала яго. «Пра што гэта я? — абарваў сябе Коблік. — Хто паверыць таму, што я збаяўся?! Што, хіба не ведаюць мяне мама і Сяргей? Света? Не, я магу памерці, не турбуючыся за сваё імя. Галоўнае цяпер — прымусіць душманаў заплаціць за нашы жыцці як мага больш вялікай цаной».

А Шувалаў, падлічваючы боепрыпасы, шукаў выйсце. «Калі пратрымаемся да цемры, то рызыкнём пайсці на прарыў. Толькі ў які бок? Паспрабаваць адысці назад у горы? Але што там рабіць без боепрыпасаў і вады? Не, лепш пойдзем наперад. Нашы, напэўна, дзесьці недалёка, шукаюць нас.

Старшы сяржант паглядзеў туды, дзе заселі душманы. Павярнуўся да Банявічуса:

— Альгірдас, як ты?

— Парадак, Юра. Толькі патронаў засталося менш чым магазін.

— Гранат?

— Тры.

— І ў мяне чатыры. Ты паглядзі тут, а я хлопцаў наведаю.

— Добра. Будзь асцярожны, духі сочаць за намі, і на такой адлегласці падсекчы цябе — як слова сказаць.

— Не хвалюйся, не патрапяць.

Паўзці Шувалаву было цяжка. Параненае бядро аддавала вострым болем. Сціснуўшы зубы, ён поўз наперад. Коблік быў на месцы, а Лявонаў перасунуўся метраў на дзесяць правей, дзе паспеў ужо зрабіць невялікі насып. Шувалаў спытаў у Кобліка:

— Ну як, не страшна?

— Не, патронаў толькі мала.

— А ты эканом. Страляй толькі адзіночнымі і трапна. — Шувалаў паморшчыўся і пацёр бядро. — Хто ў цябе дома?

— Мама, брат Сяргей, — чамусьці збянтэжыўшыся, адказаў Коблік.

— А ў мяне акрамя бацькоў дзве малодшыя сястрычкі. — І раптам, нібы спахапіўшыся, сказаў: — Пра смерць не думай. Хутка сцямнее, пойдзем на прарыў. Так што трымайся, мужык!

— Трымаюся. Як хлопцы?

— Банявічус малайчына, а як астатнія, цяпер высветлю. Пакуль. — І ён папоўз далей.

Лявонаў крыху адсунуўся, даючы магчымасць Шувалаву схавацца за грудком, потым сказаў:

— Ты б паменш лазіў, а то дастануць.

— Як бы не так. Поўзаць мы навучыліся. Ну, як у цябе?

— Парадак. Патронаў — адзін магазін, але яшчэ ёсць шэсць гранат ды кулакі.

— Ясна. Трымай яшчэ дзве гранаты.

— Дзякуй.

— Няма за што. У батальёне разлічышся.

— А ты думаеш, што мы зможам вырвацца?

— А ты? Не развітвайся раней часу з жыццём, Антон. Паспрабуй зберагчы патроны, нам з табой давядзецца прыкрываць. Мы ж — «старыя».

— Ага. Гэта зразумела. Глядзі, якую я пазіцыю выбраў. Яны сунуцца цяпер крыху лявей, каб проста на кулямёт не лезці, ну а я іх падпушчу бліжэй.

— Ну-ну, — ледзь усміхнуўся Шувалаў.

Казаць Лявонаву штосьці такое, што б падбадзёрыла яго, старшы сяржант не стаў. Антон — дасведчаны салдат і сам не горш за камандзіра разумеў становішча. Шувалаў папоўз далей. Наблізіўся да Папова, той у гэты момант стрэліў са снайперскай вінтоўкі і задаволена прамовіў:

— Чатырнаццаць.

— Ты што, у ачко гуляеш? — задыхаўшыся, спытаў Шувалаў.

— Якое там ачко! Тут і дваццаць пяць не будзе пераборам.

— І я ўжо дзевяць маю, — пачуўся голас Кальцова.

— Мог бы больш, ды лянуешся, — пакепваючы з сябра, сказаў Папоў.

— Так, з табой пацягаешся, — адказаў Кальцоў. — Пстрыкаеш, як арэшкі.

— А як жа інакш? Урэшце, я снайпер ці не снайпер?

— Снайпер, снайпер, — супакоіў яго Кальцоў. — Ды і патроны расходуеш эканомна. Малаток!

— Мужыкі, — звярнуўся да іх Шувалаў, — вы чуеце мяне, калі я крычу?

— Вядома, — пажартаваў Кольцоў, — калі ты голас падаеш, то нават духі заміраюць на месцы.

— Добра табе, — махнуў рукой Шувалаў. — Калі сцямнее, будзем прабівацца наперад.

— А як з тымі, хто загінуў?

— Возьмем з сабой, а як жа інакш!

— Правільна, камандзір, — падтрымаў Шувалава Папоў. — Калі адыходзіць, то ўсім разам.

— Ну, добра, трымайцеся, браткі, я пайшоў далей.

Калі Шувалаў падпоўз да наступнай пазіцыі, то сэрца ў яго пахаладзела. Турлакоў рабіў перавязку Бадаеву. Шувалаў адразу ж зразумеў: раненне сур’ёзнае. Не зважаючы на боль у бядры, ён заспяшаўся да іх.

— Што, у жывот?

Адказаў сам Бадаеў:

— Так, камандзір, здаецца, я адваяваўся.

Турлакоў паспеў ужо закрыць павязкай рану Бадаеву, але кроў хутка афарбоўвала бінт у пунсовы колер. Шувалаў дацягнуўся да аўтамата Бадаева і дастаў з металічнага прыклада перавязачны пакет, падаў яго Турлакову.

— Накладзі яшчэ адну павязку.

Але Бадаеў, пратэстуючы, слаба паварушыў рукой.

— Не трэба, Юра. Гэта апошні пакет. Хто ведае, што яшчэ можа здарыцца.

Па шчоках Турлакова цяклі слёзы, і, каб іх не бачыў Бадаеў, ён увесь час адварочваў галаву ўбок. Яны палажылі Бадаева за брустверам і хутка падрыхтавалі для Турлакова новую пазіцыю.

— Юра, — ледзь чутна паклікаў Бадаеў.

Шувалаў азірнуўся.

— Юра, там у мяшку павінен быць яшчэ адзін трафейны пісталет, дай мне яго.

Крыху павагаўшыся, Шувалаў уклаў іспанскую «астру» ў правую руку Бадаева. Ціха і цвёрда сказаў:

— Пеця, толькі не дуры, чуеш?!

— Не турбуйся, камандзір. Я на ўсякі выпадак. Зарадзі мне яго, у мяне сіл нестае гэта зрабіць.

Шувалаў перасмыкнуў затвор пісталета, паслаўшы патрон у патроннік.

— На, Пятро, трымайся. Я ўпэўнены, што нашы хутка падыдуць.

Шувалаў заспяшаўся да Банявічуса. Душманы пайшлі ў атаку. Зноў запстрыкалі адзіночныя стрэлы, загрукатаў гранатамёт. Кулямёт Лявонава пакуль маўчаў. Але раптам гранатамёт Турлакова ўдарыў доўгімі чэргамі, і Шувалаў трывожна крыкнуў:

— Фелікс, як там у цябе?

— Гэта я ім за Пецю! Ён памёр!

І тут, нібы па камандзе, усе хлопцы ўдарылі чэргамі. Шувалаў гучна крыкнуў:

— Усім перайсці на адзіночны агонь. Гэта — загад!

Раптам камандзір звярнуў увагу на душманаў. Яны, амаль не прыгінаючыся, беглі кудысьці ўлева, да гор. Шувалаў спачатку падумаў, што яны хочуць перагрупавацца і ўсімі сіламі наваліцца на Кобліка і Лявонава, але Банявічус гучна закрычаў:

— Мужыкі, нашы! Слова гонару, нашы ідуць! Духі кіпцюры рвуць!

Шувалаў убачыў, як ад гор трыма вялікімі групамі сюды бягуць свае. Ён ускочыў на ногі і даў доўгую чаргу наўздагон уцякаючым душманам. Усе хлопцы таксама стралялі, ужо не шкадуючы патронаў. Праз хвіліну ўсе, хто мог хадзіць, збіліся ў кучу, абдымаліся і смяяліся.

Коблік бачыў, што наперадзе ўсіх бяжыць Чайкін. Мікалай пабег яму насустрач і раптам з жахам убачыў, што Чайкіна ахутаў слуп дыму і пылу. Грымнуў глухі выбух. Коблік спыніўся. Пыл павольна асядаў. Чайкін нерухома ляжаў на зямлі.

— Пашка! — ускрыкнуў Коблік і кінуўся да Чайкіна, да якога бегла ўжо некалькі чалавек.

Твар, рукі, абарваная адзежа ў Паўла былі чорнымі і ў пыле. Коблік нават не адразу разгледзеў на яго твары і руках чорную кроў. Мікалай нахіліўся над ім і, штосьці няскладна кажучы, прыпадняў галаву. Вочы ў Паўла былі заплюшчаны, але вось ён раскрыў іх шырока-шырока і зірнуў на Кобліка. Потым зноў прыкрыў вейкамі, ненатуральна доўгімі ад нацярушанага пылу.

— Падтрымай яму галаву, — сказаў Кобліку батальённы ўрач. Мікалай бачыў, як доктар хутка, проста праз адзежу, зрабіў Чайкіну ўкол, а затым пачаў аглядаць яго ногі. І тут Коблік адчайна застагнаў: ён убачыў, што ў Чайкіна адарвана правая нага.

— Паша, сябар, што ж гэта такое?!

Мікалай асцярожна пачаў счышчаць з твару Чайкіна бруд. Побач ужо быў і санінструктар. Ён падклаў пад галаву Чайкіна сумку і пачаў дапамагаць урачу. Коблік адышоў крыху ўбок ад баявых таварышаў, якія стоўпіліся вакол Чайкіна, машынальна паставіў аўтамат на засцерагальнік. Хтосьці з хлопцаў штосьці пытаў у яго, Мікалай штосьці адказваў, сочачы вачамі за тым, як двое салдат нясуць Паўла да вышыні, на якой іх аддзяленне нядаўна вяло бой.

— Пойдзем, Коля, — узяў яго пад руку Лявонаў, — я чуў, як Бондараў выклікаў верталёты. Параненых і загінулых хутка забяруць.

Коблік ішоў як у сне. Правалілася кудысьці далёка ў памяці ўсё, што было звязана з боем. Адышлі на задні план думкі пра тое, што ён і яго сябры зусім нядаўна былі на краі гібелі. Калі ён думаў пра Паўла, яго сэрца раздзіраў боль.

Лявонаў адводзіў Кобліка далей. Да іх падышлі Кальцоў і Турлакоў. Яны пасадзілі Кобліка на брызентавы мяшок з трафейнай зброяй, напаілі вадой з біклагі, якую даў нехта з хлопцаў. Коблік бачыў, як на пакатую акруглую макаўку вышыні прызямліўся верталёт, пафарбаваны ў зялёна-жоўтыя плямы, і ў яго паклалі забітых, а затым Банявічуса, Кальцова і Чайкіна. Але верталёт не ляцеў. Лявонаў першым здагадаўся, што такое.

— Мужыкі, а дзе Шувалаў?

Турлакоў пальцам паказаў у бок невялікай групы людзей.

— Там ён. Мядзведзеву дакладвае.

— Верталёт яго чакае, — растлумачыў Лявонаў, — Юра ж ісці не можа.

Турлакоў кінуўся за Шувалавым, і праз некалькі мінут Шувалаў быў дастаўлены да вінтакрылай машыны, якая, падняўшы воблака пылу, узнялася ў цямнеючае неба.

А на невялікую даліну імкліва апускалася ноч. Бондараў разумеў, што перасоўвацца па гарах у цемры небяспечна. Паглядзеўшы на карту і перамовіўшыся з афганскімі камандзірамі, капітан аддаў загад: разведузводу размясціцца на вяршынях, а астатнім дэсантнікам — на іх схілах.

Коблік і Лявонаў леглі побач у спальных мяшках. Лявонаў заснуў хутка, а вось да Кобліка, нягледзячы на смяротную стомленасць, сон не ішоў. Гледзячы на неба, усыпанае зоркамі, Коблік спрабаваў аднавіць у памяці карціну бою. Успаміны атрымаліся нейкія адрывістыя, нясkладныя, нібы ён не ўдзельнічаў у баі, а спрабаваў уявіць яго з нечых слоў. Мікалай імкнуўся не думаць пра Чайкіна, але перад вачамі стаяў абыякавы Паўлаў твар і яго адарваная нага, якая ляжала збоку. Мозг адмаўляўся верыць у смерць, таму што іх целы былі цэлыя, а вось думка пра тое, што Павел толькі што бег і раптам апынуўся на зямлі без нагі, не ўмяшчалася ў яго свядомасці. Коблік не ўтрымаўся і застагнаў.

— Не спіш? — пачуўся голас Кальцова.

— Не магу.

— Так, хлопцаў шкада. Глядзі, як нас патрапала. Да гэтага часу не магу зразумець, як мы ацалелі?

Коблік так і не заснуў у тую ноч.

Як толькі наступіў світанак, Бондараў загадаў рушыць далей.

У батальёне ўжо ведалі пра вялікія страты, і таму твары афіцэраў, якія сустракалі калону, былі хмурнымі. Камбат тым часам знаходзіўся ў генерала Дубіка, і воінаў сустракаў іх зампаліт. З гнятлівым цяжарам на сэрцы сачыў Шукалін, як дэсантнікі цяжка саскокваюць з баявых машын пяхоты. Наскрозь прапыленыя, панурыя і стомленыя, яны без звычайных у такіх выпадках усмешак, гучных гутарак моўчкі строіліся. Шукалін падышоў да Бачарова.

— Яўген Міхайлавіч, накіроўвай хлопцаў адразу ў лазню, яна ўжо гатовая, затым у сталовую, і хай адпачываюць.

— Ёсць. Калі дазволіце, рапарт прадстаўлю праз паўгадзіны, вось толькі разбяруся з імі.

— Не спяшайся. Адпачні сам, затым разам з Бакіным прыходзьце ў штаб, пагутарым.

Зампаліт роты Бакін, які стаяў побач, панура прамовіў:

— Такога ў нас яшчэ не было. Трое хлопцаў загінулі, чацвёра паранена, прычым адзін з іх стаў інвалідам.

Пасля абеду Лявонаў, Коблік і Кальцоў папрасіліся ў шпіталь, каб наведаць параненых сяброў.

Бакін адказаў:

— Сёння няма сэнсу. Іх там аглядаюць урачы, а вось заўтра мы разам абавязкова з’ездзім туды. Ну а цяпер, таварышы, — адбой. Камандзір батальёна загадаў, каб усе ўдзельнікі аперацыі адпачывалі.

На наступны дзень пасля палітзаняткаў Бакін выклікаў да сябе Лявонава, Кобліка і Кальцова і загадаў ім збірацца ў шпіталь.

— Таварыш старшы лейтэнант, — узмаліўся Лявонаў, — дазвольце нам у магазін збегаць, купіць што-небудзь хлопцам.

— Малайцы, што і пра гэта думаеце, але бегаць у магазін не варта, — ён кіўнуў у кут, дзе на металічных крэслах ляжалі нейкія цэлафанавыя пакеты. — Ужо ўсё гатова. У іх садавіна, сок, цукеркі і шакалад. Так што збірайцеся і праз пятнаццаць мінут да мяне!

Хлопцы хутка накіраваліся ў казарму. Збіраліся яны нядоўга. Узялі канверты, ручкі, паперу: напэўна, усё гэта спатрэбіцца сябрам.

Атрымаўшы ад Бакіна пакеты з гасцінцамі, яны ўладкаваліся на заднім сядзенні машыны. Ехаць трэба было ў цэнтр горада, і хлопцы з цікавасцю глядзелі па баках. Вялізныя размаляваныя грузавікі і самыя сучасныя легкавыя машыны: «таёты» і «мэрседэсы», «Волгі» і «Жыгулі», а побач ішакі, якія цягнулі на спіне дровы і мяшкі з садавінай, вярблюды з худымі, аблезлымі бакамі. Адзежа ў людзей пярэстая. Жанчыны ў доўгіх да пят балахонах з паранджой на тварах, а побач — апранутыя цалкам па-сучаснаму, нібы еўрапейскія дамы. Мужчыны — адны ў нацыянальнай адзежы, іншыя ў гарнітурах, часцей за ўсё цёмных, якія, здавалася, былі вельмі непрыдатныя для такой спякоты. Недалёка ад шпіталя, калі машына апынулася ў заторы, які ўтварыўся на вузкай вулачцы, хлопцы ўбачылі карціну, якая іх уразіла. На тратуары стаяў прадавец памідораў. Яго тавар быў хораша раскладзены на калясцы з чатырма веласіпеднымі коламі. Пякучае сонца, вядома, рабіла сваю справу, і прадавец, узяўшы маленькае пластмасавае вядзерца, накіраваўся да вузенькай канавы. У ёй цякла сцёкавая вада. Прадавец спакойна зачэрпнуў вады і плюхнуў на памідоры. Яны заззялі ад вільгаці, а хлопцы, здзіўленыя гэтай карцінай, ахнулі.

— Вось дае! — усклікнуў Лявонаў. — У гэтым вядзерцы гепатыту і тыфусу на цэлы батальён хопіць. Няўжо і нас такімі памідорамі частуюць?

— Таму вам і кажуць: нічога, акрамя таго, што даюць у часці, і таго, што вы купляеце ў нашым магазіне, не есці, — сказаў зампаліт. — Усё, што мы з вамі ямо, дастаўляецца з Радзімы. Шкада толькі нашых саветнікаў і грамадзянскіх спецыялістаў, якім даводзіцца купляць прадукты на кірмашы.

— Яны ж дэзінфікуюць усё гэта? — спытаў Коблік.

— Вядома. Але трэба быць вельмі асцярожнымі. Дарэчы, у горадзе каналізацыя амаль адсутнічае, і вось такія маленькія арыкі служаць адначасова і для палівання зеляніны, і для сцёку бруду. Вы, напэўна, звярнулі ўвагу на

мікрараёны з пяціпавярховымі будынкамі? Гэтыя дамы рыхтуюцца на домабудаўнічым камбінаце, пабудаваным Савецкім Саюзам.

— Гэты камбінат размешчаны за аэрадромам? — спытаў Кальцоў.

— Так. З нашага гарадка відаць яго вялікія карпусы.

Машына ў гэты момант уткнулася носам у металічныя вароты. Каля іх стаяў вартавы. Ён быў у касцы, бронежылеце, з аўтаматам. Недалёка — бронетранспарцёр, яго кулямёт накіраваны ў бок пусткі.

Бакін прад'явіў дзяжурнаму афіцэру, які выйшаў, дакументы, і ўазік заехаў на тэрыторыю шпіталя. Дрэвы і кусты, арыкі з вадой і кветнікі стваралі ўражанне ўтульнасці. Шпіталь знаходзіўся ў некалькіх доўгіх бараках. Бакін растлумачыў:

— Шпіталь размешчаны ў былых стайнях, якія належалі шаху. Што зробіш, афганцы рады б аддаць любы будынак нашым параненым, але іншых памяшканняў у горадзе проста няма.

Ім трэба было адшукаць хірургічнае аддзяленне, і Бакін спыніў маладзенькую медсястру. Яна мімаходзь, але ўважліва акінула паглядам кожнага з хлопцаў і растлумачыла:

— Наступны корпус, зойдзеце ў трэція дзверы і па калідоры — да самага канца.

У двары, сярод дрэў, на бетонных сценках арыкаў сядзелі параненыя. Усе ў аднолькавых, сіняга колеру, штанах і піжамах з падшытымі белымі каўнерыкамі. Той-сёй з хлопцаў быў без рукі, хтосьці без нагі, а нехта — з павязкай на воку, але ўсе ажыўленыя і вясёлыя.

Каля ўваходу ў палату іх сустрэў сярэдніх гадоў, апрануты ў бездакорна белы адпрасаваны халат, мужчына. Ён спытаў:

— Вы да каго?

Бакін патлумачыў. Мужчына паклікаў медсястру, якая сядзела за невялікім столікам:

— Люда, дай мне журнал уліку параненых.

Ён адкрыў журнал і прабег вачамі па радках.

— Так, Банявічус і Шувалаў тут, у гэтай палаце. Чайкін таксама тут, толькі ў рэанімацыі. А вось Папова не бачу. У яго якое раненне?

Бакін сказаў, што Папоў паранены ў галаву.

— Ясна. Тады ён павінен быць у нейрахірургіі. Вы пакуль наведайце гэтых параненых. Люда, ты за гэты час высветлі, дзе ляжыць Папоў, і паведамі старшаму лейтэнанту.

Калі апранулі халаты, Бакін спытаў у медсястры:

— З кім гэта мы размаўлялі?

— З начальнікам хірургічнага аддзялення падпалкоўнікам Фісенкам Альбертам Мікітавічам.

— Напэўна, добры чалавек?

— І выдатны хірург, заўчора ўвесь вечар не адыходзіў ад вашага Чайкіна.

Коблік, які ніколі раней не хадзіў у ваенныя шпіталі і лічыў, што ўсе, хто працуе ў іх, сухія і строгія людзі, такія, як у бальніцы, дзе аднойчы ляжала маці. «Там усе нейкія злосныя, узбуджаныя, — думаў ён, — а тут спакойныя, усё разумеюць. Вось нават Люда глядзіць на нас як на параненых».

Не здагадваўся ў гэты момант салдат, што медсястра Люда і яе сяброўкі, бывала, плакалі ўсю ноч, пасля таго як у шпіталь прыбывалі чарговыя партыі знявечаных хлопцаў. Яшчэ зусім хлапчукі, якіх не заўсёды ўдаецца выратаваць. Нават цяпер, гледзячы на гэтых здаровых юнакоў, якія прыйшлі

праведаць сваіх таварышаў, яна з жахам думала: «Госпадзі, а раптам заўтра каго-небудзь з іх прывязуць сюды?»

Палата была вялікая. Два доўгія шэрагі металічных ложкаў з нешырокім праходам пасярэдзіне. Бакін ішоў першым і, гледзячы на параненых, міжвольна замарудзіў крок. Ён і салдаты, якія прыбылі з ім, раптам адчулі сябе вінаватымі ў тым, што ў палаце ляжаць гэтыя бедныя людзі, а яны, здаровыя, поўныя сіл, не пакутуюць ад болю, ад застаялай задухі і паху крыві, лекаў, поту, не мучацца ад думкі, што будзе далей.

Коблік раптам спыніўся, убачыўшы аднаго хлопца. Ён быў без рук, а на яго койцы сядзеў такі ж малады хлопец, але без нагі і пад дыктоўку бязрукага пісаў ліст. У Кобліка запяршыла ў горле, павільгатнелі вочы: «Божа мой, добра, што гэтым часам іх не бачаць маці...»

На суседняй койцы ляжаў Шувалаў. Ён шырока ўсміхаўся.

Бакін першым паціснуў яму руку. Салдаты неяк уладкаваліся на ложкі і пачалася звычайная ў такіх выпадках гаворка. Шувалаў у першую чаргу расказаў пра хлопцаў:

— У Банявічуса раненні не цяжкія, ён цяпер на перавязцы. Валодзя Папоў пачуваецца нядрэнна, але яго, хутчэй за ўсё, эвакуіруюць у Ташкент. А вось у Чайкіна, — Шувалаў паглядзеў на Кобліка, — справы неважнецкія. Ён ляжыць у рэанімацыі, бачыце, у канцы палаты дзверы? Гэта ўваход туды. Я хацеў да яго сёння прабрацца, але не пусцілі. Начальнік аддзялення сказаў, што Паўла праз некалькі дзён адправяць у Савецкі Саюз.

— Ну, а як ты сябе адчуваеш? — спытаў Бакін.

— Я — звычайна. Костка не зачэплена, так што хутка буду ў страі.

Мікалай узяў пакет з гасцінцамі для Паўла і сказаў:

— Таварыш старшы лейтэнант, дазвольце я да Чайкіна зайду на пару мінут?

— Дык мы ж разам зойдзем, — адказаў Бакін. — Вось пагаворым з Юрам і пойдзем.

— Коля кажа праўду, — падтрымаў Кобліка Шувалаў. — У той палаце ляжаць толькі цяжкапараненыя, і вас туды не пусцяць. Лепш за ўсё Кобліку паспрабаваць аднаму туды прабрацца.

Бакін пагадзіўся і моўчкі кіўнуў галавой Кобліку.

Мікалай накіраваўся ў дальні канец палаты. Асцярожна прыадчыніў дзверы, яму насустрач паднялася медсястра.

— Тут мой таварыш ляжыць, Чайкін Павел.

Медсястра памарудзіла, азірнулася і сказала:

— Добра. Але толькі на некалькі мінут. Яму яшчэ нельга доўга размаўляць.

У палаце стаяла чатыры койкі. Коблік ледзь пазнаў на крайняй койцы Паўла. Худы, бледны, змарнелы твар. Вочы напаўзакрытыя. Мікалай наблізіўся.

— Дабрыдзень, Паша! Як ты?

— Прывітанне, Коля. Па-мойму, ужо нармальна. Доўга на аперацыйным стале быў.

Коблік паставіў пакет на тумбачку.

— Пачастуеш хлопцаў.

— Добра. Дзякуй. Чуў, што мяне хутка адправяць у Ташкент. Не ведаю, што маме напісаць. Пра раненне паведамляць не буду. І ты пакуль не пішы дахаты пра мяне.

— Добра, Паша.

Як хацелася Кобліку цяпер сказаць нейкія асаблівыя словы свайму сябру. Сказаць, што ён ведае пра тое, што менавіта Чайкін першым заўважыў ракету, якая клікала на дапамогу, і пра тое, што ён, Коблік, бачыў, як першым да іх пазіцыі пабег Павел. Але не мог. Ён раптам адчуў, што можа расплакацца.

Сястра ці то зразумела стан Корбліка, ці сапраўды адведзены ёю час ужо прайшоў, рашуча сказала:

— Усё, хлопчыкі, хопіць. У наступны раз пагаворыце даўжэй. Паша, табе нельга шмат размаўляць, адпачывай.

Коблік дацягнуўся да рукі Чайкіна, што ляжала на коўдры, і лёгенька паціснуў яе.

— Трымайся, браток, я хутка зноў прыйду.

— Пакуль, Коля. Будзь асцярожны.

Коблік выйшаў з палаты. Слёзы туманілі вочы, яму было пакутліва шкада Паўла і ўсіх гэтых хлопцаў.

## Пісьмо з пахам лекаў

Жукін і Салдуноў прыходзілі яшчэ двойчы. Яны звальвалі віну адзін на аднаго і паспелі паміж сабой палаяцца.

Не вытрымаўшы, Вера Фёдараўна сама патэлефанавала начальніку міліцыі і расказала пра гэтыя візіты. Начальнік міліцыі распарадзіўся даць Коблік афіцыйны адказ, у якім паведамлялася, што аўтарамі ананімак з’яўляюцца Жукін і Салдуноў. Акрамя таго, у адказе тлумачылася, што калі Вера Фёдараўна жадае, то можа звярнуцца ў народны суд для прыцягнення ананімшчыкаў да крымінальнай адказнасці.

Прайшло яшчэ два дні, і да Веры Фёдараўны прыйшлі калегі Жукіна і Салдунова, якія займаліся праверкай паводзін гэтых людзей. Аказалася, што пра дзеянні Жукіна і Салдунова міліцыя паведаміла на месцы іх работы, і ананімшчыкаў будзе судзіць таварыскі суд.

Веры Фёдараўне ўсё гэта ўжо надакучыла. І, расказаўшы членам таварыскага суда пра суседзяў, яна папрасіла больш яе не турбаваць, а таксама заявіла, што на паседжанне суда яна не прыйдзе.

Але на гэтым справа не скончылася. Увечары Жукін і Салдуноў заявіліся зноў. Гэтым разам, не саромеючыся ў выразах, Вера Фёдараўна выказала ўсё, што ў яе накіпела на душы і прагнала іх.

Усхваляваная, Вера Фёдараўна хадзіла па кватэры. Званок Чайкінай, які раздаўся перад самым сном, яшчэ ўзмацніў яе трывогу. Чайкіна так доўга распытвала Веру Фёдараўну пра самаадчуванне, неяк па-асабліваму настойліва высвятляла, ці даўно яна атрымлівала лісты ад Мікалая, што Вера Фёдараўна пачала думаць, ці не здарылася штосьці з сынам. Яна з хваляваннем спытала:

— Ніна Цімафееўна, можа, вы што-небудзь даведаліся пра майго Колю?

Чайкіна адразу ж зразумела яе і паспешна адказала:

— Не-не, дарагая Вера Фёдараўна. Я ўпэўнена, што ў Колі ўсё ў парадку. Проста я атрымала ад Пашачкі ліст. Ён піша, што ўсё звычайна і ў Колі ўсё добра. Але ў мяне штосьці трывожна на сэрцы.

— Ну што ж гэта вы, Ніна Цімафееўна? — засмяялася Коблік. — Вам сын дакладвае становішча, а вы — у паніку. Вось мой штосьці доўга не піша.

— Ой, не кажыце. Але мяне збянтэжыла адна акалічнасць. Паша піша, што іх узвод перадаецца іншаму батальёну, таму ў яго зменіцца адрас, будзе іншы нумар палявой пошты.

— Ну і што? Па-мойму, вы дарма хвалюецеся, — пасправабавала супакоіць Чайкіну Вера Фёдараўна. — У іх жа служба: куды загадаюць, туды і пойдуць. Таму не хвалюйцеся. Спадзяюся, што вось-вось атрымаю ад Колі ліст. Ён, напэўна, паведаміць і пра Пашу. Я адразу ж патэлефаную вам.

— Так-так, дзякуй, Вера Фёдараўна, вы неяк мне расказвалі, што нюхаеце кожны ліст ад сына. Памятаеце?

— Вядома, памятаю, — зноў засмяялася Коблік, не чакаючы, што далей скажа Чайкіна.

А Ніна Цімафееўна працягвала:

— Дык вось. Апошні ліст Паўла моцна пахне лекамі.

Голас у Ніны Цімафееўны сарваўся, і апошнія словы яна прамовіла ціха, хрыплавата.

Коблік разгубілася. Яна як магла супакоіла Ніну Цімафееўну, а калі паклала трубку, то зразумела, што гэтай ноччу ёй ужо не заснуць. Трывога ахапіла яе і за Чайкіна, і за свайго сына.

Раніца прынесла палёгку. У паштовай скрыні ляжаў ліст ад Мікалая. Хутка адкрыўшы канверт, Вера Фёдараўна пачала чытаць.

«Добры дзень, дарагія мама і Сярожа! Учора мы вярнуліся з баявога задання. Так здарылася, што наша аддзяленне змушана было адбівацца ад духаў. Мы панеслі цяжкія страты. Ёсць параненыя і забітыя...

Две гадзіны назад мы прыйшлі з аэрадрома, дзе выпраўлялі «чорны цюльпан», — так у нас завуць самалёт, які вязе на Радзіму у цынкавых трунах тых, хто загінуў. Развіталіся з нашымі сябрамі Бадаевым, Каржом і Гулямавым. Усе хлопцы стаялі ў страі і плакалі. Мама, да вас, магчыма, зойдзе ці патэлефануе мой сябар, ён павінен прыехаць у Мінск. Прашу цябе і Сярожу клапаціцца пра яго. Мы тут сябравалі, і, калі я вярнуся, наша сяброўства будзе працягвацца ўсё астатняе жыццё.

Здароўе ў мяне ў парадку. У нас пагаворваюць, што хутка афганскі і пакістанскі ўрады падпішуць паміж сабой дамову пра спыненне дзеяння контррэвалюцыі, таму дапамога нашага войска больш не запатрабуецца, і мы зможам вярнуцца на Радзіму. Выдатна!

Я тут знаходжуся параўнальна нядаўна, а вось «старыя», асабліва палітработнікі, кажуць, што ў краіне адбываюцца розныя змены. Зняты лозунгі, якія заклікаюць насельніцтва да будаўніцтва сацыялізму. Сцяг ужо не чырвоны. Цяпер ён зялёнага і чырвонага колеру. Ужо няма на дзяржаўным гербе зоркі. Урад заклікае контррэвалюцыю да супрацоўніцтва, прапаноўвае з ёй падзяліць уладу. Атрымліваецца, што мэты, якія вызначыла Народна-дэмакратычная партыя, не дасягнуты, абвешчана палітыка нацыянальнага пагаднення. Кажуць, што знаходжанне нашых войск у гэтай краіне не дазволіла ёй стаць на варожыя Савецкаму Саюзу пазіцыі і аддаць сваю тэрыторыю амерыканскім спецслужбам, якія жадалі размясціць уздоўж граніц з Савецкім Саюзам свае сістэмы радыёразведкі, каб праглядаць і праслухоўваць нашу тэрыторыю ад паўднёвых граніц да Арктыкі. Праўда, матуля, у апошні час я ўсё часцей задаю сабе пытанне: ці абавязкова трэба было ўводзіць нашы войскі ў Афганістан? Ці ўсё неабходнае зрабілі дыпламаты?»

Чым далей Вера Фёдараўна чытала ліст, тым больш з гонарам адзначала, што сын сталее. Яго развагі сведчылі, што яе сын навучыўся разбірацца ў шматлікіх пытаннях, у тым ліку і палітычных.

Па тоне ліста яна бачыла, што ў Колі ўсё ў парадку, і гэта яе цешыла. Але вось тое, што сын папярэджваў пра прыезд свайго сябра, усхвалявала яе.

«А раптам ён мае на ўвазе Чайкіна? — думала яна, крочачы па вуліцы. — Толькі гэтым можна растлумачыць тое, што Коля не называе яго імя. Значыць, з Паўлам сапраўды штосьці здарылася. Госпадзі, галоўнае, каб быў жывы!»

Коблік вырашыла не тэлефанаваць Чайкінай, хоць вельмі хацелася сказаць, што прыйшло пісьмо ад Колі.

Яна ішла на працу, а ў душы ўсё больш і больш расла трывога за яе новую сяброўку і яе сына-салдата.

## Палон

Лявонаў застагнаў і адкрыў вочы. Была ноч, і хлопец не мог уцяміць, што з ім. Ён адчуваў, што яго кудысьці нясуць. Высока ў небе віселі зоркі, хісткія ў такт руху. Яны спачатку здаваліся плямамі, што расплыліся ў смузе, але паступова смуга спала, і Лявонаў убачыў, якія яны вялікія і яркія.

«Што са мной? — падумаў дэсантнік. — Чаму мяне нясуць? Я што, паранены?»

Лявонаў паспрабаваў падняць галаву, каб убачыць таго, хто ішоў ззаду, але ад моцнага болю зноў страціў прытомнасць. А калі яна да яго вярнулася, ён праз нейкую нішу ўбачыў дзённае святло. Моцна балела галава, падванітоўвала. Лявонаў ціха застагнаў і ледзь чутна прашаптаў:

— Піць.

Убаку пачуўся шоргат, і Лявонаў убачыў над сабой нечы твар. Вусы, барада і... чалма. Антон ці то ў сябе, ці то ў незнаёмца разгублена спытаў:

— Дзе я? Пакліч камандзіра.

На твары незнаёмца з‘явілася нешта падобнае на ўсмешку, і Лявонаў пачуў чужую гаворку. — «Пачакай, дык гэта ж душман?!» — схамянуўся ён і паспрабаваў падняцца, але ўсё цела працяў вострая боль. Усё вакол паплыло, і Лявонаў абяссілена адкінуў галаву назад. Вочы ўбачылі каменныя зводы. Ён асцярожна, каб не прычыніць сабе боль і ад гэтага не страціць прытомнасць, павярнуў галаву налева. У прыцемку кешкаліся нейкія людзі, чулася нягучная гаворка, але звон і шум, што стаялі ў галаве, замінаі яму разабрацца, на якой мове яны гавораць.

Лявонаў асцярожна павярнуў галаву направа: у цемры штосьці варушылася, уздыхала. Напружваючы зрок, Антон доўга ўзіраўся ў прыцемак, перш чым зразумеў, што там кешкаюцца жывёлы.

«Ішакі, — здагадаўся ён. — Выходзіць, я сапраўды апынуўся ў палоне ў душманаў. Што ж здарылася са мной?»

Дэсантнік паклаў галаву прама — так яна балела менш — і, утаропіўшыся паглядам у няроўны звод пячоры, напружваючы ўсе сілы, паспрабаваў успомніць, што ж з ім адбылося. Ён разам са сваёй ротай знаходзіўся на «блоку»: закрываў подступы да дарогі, якая вядзе з Хайратона ў Кабул. Па шашы няспынным патокам ішлі доўгія аўтакалоны. Яны везлі цэмент, шкло, будматэрыялы, харч, гаручае, станкі. Толькі ў апошні дзень роце прыйшлося тройчы падаўляць мінамётна-кулямётныя пазіцыі душманаў, якія спрабавалі абстраляць аўтамашыны, што павольна паўзлі па запруджанай шашы.

Лявонаў успомніў, як з надыходам цемры рота перайшла да засадных дзеянняў, як іх аддзяленне заняло пазіцыю на скалістай вышыні. Добра памятаецца і тое, як міма іх паспрабавала прабрацца да дарогі невялікая група душманаў. Дэсантнікі па камандзе Шувалава нечаканым агнём адагналі

бандытаў. Тыя, пакінуўшы безадкатную гармату і гранатамёты, а таксама забітых і параненых, уцяклі. Пазіцыя аддзялення знаходзілася на невялікім выступе, які прыляпіўся на схіле велізарнай скалы. Ніжэй змейкай выгіналася вузкая сцежка. Яе добра было відаць пры святле яркага месяца. Шувалаў, які нядаўна вярнуўся са шпіталя, загадаў чацвярым салдатам весці назіранне, а астатнія адпачывалі. Лявонаў добра памятаў, як ён з задавальненнем разлёгся на плоскім камені, проста на краі абрыву. Дзень прайшоў у пастаянным руху, напружана гулі ногі, стомленасць скоўвала ўсё цела. У такіх сітуацыях загад адпачываць — самая жаданая каманда.

Лявонаў заснуў адразу ж. Але што ж было далей? Як ён апынуўся ў палоне? «Ганьба! — думаў у роспачы Антон. — Я ў палоне ў душманаў!» Ім авалодала толькі адна думка — бегчы. У гэтую ж хвіліну ўскочыць на ногі, кінуцца да ўваходу ў пячору, што свяціўся непадалёк, збіць на зямлю першага ж душмана, які трапіцца на шляху, адабраць зброю!

Гэта рашэнне надало яму сілы, і Лявонаў паспрабаваў прыпадняцца, але адразу ж востры боль у правай ключыцы і неймаверна моцнае галавакружэнне прымусілі яго застагнаць і нямогла апусціцца на каменную падлогу. Аднак думка пра тое, што ён у палоне, не давала жыцця, паліла яго сэрца. Пачуццё сораму перад таварышамі, роднымі змяшалася з фізічным болем, і цяжка было сказаць, які боль быў мацнейшым.

Антону ўспомнілася родная хата, праводзіны ў войска. Яго бацька — урачысты і ўсхваляваны — стаіць побач з сынам, штосьці кажа яму, Антону, а ён спрабуе адвесці вочы ад заплаканага твару маці, збянтэжана і разгублена ўсміхаецца сястры Марыне, пераводзіць пагляд на сваю былую аднакласніцу Кацю. Яму чамусьці ў той момант хацелася, каб хутчэй прагучала каманда «станавіся». З дзяцінства ён марыў пра службу ў войску і дзесьці ў глыбіні душы спадзяваўся, што давядзецца пабываць у Афганістане, у гэтай загадкавай, беднай краіне, дзе народ вырашыў адразу ж перасягнуць праз стагоддзі. Антон чытаў усе публікацыі пра Афганістан, пра савецкіх воінаў-інтэрнацыяналістаў, уяўляў сябе ў баі з душманамі.

Задумаўшыся, Антон ад нечаканасці здрыгануўся. Каменныя зводы пячоры закрыў чалавек у турбане, з даўно няголеным тварам, відавочна еўрапейскага тыпу. Ён дзелавіта агледзеў Лявонава, штучна ўсміхнуўся і, страшна перакручваючы словы, сказаў:

— Здравствуй, советский! Ты кто?

Лявонаў маўчаў. Ён паспрабаваў адвярнуцца ад незнаёмца, які нахіліўся яшчэ бліжэй, але боль у шыі спыніў яго. Антон заплюшчыў вочы. «Яны не ведаюць майго імя. Гэта добра. Хай заб'юць мяне, але не паганяць маё прозвішча. — Аднак раптам яго працяла думка. — Стоп! А дзе ж мой ваенны білет?! Трэба праверыць, ці на месцы ён!» Ён добра памятаў, што ваенны білет ляжаў у нагруднай кішэні гімнасцёркі. Антон ледзь прыадкрыў вочы. Агідная фізіяномія над ім ужо не вісела. Перш чым пераканацца, ці на месцы білет, перасільваючы боль, ён павярнуў галаву налева і ўбачыў некалькі чалавек. «Нельга цягнуцца да кішэні, заўважаць, гады! Трэба сабрацца з сіламі, а потым бегчы!» Ён зноў паклаў галаву ў зручнае становішча і паспрабаваў думаць пра дом. Але думкі змяшаліся, расплыліся ў нейкім чырвоным дыме, і дэсантнік зноў страціў прытомнасць, а калі ачнуўся, у пячоры ўжо было амаль цёмна. Двое душманаў, злосна перагаворваючыся, паднялі яго і паставілі на ногі. Лявонаў захістаўся і ледзь не паваліўся. Яго падтрымалі і вывелі з пячоры. Галава закружылася, і Антон апусціўся на камяністы грунт, што яшчэ захоўваў дзённае цяпло. Яго званітавала. Ён чуў размову душманаў, адрозніў

слова «шураві» і зразумеў, што гаворка ідзе пра яго. Антон убачыў нечыя ногі ў высокіх горных чаравіках. Падняўшы галаву, ён сустрэўся паглядам з афганцам. Апрануты той быў як усе: шырокія шаравары, запраўленыя ў чаравікі, пінжак, а з-пад яго віднелася доўгая нацыянальная кашуля. Твар зарослы, на галаве — плоскі круглы капялюшык.

Гэта быў верхавод банды, якая і захапіла Лявонава. Верхавод штосьці сказаў. Па тоне сказанага Антон зразумеў, што той звяртаецца да яго.

«Калі гэта пытанне, — падумаў Лявонаў, — то няцяжка здагадацца: ён цікавіцца, ці магу я ісці. Калі скажу не, то, пэўна, заб'юць. А чорт з імі, хай забіваюць!» І Лявонаў асцярожна пакруціў галавой, ад гэтага нескладанага руху яму стала яшчэ горш і яго зноў званітавала.

Верхавод аддаў нейкую каманду, і да Лявонава падвялі ішака. Тыя ж двое душманаў пасадзілі яго на жывёлу і рушылі ў дарогу.

Лявонаў сядзеў на ішаку, моцна нахіліўшыся наперад і трымаючыся аберуч за маленькі карак жывёлы: так менш трэсла. Яшчэ не зусім сцямнела, і Антон злева ад сябе бачыў высачэзную стромкую сцяну, справа — глыбокую, ужо атуленую чорным покрывам ночы, прорву. Банда рухалася па карнізе — вузкай сцежцы, як бы ўрэзанай у стромкую каменную сцяну. Якое б моцнае ні было галавакружэнне і як бы слаба ён сябе ні адчуваў, але свядомасць усё ўспрымала вельмі востра. «Уцяку, як толькі з'явіцца магчымасць!» — упарта паўтараў у думках Лявонаў.

Неўзабаве карніз скончыўся і прорва аддалілася, а шлях банды пралягаў угору па стромкай сцежцы.

Лявонаў у Афганістане служыў другі год, навучыўся добра арыентавацца на мясцовасці і адразу зразумеў, што яны ідуць да перавалу. Велізарны месяц асвятляў знежывелыя, пазбаўленыя расліннасці горы. Лявонаў змог вызначыць прыблізную колькасць банды. Усе ішлі па адным. Наперадзе рухалася чалавек дваццаць, а калі Лявонаў апынуўся на стромкім павароце, то ён убачыў тых, што ішлі ззаду. Іх было чалавек пяцьдзясят. Такім чынам, у бандзе было не меней як семдзесят чалавек.

Лявонаву стала лягчэй. Прахалоднае паветра асвяжала цела, дыханне выраўнівалася, менш адчувалася боль. Антон падбадзёрыўся. «Калі будзе прывал, паспрабую бегчы». Ён пачаў, наколькі было магчыма, запамінаць дарогу, адзначыў некалькі зорак, па якіх можна будзе вызначыць, па якім шляху рухацца назад. Аднак калона пераваліла хрыбет і, не спыняючыся, пайшла далей.

Лявонаў ужо даўно пераканаўся, што няма ваеннага білета. Выпасці ён не мог, значыць, душманы забралі дакумент. Не было на руцэ і гадзінніка. Дэсантнік паглядзеў на неба, ужо, відавочна, пераваліла за поўнач. Хацелася піць, смага станавілася нясцерпнай. Побач ішлі яго ахоўнікі — двое маўклівых душманаў. Лявонаў спачатку хацеў папрасіць у іх вады, але тут жа рашуча прагнаў гэту думку: «Размазня! Гатовы ўжо да ворагаў звяртацца па міласціну!»

Каб больш не думаць пра ваду, Антон стаў успамінаць таварышаў: «Хлопцы, дарагія мае сябры, вы, вядома, не верыце, што я дэзерціраваў, здаўся ворагу! Юра, Коля, — думаў ён пра камандзіра аддзялення і Кобліка, — мы ж з вамі пабывалі ў розных пераплётах. Вы ж ведаеце, што я не прадамся душманам».

І ён адзін за адным перабіраў у памяці эпізоды, у якіх не пасаваў перад небяспекай. Узяць хоць бы бой, які адбыўся год назад. Так здарылася, што Лявонаў з двума салдатамі былі адрэзаны душманамі ад сваіх. Амаль цэлы

дзень без вады, не кажучы ўжо пра ежу, эканомячы кожны патрон, вялі яны бой з душманамі, якія насядалі з трох бакоў. Адступаць не было куды. Ззаду стаяла высачэзная, зусім стромкая сцяна, якая сыходзіць у неба. Камандаванне групай узяў на сябе ён, тады яшчэ радавы Лявонаў. Загадаў: агонь весці адзіночнымі і толькі па цэлі. Што ні рабілі душманы: крычалі «Шураві, здавайся! Усё адно загінеце!» — спрабавалі атакаваць адначасова з трох бакоў, але не завагаліся дэсантнікі. Яны былі ўпэўнены, што дапамога прыйдзе, і яна прыйшла. Больш як дзясятак забітых душманаў засталося ляжаць каля пазіцыі Лявонава і яго таварышаў.

Лявонаў сумна ўсміхнуўся: «Камандзір роты прадставіў мяне да медаля, а я? Патрапіў у палон, ды яшчэ нават не ведаю як!»

Тыя, што ішлі наперадзе, спыніліся.

«Прывал, — здагадаўся Лявонаў. — Ну што, Антон, не зявай!»

Ён, нягледзячы на моцны боль ва ўсім целе, абярнуўся. Гэты ягоны рух заўважылі ахоўнікі. Адзін з іх балюча ткнуў Антона кулаком у бок.

Неўзабаве Лявонава знялі з ішака, і ён прылёг каля невялікага каменя. Абодва ахоўнікі размясціліся побач. Але вось адзін з іх кудысьці пайшоў. Лявонаў стаў маліць лёс, каб другі ахоўнік заснуў. Але аказалася, што ахоўнік хадзіў па верхавода. Той спыніўся насупраць дэсантніка і штосьці сказаў. Лявонаў моўчкі глядзеў на яго. Верхавод нахіліўся да Антона, уважліва паглядзеў яму ў твар, выпрастаўся і, злосна кінуўшы ўсяго толькі адно слова, пайшоў.

Пра што ён сказаў, Лявонаў зразумеў крыху пазней. Ахоўнікі дасталі з заплечніка доўгі кавалак вяроўкі і моцна звязалі палоннага.

Неўзабаве банда зноў рушыла ў дарогу. Зараз Лявонаў са звязанымі рукамі ішоў услед за жывёлай. Ён быў прывязаны да ішака, на спіне якога размяшчаўся нейкі груз. Ісці было цяжка. Спускацца заўсёды цяжэй, чым рухацца ўгару. На шчасце, світанак набліжаўся імкліва, а разам з ім жаданы адпачынак. Лявонаў дыхаў цяжка, гучна, вочы засцілаў пот, кружылася галава. Здавалася, знясілеўшы, ён вось-вось зваліцца. Але ішла хвіліна за хвілінай, мінула нямала часу, як яны пачалі спускацца, а Антон трымаўся. Паступова сцежка станавілася ўсё больш пакатай. Неўзабаве яны апынуліся ў даліне. Ішлі спачатку па сыпкай камяністай глебе, затым выйшлі на дарогу, якая пралягала па ўскрайку вялікага фруктовага саду. Потым дарога рэзка павярнула ўглыб саду. Прайшлі ажурны паўкруглы каменны мост, падняліся на невялікае ўзвышша, і тут Лявонаў убачыў, што бандыты адзін за адным уваходзяць у вялікі праём, прароблены ў высачэзным дувале. Увялі туды і Антона. Яны апынуліся ў велізарным двары, у цэнтры якога было некалькі ўскапаных градак і студня.

Лявонава пасадзілі недалёка ад сцяны хаты, ахоўнікі ўселіся па баках.

Моцна балелі зацёклыя рукі. Лявонаў адкінуўся назад і, не міргаючы, глядзеў у сіне-блакітнае, без адзінай аблачыны неба. Будзе звычайны гарачы дзень.

Лявонаў ведаў, што душманы днём, як правіла, хаваюцца, значыць, гэты час яны правядуць тут.

«Так, адгэтуль не рванеш, — падумаў Антон, пераводзячы тужлівы пагляд на дувал. — Метры чатыры вышынёй, калі не вышэй».

З дома выйшла група людзей. Нягледзячы на тое, што ўсе яны былі апрануты па-ўсходняму, Лявонаў адразу ж вызначыў, што двое з іх замежнікі. Еўрапейскі тып твару, падцягнутыя постаці сведчылі пра тое, што яны прывыклі насіць ваенную форму, а не гэтыя шырачэнныя шаравары, кашулі навыпуск з камізэлькамі і мусульманскія чалмы на галаве.

Гэтыя двое падышлі да Лявонава і бесцырымонна сталі яго разглядаць. І вось ужо ў руках аднаго з іх з’явіўся фотаапарат, а ў другога — кінакамера. Лявонаў выразна прачытаў зверху аб’ектыва: «Canon».

Абодва, кружачы вакол Лявонава, пачалі здымаць яго на фота- і кінастужку. Адзін з іх, больш высокага росту, нават лёг на зямлю, каб зняць савецкага дэсантніка знізу, на фоне дувалаў.

Лявонаў спрабаваў адварочвацца ад аб’ектываў, наколькі гэта было магчыма са звязанымі рукамі.

Раптам той, які быў з фотаапаратам, штосьці гучна сказаў. «Па-англійску шпарыць, — падумаў Лявонаў, — значыць, англічанін ці амерыканец».

Ад групы аддзяліўся мужчына з барадой і, паказваючы пальцам на Лявонава, штосьці загадаў яго ахоўнікам. Тыя тут жа развязалі яго і паставілі на ногі. Лявонаў пачаў размінаць зацёклыя рукі. Адзін з тых, хто здымаў, стаў побач з Лявонавым, а яго таварыш запстрыкаў затворам фотаапарата. Затым яны памяняліся месцамі. Той, які быў ніжэйшы, нават паспрабаваў абняць Лявонава за плечы, але Антон рашуча змахнуў яго руку. Гэты тып не пакрыўдзіўся. Ён, усміхаючыся ва ўвесь рот, з намаганнем падбіраючы словы, прамовіў па-руску:

— Ты — рускі, я — амерыканец. Мы буйдзем дружыба.

«Значыцца, яны — амерыканцы, — зразумеў Лявонаў. — Цікава, дзе я знаходжуся? Няўжо ў Пакістане?» — І Антон нечакана для сябе паказаў пальцам на зямлю і спытаў у амерыканца:

— Гэта Пакістан?

Амерыканец зразумеў сэнс пытання і, узрадаваўшыся, што рускі ўпершыню загаварыў, ахвотна адказаў:

— Ноў, Эфген.

«Афганістан, — зразумеў яго Лявонаў. — Але я ж дзесьці бачыў гэтага тыпа!» Лявонаў напружваў памяць і раптам успомніў: ён бачыў гэтыя вочы ў пячоры. Амерыканец тады нахіляўся над ім.

«Значыць, амерыканцы знаходзяцца ў бандзе. Ясна, што душманскія саветнікі». Лявонаў дэманстратыўна адвярнуўся ад амерыканца, які працягваў стаяць побач.

Той, аб чымсьці перагаворваючыся са сваім таварышам, накіраваўся ў дом.

Лявонаў лёг на спіну, але яго тут жа паднялі. Душманы прынеслі паесці. На пластмасавай талерцы ляжала некалькі лыжак рысу, а ў старой, з адбітай эмаллю кружцы быў чай без цукру.

Лявонаў прагна прыпаў да кружкі, але чай быў гарачым. Аднак гэта яго не спыніла. Вельмі хацелася піць, і ён стаў піць маленькімі глыткамі.

Хутка асушыўшы кружку, Антон паклаў у рот маленькую дробку рысу, праз сілу праглынуў яе. Больш есці не хацелася.

«Папіць бы халодненькай вадзіцы!» — летуценна думаў ён, але прасіць пра гэта душманаў не стаў.

Потым раптам адчуў, што ўпадае ў нейкі дзіўны стан, нібы выпіў спіртное, усё стала абыякавым, думкі блыталіся. Толькі праз шмат дзён зразумее Лявонаў, што душманы падмешвалі ў яго ежу і ваду моцныя наркотыкі. А цяпер ён апынуўся ва ўладзе дурману і, заплюшчыўшы вочы, ляжаў на афганскай зямлі, якую абпальвала пякучае сонца. Збоку здавалася: спіць стомлены салдат...

## Пошук

У роту прыляцеў генерал-лейтэнант Дубік. Ён запрасіў у штабную палатку камандзіраў роты і ўзвода, дзе служыў Лявонаў. Генерал паклаў фуражку на паходны складны стол побач з двума палявымі тэлефоннымі апаратамі ў карычневых пластмасавых карпусах і, выціраючы хусцінкай пот на твары, сеў на вузкую драўляную лаўку. Тры афіцэры, якія знаходзіліся ў палатцы, адарваліся ад карт і моўчкі глядзелі на генерала.

Дубік заўважыў гэта і крыху буркліва кінуў:

— Ну што ўзіраецеся ў мяне? Даўно не бачылі, ці што? Працуйце.

— А можа, чаю зялёнага, таварыш генерал-лейтэнант? — прапанаваў адзін з іх. — Добра смагу спаталяе.

— Дзякуй. Пакуль патрываю. Чым больш п’еш, тым больш піць хочацца.

У палатку ўвайшлі капітан Бондараў і старшы лейтэнант Мядзведзеў. Яны прадставіліся і замерлі па стойцы «смірна». Генерал нейкі час моўчкі глядзеў на іх, нібы бачыў упершыню.

— Што ж гэта вы, блакітныя берэты, салдата страцілі?

Старшы лейтэнант Мядзведзеў стомлена кінуў:

— Шукаем.

— Мы кожны метр у раёне пазіцыі абмацалі... — уставіў капітан Бондараў. — Вось нават гузік знайшлі. — Ён паклаў перад генералам металічны гузік. — Цяпер раён пошукаў значна пашырылі. Разам з нашым батальёнам абшукваюць усю мясцовасць афганскія салдаты і царандой.

— Во-во, — усміхнуўся горка генерал, — ты яшчэ пра верталёты забыўся сказаць.

— Так, сапраўды, — паспешна пагадзіўся старшы лейтэнант. — Чатыры пары вяртушак увесь час неба прасуюць, але і зверху нічога не выявілі. Як у ваду кануў наш Лявонаў...

Дубік хацеў сказаць штосьці крыўднае, ды выгляд шчуплага старшага лейтэнанта змякчыў яго сэрца.

— І верталёты я вам даў, і афганскіх таварышаў папрасіў аказаць дапамогу... А дзе вынікі? Дзе дэсантнік?

Ён падцягнуў да сябе карту, што ляжала на стале, і спытаў:

— Дзе знаходзіўся малодшы сяржант Лявонаў?

Капітан Бондараў адразу ж паказаў пальцам кропку на карце.

— Вось на гэтым узвышшы заняло пазіцыі аддзяленне старшага сяржанта Шувалава. Лявонаў быў там жа. Яму і яшчэ тром салдатам Шувалаў загадаў адпачываць.

— А вы дзе знаходзіліся тым часам, старшы лейтэнант? — зірнуў на Мядзведзева генерал.

Старшы лейтэнант хутка падышоў да карты.

— Вось на гэтай вышыні. Мой узвод закрываў падыходы да шашы з боку гэтай горнай грады. Усе тры аддзяленні я размясціў так, каб яны маглі падтрымаць агнём адзін аднаго. Праціўнік атакаваў усе аддзяленні не толькі раптоўна, але і адначасова. Відавочна, душманы засеклі нас, калі мы займалі пазіцыі. Мы адразу ж адказалі агнём. Я далажыў камандзіру роты, і ён сіламі першага і трэцяга ўзводаў ударыў душманам у фланг, і яны адступілі. Мы знайшлі дзевяць забітых і трох параненых душманаў. Аказалі параненым дапамогу і перадалі іх царандою.

— Та-а-к, — працягла прамовіў Дубік і цяжка падняўся з лаўкі. — Пакажыце мне месца, дзе знаходзілася аддзяленне старшага сяржанта Шувалава. Далёка яно адгэтуль?

— Два кіламетры.

— Пешшу трэба?

— Не, тут душманы гэтулькі мін панаторкалі, што пешшу ісці небяспечна, — адказаў Бондараў і прапанаваў: — Калі не пярэчыце, таварыш генерал-лейтэнант, то давайце на брані.

— На брані дык на брані. Паехалі!

Бондараў узяў трубку палявога тэлефона і сцісла загадаў:

— Тры бронетранспарцёры да штабной палаткі!

Бронетранспарцёры ўжо былі на падыходзе. Нібы караблі, слізгаючы па хвалях, яны мякка калыхаліся на няроўнасцях і, пакідаючы за сабой доўгія шлейфы пылу, імкліва набліжаліся.

Афіцэры і генерал уселіся проста на брані сярэдняй машыны. Бондараў і Мядзведзеў уладкавалі генерала наперадзе, побач са ствалом кулямёта, гэта найменш бяспечнае месца, калі бранявая машына наскочыць на міну.

Пярэдні бронетранспарцёр рухаўся не па прамой, а крыху лявей, па дузе. Гэта для таго, каб магутны шлейф пылу не асляпляў механіка-вадзіцеля машыны, якая рухалася за ім, ды і прысутнаму на брані генералу ў іншым выпадку прыйшлося б доўга чысціцца і чхаць.

Ехалі не больш як пяць-шэсць мінут. Ля падножжа вяршыні спыніліся. Бондараў сказаў:

— Далей, таварыш генерал-лейтэнант, трэба пешшу.

Дубік саскочыў уніз, і яны падняліся на невялікае ўзвышша. Мядзведзеў далажыў:

— Вось тут і была пазіцыя аддзялення старшага сяржанта Шувалава.

Генерал моўчкі агледзеўся. Высотка была зручнай. З аднаго боку — абрыў. Генерал зазірнуў уніз: там вострыя невялікія скалы, расколіны. Да іх метраў пятнаццаць. Злева знаходзіўся пакаты схіл, які перасякала сцежка. Дубік нават не спытаў, ці тая гэта сцежка, якую прыкрывалі Шувалаў і яго салдаты. Гэта было і так ясна. А яшчэ лявей бачна дарога, асфальтаваная шаша Хайратон—Кабул. Адзіная артэрыя, па якой, як па вене, ідзе кроў да сэрца, ішлі і ішлі грузы да сталіцы і далей на поўдзень, да іншых буйных гарадоў і правінцый Афганістана.

— Пакажыце, дзе ў момант нападу душманаў знаходзіўся Лявонаў.

Старшы лейтэнант Мядзведзеў падышоў да вялікага каменя і ткнуў нагой:

— Вось тут ён ляжаў.

— Дзе гузік знайшлі?

Мядзведзеў паказаў рукой на абрыў.

— Там, унізе.

Генерал прыкінуў на вока адлегласць ад каменя да абрыву: «Метры два з паловай будзе».

— Ці магло хлопца выбуховай хваляй шпурнуць уніз, а?

— Так, мы ўсё больш да гэтай высновы схіляемся, — кіўнуў галавой Бондараў.

Генерал спусціўся па пакатым схіле, абышоў высотку і неўзабаве апынуўся там, дзе салдаты абшуквалі месца. Малады вусаты лейтэнант падбег да генерала з рапартам, але Дубік спыніў яго жэстам і спытаў:

— Дзе камбат?

— Ён разам з першай і другой ротамі, а таксама афганскім армейскім батальёнам знаходзіцца ў гарах.

— Дзе КП?

— Вунь на тым гмаху, — паказаў рукой Бондараў на вялікую скалу.

— Хто там камандуе?

— Начальнік штаба батальёна маёр Міснік.

Лейтэнант дадаў:

— Ён толькі што пытаўся па радыё, ці не патрэбен ён вам тут, таварыш генерал-лейтэнант.

— Не, хай застаецца на КП. Ну, і дзе знайшлі гузік?

Мядзведзеў пайшоў наперадзе. Пераскокваючы з каменя на камень, абыходзячы вялікія валуны, яны падышлі да невялікай скалы. Генерал узняў галаву: яны стаялі якраз пад тым месцам, дзе ўначы знаходзілася аддзяленне старшага сяржанта Шувалава.

— Чым Лявонаў быў узброены? — спытаў генерал у старшага лейтэнанта.

— Ручным кулямётам. Зброя засталася на тым жа месцы, дзе ляжаў Лявонаў.

— Патроны лічылі ў магазіне?

— Так точна. Магазін поўны.

— Значыць, ён не страляў, — задуменна прамовіў генерал.

— Так точна, — адказаў Мядзведзеў. — Хутчэй за ўсё, ён не паспеў узяць зброю ў рукі.

— Астатнія магазіны засталіся пры ім?

— Так точна. Тры падрыхтаваныя магазіны і чатыры гранаты.

— Дакументы?

— З ім, як і паложана, толькі ваенны білет.

— Ясна. На брані, напэўна, не дабяромся да каманднага пункта?

— Можна, таварыш генерал-лейтэнант. Сапёры зрабілі праход у мінным полі.

— Тады паехалі. Пакіньце нам толькі адну машыну, а астатнія хай працягваюць выкананне пастаўленых задач, — распарадзіўся генерал. — Вы, таварыш старшы лейтэнант, таксама мне не патрэбны. Працягвайце працу са сваім узводам.

— Ёсць, — казырнуў Мядзведзеў і закрочыў да сваіх салдат.

Да КП яны не даехалі метраў дзвесце. Генерал спрытна саскочыў на вялікі камень, што ляжаў побач з машынай, і рушыў далей пешшу. Капітан Бондараў пайшоў услед за ім.

На падыходзе да каманднага пункта іх сустрэлі вартавыя. Усе салдаты добра ведалі камандзіра роты ў твар, ды і генерал-лейтэнанта Дубіка яны раней нярэдка бачылі, таму прапускалі іх не спыняючы.

Ля самога КП салдаты, распрануўшыся да пояса, дзяўблі камяністую зямлю. Генерал спыніўся каля аднаго з іх. Салдат не заўважаў начальства, ярасна дзёўб кіркай непадатлівы грунт. Яго дужае, добра натрэніраванае цела льснілася ад поту.

Дубік нейкі час, усміхаючыся, глядзеў на яго работу, а затым будзённым голасам спытаў:

— Што, не паддаецца, праклятая?

Салдат апусціў кірку і, выпрастаўшыся, паглядзеў на тых, хто падышоў. Убачыўшы генерала, не збаяўся, а выразна адказаў:

— Так точна, таварыш генерал-лейтэнант, не тое, што наша мяккая тульская зямля, тут адны камяні, накшталт спецыяльна выкладзеных. Яе б узарваць — ды нельга.

— Нічога, дэсантнік, затое службу добра ведаць будзеш. Нябось, калі ў войска прызывалі, ты пра дэсантныя войскі марыў?

— Марыў, таварыш генерал-лейтэнант, не хаваю, яшчэ як марыў! Толькі, шчыра кажучы, не думаў, што прыйдзецца зямлю капаць ды поўзаць па ёй.

— Ну, браток, — засмяяўся генерал, — запомні, дэсантнік, неба пачынаецца з зямлі. І чым глыбей ты капаеш, тым вышэй узляціш. Зразумеў?

— Так точна, таварыш генерал-лейтэнант!

У штабной палатцы насустрач генералу ад доўгага стала з картамі, біноклямі, палявымі тэлефоннымі апаратамі падняўся маёр Міснік. Генерал пацiснуў маёру руку і спытаў:

— Як абстаноўка, Іван Паўлавіч?

Начальнік штаба батальёна зрабіў крок убок, як бы запрашаючы генерала да карты, пачаў дакладваць:

— Адразу ж пасля таго, як рота Бачарова адбіла атакі душманаў, мы паспрабавалі акружыць банду, якая адыходзіла да гор. Але ў цемры, ды яшчэ на замініраванай мясцовасці, рухацца і манеўраваць нам было вельмі цяжка. У другой роце, якая павінна была адсекчы душманаў ад гор, пачаліся страты: на мінах тры чалавекі падарвалася.

— Што з імі?

— Адзін, старшы сяржант Маляўка, загінуў, лейтэнант Макараў страціў левую нагу, і радавы Аркадзьеў таксама застаўся без нагі.

Генерал нахмурыўся і паглядзеў на сувязіста — маладзенькага салдата, які сядзеў у куце каля радыёстанцыі.

— Злучы мяне з палкоўнікам Цвятковым.

Сувязь была ўстаноўлена імгненна, і паколькі яна была закрытай, то генерал назваў палкоўніка па прозвішчы і строга спытаў:

— Чаму вы не далажылі мне, што ў другім батальёне страты?

Палкоўнік штосьці растлумачыў, але Дубік перабіў яго і рэзка сказаў:

— Ну і што, што я быў у паветры? Раблю вам заўвагу, таварыш палкоўнік, і патрабую, каб надалей такога роду інфармацыя даходзіла да мяне неадкладна. — Генерал пацікавіўся ў маёра Місніка: — Параненыя эвакуіраваны?

— Так точна, таварыш генерал-лейтэнант, на верталётах.

Дубік кіўнуў галавой і сказаў у трубку:

— Паклапаціцеся пра параненых... — і павярнуўся да Місніка: — Працягвайце, маёр.

— У цяперашні момант першая і трэцяя роты пры падтрымцы батальёна царандоя і армейскага батальёна афганскага войска, разбіўшыся паротна, прачэсваюць вось гэты раён гор. — Маёр алоўкам паказаў патрэбны раён.

— Хрыбты прыкрыты? — Генерал паказаў на вяршыні гор, якія працягнуліся крыху паўночней.

— Так точна. Там нашы.

— Ну і што? Ніякіх вынікаў?

— Як у ваду кануў...

— Чакай, чакай... а з параненымі душманамі гаварылі?

— Так, па нашай просьбе з імі размаўлялі афіцэры царандоя. Адзін сказаў, якім маршрутам банда прыйшла сюды, і пагадзіўся паказаць гэты шлях.

— Ну і што вы распачалі?

— Накіравалі ў тым кірунку разведузвод і два верталёты з дэсантнікамі і палонным на борце. Яны ў паветры. — Маёр паглядзеў на ручны гадзіннік і дадаў: — Думаю, не пазней як хвілін праз трыццаць яны будуць тут.

— Сувязь з імі трымаеце ўвесь час?

— Так точна, з намі авіянаводчык.

Генерал азірнуўся на афіцэра, апранутага ў пясочнага колеру лётны камбінезон, і спытаў:

— Што назіраюць?

— Дазвольце запытаць?

— Не. Хай спачатку паведамяць разліковы час прыбыцця.

Пакуль афіцэр запытваў лётчыкаў, маёр Міснік далажыў:

— Да нас прыбыў падпалкоўнік Джалал. Яму даручана аказаць нам дапамогу ў пошуку малодшага сяржанта Лявонава.

— Дзе ён?

— З супрацоўнікамі асобага аддзела гутарыць.

Авіянаводчык далажыў генералу, што пара верталётаў з палонным будзе праз пяць хвілін.

Дубік узяў камандзірскую лінейку і пачаў вылічваць, на якую адлегласць душманы маглі адысці ад месца бою.

— Капітан Бондараў, у які час праціўнік адступіў?

— У гадзіну дзесяць, таварыш генерал-лейтэнант.

— З боем адыходзіў?

— Толькі спачатку, але затым агонь спыніў. Душманы не хацелі дэмаскаваць сябе і агнём выдаць дакладны кірунак свайго адступлення. Дзейнічалі яны даволі дакладна і граматна. Калі верыць параненым, то ў бандзе былі два замежныя саветнікі, хутчэй за ўсё амерыканскія. Яны навучалі душманаў прыцэльнай стральбе рэактыўнымі снарадамі і з пераносных зенітна-ракетных комплексаў.

Радыст зрабіў незаўважны жэст начальніку штаба, і той хутка падышоў да яго. Радыст штосьці сцісла паведаміў. Міснік гэтак жа напаўголаса адказаў і, вярнуўшыся да месца, дзе знаходзіўся генерал, далажыў:

— Камандзір разведузвода старшы лейтэнант Іванько дакладвае, што яго ўзвод па навядзенні верталётчыкаў падышоў да балкона, а далей суцэльныя міны.

— Дайце ўзводу каманду «стоп».

— Так точна, таварыш генерал-лейтэнант, я ўжо загадаў.

— Правільна. Далёка ўзвод адарваўся ад асноўных сіл?

Начальнік штаба зірнуў на карту.

— На дзесяць-адзінаццаць кіламетраў. Па прамой, — ён прыкінуў па лінейцы, — на пяць з паловай кіламетраў.

— Загадайце камандзіру ўзвода ўзмацніць увагу. Хай не забывае аб праціўніку, і накіруйце да іх для прыкрыцця пару верталётаў.

— Ёсць, таварыш генерал-лейтэнант, — казырнуў Міснік і накіраваўся да радыста.

У гэты момант пачуўся гул матораў. Ад высачэзных гор, якія навісалі непадалёк, адарвалася пара верталётаў. Яны, нібы чмялі, імкліва несліся прама на камандны пункт. Напаўняючы наваколле гулам, машыны пайшлі на пасадку.

Генерал-лейтэнант загадаў начальніку штаба:

— Хай даставяць сюды камандзіра эскадрыллі.

Міснік кіўнуў аднаму з афіцэраў, і той падняў трубку палявога тэлефона.

Камандзір эскадрыллі маёр Першын увайшоў на КП і, адразу ж адшукаўшы вачамі генерала, які амаль не вылучаўся сярод афіцэраў, бо быў у палявой форме, прадставіўся. Дубік запрасіў яго да карты, і Першын, не марудзячы, пачаў дакладваць:

— Палонны душман, якога ўзялі з сабой два афганскія афіцэры царандоя...

— Пачакайце, пачакайце, таварыш маёр, — перабіў яго генерал, — куды паранены гэты палонны?

— У нагу. Куля прайшла праз мышцы бядра левай нагі, таму ён не змог бегчы разам з іншымі душманамі. — Першын скасіў усмешлівы позірк на камандзіра роты і з самым сур'ёзным выглядам дадаў: — Гэта было тады, калі капітан Бондараў асабіста, седзячы вярхом на брані, як на ішаку, кінуўся ў наступленне.

У генерал-лейтэнанта здзіўлена паднялося брыво, але ён імгненна зразумеў, што апошняе ўдакладненне жартоўнае, і нязлосна кінуў:

— Давайце без залішніх падрабязнасцей. Такім чынам, што паказаў палонны?

— Калі мы апынуліся ў паветры, нейкі час ён ніяк не мог зарыентавацца, але затым разабраўся, што да чаго, нават паказаў месцы, дзе душманы на вяршынях гор абсталявалі пазіцыі проціпаветранай абароны. Мы іх бокам абышлі, праўда, яны з адной кропкі шаснулі ці то з кулямётаў ДШК, ці то з зенітнай устаноўкі. Але і мы не засталіся ў даўгу. Пара верталётаў, што суправаджала нас, па маім загадзе ўзмацніла гэтую пазіцыю НУРСамі. Потым палонны паказаў дарогу, па якой прыйшла сюды банда. Прырода дужа папрацавала, каб стварыць такі шлях. Проста ўздоўж стромкай скалы, над прорвай, ёсць карніз, па якім ідзе дарога шырынёй два-тры метра. А над ёй скалы ўтварылі дах сваімі выпуклымі бакамі. Таму дарога зверху і не бачная, а каб убачыць яе, трэба спусціцца ў цясніну. Скажу шчыра, што лётаць там няпроста: вельмі моцныя парывы ветру, турбулентнасць, як у аэрадынамічнай трубе. Ды і збіць верталёт стрэлам з БУРа ці чаргой з аўтамата з пячоры, якіх уздоўж сцежкі дзясяткі, можна лёгка. Палонны ўпэўнены, што банда адышла менавіта гэтым шляхам. Ды і я так лічу.

— Нікога не бачылі?

— Нікога, таварыш генерал-лейтэнант. Ды і хто днём, ды яшчэ навідавоку ў верталётаў высуне нос з хованкі?

— Ну і куды вядзе гэты балкон? — спытаў Дубік, адначасова робячы нейкія пазнакі на карце.

— Цягнецца ён дзевятнаццаць кіламетраў, а затым, — Першын ткнуў пальцам у карту, — вось у гэтым месцы цясніна ідзе правей, на захад. Ад самага канца гэтага балкона пачынаюцца чатыры сцежкі. Адна з іх вядзе ў бок шашэйнай дарогі Кабул—Газні, а тры іншыя — у цэнтральную і заходнюю часткі правінцыі Вардак, у зоны, якія кантралююцца душманамі. Я не думаю, што за пяць гадзін душманы змаглі адысці так далёка. Хутчэй за ўсё яны спыніліся на днёўку ў якой-небудзь пячоры.

— Сродкаў супрацьпаветранай абароны не заўважылі ў тым месцы, дзе канчаецца балкон?

— Засеклі чатыры кропкі. Яны абстралялі нас. Месцазнаходжанне іх я нанёс на планшэт.

Дубік паглядзеў на Місніка.

— Таварыш маёр, дайце гэтыя цэлі на КП артылерыі. Скажыце, што я загадаў зрабіць удар па іх.

Афіцэр з павязкай дзяжурнага на рукаве далажыў:

— Таварыш генерал-лейтэнант, прыбыў прадстаўнік міністэрства дзяржаўнай бяспекі Афганістана падпалкоўнік Джалал. Дазволіце ўпусціць?

— Так-так, запрасіце яго сюды.

З падпалкоўнікам Джалалам генерал сустракаўся і раней, таму прывіталіся яны як старыя сябры, па афганскім звычаі абняліся і тройчы дакрануліся шчокамі адзін да аднаго.

Генерал-лейтэнант Дубік знаходзіўся ў Афганістане ўжо трэці год і добра засвоіў звычаі гэтай краіны, таму ён пацікавіўся пра здароўе падпалкоўніка, пра тое, як ідуць у яго справы. Затым, ведаючы, што тут не прынята казаць пра жанчын, спытаў:

— Як здароўе вашых дзяцей? Іх маці?

— Ташакор, хэйлі хуб. (Хэйлі хуб — вельмі добра (дары).

Толькі пасля гэтага Дубік перайшоў да справы.

— Мы прыходзім да высновы, што наш дэсантнік, малодшы сяржант Лявонаў, быў адкінуты выбуховай хваляй у абрыў, дзе яго і захапілі душманы. Я прымаю наступнае рашэнне: пошук дэсантніка тут спыніць. Наўздагон душманской бандзе накіраваць нашы падраздзяленні. Буду прасіць камандаванне афганскага войска і царандоя падтрымаць нас і адначасова пашырыць тэрыторыю пошуку, асабліва ў глыбіню. У раён, дзе канчаецца гэты балкон, выкінем дэсант. Па схілах гор, размешчаных на процілеглым боку цясніны, накіруем дзве разведроты. А да вас, таварыш Джалал, толькі адна просьба: выкарыстоўваць усе вашы магчымасці, каб выявіць месцазнаходжанне Лявонава.

— Хуб, таварыш генерал. Мы зробім усё, што ў нашых сілах. Я ўжо высветліў у вашых таварышаў усё, што нам трэба для яго пошуку. Работу пачынаем неадкладна.

## У палоне

Лявонава вывеў з забыцця нейкі шум. Ён адкрыў вочы і ўбачыў ногі аднаго з ахоўнікаў. Той ляжаў проста на зямлі. Лявонаў паглядзеў лявей. На жаль, другі ахоўнік не спаў. Ён сядзеў, прыціснуўшыся спінай да глінянай сцяны, і трымаў у руках аўтамат, а вочы яго насцярожана сачылі за палонным.

У Лявонава балела галава, яго каламуціла. «Чым жа гэта яны мяне накармілі? Усё вакол плыве і ў галаве гудзе. Не, гэта не ў галаве... я ж ясна чую шум матораў! Дык гэта ж гудуць вяртушкі!»

Рокат рухавікоў верталётаў дэсантнік ніколі, ні пры якіх акалічнасцях, ні з чым зблытаць не мог. І сапраўды. Проста над кішлаком, над дваром, дзе ляжаў на зямлі Лявонаў, адзін за адным пранесліся два савецкія верталёты. Магутныя, імклівыя, яны нібы ўлілі ў дэсантніка новыя сілы. «Гэта ж мяне шукаюць! Не кідаюць у бядзе!» — падумалася Лявонаву, ён ускочыў на ногі і, махаючы рукамі, закрычаў:

— Хлопцы, таварышы, лётчыкі! Я тут! Вось я!

Моцны ўдар прыкладам у галаву збіў яго з ног, і, падаючы, ён страціў прытомнасць. А калі ачуняў, то ўбачыў, што знаходзіцца ў нейкім памяшканні. Праз вялікія шчыліны ў дашчаных дзвярах пранікалі яркія прамяні сонца. Антон пакратаў галаву. На руках крыві не было. Ён са стогнам пачаў паднімацца, і ў гэты момант дзверы адчыніліся. У памяшканне ўвайшлі трое. Аднаго з іх Антон адразу пазнаў — гэта быў амерыканец. Другі, у чалме і звычайнай афганскай адзежы, хутчэй за ўсё, душман, а вось трэці... трэці, як толькі стаў так, што сонечнае святло, якое падала з дзвярнога праёму, асвятліла яго твар, адразу зацікавіў Лявонава. Гэта быў стары, без традыцыйных для афганцаў вусоў і барады. Валасы ў яго былі светла-русыя, з сівізной, вочы блакітныя. Стары з нейкай прагнай цікаўнасцю глядзеў на дэсантніка. Яго твар выяўляў адкрытае хваляванне. Заікаючыся, старанна падбіраючы словы, з моцным акцэнтам ён спытаў:

— Скажыце, вы сапраўды рускі?

Лявонаў маўчаў.

— Вы не бойцеся мяне, я таксама рускі.

Антон не стрымаўся і злосна працадзіў:

— Рускія таксама бываюць розныя: адны Радзіме служаць, іншыя — яе ворагам падмёткі ліжуць.

— Так-так, я вас разумею. Сустрэць у гэтай глухамані суайчынніка і адразу ж паверыць яму — цяжка. Я цяпер папрашу гэтых паноў пакінуць нас адных, і калі яны пагодзяцца, то мы зможам пагутарыць.

Стары загаварыў з амерыканцам па-англійску. Той адказаў «о’кей» і разам з душманам выйшаў. Дзверы яны пакінулі адкрытымі, і Лявонаў убачыў, як яго ахоўнікі дэманстратыўна размясціліся на зямлі насупраць уvахода.

Стары прысеў на зямлю, па-ўсходняму скрыжаваўшы ногі.

— Я растлумачыў амерыканцу, што вы наўрад ці станеце адразу ж адказваць на яго пытанні, і папрасіў дазволу спачатку мне пагутарыць з вамі, а заадно паспрабаваць угаварыць вас не адмаўляцца ад гутаркі з ім. Амерыканец пагадзіўся, але паверце майму сумленнаму высакароднаму слову, я не буду ў вас нічога выпытваць і пераконваць адкрыць ваенную тайну. Я стары чалавек, пражыў доўгае жыццё і рускага не бачыў больш як паўвека. Не-не, рускіх людзей я, вядома, бачыў, але ўсе яны, гэтак жа, як і я, з мінулага... з мінулай Расіі. Але спачатку я раскажу вам пра сябе. Я выхадзец са старой расійскай сям’і, прычым далёка не беднай. Па бацькаўскай лініі я належу да роду Пацёмкіна. Быў такі князь Пацёмкін, але вы, вядома, пра такога і не чулі.

— Не, чаму ж, — нечакана адказаў Лявонаў. Ці то шкадаванне да рускага эмігранта варухнулася ў яго душы, ці то жаданне паказаць, што ў Расіі да гісторыі ставяцца з павагай, падштурхнулі Антона да адказу. — Чуў я пра князя Пацёмкіна нямала, ведаю, што такое і пацёмкінскія вёскі, і пацёмкінская лесвіца...

— Бог мой, — ускінуў рукі ўгору стары, — значыць, рэвалюцыя не закрэсліла ўсё, што было да яе ў Расіі.

Яго словы «Бог мой», а не «Алах вялікі» і рукі, якія па-мусульманску ўскінуліся да неба, выклікалі кароткую ўсмешку ў хлопца.

— Так-так, я маю дачыненне да роду князя Пацёмкіна, і не варта здзіўляцца, што рэвалюцыю ў Расіі я ўспрыняў варожа. Не хаваю, я доўга ваяваў супраць яе. Больш як дзесяць гадоў пасля рэвалюцыі я не складаў зброі. Вёў барацьбу з чырвонымі. Потым прыйшлося назаўжды сысці за мяжу, і я застаўся ў Афганістане. Нават прыняў мусульманскую веру. Пасяліўся спачатку ў Кандагары, але затым перабраўся ў Герат. Адтуль недалёка да Ірана. Адкрыўшы сваю справу, стаў гандляром, ажаніўся. У мяне чацвёра сыноў. Двое жылі ў Іране. Я кажу жылі, таму што іх цяпер ужо няма ў жывых, загінулі на ірана-іракскім фронце. Трэці сын павінен быць дзесьці ў Пакістане, але ніякіх вестак ад яго вось ужо восем гадоў не атрымліваю. Чацвёрты жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі. Абяцаў пасля смерці маці забраць мяне да сябе, але, на жаль, гэтыя абяцанні цягнуцца ўжо больш як пяць гадоў. Я ўжо трэці месяц жыву тут і гандлюю. Вось сёння адшукалі мяне і прадставілі амерыканцу. Бо я не забыўся, як бачыце, рускую мову і нядрэнна ведаю англійскую. І, паверце мне, не жаданне дапамагчы амерыканцу прывяло мяне сюды. Паведамленне пра тое, што ў кішлаку з’явіўся рускі, ускалыхнула ўсе мае пачуцці да роднай зямлі. І мне нясцерпна захацелася ўбачыць суайчынніка.

— А ў Гераце вы не бачылі рускіх?

— Не. Я баяўся сустрэчы з імі. Мне ўвесь час здавалася, што, убачыўшы мяне, яны запатрабуюць майго арышту і пакарання смерцю. Але, праседзеў-

шы ў гэтых гарах нямала часу, я ўсё часцей стаў задаваць сабе пытанне: чаго мне ў свае восемдзесят чатыры гады баяцца? Жыццё пражыта, і, на жаль, вялікая яго частка прайшла ўдалечыні ад Радзімы...

«Дзіўны стары, — думаў, гледзячы на яго, Лявонаў. — Ці то казкі мне распавядае, каб у давер увайсці, ці то сапраўды вырашыў перада мной паспавядацца. А што, можа, гэта ў яго і сапраўды апошні шанец у жыцці з рускім пагаварыць?»

— Так, Расія... — задуменна гледзячы кудысьці ў кут слязлівымі вачамі, казаў стары. — Для яе я што? Проста кінуты ў ваду камень. І вось як у жыцці бывае: кінуты камень ужо даўно на дне, а кругі па вадзе працягваюць разыходзіцца. Гэтымі кругамі для мяне працягваюць быць мая памяць, маё сумленне... Не даюць мне супакою душы тых, хто загінуў ад маёй рукі. Памяць патрабуе ад майго сумлення, каб я сказаў пра сябе праўду. Здаецца, каб было ў мяне крыху больш сіл ды гадоў паменш, з'ехаў бы ў Расію. Хай бы мяне судзілі, хай расстралялі, але затое застаўся б я назаўжды на роднай зямлі... У сваёй хаце і смерць не страшная.

У Лявонава мільганула думка: «А што, калі паспрабаваць высветліць у гэтага старога, дзе я цяпер знаходжуся? Заадно пагляджу, наколькі ён шчыры са мной». Антон вычакаў зручны момант і спытаў:

— А як вы сюды дабіраліся з Герата?

— Да Газні ўвогуле праблем не было. Даехаў на спадарожных машынах, з Газні да Майданшахра — цэнтра правінцыі Вардак — таксама на спадарожных дабіраўся, ну а сюды, да Джалеза, ішоў пешшу.

— Колькі кіламетраў ад Майданшахра?

— Дваццаць—дваццаць пяць кіламетраў.

Лявонаў добра памятаў гэтыя мясціны, некалькі разоў іх рота аказвала дапамогу афганскаму войску на гэтай тэрыторыі. Успомніўся дэсантніку і той выпадак, калі іх падраздзяленне, прайшоўшы проста праз горы, пераадолела заснежаныя вяршыні і нечакана выйшла да кішлака, на які напалі душманы. Бандыты там наладзілі крывавую разню. Толькі імклівы кідок дэсантнікаў вратаваў тады жыхароў кішлака ад пакутлівай смерці. Гэты кішлак — Лявонаў добра памятаў — знаходзіўся недалёка ад Джалеза. Менавіта праз Джалез прабраўся тады на дапамогу падраздзяленню афганскі батальён. Разам яны і разграмілі праціўніка.

«Дык вось дзе я апынуўся, — думаў Лявонаў. — Да мяжы яшчэ далекавата, значыць, ёсць у мяне яшчэ шанец уцячы».

— А як жа вам удалося бесперашкодна прайсці праз усе кардоны, калі ваша знешнасць адразу ж выдае ў вас еўрапейца?

— Так-так, ваша праўда... Мяне выручала пісьмо, якое далі мне на рукі сябры. Ліст напісаў адзін з кіраўнікоў контррэвалюцыі.

— Кішлак цалкам заняты душманамі ці яны захапілі толькі некалькі крэпасцей?

— Не. Яны тут гаспадары. У іх руках не толькі Джалез, але і кішлакі, якія размешчаны побач. Душманы патрабуюць, каб насельніцтва пакорліва падпарадкоўвалася толькі ім. Спаганяюць з жыхароў падаткі, спрабуюць укараніць свае законы, яны ўпэўнены, што ўлада ў іх руках тут назаўжды.

— Ну, а вы як лічыце?

— У якім сэнсе?

— Апраўдаюцца іх надзеі?

— Асабіста я ў іх мерапрыемствы не веру. Іх верхаводы дураць простых, цёмных і забітых жыхароў гор, якія адвеку прывыклі верыць словам. Узбуда-

ражылі народ, ашукалі, уцягнулі ў гэту нікому не патрэбную вайну, а зараз для многіх жыхароў назад звароту няма, спалены ўсе масты.

— Гэта чаму ж? — запальчыва ўсклікнуў Лявонаў. — А закон, які прыняў урад? Бо ён жа вызваляе ад адказнасці кожнага, хто адмовіцца ад барацьбы з рэвалюцыяй і добраахвотна складзе зброю.

— Так-так, гэта вядома. Але ж бай, мула, верхавод банды — побач, і кажуць яны зусім іншае, а тых, хто не жадае ім верыць, караюць смерцю. Вы ж ведаеце гэта не горш за мяне, хлопча.

— І што ж вы скажаце амерыканцу?

— Скажу, што не варта катаваць і дапытваць вас. Самае разумнае, параю я, — гэта даць вам час пераканацца ў безвыходнасці вашага становішча, пасля чаго паспрабаваць угаварыць вас не вяртацца на Радзіму. — Стары горка ўсміхнуўся. — Я ўпэўнены, што гэта бескарысна, і вы ніколі не пойдзеце на здраду. Я проста буду рады, што не дапушчу здзекаў над вамі і такім чынам прынясу хоць маленькую карысць Расіі.

— Вы б прынеслі яшчэ большую карысць Расіі, калі б дапамаглі мне ўцячы.

— На жаль, — нізка схіліў галаву стары, — я не змагу, на маё найглыбейшае шкадаванне, дапамагчы вам. Вы занадта наіўныя, мяркуючы, што я магу тут свабодна перасоўвацца. Хоць я і прыняў мусульманскую веру, усё адно я для іх — чужы чалавек. Паверце мне: вы не зможаце ўцячы, толькі падвергнеце сябе збіванням, а можа быць, і смерці.

— Я не баюся смерці! — міжволі выгукнуў Лявонаў. — Толькі для мяне важна прыняць яе ў баі.

Стары хацеў сказаць яшчэ штосьці, але ў дзвярах з'явіўся душман і стаў прыспешваць яго. Стары кіўнуў галавой.

— Бывайце, малады чалавек. Дай вам Бог...

І ён пайшоў.

У Лявонава стала лягчэй на душы. Гутарка з былым белагвардзейцам, які раскаяўся, унесла хоць нейкую яснасць у яго становішча. Ён падышоў да выхаду, але адзін з ахоўнікаў устаў і зачыніў перад яго носам дзверы. Лявонаў не маркоціўся. Зараз, хай і праз шчыліны, але ён зможа агледзець двор. Але спачатку Лявонаў пільна прыгледзеўся да ахоўнікаў. Абодва маладыя, гадоў да трыццаці, з невялікімі вусамі і даўно не часанымі барадамі. Апрануты амаль аднолькава, толькі ў таго, што быў крыху вышэйшы, камізэлька-кафтан зялёнага, а ў яго сябра — карычневага колеру. У абодвух аўтаматы, якія Антону раней бачыць не даводзілася. Па вонкавым выглядзе яны, хутчэй за ўсё, былі падобныя да заходнегерманскіх: металічныя, чорнага колеру, з дэталямі круглявай формы.

Праз увесь двор цягнуўся дувал, у ім — вялікая брамка. Яна адкрыта, а побач зачыненыя драўляныя, з вялікімі металічнымі заклёпваннямі, вароты. Ля брамкі двое ўзброеных мужчын. За брамкай была вуліца, ціхая і нешырокая. Гэта Лявонаў зразумеў таму, што адразу ж за брамкай, праз дарогу, тырчаў гліняны дувал. Паміж брамкай і дувалам зрэдку праходзілі людзі, штосьці цягнулі на сваіх худых спінах ішакі.

Праз двор, прама да дзвярэй, за якімі знаходзіўся Лявонаў, ішоў душман. Ён нёс чайнік і піялу. Антон бачыў яго і раней, ён прыносіў яму ежу і пітво. Антон хутка адышоў на ранейшае месца і сеў. І своечасова! Душман увайшоў. Ён прынёс чай. Есці не хацелася, а вось піць... Яго ўвесь час мучыла вельмі моцная смага. Лявонаў тут жа, не зважаючы на душмана, часта дзьмухаючы на піялу, пачаў прагна піць. Неўзабаве ён адчуў, што зноў упа-

дае ў глыбокае забыццё, а потым ужо не ўсведамляў і не ўспрымаў таго, што з ім рабілі душманы.

А адбылося вось што.

У памяшканне ўвайшло чацвёра і з імі амерыканскі саветнік, які, паказваючы на адзежу Лявонава, праз перакладчыка штосьці сказаў і тут жа пайшоў. А душманы, узброіўшыся іголкамі і ніткамі, пачалі прыводзіць у парадак адзежу свайго палоннага, якая была падрана на шматкі. Пасля таго, як рамонт адзежы быў скончаны, душманы паднялі Лявонава на ногі і, падтрымліваючы, вывелі ў двор. Адзін з душманаў павесіў яму на грудзі аўтамат з магазінам без патронаў, надзеў рэмень з падсумкам, дзе таксама ляжалі пустыя магазіны. І вось тут з’явіліся амерыканцы, якія пачалі здымаць «узброенага» савецкага салдата. Амерыканцы імкнуліся здымаць яго на фота-відэа- і кінастужку здалёк або збоку, каб камеры не захапілі твар дэсантніка буйным планам, бо было б добра відаць, што стаіць ён з закрытымі вачамі, а трымаецца на нагах толькі дзякуючы таму, што прыстаўлены да сцяны дома.

Пасля здымак Лявонава завялі назад у хлеў. І ён не бачыў, знаходзячыся практычна ў непрытомнасці, што адбывалася ў двары. А там строіліся ў адзін шэраг чалавек сорак душманаў, пераапранутых у форму... афганскага войска, царандоя і нават у абмундзіраванне Савецкай Арміі. Неўзабаве яны выйшлі з-за дувала і накіраваліся да паўночнай ускраіны кішлака, прыхапіўшы з сабой савецкага дэсантніка. Там, на адлегласці кіламетра, знаходзіўся яшчэ адзін кішлак. Выглядала дзіўным, што з імі не было ніводнага чалавека, апранутага ў цывільную адзежу, як звычайна апранаюцца душманы. Нават амерыканскія саветнікі былі ў форме афганскага войска.

Далей здарылася страшнае. Душманы, увайшоўшы ў кішлак, пачалі шныраць па дварах, бесцырымонна ўваходзілі, парушаючы мусульманскія звычаі, на жаночую палову хаты. Яны хапалі ўсіх і выцягвалі на вузенькія вулачкі, дзе перад здымачнымі камерамі амерыканцаў здзяйснялі крывавую расправу. Людзей забівалі стрэламі ва ўпор, нажамі і штыкамі. Крывёй пакрылася зямля кішлака, а неўзабаве ў блакітнае бясхмарнае неба пацягнуліся языкі полымя і велізарныя клубы чорнага дыму. Перад фота- кіна- і пераноснымі тэлекамерамі мітусіліся, бегалі, цягнулі людзей «савецкія» і «афганскія» салдаты. Ішла здымка ганебнага крывавага фарсу, які хутка павінен выйсці на экраны Захаду, як доказ генацыду, які праводзіцца савецкімі і афганскімі ўзброенымі сіламі ў мірным кішлаку ў Афганістане.

Не разумеў у гэтыя страшныя хвіліны малады савецкі хлопец, што падрыхтавалі яму бандыты. Яны пасадзілі яго на зямлю, зноў павесілі аўтамат на грудзі, а па баках размясцілі целы забітых жанчын, старых і дзяцей. Атрымаўся ўнікальны кадр: савецкі салдат сядзіць, адпачывае пасля крывавай «работы». Ну чым не дакументальны факт?

Неўзабаве Лявонава шпурнулі на двухколую павозку, даставілі на ранейшае месца і кінулі на земляную падлогу хлява.

Расштурхалі яго і вывелі з наркатычнага забыцця ўжо тады, калі ў кішлак прыйшло змярканне. Вось-вось павінна была наступіць ноч: час перасоўвання банд па сцежках Афганістана. У Лявонава страшна балела галава. Ён з вялікім намаганнем устаў на ногі, трымаючыся аберуч за галаву. Але з ім не цырымоніліся: сцягнулі абмундзіраванне і надзелі падраныя, брудныя шырокія шаравары, кашулю і камізэльку нявызначанага колеру. Замест чаравікаў далі старыя, напаўспарахнелыя гумовыя галёшы. Паступова Лявонаў пачаў прыходзіць у сябе і калі зразумеў, што з ім адбываецца, адпіхнуў душмана, які звязваў у вузел абмундзіраванне, пачаў сцягваць надзетыя на яго анучы:

— Вы што, звар’яцелі? Я вам сваё абмундзіраванне не аддам...

Нечаканы моцны ўдар гумовай палкай па галаве збіў Лявонава на зямлю, і тут жа двое ахоўнікаў пачалі біць яго нагамі. Тым часам падышоў амерыканец з перакладчыкам.

— Гэты рускі заслугоўвае вашага гневу, прававерныя, але нам хутка ў дарогу, і калі ён будзе ў непрытомнасці, то вам жа давядзецца яго цягнуць на сабе. Так што адкладзіце кару да прыбыцця ў лагер.

Фотаапаратам з успышкай ён сфатаграфаваў Лявонава, які ляжыць у чужой адзежы на падлозе, і выйшаў у двор.

Прайшло яшчэ паўгадзіны, Лявонаў ужо апрытомнеў. «Як толькі апынёмся ў гарах, кінуся ў першую ж прорву». Устаў, пахістваючыся падышоў да дзвярэй. Хацелася піць. Вусны парэпаліся, а ў горле нібы камяк засеў. «Не, прасіць піць у іх не буду. Патрываю... Хутка скончацца мае пакуты». Ён зрабіў некалькі крокаў углыб і лёг. Зямля пачала ўжо пакрысе астываць, і збітаму целу стала лягчэй.

Антону зноў успомніўся дом. Бацька, напэўна, прыйшоў з працы. У кватэры, як заўсёды, светла, цёпла і ўтульна. «Цікава, што цяпер робіць бацька? Напэўна, глядзіць тэлевізар, а маці, як звычайна, рыхтуючы вячэру, дакарае яго: «Толькі што прыйшоў і адразу ж да гэтай скрыні прыліп!» А можа, яны цяпер чытаюць мой ліст? Прайшло ўжо дзён дзесяць, як я яго адправіў. Стоп, пра што ж я ім пісаў у апошнім лісце? А... так! Пра тое, што служба ідзе добра... Нават не забыўся пахваліцца, што прадстаўлены да ўзнагароды... Уяўляю, як будуць яны рады. Марына, вядома, не ўтрымаецца і пахваліцца Каці. А я ўжо ў руках ворага! Госпадзі, што будзе з мамай, калі ёй паведамяць пра маё знікненне? Лепш бы напісалі, што загінуў, чым згінуў без весткі... Мама, мілая мама, толькі ў гэтых краях я пачаў разумець, наколькі ты мне дарагая!»

Антон не пачуў, як адчыніліся дзверы. Увайшлі двое. Адзін з іх штосьці сказаў, але Антон не зразумеў яго. Тады душманы схапілі яго пад рукі і вывелі ў двор. Вароты былі расчынены насцеж, а душманы строіліся ў паходную калону. Каля Лявонава з’явіліся ахоўнікі. Моўчкі і спрытна звязалі яму рукі і вяроўкай прывязалі да ішака. Ды так прывязалі, што ён мог перасоўвацца толькі ідучы побач, амаль ушчыльную да жывёлы.

«Чорт з вамі, — вырашыў Лявонаў, — калі будзем ісці побач з цяснінай, у прорву пацягну за сабой і вашага ішака».

У гэты момант падышлі амерыканец і рускі стары. Амерыканец робіць выгляд, быццам не заўважае, што Лявонаў звязаны, усміхаючыся, штосьці гучна сказаў. Стары пераклаў:

— Ён кажа, што вы ўжо заслужылі даволі вялікі ганарар за вашу сённяшнюю працу.

— Якую працу?

Стары журботна растлумачыў:

— Яны цябе, сынок, нашпігавалі наркотыкамі і фатаграфавалі ў кішлаку сярод забітых імі ж людзей. Я раней не верыў урадаваму радыё і газетам, якія распавядалі пра такія крывавыя пабоішчы, але зараз пераканаўся ў гэтым на свае вочы...

Старога нервова перапыніў амерыканец. Ён, відавочна, патрабаваў, каб стары растлумачыў, пра што той так доўга вядзе гутарку з палонным. Стары прабачлівым тонам штосьці адказаў яму.

Праўда, стары тут жа не прамінуў паведаміць Лявонаву:

— Я яму сказаў, што раю вам слухацца яго і што вы не пашкадуеце пра гэта.

Падышоў верхавод банды і праз свайго перакладчыка ціха штосьці прамармытаў. Амерыканец пляснуў Лявонава па плячы і, сказаўшы «о’кей», пайшоў. Стары хацеў застацца каля Лявонава, але верхавод банды злосліва кінуў яму: «Буру!» (пайшоў), ідзі (дары), і стары паспешна адышоў углыб двара. І вось ізноў душманская калона рушыла ў шлях. Ішлі хутка. Як толькі калона выцягнулася з кішлака, адразу ж пачаўся пад’ём у горы. У Лявонава закружылася галава і пачалася задышка. Ён запаволіў крок. Ахоўнік, які ішоў ззаду, падганяў Антона ўдарамі прыклада аўтамата. Другі ахоўнік ішоў крыху паперадзе і цягнуў вяроўку, якая была прывязана да ішака, каб ён не запавольваў рух.

Пакутліва доўга цягнулася ноч. Сілы Антона былі на зыходзе, і іх падтрымлівалі толькі думкі пра ўцёкі.

Спыніліся на першы прывал. Лявонава адвязалі ад ішака, але рук не развязвалі. Ён прысеў на невялікі востры камень і насцярожана азірнуўся: «Дзе мы цяпер? Мяркуючы па зорках, ідзём на поўдзень ці паўднёвы ўсход. Калі ж апынёмся ля якой-небудзь прорвы? Толькі б хапіла сіл! Толькі б вытрымаць!»

Неўзабаве рушылі зноў. Праз некалькі кіламетраў гара, якая ішла трохі лявей, як бы пачала расці ўверх, закрываючы зоркі. Неўзабаве сцежка звярнула да гэтай гары, і зараз велізарная скальная сцяна была побач са сцежкай. Справа пацягнуліся шматлікія нагрувашчванні камянёў, а сярод іх выразна чулася цурчанне вады. Антон аблізваў сухія вусны, марачы хоць бы пра глыток вады. Перад яго вачамі стаяла жыватворная, прахалодная, свежая вада. Гэта было сапраўдным катаваннем! І калі горная рачулка пачала сыходзіць правей і шум яе станавіўся ўсё цішэй і цішэй, Лявонаў нават з палёгкай уздыхнуў: «Калі нельга папіць, то хай вада і не нагадвае пра сябе». Ён паспрабаваў думаць пра што-небудзь іншае. Гэтым разам успомнілася яму родная рота, таварышы Коблік, Шувалаў, Кальцоў... Амаль месяц назад неяк на прывале яны марылі пра той час, калі вернуцца дадому, дамовіліся, што «грамадзянка» іх не разлучыць і што яны будуць сябраваць усё жыццё. Хлопцы тады напаўголаса спявалі песню, народжаную на афганскай зямлі:

...На афганской
выжженной земле
Спят тревожно
русские солдаты...

Просты душэўны матыў заўсёды кранаў душы маладых салдат. У такія хвіліны думалася і марылася лёгка, хацелася, каб песню, якую спявалі, пачулі бацькі, блізкія, сябры. Голасам Антон не валодаў, але спяваў з душой, і гэта падабалася хлопцам.

Успаміны перапыніла прорва. Антон выразна ўбачыў, што справа пачалася чорная бездань. Вось яно, выратаванне ад палону, ад знявагі і ганьбы. Дэсантнік сціснуўся ў камяк, яшчэ трохі — і наперад, у гэту бездань! Як бывала раней з парашутам, рыхтаваўся ён цяпер да свайго апошняга ў жыцці скачка. Думка працавала выразна. Цяпер ён думаў толькі пра адно: як выканаць гэты скачок, як захапіць за сабой гэтую бедную жывёлу. Калі нага наступіла на невялікі каменьчык, Антон як бы выпадкова сапхнуў яго ў чорную бездань. Шуму падзення не пачуў: значыць, глыбіня вялікая. А тут яшчэ душманы заўважылі, што палонны быў прывязаны вельмі каратка, а сцежка настолькі вузкая, што ён не мог ісці побач з ішаком, і падоўжылі вяроўку. Зараз Лявонаў рухаўся за асуджанай жывёлай. «Бывай, Радзіма! Бывайце, родныя, сябры!» — у думках усклікнуў Лявонаў і рвануўся ўніз, у бяздонную, чорную пустэчу...

## «Знайшла я свайго сыночка...»

Ніна Цімафееўна Чайкіна шмат дзён запар не знаходзіла сабе месца. Нягледзячы на тое, што Павел даслаў ёй тры лісты, у якіх бадзёра пісаў пра тое, што ў яго ўсё добра, маці хвалявалася. Яна нібы паміж радкоў чытала пра тое, што з сынам штосьці здарылася. Не, яна не сумнявалася, што гэта почырк Паўла... Яе бянтэжыў пах: лісты пахлі лекамі. А тут яшчэ і Павел раптам пачаў пісаць, што, маўляў, галоўнае — застацца жывым. Гэта таксама насцярожвала. Раней ён так не пісаў. Трывога падштурхнула Ніну Цімафееўну, здавалася, на безразважны крок. Яна дазналася нумар тэлефона аднаго са шпіталяў, размешчаных у Туркестанскай ваеннай акрузе, і патэлефанавала туды. Ёй адказалі, што яе сына там няма. Тады Ніна Цімафееўна папытала ў іх нумар тэлефона бліжэйшага шпіталя. Там таксама Паўла не аказалася, але са слоў супрацоўніка шпіталя, які адказваў ёй, Ніна Цімафееўна даведалася нумар тэлефона трэцяга шпіталя. Патэлефанавала. Адказаў мужчынскі голас. Ніна Цімафееўна прывіталася і спытала:

— Скажыце, калі ласка, у вас выпадкова не знаходзіцца на лячэнні Чайкін Павел?

Мужчына пацікавіўся:

— А хто пытае пра яго?

— Яго мама.

— Пачакайце хвіліначку.

Стаіўшы дыханне, Ніна Цімафееўна чакала. Праз пару хвілін у трубцы пачуўся той жа голас:

— Ало! Вы чуеце мяне?

— Так-так, чую добра.

— Ваш сын знаходзіцца ў нас.

— Што з ім? — гучна спытала Чайкіна, хапаючыся рукой за край століка, на якім стаяў тэлефон.

— А вам не паведамлялі? — насцярожыўся мужчына.

— Не яшчэ...

— Яго цяжка параніла ў нагу. — Адчувалася, што мужчына разгубіўся і засумняваўся, ці правільна ён робіць, даючы такую даведку.

Ніна Цімафееўна хацела спытаць, ці цэлая нага, але не стрымалася, і паклаўшы трубку на апарат, павольна апусцілася на крэсла. «Вось і здарылася! Госпадзі, адчувала ж бяду маё сэрца! Што рабіць?! Трэба ехаць! Так, трэба неадкладна ехаць да Пашачкі!»

Ніна Цімафееўна нервова хадзіла па кватэры, абдумваючы план дзеянняў. Дастала з антрэсолі чамадан, адкрыла яго і пачала збірацца, але раптам падышла да тэлефона і набрала нумар кватэры Коблік.

Пачуўшы голас Веры Фёдараўны, Ніна Цімафееўна сказала:

— Знайшла я сыночка... — І заплакала.

— Дзе ён? Што з ім?

— Ён у Ташкенце, у шпіталі. Я сёння ж лячу да яго.

— Ніна Цімафееўна, я зараз жа прыбягу да вас, дачакайцеся мяне.

Не прайшло і паўгадзіны, як Вера Фёдараўна была ў Чайкінай. Коблік як магла супакойвала сяброўку:

— Галоўнае, што ён жывы! Не трэба так хвалявацца. Вы правільна вырашылі паехаць і самой усё высветліць.

Трохі супакоіўшыся, яны вырашылі, што Чайкіна будзе збірацца ў дарогу і бегаць па магазінах, а Вера Фёдараўна паедзе па білет.

У памяшканні касы было шмат людзей. Нават ля акенца даведачнага бюро была вялікая чарга. Выстаяўшы яе, Вера Фёдараўна спытала, ці ёсць білеты на Ташкент. Маладая дзяўчына адказала, што білетаў няма.

— А па броні? — пацікавілася Вера Фёдараўна.

— Калі для вас забраніравана месца, то білет вы павінны ўзяць у касе.

Вера Фёдараўна накіравалася да акенца адміністратара. Хвілін праз дзесяць падышла яе чарга. Зазірнуўшы ў акенца, Вера Фёдараўна, імкнучыся, каб яе не чулі людзі, якія стаялі за ёй, ціха сказала:

— Дапамажыце, калі ласка, жанчыне, якой трэба тэрмінова ляцець у Ташкент. Там у шпіталі ляжыць яе сын, паранены ў Афганістане.

Адміністратар, жанчына сярэдніх гадоў з высокай прычоскай, адказала праз дынамік, замацаваны на шкле:

— Што вы там шэпчаце? Скажыце выразна, што вы хочаце!

Вера Фёдараўна, чырванеючы ад збянтэжанасці, яшчэ больш нахілілася да акенца і паўтарыла просьбу.

Голас у дынаміку прагучаў катэгарычна:

— Мяне не цікавіць тое, што ваш сын паранены, і тое, што вы хочаце ехаць да яго. Білетаў на сёння да Ташкента няма. Наступны!

Сціснуўшыся пад цікаўнымі паглядамі, Вера Фёдараўна адышла ад акенца.

Нечакана да яе падышоў мужчына.

— Паважаная, не хвалюйцеся. Для гэтай дамы, адчуваецца, нічога святога на свеце няма. Я вам раю пайсці ва ўпраўленне грамадзянскай авіяцыі. Яно знаходзіцца недалёка адгэтуль. У вас такая прычына, што наўрад ці знойдзецца чалавек, які адмовіць вам.

Вера Фёдараўна моўчкі кіўнула галавой і накіравалася да выхаду. На вуліцы яна крыху супакоілася і рашуча пайшла да вышэзнага будынка. Каля дзвярэй сядзеў вахцёр. Ён паспрабаваў штосьці спытаць, але Вера Фёдараўна цвёрда сказала:

— Я да начальніка ўпраўлення.

І не затрымліваючыся, прайшла далей. Паднялася на другі паверх і спытала ў першага ж мужчыны ў авіяцыйнай форме, які трапіўся ёй насустрач:

— Падкажыце, калі ласка, дзе кабінет начальніка?

— Па калідоры злева.

У прыёмнай Вера Фёдараўна спытала ў сакратаркі:

— Начальнік упраўлення ў сябе?

— Так. Вы па якім пытанні?

— Па важным, — адказала Вера Фёдараўна і пацягнула на сябе дзверы.

У вялікім светлым кабінеце сядзеў мужчына сярэдніх гадоў. Ён адарваўся ад папер, ветліва адказаў на прывітанне і сказаў:

— Праходзьце, калі ласка, прысаджвайцеся. — Пачакаў, пакуль Вера Фёдараўна сядзе, потым уважліва зірнуў на яе. — Слухаю вас.

Вера Фёдараўна, відавочна збянтэжаная ўвагай гаспадара кабінета, папрасіла прабачэнне за тое, што ўварвалася без дазволу і блытана растлумачыла прычыну свайго прыходу. Яна баялася, што начальнік упраўлення абурыцца і выставіць яе за дзверы, але памылілася.

Ён тут жа націснуў кнопку і выклікаў сакратарку.

— Вазьміце грошы, схадзіце ў касу і купіце на сёння адзін білет да Ташкента. Хай знімуць любую бронь.

Вера Фёдараўна падала сакратарцы грошы і, калі тая выйшла, устала з крэсла.

— Каб вам не замінаць, я пачакаю ў прыёмнай.

— Сядзіце, сядзіце тут. Вы не замінаеце. Якое ў хлопца раненне?

— Ведаем толькі тое, што ў яго штосьці з нагой, але маці так разгубілася, што не спытала. — І Вера Фёдараўна расказала гэтаму прыемнаму і ўважліваму чалавеку пра Чайкіну, пра яе пошукі сына па тэлефоне. Сказала і пра тое, што і яе сын служыць у Афганістане.

Начальнік упраўлення слухаў уважліва, а калі сакратарка прынесла білет, спытаў:

— Як прозвішча гэтай жанчыны? — Запісваючы, ён сказаў: — Перадайце Чайкінай, што я патэлефаную ў Ташкент і папярэджу пра яе. Калі будзе вылятаць назад, у аэрапорце хай звернецца да адміністратара, ёй выдадуць білет без чаргі.

Ён праводзіў Коблік да дзвярэй.

— Я жадаю вашаму сыну шчаслівага вяртання на Радзіму.

Вера Фёдараўна выйшла ў прыёмную.

— Скажыце, як завуць начальніка?

Сакратарка здзіўлена падняла бровы: яна лічыла, што наведвальніца добра ведае начальніка ўпраўлення.

— Яго завуць Віктарам Міхайлавічам.

— Дзякуй. Да спаткання.

У добрым настроі вярнулася Вера Фёдараўна да Ніны Цімафееўны і прапанавала праводзіць яе. Але Ніна Цімафееўна наадрэз адмовілася: рэчаў мала, аўтобус даставіць непасрэдна да будынка аэравакзала. Вера Фёдараўна настаяла на тым, што праводзіць яе хоць бы да аўтобуса.

Калі Чайкіна паехала, Вера Фёдараўна адразу ж накіравалася дадому: а раптам прыйшоў ліст ад Колі?

У пад'ездзе пасля яркага сонца было змрочна, і Вера Фёдараўна навобмацак адкрыла паштовую скрыню. Сярод газет ляжаў ліст! Не вытрымаўшы, яна вярнулася ў двор, да святла. Зірнула на канверт, і ногі пачалі падкошвацца: на канверце нумар часці Колі, а почырк не яго. Вера Фёдараўна з цяжкасцю дабралася да лаўкі, села і дрыготкімі рукамі дастала ліст. І на лістку таксама чужы почырк. Зірнула ніжэй, на канец ліста, а там два подпісы: камандзіра батальёна і яго зампаліта.

«Госпадзі, ды што ж гэта такое?! — Літары расплываліся ў яе перад вачамі. — Што здарылася?!»

Яна прымусіла сябе пачаць чытаць:

«Добры дзень, дарагая Вера Фёдараўна! Мы рады вам паведаміць, што Ваш сын...» Камандзір і зампаліт батальёна дзякавалі маці за выхаванне сына, жадалі моцнага здароўя.

У яе моцна білася сэрца, у вачах з'явіліся слёзы радасці і гонару за сынавоіна. «Абавязкова пакажу ліст на працы. Хай ведаюць, які ён у мяне!» — вырашыла Вера Фёдараўна, кладучы канверт у сумачку.

Яна паднялася ў сваю кватэру і толькі паспела вымыць рукі, як прыйшоў Сяргей.

— Мам, — яшчэ з парога закрычаў ён, — мам, а мяне прызналі лепшым вадзіцелем аўтабазы.

— Ого! Віншую, сынок, малайчына! — Вера Фёдараўна імкліва выйшла ў прыхожую. — Я гляджу, вы з Колем нібы змовіліся, цешыце маці. — Затым яна накіравалася ў пакой і выйшла адтуль з лістом. — На, пачытай, як пра яго адзываюцца!

Сяргей хутка прабег лісток вачамі і, вяртаючы яго, усміхнуўся.

— Вось бачыш, якія ў цябе сыны!

— Усё добра, дарагія мае хлопчыкі! Толькі б Колечка хутчэй вярнуўся дадому!

— А ў нас сёння лекцыя была. — Сяргей пераапранаўся. — Лектар вельмі шмат распавядаў пра Афганістан, пра правакацыю душманаў на мяжы.

— Гэта калі душманы абстралялі Пяндж у Таджыкістане?

— Ага. Аказваецца, гэта банда падпарадкоўваецца... — Сяргей зазірнуў у паперку, — Гульбудзіну Хекмаціяру. Бачыш, я нават запісаў. Афганскія войскі пры падтрымцы Савецкай Арміі разграмілі гэтую банду, шмат душманаў узята ў палон.

— Так ім і трэба, — кіўнула галавой маці. — Такое не павінна даравацца.

— А яшчэ лектар казаў, што пагадненне ў Афганістане можа дазволіць нашым войскам вярнуцца на Радзіму.

— Ну пра гэта і Коля піша...

Дагаварыць Вера Фёдараўна не паспела. Зазваніў тэлефон. Сяргей апярэдзіў яе і ўзяў трубку.

— Алё. Дзіўна: у трубцы кароткія гудкі.

Вера Фёдараўна памкнулася працягнуць сваю думку, але зноў зазваніў тэлефон. Яна сама ўзяла трубку.

— Алё, я вас слухаю.

— Вера Фёдараўна? — спытаў мужчынскі голас.

— Так, я.

— Мы хочам вас папярэдзіць: вас чакаюць непрыемнасці.

— Якія непрыемнасці?

— Калі вы не спыніце здзекавацца з прыстойных людзей, дабра не чакайце!

— Якіх людзей? Пра што гэта вы? — здзіўлялася Коблік.

Голас у трубцы перайшоў на віск:

— Ах, вы не ведаеце пра што! Запомні ты, сцерва, з-за цябе пагарэлі добрыя людзі! Табе гэта так не пройдзе! Рыхтуйся, хутка ты за гэта адкажаш!

— Хам! — толькі і змагла сказаць Вера Фёдараўна і паклала трубку.

Твар яе палаў, рукі дрыжалі.

— Што здарылася? З кім гэта ты размаўляла?

— Нейкая дрэнь патэлефанавала, казала ўсякую гадасць.

— Хто яна?

— Ды не яна, а ён, — як ад зубнога болю паморшчылася маці. — Мужчына тэлефанаваў. Казаў чорт ведае што! І, вядома, не прадставіўся.

Яна ўжо трохі супакоілася і нават усміхнулася.

— Ды ну яго, сынок. Гэта, вядома, Жукіна ці Салдунова які-небудзь сябрук. Не будзем звяртаць увагі.

— Правільна, мамуля, — абняў яе за плечы Сяргей, — прыціснулі іх як след за іх выхадку, вось і кідаюцца... Сабакі брэшуць, а караван ідзе.

— Бач ты, якія прыказкі памятаеш, — засмяялася маці і, лёгенька падштурхоўваючы сына ў кухню, сказала: — Ну пойдзем, накармлю цябе, лепшы вадзіцель.

## Пошук спыніць

Генерал Дубік высадзіў дэсант у тым месцы, дзе канчаўся карніз. Адначасова па яго загадзе ўзвод разведчыкаў, узмоцнены двума сапёрнымі аддзяленнямі, а за імі дзве роты батальёна пад камандаваннем падпалкоўніка Бунцава рушылі па карнізе. Па другім баку цясніны ішла рота царандоя. Перад гэтай ротай стаяла задача не дапусціць нападу на савецкія падраздзяленні з боку гор, якія ляжаць з іншага краю цясніны. Прасоўваліся павольна. Карніз быў

усеяны мінамі. Якіх толькі «неспадзевак» тут не было. І простыя «італьянкі» ў жоўтым пластмасавым корпусе, і мудрагелістыя «японкі», і міны, выробленыя ў выглядзе электраліхтара ці палявога бінокля. Былі і амерыканскія шарыкавыя міны накіраванага дзеяння, прымацаваныя да скал. Словам, сапёрам, якія папераменна змянялі адзін аднаго, працы было пад завязку. Ім актыўна дапамагалі дзве аўчаркі, Альфа і Цэзар. Камандзір сапёраў капітан Фаменка працаваў нязменна. Сваім хлопцам ён давяраў, але капітану вельмі хацелася рухацца яшчэ хутчэй. Бо цалкам магло быць, што ад гэтага залежаў лёс палоннага салдата. У скалах, да якіх прыліп карніз, было шмат пячор. Іх спешна аглядалі, толькі правяралі, ці няма там людзей. У душы і салдаты, і камандзіры спадзяваліся, што ўдасца дагнаць банду і адбіць свайго таварыша. Але вось і сустрэча з дэсантам. У іх старшым быў камандзір трэцяй роты старшы лейтэнант Пузанаў. Ён далажыў камбату становішча і дадаў:

— Па ўсім відаць, таварыш падпалкоўнік, спазніліся мы. Душманы павялі хлопца хутчэй за ўсё гэтым шляхам, пакідаючы пасля сябе міны.

— Так, падобна, — уздыхнуўшы, пагадзіўся камбат, абапіраючыся спінай на скалу. Праз плячо ён паглядзеў на радыста. — Давай сувязь з генералам!

Радыст хутка разгарнуў станцыю і адразу ж працягнуў камбату мікрафонную трубку.

— Генерал Дубік на сувязі, таварыш падпалкоўнік.

Бунцаў сцісла далажыў пра вынікі аперацыі, потым пацягнуўся да планшэта з картай і, уважліва слухаючы генерала, пачаў спешна рабіць на ёй нейкія адзнакі.

Скончыўшы гутарку, Бунцаў ціха сказаў:

— Загадана пошук Лявонава спыніць. Вярнуцца на зыходную пазіцыю, там нам паставяць новую задачу.

Камбат паглядзеў на старшага лейтэнанта Пузанава.

— Уладзімір, табе прыйдзецца ісці замыкаючым. Падумай, як і што зрабіць, каб духі не ўрэзалі нам па хвасце. Адпачынак — паўгадзіны.

Роўна праз паўгадзіны батальён рушыў назад. Падпалкоўнік Бунцаў звязаўся па радыё з камандзірам роты царандоя і праз перакладчыка перадаў яму просьбу падстрахаваць батальён і на зваротным шляху. Нягледзячы на тое, што цяпер больш старанна аглядалі падазроныя месцы, што дазволіла выявіць чатыры склады са зброяй і боепрыпасамі, рухаліся значна хутчэй, чым тады, калі ўпершыню пераадольвалі гэты шлях. Вызначыліся дэсантнікі аддзялення старшага сяржанта Шувалава. Ім удалося выявіць самы вялікі склад, які быў старанна замаскіраваны. Там аказалася больш як пяцьсот процітанкавых і проціпяхотных мін.

— Так, добра нафаршыравалі гэту сцежку «цацкамі», — паказаў на адну з італьянскіх мін Коблік. Ён узяў міну, зробленую ў выглядзе дзіцячай цацкі. — Хацеў бы я сустрэцца з тым, хто іх робіць, паглядзець яму ў вочы... Пагаварыць з ім шчыра...

— А ну, сябар-сябрук, — пачуўся ззаду голас капітана Фаменкі, — пакладзі-ка цацку на месца і не чапай, а то не будзе чым каханую абняць.

Фаменка не стаў чакаць, пакуль салдат пакладзе міну на месца, а ўзяў яе і асцярожна паклаў на кучу такіх жа «цацак». Гучна загадаў:

— Сяржант Валадзько, сфатаграфуйце ўсё гэта, затым падарвём. — Зазірнуўшы ў вочы Кобліку, спытаў: — Зразумеў, сябар-дру-жо-чак?

Ад кантузіі Фаменка заікаўся. Салдаты прывыклі да такога ягонага вымаўлення. Папоў часам нават спрабаваў перадражніваць капітана: «Цэ-зар, і-дзіка ты ж-жэрці, а не то с-сам з’ем».

Коблік сумна сказаў:

— Ведаеце, таварыш капітан, каго б я цяпер хацеў абняць?

— Ясна каго, — усміхнуўся капітан у пшанічныя вусы, што маскіравалі адсутнасць у яго двух пярэдніх зубоў. — Сваю аднакласніцу ці дзяўчынусуседку. А?

— Не, таварыш капітан, я цяпер бы абняў Антона... Антона Лявонава.

Шувалаў, які знаходзіўся недалёка, кульгаваючы, падышоў да Кобліка.

— Пайшлі, Коля. Пайшлі, нам загадана працягваць рух. Цяпер сапёры зробяць феерверк.

Нарэшце скончыўся карніз, і сцежка, выгінаючыся сярод скал, пайшла ўніз. Мінула яшчэ гадзіна, і батальён прыбыў туды, адкуль раніцой пачынаў свой паход. Тут знаходзіліся тылы батальёна, «браня». Начальнік штаба, якога камбат пакідаў тут на КП, загадзя атрымаў паведамленне пра набліжэнне рот і таму паклапаціўся, каб да іх прыходу была гатова вячэра.

Камбат удакладніў становішча і толькі пасля гэтага стаў вячэраць разам з Міснікам. Яны селі за асобны столік на камандным пункце, на якім знаходзілася радыёстанцыя для сувязі з батальёнам.

Бунцаў спытаў:

— Як параненыя сябе адчуваюць, не даведваўся?

— Як жа. Двойчы раніцай і днём звязваўся, дый генерал-лейтэнант Дубік не забыўся пра іх. У лейтэнанта Макарава справы больш складаныя, велізарная страта крыві, радавога Аркадзьева вывелі з шоку як мага хутчэй. Цяпер пасля аперацыі абодва знаходзяцца ў рэанімацыйным аддзяленні. Урачы ўпэўнены, што жыць будуць.

— Сяржанта, што загінуў, калі адправяць на Радзіму?

— Быццам бы заўтра. Мне загадана вылучыць двух чалавек для суправаджэння.

— Адкуль ён?

— З Масквы. Добры быў салдат. Адважны, рашучы, спяваў цудоўна...

— Якая ў яго сям’я?

— Бацька на заводзе інжынерам працуе. Маці — у бібліятэцы. Ёсць яшчэ дзве малодшыя сястрычкі.

Бунцаў адклаў лыжку і, гледзячы праз бруствер у бок гор, за граду якіх пачынала ўжо хавацца сонца, цяжка ўздыхнуў:

— І калі гэта скончыцца? Страчваем дзяцей сваіх... Хутчэй бы яны ўзяліся за справу...

— Хто, афганцы?

— Вядома.

— Зараз справы зрушацца з месца. Думаю, што тыя, хто хоча міру гэтаму народу, пойдуць на пагадненне. Ды і Наджыбула — адзін з тых, у каго слова не разыходзяцца са справай.

— Так, калі б ён змог павярнуць партыю тварам да народа, у першую чаргу да найбяднейшых яе пластоў. Адчуваецца, ён дужы мужык. Памятаеш, ён у часць да нас прыязджаў?

— Вядома, памятаю. Я ж з яго рук афганскі ордэн «За адвагу» атрымаў.

— Лістоў няма?

— Ёсць. І табе, і мне. Па лісце прыйшло.

— Чаго ж ты маўчыш, Іван?! Здзекуешся з камандзіра! Сам, нябось, ужо дзясятак разоў данясенне сваёй Галіны перачытаў, а мяне стамляеш.

Бунцава і Місніка злучала даўняе сяброўства. Разам вучыліся ў паветрана-дэсантным вучылішчы, нават у адным узводзе былі. Ды і ажаніліся на

сяброўках. Бунцаў на Ані, а Міснік на Галі. Дзяўчаты жылі на адной вуліцы. І цяпер яны працягвалі сябраваць. Таму камбат і начальнік штаба часта дзяліліся паміж сабой хатнімі навінамі. У абодвух былі сямігадовыя дочкі, якія праз паўтара месяца павінны пайсці ў школу. Але на гэтым, мабыць, усё агульнае ў іх сем'ях канчалася. У Місніка ў сям'і ўсё было добра, сямейнае жыццё складвалася шчасліва. У Бунцава ўсё было інакш. Калі па службе яму пашанцавала крыху больш, чым сябру: ён — падпалкоўнік, камандзір батальёна, а Міснік — маёр, начальнік штаба, то ў асабістым жыцці ўсё ішло не так, як трэба. Жонка ўсё часцей наракала на свой лёс. Нават раней, калі яны былі разам, любая, самая кароткатэрміновая адлучка мужа па службовых справах выклікала ў яе незадаволенасць і раздражненне. На гэтай глебе былі сваркі і скандалы. Рэўнасць, недавер і нездаволенасць усё часцей гаспадарылі ў іх сям'і. Бунцаў стаічна пераносіў усё гэта, спадзеючыся, што ўсё наладзіцца. Часам у лістах жонкі Бунцаў чытаў добрыя і нават далікатныя словы, і тады на душы станавілася цёпла і светла, нават у баі адчуваў сябе спакайней: яго чакала не толькі дачушка, але і жонка.

Бунцаў узяў канверт, які падаў яму сябра, і, выйшаўшы з КП, сеў на першы ж валун, дастаў спісаны буйным почыркам лісток. Па першых радках ужо зразумеў: ліст добры.

«Добры дзень, мой мілы! — пісала Аня. — Прыйшла з працы, і такі сум маю душу агарнуў, што вырашыла спачатку сесці за ліст, а затым за вячэру брацца. У нас усё па-старому. Леначка рыхтуецца да школы. Цяпер знаходзіцца ў маіх бацькоў. Вось напішу табе, паем і пайду да іх. Магчыма, застануся там і начаваць. Бо ты ж добра ведаеш, як я не люблю быць адна. На працы ў мяне ўсё па-ранейшаму. Сёння ўжо новы кавалер аб'явіўся. Прыбыў да нас з Томска адзін інжынерчык, атрымлівае сто трыццаць, а казырыцца, нібы зарплата ў яго пяцьсот. Учора прапанаваў мне ў тэатр пайсці, а сёння ўжо вырашыў, што я для большага саспела, запрашаў у рэстаран схадзіць. Адшыла яго. Па-мойму, на гэтым яго заляцанні скончацца...»

Бунцаў працягваў сядзець на камені і трымаць ліст на далоні, нібы ўзважваючы. Двоякае пачуццё было ў яго. З аднаго боку, словы быццам бы добрыя, але ў той жа час ён улавіў нейкае адчужэнне ў лісце жонкі. «Навошта яна мне піша пра гэтых залётнікаў? Няўжо не ясна, што да маладой, сімпатычнай жанчыны, у якой муж далёка, будуць чапляцца розныя лавеласы? Не, чакай, камбат, ты пачынаеш ўжо чапляцца да жонкі. Табе тут нялёгка, але і ёй несалодка: і праца, і дачка, і клопаты па гаспадарцы. Трэба ёй напісаць грунтоўны ліст. У мінулым яна намякала, што мне далёка не сумна і што ўвесь час забаўляюся ў кампаніі дам. — Падпалкоўнік горка ўсміхнуўся, гледзячы на баявую машыну пяхоты. — Вось мая дама. Калі Аня мае на ўвазе яе, то, мабыць, праўда на яе баку».

Бунцаў вярнуўся на камандны пункт. Міснік як раз атрымліваў па закрытай радыёсувязі заданне.

— На Саланг кідаюць.

— Вясёлае месцейка. — Бунцаў схіліўся над картай. — Ну-с, чаго ад нас хочуць?

— На захадзе ад перавалу з'явілася вялікая банда, па наяўных дадзеных да пяцісот чалавек. Духі з двух бакоў абклалі перавал і тунэль пад ім. Рух транспарту прыпынены. Нам загадана дэсантавацца туды. Браня пойдзе сваім ходам. Міністр унутраных спраў вылучыў для сумесных дзеянняў два батальёны аператыўнага палка царандоя. На падыходзе да Саланга знаходзіцца і батальён афганскага войска. Акрамя таго, абяцана авіяцыйная падтрымка.

Задача: аказаць дапамогу афганскім падраздзяленням у аднаўленні руху праз перавал і разграміць праціўніка.

— Ясна. Ну а што рабіць з пошукам Лявонава?

— Гэтым будуць займацца кампетэнтныя афганскія і савецкія органы. Арганізацыя гэтай працы ўскладзена на падпалкоўніка Джалала. Ён і будзе, як толькі што сказаў генерал Дубік, каардынаваць сваю работу з намі і разведупраўленнем Міністэрства абароны Афганістана.

— Джалал — талковы мужык... — Бунцаў задумаўся. — Вядома, праўда на баку генерала: ганяцца за зданню па гарах, не ведаючы, дзе яе шукаць, марная справа. Калі афганскім таварышам удасца ўстанавіць хоць бы прыблізна раён, дзе можа знаходзіцца Лявонаў, тады можна і нас падключыць... Злучайся з нашымі падраздзяленнямі, якія знаходзяцца ў раёне Саланга, з афганскімі таварышамі і садзіся за планаванне аперацыі. Дэсантаванне пачнём заўтра ў пяць трыццаць раніцы.

Падпалкоўнік Бунцаў вырашыў: пакуль штаб будзе рыхтаваць канчатковы план, узгадніць усе пытанні з лётчыкамі і афганскімі таварышамі, ён зможа ўдзяліць трыццаць-сорак мінут сабе, пераапрануць бялізну, пагаліцца, сабрацца ў дарогу...

Ён выйшаў са штабной палаткі і з задавальненнем удыхнуў на поўныя грудзі ўжо астылае, свежае паветра. Была толькі палова восьмай вечара, а ўжо стаяла глыбокая ноч.

У гэты момант яго хтосьці паклікаў:

— Таварыш падпалкоўнік, дазвольце звярнуцца?

Бунцаў абярнуўся. Перад ім стаяў старшы сяржант Шувалаў. Нягледзячы на цемру, падпалкоўнік пазнаў яго.

— Слухаю вас, таварыш старшы сяржант.

— Таварыш падпалкоўнік, мы з хлопцамі толькі што даведаліся, што адыходзім у іншы раён. Значыць, пошук Лявонава спыняецца. Мы хочам папрасіць вас: пакіньце наша аддзяленне тут. Мы працягнем пошук Лявонава. Зразумейце, мы абавязаны гэта зрабіць.

— Адкуль вам стала вядома, што мы адыходзім з гэтага раёна? — строга спытаў падпалкоўнік.

— Для гэтага шмат розуму не трэба. Нам выдалі сухі паёк на трое сутак, падвойны запас боепрыпасаў. Значыць, будзем дзейнічаць у адрыве ад брані і тылу. Вось мяне і накіравалі хлопцы папрасіць вас, таварыш падпалкоўнік, каб вы пакінулі хоць бы наша аддзяленне тут, мы разам з царандоем працягнем пошук.

Падпалкоўнік шанаваў сяброўства паміж людзьмі і добра ведаў, наколькі спаяным было аддзяленне старшага сяржанта Шувалава. І цяпер, гледзячы на камандзіра аддзялення, ён думаў, як растлумачыць яму і яго салдатам, што пошук Лявонава праводзіць у гэтым раёне бессэнсоўна, што ў дадзенай сітуацыі неабходны іншыя метады...

— Вось што, таварыш старшы сяржант! — суха прагаварыў Бунцаў. — Скажыце сваім салдатам, што камандаванне таксама турбуецца пра лёс кожнага з нашых людзей. Але не забудзьцеся сказаць і тое, што камандаванню лепш бачна, як дзейнічаць у тым ці іншым становішчы. — І крыху пацяплелым голасам дадаў: — Ідзіце і рыхтуйце аддзяленне да выканання баявой задачы. Пошук Лявонава будуць працягваць спецыяльна вылучаныя для гэтай мэты людзі.

Яшчэ да світання было далёка, калі першую групу дэсантнікаў паднялі па трывозе. Зараўлі маторы, строіліся роты, выцягваліся ў калону артылерыя,

магутныя грузавікі з боепрыпасамі. Атрымалі каманду стаць у калону і баявыя машыны пяхоты. На іх хутка і звыкла размясціліся дэсантнікі. Неўзабаве калона павольна рушыла наперад. Ісці да шашы чатыры кіламетры. Там ужо чакае батальён царандоя. Яны разам працягнуць шлях да злучэння з яшчэ адным афганскім батальёнам, затым калоне ісці ў горы, дзе гаспадарылі душманы.

Гул матораў паступова аддаляўся, і неўзабаве ў гарнізоне наступіла цішыня.

Час у падрыхтоўцы праходзіць хутка. Неба на ўсходзе стала ледзь-ледзь шарэць, і горы яшчэ былі ахутаны начной імглой, а ўжо над ваенным гарадком пачуўся магутны гул матораў. Гэта падыходзілі верталёты за тымі, хто павінен дэсантавацца з паветра. Унізе для іх заклікальна запаліліся пасадачныя агні, яны асвятлялі пляцоўкі. Верталёты накіраваліся на перадгор'е і схаваліся ў пыле, паднятым вінтамі. Пасадка дэсанта прайшла хутка: кожны ведаў, што яму рабіць, у якую машыну садзіцца. Праз некалькі хвілін машыны ўзняліся ў неба.

Камбаты Бунцаў і Ашраф ляцелі ў адным верталёце, якім кіраваў камандзір эскадрыллі маёр Першын. Яго машына ішла першай.

У небе ўжо стала даволі светла. Дэсантнікі сядзелі шчыльна адзін да аднаго: плячом да пляча афганскія і савецкія салдаты. Роў рухавікоў не дазваляў размаўляць. Кожны быў сабраны, засяроджаны.

Аддзяленне старшага сяржанта Шувалава знаходзілася ў камандзірскай машыне. Шувалаў па чарзе падышоў да кожнага са сваіх салдат і кожнаму штосьці пракрычаў на вуха. Ад яго слоў у адных на тварах з'явілася ледзь прыкметная ўсмешка, іншыя моўчкі ківалі галовамі. Не праходзіў Шувалаў і міма афганскіх салдат, праўда, ён ім нічога не казаў, толькі моўчкі па-сяброўску ляпаў кожнага па плячы: не бойся, маўляў, браток, усё будзе звычайна. Бунцаў трымаў на каленях карту і з дапамогай шлемафона падтрымліваў сувязь з маёрам Першыным. Падпалкоўнік зірнуў на гадзіннік: пяць дваццаць тры. Значыць, па душманскіх пазіцыях ужо нанесены авіяўдар, і цяпер іх апрацоўвае артылерыя. Першын па ўнутраным перагаворным прыстасаванні паведаміў:

— Таварыш падпалкоўнік, мы ў разліковай кропцы. Пачынаю разварот на цэль.

— Зразумеў, — адказаў Бунцаў і зірнуў на радыста, які развярнуў сваю радыёстанцыю на падлозе кабіны. Той адразу ж зразумеў, чаго ад яго хоча камандзір, схіліўся над рацыяй і перадаў у эфір чатыры словы:

— «Надзея»! Пяць, пяць, пяць!

Верталёты, рэзка павярнуўшы направа, панесліся да вяршыняў гор. Стваралася ўражанне, што яны паўзуць туды па заснежаных схілах. Унізе імкліва праносіліся вострыя хрыбты, засыпаныя снегам расколіны. Тут валадарыла вечная зіма. Але вось верталёты перавалілі праз вяршыні хрыбта і рынуліся ўніз. Пад імі былі леднікі. Цяпер мелася быць самае цяжкае: там, унізе, пілотам трэба было яшчэ ў глухой цяжкай цемрадзі беспамылкова адшукаць «свой» пятачок і пасадзіць машыну. Камандзірскі верталёт з двух бакоў абагналі МІ-24. Яны сваімі доўгімі імклівымі целамі пазначылі круг, дзе павінны былі прызямліцца дэсантныя машыны, і адразу ж павялі агонь па вядомых пазіцыях процідаветраных сродкаў абароны. Некаторыя з іх ажылі, і да верталётаў пацягнуліся перарывістыя лініі светлячкоў. Гэта білі буйнакаліберныя кулямёты і зенітныя ўстаноўкі. МІ-24 грозна агрызнуліся ракетамі.

Гірлянда «сабаў» запалілася чырванаватым святлом і асвяціла пакатую гару. Да яе і накіраваўся камандзірскі верталёт. А за гарой чорным правалам ляжала бяздонная прорва. Міма верталёта з вяршыні гары барвовым раўчуком пранеслася доўгая чарга з буйнакалібернага кулямёта: напэўна, кулямётчык «намацваў» галаўную машыну. Але камэск нездарма славіўся асам. Ён віртуозна, нават з нейкім шыкам, з ходу прызямліў машыну. Дэсантнікі хутка, падштурхоўваючы адзін аднаго, выскоквалі з верталёта, адбягалі на дзясятак метраў і займалі пазіцыю вакол вінтакрылай машыны.

Прайшла хвіліна, і машына ўзнялася ўгору, за ёй пацягнуліся і іншыя. Бунцаў з палёгкай перавёў дыханне: першая партыя дэсантнікаў на сваіх кропках.

Затым ён узяў чырвоную ракету і стрэліў у бок штаба. Гэта быў сігнал да атакі. Узвод старшага лейтэнанта Мядзведзева разам з разведузводам і ротай царандоя атакаваў штаб. Душманы ўжо апомніліся. Заняўшы пазіцыю каля пячоры, дзе размяшчаўся штаб, адкрылі шчыльны агонь.

Бондараў, не марудзячы, накіраваў да Мядзведзева тры разлікі аўтаматычных гранатамётаў, якія павінны былі цалкам забяспечыць паражэнне найбольш небяспечных пазіцый праціўніка.

Наперадзе ўзвода Мядзведзева знаходзілася аддзяленне Шувалава, які паспеў ужо праверыць усіх сваіх салдат. За выключэннем аднаго лёгкапараненага, пакуль страт не было. Шувалаў падпоўз да Кальцова, залёг за невялікім валуном, і загадаў:

— Косця, пакуль нашы дзяўбуць духаў з мінамётаў, дабярыся да разведчыкаў і перадай іх камандзіру старшаму лейтэнанту Іванько загад камбата: не страляць вышэй увахода ў пячору, там будуць салдаты царандоя, і перадай ім вось гэту станцыю, а то іх выйшла са строю. — Шувалаў працягнуў Кальцову невялікую партатыўную радыёстанцыю.

Кальцоў моўчкі кіўнуў, склаў прыклад аўтамата, узяў радыёстанцыю і папоўз. Шувалаў нейкі час назіраў за ім і, пераканаўшыся, што салдат паўзе ўмела, добра маскіруецца на мясцовасці, вырашыў вяртацца да свайго месца — і толькі павярнуўся, як пачуўся выбух, які натрэніраваны слых адрозніць ад дзясяткаў іншых выбухаў. Гэта быў нямоцны, наземны выбух проціпяхотнай міны. Шувалаў ускочыў на ногі і кінуўся туды, дзе павінен быў знаходзіцца Кальцоў.

У баі часта так бывае, што чалавек пачынае дзейнічаць нават раней, чым усведамляе, што адбылося. Нейкія ўнутраныя спружыны спрацоўваюць, прымушаюць ускокваць, бегчы, паўзці, калі да свядомасці яшчэ толькі пачынае даходзіць тое, што здарылася. Вось і цяпер да Шувалава толькі пачала даходзіць страшная здагадка, а ён ужо імчаўся вялікімі скачкамі да Кальцова. Яго вопыт салдата, набытае ў баях уменне паспець легчы пры ўспышцы выстралу ворага, схавацца пры свісце міны ці рэактыўнага снарада, якія падлятаюць, імгненна націснуць на спускавы кручок і адказаць агнём на агонь праціўніка, нібы ўмоўны рэфлекс, спрацаваў і цяпер. Так, Кальцоў падарваўся на міне. Шувалаў упаў побач з ім.

— Косця! Жывы?!

Твар Кальцова быў у пыле, але ні крывінкі на ім не было відаць. Салдат ляжаў неяк дзіўна, на баку, з шырока адкрытымі вачамі. Іх блакіт не быў пакрыты пылам.

— Косця, гэта ж цябе рванула?! Дзе баліць? — хутка казаў Шувалаў, а рукі яго абмацвалі сябра. Пальцы крануліся чагосьці мяккага, мокрага. Праз гразь, якая абляпіла жывот, праступала чорная, перамешаная з зямлёй

кроў. — Косця, сябар, патрывай, я зараз, — глытаючы словы, казаў Шувалаў, хутка дастаючы з металічнага прыклада свайго аўтамата перавязачны пакет. І раптам ён сцяміў: няма больш Косці, перад ім ляжаў ужо нежывы чалавек.

Шувалаў, не разумеючы, навошта ён гэта робіць, перавязаў глыбокую рану двума пакетамі і толькі потым падняў Кальцова на рукі і, не зважаючы на свіст куль, якія ўзрыхлялі каменістую глебу ля ягоных ног, павольна паплёўся да сваіх. Да яго кінуліся Коблік і камандзір узвода старшы лейтэнант Мядзведзеў. Яны ўтрох занеслі Кальцова за велізарны валун. Прыбег санінструктар. Ён агледзеў Кальцова, цяжка ўстаў, павольна сцягнуў з галавы каску.

— Забіты!

Коблік зняў з пляча аўтамат, гледзячы звужанымі вачамі ў бок душманаў, што заселі ля пячоры, дрыготкім ад гневу голасам сказаў:

— У-у, гады!

Усё яго цела напружылася, пальцы рук збялелі, сціскаючы аўтамат. Яшчэ секунда, і ён адзін кінуўся б да пячоры. Але пачуўся строгі голас камандзіра ўзвода:

— Радавы Коблік! Стаяць на месцы!

Коблік павярнуўся да Мядзведзева.

— Таварыш старшы лейтэнант, дык яны ж нашага Косцю забілі!

— Спакойна, Коблік, — ужо мякчэй прамовіў Мядзведзеў. — Не забывайце, што гэта вайна, і заставайцеся салдатам у любых абставінах. Слухайце маю каманду: разам з санінструктарам дастаўце загінуўшага ў тыл. А вы, — звярнуўся Мядзведзеў да Шувалава, — за мной!

Прыгінаючыся, Мядзведзеў і Шувалаў пабеглі да ўзвода. Шувалаў на хаду азірнуўся: санінструктар і Коблік, паклаўшы забітага таварыша на спальны мяшок, павольна неслі яго да КП батальёна.

Мядзведзеў хутка размясціў у шэрагах атакуючых гранатамётчыкаў, даў каманду:

— У атаку! — І першым кінуўся наперад.

Бой працягваўся.

## Турма

Не, не атрымалася так, як задумаў Лявонаў. Калі ён, выбраўшы ўдалы момант, нібы ныраючы ў ваду ўніз галавой, кінуўся ў чорную бездань прорвы, ішак, да якога Лявонаў быў прывязаны, не сарваўся з ім. Душман, які ішоў ззаду, быў напагатове: ён зрэагаваў імгненна і кінуўся да ішака, дапамагаючы яму ўтрымацца на нагах і не ўпасці ўслед за салдатам.

Лявонава выцягнулі наверх за тую ж вяроўку, якой ён быў прывязаны да жывёлы, і пачалі збіваць. Білі жорстка і бязлітасна. Спачатку Лявонаў як мог ухіляўся ад балючых удараў, але пасля таго, як душманы нагамі зламалі яму рэбры і моцна стукнулі па галаве, Антон страціў прытомнасць.

Бандыты ўзвалілі бязвольнае цела на спіну ішака, моцна прывязалі яго і рушылі ў дарогу.

Лявонаў апрытомнеў ўжо днём, калі сонца было ў зеніце. Ён паспрабаваў падняць галаву, але сіл не было, і яна мімаволі апусцілася. Вочы бачылі толькі бок ішака і хісткую зямлю ўнізе. Думкі блыталіся, шум у галаве не дазваляў засяродзіцца. Лявонаў праз сілу пачаў успамінаць падзеі мінулай ночы. «Значыць, у мяне нічога не атрымалася! — думаў ён, успамінаючы, як яго выцягнулі з прорвы і пачалі збіваць. — А што было далей? Прывязалі да спіны

ішака, дый усё. Чакай, чакай... але ж цяпер ужо дзень, бач, як сонца прыпякае, а душманы спакойна ідуць. Што гэта значыць?»

Лявонаў ледзь павярнуў галаву і ўбачыў аднапавярховыя гліняныя дамы. Да іх і накіроўвалася банда.

Неўзабаве Лявонаў адчуў, што яго развязваюць. Двое душманаў паставілі яго на ногі, але галава закружылася, ногі падкасіліся, і Антон упаў. Яго паднялі і зацягнулі ў нейкі дом, там кінулі на гліняную падлогу. Антон нейкі час ляжаў уніз тварам, прыціскаючыся разгарачаным ілбом да прахалоднай падлогі. Потым ён са стогнам перавярнуўся і лёг на спіну. Усё цела і галава балелі. Пры малейшым руху ад моцнага болю ў правым баку ён страчваў прытомнасць.

Антон асцярожна абмацаў бок: «Рэбры паламалі, сволачы!» На галаве пальцы намацалі кроў, што запяклася. «Так, пабілі яны мяне выдатна! Нічога, збяруся з сіламі і ўначы зноў паспрабую збегчы».

Колькі праляжаў Лявонаў, цяжка было сказаць, але па тым, што сонечны прамень, які пранікаў праз маленькае незашклёнае акенца, перамясціўся ад цэнтра падлогі да кута, можна было меркаваць: прайшло прынамсі некалькі гадзін. Пакутліва хацелася піць, у носе было шмат крыві, і Антон часта дыхаў адкрытым ротам.

За дзвярыма пачуўся нейкі шоргат, і праз секунду ў памяшканне ўвайшлі трое. Аднаго з іх Лявонаў адразу ж пазнаў: усё той жа амерыканец. Яны сталі над ім і моўчкі разглядалі яго. Па грэблівым выразе твару амерыканца Лявонаў зразумеў, што яго выгляд не выклікае ў таго прыемных эмоцый. Антон нават з нейкім пачуццём злараднасці падумаў: «Чорт з табой, глядзі на працу сваіх халуёў!»

Амерыканец гэтым разам быў паголены, пераапрануты ў светлую кашулю з кароткімі рукавамі. Ад яго пахла адэкалонам. Калі ён нахіліўся да Антона, той убачыў, што вочы ў яго шараватага колеру, сядзяць глыбока, твар даўгаваты, буйны. Амерыканцу было гадоў сорак — сорак пяць.

Вось ён штосьці сказаў аднаму са сваіх спадарожнікаў па-англійску, той на мове дары перадаў сказанае другому душману, а той ужо сказаў па-руску:

— Пан Роберт цікавіцца, як вы сябе адчуваеце?

«А нядрэнна гэты тып па-руску шпарыць», — падумаў Антон і спытаў:

— Дзе я знаходжуся?

Яго пытанне было перакладзены амерыканцу. Той адказаў:

— У Пакістане. У нас ёсць да вас прапанова...

Лявонаў не стаў чакаць, што скажа перакладчык, і заявіў:

— Я патрабую, каб мяне неадкладна перадалі прадстаўніку Савецкага Саюза, а з вамі размаўляць не буду! — Антон адвярнуў галаву і паварушыўся. Боль зноў працяў усё цела. Ён заплюшчыў вочы і не бачыў, як ухмыльнуўся амерыканец.

— Дастаўленыя сюды рускія заўсёды чагосьці патрабуюць, а затым, калі праходзіць час, яны ўрэшце згаджаюцца на ўсе ўмовы і прымаюць нашы прапановы. Падумайце пра гэта. Мы яшчэ ўбачымся.

І тройка накіравалася да дзвярэй. Антон настойліва паўтараў:

— Я патрабую, каб мяне перадалі прадстаўнікам Савецкага Саюза!

Адказу не прагучала.

На вочы Лявонава апусціўся туман, у галаве ўзмацніўся шум, і ён зноў страціў прытомнасць. Ачуўся Антон ад холаду. Адкрыў вочы, і першая думка, якая прыйшла да яго — аслеп! Але паступова вочы пачалі вызначаць нейкую пляму, і Лявонаў здагадаўся, што стаіць ноч, а пляма — гэта

акенца. Таму і прахалодна. Ён доўга ляжаў з адкрытымі вачамі, гледзячы ў цемру. Думкі блыталіся, і нават апошняя гутарка з амерыканцам здавалася яму чымсьці нерэальным, далёкім. Прахалоднае паветра дзейнічала гаюча, і Антон хутка заснуў.

Раніцай яго разбудзілі двое. Моўчкі паставілі шырокі кубак, напоўнены нейкай вадкасцю, і побач, проста на падлогу, паклалі невялікі кавалак плоскай аладкі. Калі яны выйшлі, Антон асцярожна павярнуўся на левы бок. Трохі вычакаў, каб хоць крыху суняўся боль, і ўзяў кубак. У ім быў цёплы чай, і Антон, імкнучыся не разліць ні кроплі, выпіў яго. Есці не хацелася, і да аладкі ён нават не дакрануўся. Неўзабаве вярнуўшыся, два душманы жэстамі паказалі, каб ён устаў на ногі.

Перасільваючы боль, Лявонаў падняўся. Яго хістала, галава кружылася, ногі падкошваліся, але Антон адмовіўся ад дапамогі, павольна накіраваўся да дзвярэй.

Бралася на раніцу. Жмурачыся ад яркага святла, на двары Антон спыніўся. Пастаяць яму далі не больш за паўхвіліны. Душман, што стаяў ззаду, падпіхнуў яго ў спіну і груба сказаў:

— Ру-буру! (Ру-буру — уперад (дары).

Антон зрабіў некалькі крокаў і апынуўся каля двухколавай арбы, у якую былі запрэжаны два чорныя валы. Яго падсадзілі на голыя дошкі арбы, і яна тут жа кранулася з месца. Па баках і ззаду на конях ехала трое ўзброеных душманаў. Чацвёрты ўладкаваўся на передку і кіраваў валамі. Рухаліся павольна. Валы ўздымалі шараваты пыл, які неўзабаве пакрыў і возніка, і Лявонава такім тоўстым пластом, што яны абодва сталі падобныя да млынароў.

Душман, які сядзеў на передку, улучыў момант, калі тыя, што былі на конях, трошкі адсталі, ціха сказаў:

— Шураві (добра).

Гэтыя словы расчулілі Антона, і ён з падзякай паглядзеў на чалавека, які сядзеў наўскасяк.

Лявонаў ведаў, што многія, хто ваюе супраць народнай улады, робяць гэта не па ўласнай волі. Адны — паддаліся дамоўленасцям і зману, іншых змусілі ўзяцца за зброю пагрозамі. Тут і праявіліся памылкі, дапушчаныя на першай стадыі рэвалюцыі, калі ў кіраўніцтва краінай праніклі выпадковыя людзі, а то і адкрытыя праціўнікі ўлады, якія сваімі дзеяннямі спрыялі ворагам, дапамагалі ім падманваць простых людзей і пераконваць іх ваяваць за чужыя ім інтарэсы. «Гэты, пэўна, адзін з такіх», — падумаў Лявонаў і ціха сказаў:

— Рафік, піць. — Ён жэстам паказаў, што хоча вады.

Мужчына кіўнуў галавой і адказаў штосьці на сваёй мове. Па тым, як ён пачаў усё часцей падганяць быкоў, Лявонаў зразумеў, што той імкнецца хутчэй даехаць да крыніцы. Хвілін праз сорак заехалі ў цяністы гай і спыніліся. Сярод рэдкіх кустоў віднеўся арык. Візнік дапамог Лявонаву злезці з арбы і падвёў яго да арыка. Антон лёг на зямлю і акунуў галаву ў чыстую халодную ваду. Піў ён доўга і прагна, нават не зважаючы на востры боль у правым баку грудзей. Антон адчуваў, як вада, нібы жыватворны бальзам, разліваецца па ўсім целе, нават балела менш. Душманы адышлі крыху ўгору па раўчуку і таксама з задавальненнем пілі ваду, а затым прыняліся за ежу.

Лявонаў крыху адпачыў, перавёў дыханне і зноў нахіліўся да вады, затым яшчэ раз і яшчэ.

Але вось ахоўнікі паелі і загадалі Лявонаву садзіцца на арбу.

Калі крануліся, візнік употай ад іншых душманаў працягнуў Лявонаву кавалачак аладкі. Хутчэй з пачуцця падзякі, чым голаду, Антон узяў яе і з’еў.

Да вечара арба завезла яго ў нейкі кішлак. Ужо сцямнела, калі яны пад'ехалі да высокага дувалу і праз вялікія вароты заехалі ў двор. Лявонава ўвялі ў нейкі будынак, груба ўштурхнулі ў пакой і зачынілі дзверы. Антон колькі часу стаяў, спрабуючы што-небудзь разгледзець, але, зразумеўшы, што ў гэтай апраметнай цемры нічога не ўбачыш, лёг на падлогу і заснуў.

Прачнуўся ён раніцай і адразу ж пачуў нейкі шоргат. Падняў галаву і ўбачыў хлопца. Не, гэта быў не жыхар Усходу. Твар еўрапейскі, кароткая стрыжка, вочы... іх колер нельга было разабраць, але вочы... рускія. Хлопец сядзеў у далёкім куце і таксама ўважліва разглядаў Лявонава. Потым ціха спытаў:

— Ты хто?

«Сапраўды рускі, — узрадаваўся Лявонаў, але тут жа яго абпаліла думка: — А раптам правакатар?»

— Як хто? Чалавек.

— Салдат?

— Угу.

— Я таксама. Ты дзе служыў? — Хлопец падсеў да Лявонава. Убачыўшы, што ўся галава Антона ў крыві, што кроў запяклася, не стаў чакаць адказу, усклікнуў: — Слухай, ды ты ж паранены! — Ён асцярожна агледзеў галаву. — Чым жа гэта цябе, сябар? Уся галава пабіта.

— Чым, чым? Нагамі, палкамі, чым яны яшчэ могуць, сволачы!

— Давай паспрабуем перавязаць!

— Чым ты перавяжаш? Ці табе для такіх выпадкаў спецыяльна перавязачны матэрыял выдалі?

— Выдадуць тут! — Хлопец падняў падол кашулі. — Не, мая майка не падыходзіць. Я ўжо тры тыдні ў ёй, ні разу памыцца не далі. Пакажы сваю.

Ён падняў доўгую кашулю, якую душманы нацягнулі на Лявонава.

— Твая чысцейшая. — Разарваў яе на шырокія палосы і як мог забінтаваў галаву. — Вось, хоць ад мух выратуем раны...

У гэты момант у пакой увайшлі амерыканец і апрануты ў еўрапейскі гарнітур мужчына. Амерыканец трымаў у руках... ваенны білет. «Няўжо мой? — падумаў Лявонаў. — Вось чаму ён раней цікавіўся маім імем».

Амерыканец па складах прачытаў:

— Лео-ноф Антон Сяр-ге-е-віч. — І штосьці сказаў перакладчыку, які пераклаў:

— Пан Роберт кажа, што вы пазнаёміліся ўжо, і цікавіцца, ці згодны вы пагутарыць з ім.

— Скажыце свайму пану Роберту, — у запале адказаў Лявонаў, — што я згодзен гаварыць толькі з прадстаўнікамі Савецкага Саюза і патрабую, каб мне далі такую магчымасць.

Хлопец, які толькі што перавязваў галаву Лявонаву, устаў на ногі і гучна сказаў:

— Я таксама патрабую сустрэчы з прадстаўнікамі нашай Радзімы! І таксама адмаўляюся адказваць на пытанні любых асоб, у тым ліку і гэтага спадара Роберта.

Перакладчык з бясстрасным выразам перакладаў. Роберт роблена ўсміхнуўся.

— Вы вельмі маладыя людзі, а маладосці ўласцівыя гарачнасць і бескампраміснасць. Але вы не ведаеце, што вас чакае. Вы ж знаходзіцеся ў руках людзей, якія не маюць магчымасці стварыць вам такія ўмовы, якія ствараюцца палонным у іншых краінах. Таму падумайце добра пра свой лёс. Час ёсць, мы яшчэ пагутарым з вамі.

Амерыканец павярнуўся і разам з перакладчыкам выйшаў з пакоя. Вартавы з аўтаматам зачыніў дзверы на завалу, і хлопцы засталіся адны. Лявонаў спытаў:

— Як цябе завуць?

— Аляксей.

— Прозвішча?

— Мікалаеў. Служыў у мотастралковым батальёне. Мой ваенны білет таксама ў іх, там усё напісана.

— З табой размаўлялі ўжо?

— Раз пяць. Нават адна кабетка, яркая, размаляваная бландзінка, больш да балонкі падобная, чым да таго, за каго сябе выдавала. І ты рыхтуйся: таксама пачне пры сустрэчы вохкаць ды ахкаць, казаць пра жорсткіх душманаў-азіятаў, лаяць іх за дрэннае абыходжанне з «такім мілым, прыгожым хлопчыкам».

— А я ведаю адрас, куды такіх пасылаць.

— Спазніўся, — адказаў Мікалаеў.

— Чаму спазніўся?

— А таму, што па гэтым адрасе я яе паслаў ужо.

— Нічога, салдацкі лексікон вялікі, знайду для яе парачку цёпленькіх слоўцаў. Як ты патрапіў да іх?

— Па дурасці. Рамантавалі мост у адным кішлаку. Яго душманы падарвалі, а жыхары кішлака папрасілі камбата дапамагчы аднавіць. Наш узвод вылучылі ў дапамогу сапёрам. А я, піжон, іншага слова і не падбярэш, вырашыў свежанькай і халодненькой вадзіцы папіць. Папёрся, як той ідыёт, уздоўж берага вялікага раўчука, хацеў адшукаць пакаты бераг. Зайшоў у «зялёнку», прыпаў да вады, а ззаду па башцы стукнулі чымсьці цяжкім і сцапалі мяне. Ачуняў — кляп у роце, звязаны па руках і нагах і валакуць мяне па карнізе. Зацягнулі ў горы, а затым і сюды ў Пакістан даставілі. Спрабаваў аднойчы ўначы збегчы, але дзе там! Заблытаўся ў вулачках Пешавара. Мяне здалі паліцыі, а тыя — назад душманам. Адлупцавалі да страты прытомнасці, шэсць ці сем дзён адыходзіў, а ўчора сюды даставілі. Навошта, не ведаю.

— Дзе мы знаходзімся?

— Халера яго ведае. Думаю, што недалёка ад Пешавара.

— Лічыш, што не ўцячы?

— Не, чаму ж. Аднаму цяжка, а ўдваіх, калі яшчэ зброю захапіць, — проста. Можна ці да Ісламабада, ці да Карачы дабрацца, там нашы караблі часта бываюць, ці ж пайсці ў горы, а там — у Афганістан. Для нас, галоўнае, каб не разлучылі. Разам і паміраць лягчэй, калі давядзецца...

Яны замоўклі, таму што за дзвярамі пачулася валтузня. Прынеслі паесці: востры перац і тушаную бульбу, запраўленую таматным соусам.

Вырашылі есці ўсё, каб набрацца сіл. Страўнікі напакавалі і адразу ж захацелі піць. Калі забіралі посуд, Аляксей жэстам паказаў, што яны хочуць піць, але двое мужчын, нічога не сказаўшы, выйшлі.

— Што, яны нас спецыяльна накармілі вострай ежай, каб смагай памучыць?

Напарнік Лявонаву трапіўся таварыскі. Антону не хацелася ні пра што казаць, затое Мікалаеў, знудзіўшыся ў адзіноце, гаварыў шмат.

Лявонаў слухаў яго, як кажуць, напаўвуха.. Моцна балела і кружылася галава, ныў правы бок, страшэнна хацелася піць і... памерці. Ён ніяк не мог змірыцца з тым, што ў палоне. Усё гэта здавалася нейкім кашмарным сном. Напэўна, таму і пакой, і закратаванае акенца, і сцены, і столь, і драўляныя

дзверы, збітыя з шырокіх, дрэнна падагнаных адна да адной дошак, здаваліся нерэальнымі, нібы прысніліся ў сне. Адзіная рэальнасць — боль і смага. Антон паспрабаваў прымусіць сябе заснуць, але не атрымалася. Дзверы расчыніліся, і на парозе зноў з'явіліся двое барадатых мужчын з аўтаматамі. Знакамі яны загадалі абодвум выходзіць.

У невялікім, заціснутым дуваламі, квадратным двары было горача. Антона захістала, і ён, напэўна, зваліўся б, калі б не Мікалаеў, які падтрымаў яго. Іх падвялі да той жа арбы, на якой прывезлі Лявонава. Мікалаеву звязалі рукі, пасадзілі абодвух на арбу. Выгляд Антона не выклікаў у душманаў асцярогі, і, відавочна, таму яны не сталі звязваць яго.

І вознік, і ахоўнікі былі тыя ж. Вознік нават усміхнуўся Лявонаву, праўда, зрабіў гэта так, каб не бачылі ахоўнікі.

— Вось, бачыш, — пажартаваў Мікалаеў, — перасоўваемся з камфортам, не тое што ўчора, калі я пешшу тупаў. Ды яшчэ прыклады па маёй спіне гулялі, а цяпер любата.

І ён дэманстратыўна паспрабаваў разлегчыся на ўвесь рост, але не хапіла арбы. Мікалаеў быў высокі, з-пад ірванай кашулі было відаць дужае, трэніраванае і загарэлае цела. Ехалі па няроўнай пыльнай дарозе. Арбу трэсла, і ад гэтага Антону балела яшчэ больш. Зрэдку ён ціха енчыў. Пыл выклікаў у ім прыступы кашлю, яго ванітавала.

Калі яны ад'ехалі ўжо далёка, іх абагналі два джыпы. Мікалаеў паспеў убачыць у адным з іх амерыканца.

— Рыхтуйся, Антон. Амерыканец паехаў наперад, каб арганізаваць нам цёплы, сяброўскі прыём.

Не адказваючы, Лявонаў ціха звярнуўся да возніка:

— Рафік, піць. — І жэстам паказаў, чаго ён хоча.

Вознік ледзь прыкметна кіўнуў галавой і гэтак жа, як учора, пачаў падганяць марудлівых быкоў. Тыя закрочылі крыху весялей. Але ўсё адно больш за гадзіну палонным давялося мучыцца, перш чым ім дазволілі папіць каламутнай цёплай вады з арыка. Праўда, нават гэтая, з кепскім пахам, вада здалася абодвум незвычайна смачнай.

Ахоўнікі пілі ваду, якая была ў іх прызапашана ў вялікіх белых пластмасавых бутэльках.

Далей дарога пацягнулася праз «зялёнку», міма густых зараснікаў кустоў і дрэў. Мікалаеў сказаў:

— А ты, я бачу, ужо ўстанавіў кантакт з вознікам?

— Так, я заўважыў, што ён не такі, як іншыя. Прыгледзься, і пагляд іншы, падбадзёрваючы, і вось ужо другі раз з вадой выручае. Уласна, што тут здзіўляцца, не ўсё ж яны бандыты, нават калі і знаходзяцца ў бандах.

— Так, гэта так, — пагадзіўся Мікалаеў. — Памятаю, быў з пяццю нашымі хлопцамі ў сакрэце. Глядзім, ідзе адзін барадач. Аўтамат за спінай, небяспекі не адчувае. Калі падышоў, мы яго ўзялі, даставілі да камандзіра, той выклікаў афганскага афіцэра. Пры нас допыт ішоў. Афіцэр пытае, а яфрэйтар Холікаў — ён узбек і па дары разумее — слухае і паволі перакладае. Дык вось, гэты палонны адразу ж расказаў, што ён душман, паведаміў, дзе банда знаходзіцца, колькі ў ёй чалавек, якая ў іх зброя. Сам ён бядняк, у сям'і засталося дзевяць чалавек. Афіцэр спытаў у яго: а чаго ж ты ваюеш з уладай, якая жадае, каб беднякі жылі лепш? А ён адказвае, што мула, маўляў, сказаў, што да ўлады прыйшлі няверныя і таму трэба ваяваць супраць іх. Мы смяяліся тады, калі пачулі, што стары, аказваецца, вымушаны быў нават аўтамат у душманаў купіць, праўда, прадалі яго ў растэрміноўку.

Лявонаву зноў стала горш, і ён моўчкі ляжаў на мулкіх дошках. Мяркуючы па тым, што сонца хілілася да заходу, ехаць заставалася нядоўга.

Мікалаеў, пэўна, таксама падумаў пра гэта, таму сказаў:

— Напэўна, хутка прыбудзем да месца прызначэння. Толькі мне здаецца, што едзем мы да Пешавара. — І Аляксей нечакана звярнуўся да возніка: — Рафік... у Пешавар?

Той скасіў вочы ў бок вершнікаў, кіўнуў сцвярджальна галавой і ціха сказаў:

— Бале. (Бале — так (дары).

— Вось бачыш, — усміхнуўся Мікалаеў, — я ж праўду казаў. Цягнуць нас з табой у Пешавар, там душманскія лагеры...

— А чаму яны нас Пакістану не аддаюць?

— Наіўнае пытанне. Сталі б яны нас дзеля гэтага везці сюды. Цюкнулі б на месцы, і справе канец. Яны, напэўна, выконваюць загад сваіх гаспадароў, у першую чаргу амерыканцаў, якія спадзяюцца схіліць нас да здрады, а затым падняць шум на ўвесь свет: вось, маўляў, савецкія салдаты самі дэзерціравалі з войска і просяць палітычнага сховішча на вольным Захадзе.

— А хрэна з рэдзькай не жадаюць? — успыліў Лявонаў. — Ды я ж пры першым выпадку збягу ці ўчаплюся ў горла якому-небудзь гаду і загіну!

Гэта ён сказаў так гучна, што featured возьнік абярнуўся і здзіўлена паглядзеў на яго, нават ахоўнікі пад’ехалі бліжэй.

— Я таксама так думаю, — пагадзіўся Мікалаеў і дадаў: — Толькі гарлапаніць пра гэта не варта, а то нашых канвайраў перапалохаеш.

Але Лявонаву было ўжо не да крыку. Ён расхваляваўся, і ад гэтага ў яго закружылася галава і ўсё цела ахапіла слабасць. Застагнаўшы, ён лёг на спіну і ціха сказаў:

— Мне б хутчэй хоць крыху адужаць.

— Так, браток, у такім стане не пабяжыш. Ты цяпер збірайся з сіламі і не падай духам. Галоўнае, каб яны нас не раз’ядналі. Разам лягчэй і пакуты пераносіць будзе.

Быкі, марудліва перастаўляючы ногі, завалаклі арбу ў нейкі вялікі двор. Ні кусціка, ні дрэўцы вакол, толькі гліняныя, прылепленыя да высачэзнага дувалу двух- і аднапавярховыя дамы. Ля аднаго з іх і спынілася арба. Канваіры знакамі загадалі ім злезці.

Мікалаеў, нягледзячы на тое, што рукі ў яго былі звязаны, спрытна саскочыў на зямлю і падставіў Лявонаву сваё плячо, абапіраючыся на якое, той асцярожна злез з арбы. Падштурхоўваючы прыкладамі, ахоўнікі завялі іх у дом, дакладней, у невялікі пакой, і тут жа зачынілі за імі дзверы. Пакой быў зусім пусты. Святло ў яго пранікала праз адзінае закратаванае акенца. Шкла ў ім не было.

Мікалаеў па-гаспадарску прайшоўся ад сцяны да сцяны і сказаў:

— Восем квадратных метраў адведзена нам. Цікава, развяжуць яны мне рукі ці не?

Лявонаў, не адказваючы, апусціўся на падлогу ля самай сцяны. Сядзець было балюча, і ён асцярожна лёг на спіну.

Мікалаеў прысеў побач.

— Балюча? Чым табе дапамагчы? Давай я пастукаю ў дзверы і запатрабую ўрача?

Лявонаў не адказваў. Хутчэй за ўсё, ён ад болю нават не чуў Мікалаева. Тады Аляксей устаў і стукнуў некалькі разоў нагой у дзверы.

Дзверы адчыніліся. За імі стаялі два аўтаматчыкі. Мікалаеў кіўком галавы паказаў на Лявонава.

— Ён паранены, і яму неабходна медыцынская дапамога. Зразумелі? Яму патрэбен доктар!

Адзін з ахоўнікаў моўчкі кіўнуў галавой, хоць па выразе яго твару нельга было разабраць, ці зразумеў ён, што ад яго хоча рускі.

Мікалаеў, не адыходзячы ад парога, пачакаў крыху і вырашыў зноў стукаць. Толькі ён замахнуўся нагой, як дзверы расчыніліся і ў пакой увайшлі амерыканец Роберт і нейкая жанчына. На выгляд ёй было пад пяцьдзясят. На даволі чыстай рускай мове яна сказала:

— Добры дзень, хлопчыкі! З вамі, Аляксей, — яна какетліва ўсміхнулася Мікалаеву, — мы ўжо знаёмыя. Таму прадстаўлюся вашаму сябру: мяне клічуць Людмілай Торн, я таксама руская. Мяне папрасіў пан Роберт быць перакладчыцай у яго гутарцы з вамі. Я з радасцю пагадзілася. Дзіва што! Сустрэць у гэтым дзікім кутку суайчыннікаў. Хто адмовіцца ад гэтага? І вось я з вамі!

Маляўніча раскінуўшы рукі, дама страсянула фарбаванымі светлымі валасамі.

— Думаю, што пагаварыць з вамі адкрыта ў мяне яшчэ будзе магчымасць, а пакуль, хлопчыкі, я буду перакладаць вам словы пана Роберта, а яму — вашы.

Яна зрабіла два крокі да Лявонава, які працягваў ляжаць, і капрызна сказала:

— Што ж ты ляжыш? Да цябе ў госці прыйшла жанчына, прычым яшчэ не вельмі старая і, як кажуць, сімпатычная, а ты, малады, прыгожы мужчына не зробіш ласку падняцца.

Лявонаў нават не паварушыўся.

Мікалаеў растлумачыў:

— Ён паранены. Яму патрэбна медыцынская дапамога, і неадкладна! У яго неапрацаваныя раны на галаве, зламаны рэбры, ён зусім без сіл.

— Ах, бедны мой! — пашкадавала яна Лявонава. — Не разумею гэтых рэвалюцыянераў, навошта трэба такая строгасць?

— Не строгасць, — хмурна сказаў Мікалаеў, — а жорсткасць, элементарная, звярыная жорсткасць.

Дама прапусціла гэтыя словы міма вушэй і працягвала сваё:

— Хлопчыкі, калі вы будзеце слухаць нас, то вас чакае іншае, шчаслівае, рамантычнае жыццё. Воля, грошы, прыгожыя дзяўчаты, вандраванні ў далёкія краіны! Што яшчэ трэба маладому чалавеку?!

Яна павярнулася да амерыканца і штосьці сказала па-англійску. Той адказаў вельмі сцісла, а затым звярнуўся да хлопцаў, Людміла пераклала:

— Я хачу з вамі пагаварыць. Як мне здаецца, вы не дурныя людзі, і я хачу, каб вы рэальна паглядзелі на сітуацыю, у якой апынуліся. Вось вы, Мікалаеў, патрапілі ў палон у такі момант, што ніхто з вашых таварышаў гэтага не бачыў. Для свайго камандавання вы дэзерцір. А калі да гэтага дадаць тое, што душманы, як вы завяце барацьбітаў за веру, падкінулі ўжо ў часць, дзе вы служылі, лістоўку, дзе гаворыцца, што вы добраахвотна перайшлі на бок ворага, то не цяжка здагадацца, што вас чакае ў выпадку вяртання ў Расію.

Амерыканец зрабіў невялікую паўзу і падышоў да Лявонава, які працягваў ляжаць.

— Пры якіх акалічнасцях патрапілі вы, Лявонаў, у рукі праціўніка, таксама невядома. Нават калі б вас цяпер адпусцілі, то ваш расказ, што вы былі кантужаны і патрапілі ў палон у непрытомнасці, выглядаў бы, у лепшым выпадку, казкай. Таму мая прапанова кароткая, і калі вы спакойна, без эмоцый абдумаеце, то пагодзіцеся, што яна дзелавая і цалкам прымальная для

вас. Я прапаную вам пераехаць на жыхарства ў Злучаныя Штаты. Не хаваю, калі вы пагодзіцеся выступіць перад журналістамі з заявай пра добраахвотна прынятае рашэнне застацца на Захадзе, то вашы шанцы на выдатнае і цалкам забяспечанае жыццё неймаверна ўзрастуць. Падумайце пра гэту прапанову, не спяшайцеся казаць «не». Зразумейце галоўнае: вас адгэтуль без нашай дапамогі не адпусцяць, для пакістанскіх улад вас не існуе, і яны заўсёды адкажуць на любы запыт так: ніякіх савецкіх палонных на тэрыторыі Пакістана няма. Гаворка цяпер ідзе пра выбар, дзе вам жыць. Пераехаць у Штаты ці ж гнісці ў турме, дзе няма ні звычайнай ежы, ні прымальных умоў. А цяпер я сыходжу і спадзяюся, што вы праявіце разважлівасць.

Амерыканец і яго перакладчыца накіраваліся да дзвярэй.

— Адну хвілінку, пан Роберт, — паклікаў яго Мікалаеў. — А як жа быць з Лявонавым? Прышліце ўрача ці, у крайнім выпадку, дайце бінт, я сам яго перавяжу. Бачыце, ён амаль без памяці.

— Добра, я паклапачуся, — коратка кінуў амерыканец.

## Праверыць сігнал

Пасля паспяховай аперацыі ў гарах, калі батальён Бунцава дапамог афганскім вайсковым падраздзяленням і царандою разграміць банду і захапіць склады з узбраеннем і боепрыпасамі, салдаты былі адведзены на адпачынак у месца свайго пастаяннага размяшчэння.

У Бунцава і яго намесніка па палітычнай частцы маёра Шукаліна было нямала клопатаў, у тым ліку і сумных. Толькі той, хто асабіста ніколі не сутыкаўся з абавязкам паведаміць блізкім аб гібелі іх сына, не зразумее, як гэта цяжка зрабіць. Гэта страшная вестка становіцца яшчэ цяжэйшай ад таго, што паведамляць трэба пра маладога хлопца, чыё жыццё аказалася нашмат карацейшым, чым у яго бацькі і маці.

Бунцаў пісаў ліст бацькам загінуўшага Косці Кальцова. Камандзір абавязаны быў паведаміць, як загінуў іх сын, з якім яны чакалі сустрэчы, лічачы дні і нават гадзіны.

Аднаго пагляду, кінутага маёрам Шукаліным на стол камбата, было дастаткова, каб зразумець, якія цяжкія хвіліны перажывае падпалкоўнік. Маёр ціха спытаў у яго:

— Пра Косцю Кальцова пішаш?

— Збіраюся, а ручку падняць не магу. Пудовай стала.

— Гэта зразумела. Мне вось толькі што прынеслі ліст Кальцова...

— Бацькі Косці?

— Не, самога Косці. — Шукалін паклаў на стол ліст. — Ён перад боем яго напісаў, відавочна, збіраўся пазней адправіць.

Падпалкоўнік разгарнуў невялікі прамавугольны лісток, спісаны дробным почыркам, пачаў чытаць: «Добры дзень, дарагія бацькі! Дакладваю: да дэмбеля засталося дваццаць тры дні. Вось ідзём на заданне, а гэта значыць, мінус яшчэ некалькі дзён, якія праляцяць як на крылах, бо ў руху і час хутчэй імчыць.

Справы ў мяне ідуць па-ранейшаму. Не ўтойваю, служба нялёгкая, але характар загартоўвае. Хлопцы са мной служаць добрыя. Надзейныя і дужыя сябры! Мне здаецца, што пасябравалі мы на ўсё жыццё.

Успамінаю часта школу, сяброў, нашы гутаркі пра магнітафоны, джынсы. Якое гэта ўсё глупства, калі пачынаеш па-іншаму глядзець на жыццё.

Бачыце, як стаў разважаць ваш сын. Так, дарагія мама і тата, я стаў дарослым, на цэлых дваццаць гадоў сталей за таго Касціка, які ішоў у войска. Ну, нічога. Пройдзе ўсяго толькі тры тыдні і два дзянёчкі, і я еду дахаты! Мама, пірог з яблыкамі рыхтуй. Ды не забудзься ў халадзільніку да майго прыезду дваццаць порцый марозіва прызапасіць!

А цяпер заканчваю. Да хуткай сустрэчы. Да спаткання. Ліст адпраўлю заўтра. Цалую. Косця».

Бунцаў паклаў ліст на стол. Моўчкі паглядзеў на зампаліта. Той працягваў стаяць.

— Што стаіш, камісар? Садзіся. Як лічыш, ці маем мы права гэты ліст не адпраўляць?

— Я думаю, што гэты ліст мы абавязаны адправіць. Але толькі з тваім і маім лістамі. У Косці, акрамя бацькоў, засталіся сястра і брат. Хай яны ведаюць, пра што Косця думаў у апошнія гадзіны свайго жыцця.

— Ты ўжо напісаў ім? — спытаў камбат.

— Так. Вось.

— А я не магу. Не ведаю, як пачаць. Якія словы знайсці? Як растлумачыць усё гэта? Сёння я атрымаў ліст з Гродна, ад маці радавога Губарава. Лаецца на нас з табой. Вінаваціць, што недагледзелі сына, не ўберaглі яго.

— Так, выпадак з Губаравым да гэтага часу не выходзіць у мяне з галавы. Прайшло каля года, здавалася, эмоцыі павінны ўлегчыся... Але, ведаеш, я адчуваў, адчуваю і буду адчуваць сваю асабістую віну за яго гібель. Калі ён пайшоў у той бок, куды мы забараняслі ісці, значыць, дрэнна мы выхоўвалі салдата, не дамагліся ад яго, каб падпарадкоўваўся без пярэчання. А на вайне — гэта адна з галоўных умоў. Калі ты не супраць, я сам напішу яго маці. Дарэчы, тыдзень назад я размаўляў з палкоўнікам Зярновым. Ён хутка едзе ў адпачынак, будзе ў Гродне. Зярноў браў удзел у той аперацыі і памятае ўсё. Хай раскажа маці Губарава. Адна справа ліст, іншая — словы таго, хто быў побач...

І абодва камандзіры раптам успомнілі бой, у якім загінуў Мікалай Губараў.

Узвод, у якім служыў Мікалай Губараў, атрымаў загад прайсці па праходзе, што прарабілі ў мінным полі сапёры, і заняць выгадную вышыню, каб не дапусціць удару душманаў у тыл афганскаму падраздзяленню.

Радавы Губараў лічыўся ва ўзводзе дысцыплінаваным і адважным салдатам. Але гэтым разам ён чамусьці затрымаўся ля палаткі, узвод жа пайшоў. І Губараў, мабыць, вырашыў даганяць сваіх напрасткі і пабег... па мінным полі. Гэтага ніхто на КП не бачыў. Грукнуў выбух. Першым кінуўся на дапамогу салдату камандзір роты старшы лейтэнант Панамарэнка. Ён падняў яго на рукі, зрабіў некалькі крокаў і сам наступіў на замаскіраваную ў зямлі міну. Выбухам старшаму лейтэнант адарвала нагу. У гарачцы мужны афіцэр спрабаваў паўзці і цягнуць на сабе Губарава...

— Панамарэнка быў прадстаўлены да ўзнагароды? — парушыў маўчанне Бунцаў.

— Так, я цікавіўся, ён атрымаў ордэн Чырвонай Зоркі.

На стале ў камбата зазваніў апарат закрытай тэлефоннай сувязі.

Бунцаў падняў трубку.

Тэлефанаваў генерал-лейтэнант Дубік. Твар камбата станавіўся ўсё больш ажыўленым. Ён паклаў трубку і павярнуўся да Шукаліна. Вочы яго блішчэлі.

— Ну, камісар, здаецца з’явілася нітачка, якая вядзе да Лявонава.

— Што ты кажаш! Дзе ён?!

— Генерал Дубік сказаў, што ў яго знаходзіцца падпалкоўнік Джалал. Джалал змог высветліць, што недалёка ад таго месца, дзе знік Лявонаў, дыслакуецца банда, у якой у палоне ёсць савецкі салдат.

— Што загадаў генерал?

— Загадаў рыхтаваць батальён. Праз гадзіну верталётам прыбудуць афганскія таварышы, у тым ліку і Джалал. Я цябе, Уладзіслаў Альбертавіч, папрашу даць каманду, каб праз паўгадзіны з'явіліся да мяне камандзіры рот, а я пакуль усё ж напішу ліст.

Роўна праз гадзіну над батальённым гарадком застракаталі верталёты. У першым прыляцела група афганскіх афіцэраў і некалькі чалавек, апранутых у цывільнае. Другі верталёт быў баявым прыкрыццем. Дзяжурны афіцэр запрасіў тых, хто прыбыў, у штаб, дзе знаходзіліся камбат, яго намеснікі і начальнік штаба.

Падпалкоўнік Джалал паведаміў:

— Сёння ўначы павятовым уладам здаўся душман. Ён паведаміў, што ўчора ён з дзесяццю душманамі даставіў у банду дванаццаць ішакоў са зброяй. Банда атрымала загад праз двое сутак уначы нанесці ўдар па заходняй частцы Кабула. Калі верыць палоннаму, учора ўвечары, калі ён разам з іншымі душманамі знаходзіўся ў іх штабной палатцы, у верхавода, той разглядваў савецкі ваенны білет. Палонны расказаў нам пра гэта, калі мы пачалі цікавіцца, ці не чуў ён штосьці пра савецкіх вайскоўцаў.

Бунцаў запрасіў падпалкоўніка Джалала і яго спадарожнікаў да карты.

— Дзе дыслакуецца банда?

Джалал упэўнена адшукаў на карце патрэбную кропку.

Маёр Міснік абвёў алоўкам тое месца, якое паказаў Джалал, і сказаў:

— Раён горны, цяжкадаступны. Глядзіце, колькі тут цяснін, далін, суцэльная «зялёнка». Цяжка там будзе без людзей, якія ведаюць гэтыя мясціны. Палонны не пагодзіцца паказаць, дзе засела банда?

— Мы ўжо пра гэта падумалі, — усміхнуўся Джалал і паказаў на мужчыну сярэдніх гадоў з акуратнай бародкай. — Вось пазнаёмцеся: сакратар павятовага камітэта Народна-дэмакратычнай партыі таварыш Махамад Нур. Гэта ім здаўся душман у павятовым цэнтры. Таварыш Нур цудоўна ведае гэты раён і таксама выявіў жаданне прыняць удзел у аперацыі.

Аказалася, што Нур зусім нядрэнна гаворыць па-руску. Ён растлумачыў:

— Я выхадзец з гэтых мясцін. Ведаю, што ў гэтай бандзе не меней як два дзясяткі нашых жыхароў. Большасць з іх, у гэтым я ўпэўнены, ваююць супраць народнай улады не па сваёй волі. Я вам спатрэблюся не толькі як праваднік, але і як следчы.

Бунцаў спытаў у Джалала:

— Якія сілы з вашага боку прымуць удзел у аперацыі і хто камандзір?

— Таварыш Сардар. — Джалал прадставіў высокага, падцягнутага палкоўніка. — Ён камандзір пяхотнага палка. Яму загадана правесці аперацыю.

На кіцелі ў палкоўніка быў ромб, які атрымліваюць пасля заканчэння вышэйшай навучальнай установы.

Бунцаў пацікавіўся:

— У Савецкім Саюзе вучыліся, таварыш палкоўнік?

Той адказаў па-руску:

— Так. Летась я вярнуўся ў Афганістан. Мне загадана ўзгадніць з вамі нашы дзеянні і сёння ж рушыць у патрэбны раён.

— Мы гатовыя, таварыш палкоўнік. — Бунцаву спадабаўся гэты спакойны дзелавы чалавек. — Якая задача адводзіцца нам?

Палкоўнік ушчыльную працíснуўся да карты.

— Мы хочам папрасіць вас, каб вы сёння ўначы захапілі вышыні і да раніцы блакіравалі гэты раён.

Міснік зірнуў на Бунцава.

— Таварыш падпалкоўнік, а можа, і нам выдзеліць хоць бы разведроту? Гаворка ж ідзе пра нашага салдата.

За Бунцава адказаў палкоўнік Сардар.

— Не хвалюйцеся, таварыш маёр, мы ўсё зробім як трэба. Дзякуючы Савецкаму Саюзу мы маем не толькі выдатную зброю, але і добра падрыхтаваных камандзіраў. Мы ўсё ж абавязаны вялікі цяжар баявых дзеянняў браць на сябе, таму што гібель кожнага савецкага салдата на нашай зямлі — гэта папрок і нам. У дадзеным выпадку справімся самі, і лішні раз рызыкаваць жыццём нашых сяброў-інтэрнацыяналістаў мы не маем права.

Бунцаў згодна кіўнуў галавой.

Неўзабаве госці паляцелі, і ў батальёне застаўся толькі сакратар павятовага камітэта. Пасля абеду Бунцаў і Махамад Нур селі ў цень скалы і павялі гутарку.

Махамад Нур аказаўся вельмі цікавым суразмоўцам. Ён не толькі выдатна разбіраўся ў складаным становішчы, якое склалася ў краіне, але і добра ведаў яе гісторыю, быў у курсе і міжнароднай сітуацыі. Седзячы па-ўсходняму, падціснуўшы пад сябе ногі, ён, не спяшаючыся, казаў:

— Вядома, Амерыцы трэба, каб савецкія войскі знаходзіліся ў Афганістане як мага даўжэй. Гэта дазваляе ёй, уздымаючы шуміху вакол Афганістана і афганскага пытання, хаваць за ёй і свае злачынныя справы ў Нікарагуа, і таемную пастаўку зброі сваім людзям у Іране, і далейшую гонку ўзбраення, і сваю задуму з «зорнымі войнамі». Калі б не Савецкі Саюз, невядома, што было б з намі. Амерыканскія лідары ж сур’езна рыхтаваліся не толькі заняволіць наш народ, але і ператварыць Афганістан яшчэ ў адзін плацдарм для агрэсіі супраць Савецкага Саюза. Мне споўнілася дзевятнаццаць, калі адбылася Саурская рэвалюцыя. Як мы па-юнацку бурна перажывалі радасць перамогі! Але бяда наша не толькі ў тым, што досведу ў кіраўнікоў-рэвалюцыянераў было вельмі мала, але і ў тым, што ў нас занадта слабая рабочая праслойка, бо і цяпер у краіне рабочы клас вельмі малалікі. Гэта таксама спрацавала на руку некаторым авантурыстам. Удалося Аміну прыйсці да ўлады, і колькі шкоды ён нарабіў! Менавіта рэжым Аміна прымусіў тысячы людзей сысці ў горы, у Пакістан і Іран, стаць на бок контррэвалюцыі. Я, як і шматлікія члены партыі, быў вымушаны зноў перажыць нягоды падполля. З радоў узброеных сіл у той цяжкі час былі звольнены тысячы адданых партыі і народу афіцэраў. Гэта прывяло да дэмаралізацыі войска. А колькі памылак было дапушчана ў стаўленні да пуштунскіх плямёнаў! Раёны, дзе яны сяліліся, падвяргаліся бамбардзіроўцы і артылерыйскім абстрэлам. У адносінах да шматлікіх правадыроў і старэйшын былі ўжыты рэпрэсіўныя меры. Да чаго гэта прывяло? А да таго, што ваеннаму камандаванню перасталі падпарадкоўвацца апалчэнні, якія раней гадамі на добраахвотнай аснове фарміраваліся з пуштунскіх плямёнаў і ахоўвалі межы з Іранам і Пакістанам. Адкрыліся межы, і праз іх пайшлі ў нашу краіну патокі зброі. Разам з караванамі амерыканскі імперыялізм кінуў і банды душманаў, якія ўзялі на сваё забеспячэнне.

Бунцаў не перабіваў суразмоўцу, а той з горыччу працягваў:

— Што казаць, у часы Аміна контррэвалюцыі ўдалося істотна ўмацаваць свае пазіцыі. Шмат праблем паўстала перад партыяй і тады, калі Амін быў выкрыты. Важна было, каб людзі не помсцілі. Трэба было не толькі выпраў-

ляць памылкі, але і не дапусціць расколу ў партыі, арганізаваць работу з тымі, хто не вытрымаў і перайшоў на бок контррэвалюцыі. А вось з насельніцтвам, асабліва сялянамі, трэба сказаць сумленна, не атрымалася. Не дайшлі мы да дэхканіна, таму што лічылі гэта не галоўным. Ды і ў кіраўніцтве партыі знайшліся людзі, якія лічылі, што мы можам дасягнуць прагрэсу без цёмных, забітых, як здавалася, жыхароў кішлакоў, якія вераць толькі ў аднаго Алаха — дарэчы, іх у Афганістане пераважная большасць. Але, як бачыце, у партыі знайшліся сілы, якія адважна адкінулі тое, што замінала прагрэсу, ды і абранне Генеральным сакратаром таварыша Наджыбулы — сведчанне гэтаму. Чалавек ён моцны, граматны, дасведчаны, што і трэба краіне. Цяпер, як я думаю, галоўнае, каб мы маглі дакладна вызначыць, хто сапраўдны вораг афганскага народа, а хто проста памыляецца, пераканаць яго ў гэтым і прыцягнуць на свой бок. Упэўнены, што такіх — большасць, таму мы на ўвесь свет пра пагадненне і абвясцілі...

Нур увесь час паглядаў на дарогу. Але яна была пустэльная.

— Так, падтрымалі вы нас у цяжкі час, дапамаглі вытрываць. Уласна кажучы, Афганістан і Савецкі Саюз заўсёды былі добрымі суседзямі і сябрамі. Я некалькі дзён таму выступаў перад сялянамі ў адным кішлаку. Пытаю: «Ці ведаеце вы Амануло-хана?» Адказваюць: «Ведаем». — «А ці ведаеце вы Леніна?» Ківаюць галовамі: «Ведаем». — «А ці ведаеце вы, што яны былі вялікімі сябрамі, што Амануло-хан ездзіў да Леніна ў госці?» Глядзяць здзіўлена. «Дык вось, Ленін і Амануло-хан завяшчалі сваім народам жыць у міры і сяброўстве». Расказаў я ім пра гісторыю сяброўства нашых народаў і пра тое, што заўсёды прыходзілі яны адзін аднаму на дапамогу. Слухалі ўважліва. Ім жа нашы ворагі дзень пры дні вуснамі розных «галасоў», лістовак далдоняць пра тое, што Савецкі Саюз паслаў сюды свае войскі для таго, каб закабаліць наш народ. А людзі ў нас даверлівыя, прывыклі верыць словам. Таму мае рацыю наш Генеральны сакратар, калі патрабуе, каб кожны член партыі ішоў да людзей і простай, даходлівай мовай расказваў ім праўду і пра мэты рэвалюцыі, і чаму савецкія войскі тут, і пра тое, што яны дапамагаюць нам захаваць Афганістан незалежнай і самастойнай краінай. Так, шмат дапусцілі мы памылак. Цяпер трэба іх выпраўляць. Але гэта ні ў якой меры не прымяншае дасягнутае. Уяўляеце, з чатырнаццатага адразу ў дваццатае стагоддзе! Ці проста гэта?

Калі ўдалечыні паказалася воблака пылу, Нур сказаў:

— Гэта за мной. — І падняўся з каменя.

Бунцаў таксама ўстаў.

— Я праводжу вас.

Пакуль яны спускаліся ўніз, да КПП наблізіліся бронетранспарцёр і грузавік з салдатамі ў кузаве. Махамад Нур цёпла развітаўся з камбатам і ўзлез на БТР.

«Так, дзелавы кіраўнік. Паболей бы такіх людзей, — думаў Бунцаў пра Нура, накіроўваючыся да штаба, — тады б і справы ў нашых афганскіх сяброў ішлі лепш».

Ён звярнуў увагу на вясёлае ажыўленне ля палатак сапёраў. Зірнуў на гадзіннік — час яшчэ ёсць — і павярнуў да іх. А там зампаліт, падтрымліваючы вясёлую размову, пытаў у аднаго салдата:

— Вось вы, малодшы сяржант Полін, скончыце службу, прыедзеце дахаты, вядома ж, са сваёй Альфай, а ёй жа міны падавай, як жыць будзеце?

Малодшы сяржант гадоў дваццаці, з медалём «За адвагу» на грудзях, пяшчотна пагладжваючы вялікую аўчарку мінна-вышуковай службы, усміхаючыся, адказаў:

— А вы забыліся, таварыш маёр, што Альфа ў мяне спецыяліст шырокага профілю. Яна можа не толькі міны шукаць, але і добра адчувае пахі металу, свежавыкапанай зямлі, чалавека... я яе перакваліфікую для мірнага жыцця.

— Дзе табе там з ёй важдацца, — махнуў рукой рудавалосы, увесь у вяснушках салдат. — Ты ж адразу ў палон патрапіш да сваёй Анюткі. — Салдат паглядзеў на Шукаліна. — Яна яму, таварыш маёр, лісты кожны дзень шле. Факт, як толькі Полін прыбудзе, яна яго адразу ж пад завітушку, пад руку і разам з Альфай — у ЗАГС.

Зампаліт засмяяўся і пагладзіў сабаку па галаве. Альфа сапраўды была вялікай разумніцай. Шукалін успомніў, як тыдзень назад у раёне Джелалабада яна толькі падчас адной аперацыі адшукала чатыры душманскія склады са зброяй, боепрыпасамі, медыкаментамі і харчам.

Камандзіры накіраваліся да штаба. Ішлі моўчкі, абодва думалі пра сапёраў. Іх прафесія была небяспечнай заўсёды, але тут, у Афганістане, асабліва, сапёры ўступаюць у смяротны паядынак не толькі з кожнай асобнай мінай, але і з інжынернай думкай, што нараджаецца дзесьці далёка, у цішы лабараторыі, дзе спрабуюць зрабіць кожную новую міну больш смяротнай, больш складанай, каб ніхто не мог абясшкодзіць яе. А ворагі рэвалюцыі выкарыстоўваюць міны вельмі шырока: і на дарогах, і на сцежках, і на хлебных палях. Усталёўваюць міны і ў транспарце, і проста ў рацэ, у месцах, дзе могуць прайсці людзі ці праехаць тэхніка. А цяпер міны пайшлі такія, што металашукальнік бескарысны: яны пластмасавыя; мацай не намацаеш — закапана глыбока. Ды і куды ні ткні — усюды камяні. Нават сабакі не заўсёды могуць яе ўчуць, такія міны амаль не бяруць тралы: пяцьдзясят адзінак тэхнікі пройдзе, а пяцьдзясят першая падарвецца. Але выявіць міну — яшчэ не галоўнае. Замежныя інструктары вучаць душманаў ставіць міны так, каб іх немагчыма было абясшкодзіць: пацягнеш за яе ці паспрабуеш выдаліць узрывальнік — і канец. Варта наехаць на палку, якая валяецца на дарозе, на анучу ці, здавалася б, звычайны камень, зачапіць антэнай за галіны дрэў — выбух.

— Правільна ты зрабіў, што ў сапёраў пабываў, — пахваліў свайго намесніка камбат. — Яны, мабыць, за гэтыя дні больш за іншых стаміліся.

— Я хачу яшчэ ў роце Бачарова з хлопцамі пагаварыць і да разведчыкаў зазірнуць. Ім таксама цяжка прыйшлося. У Бачарова, як ні ў кога, страт шмат, ды і разведчыкі ўшчэнт выматаліся.

— Добра, Уладзіслаў Альбертавіч, схадзі да іх. А я з начальнікам штаба папрацую.

Калі батальён дзвюма доўгімі калонамі рушыў да гор, ноч ужо даўно ўступіла ў свае правы. Адной калонай камандаваў камбат падпалкоўнік Бунцаў, другой — начальнік штаба маёр Міснік. Неўзабаве падраздзяленні разышліся ў розныя бакі.

У баявое заданне батальёна ўваходзіла задача дасягнуць гор, размясціць там артылерыю, «браню», а самім захапіць вышыні, акружыць раён баявых дзеянняў. У выпадку неабходнасці — аказаць дапамогу афганскім падраздзяленням.

Прайшло яшчэ крыху больш за гадзіну, і калона Бунцава прыбыла ў пункт прызначэння. Пакуль сапёры правяралі ўчастак, выбраны для размяшчэння артылерыі і тэхнікі, дэсантнікі саскоквалі з машын і строіліся ў паходныя калоны. Неўзабаве, нагрузіўшыся, як трэба, яны пешшу рушылі па гарах.

Яшчэ раз праінструктаваўшы свайго намесніка, які заставаўся з «бранёй» і артылерыяй, Бунцаў, ускінуўшы на плячо аўтамат, накіраваўся да дэсантнікаў, якія ўжо выцягнуліся ў ланцужок.

Падпалкоўнік знаходзіўся ў сярэдзіне калоны. Следам за ім ценем крочылі радыст і салдат, які нёс запасную станцыю і батарэі сілкавання: у такіх умовах сувязь — гэта галоўнае. Зрэдку Бунцаў браў мікрафонную трубку і вёў гаворку з камандзірамі рот, разведчыкамі. Не забываў ён пацікавіцца і справамі ў Місніка.

У разведчыкаў і сапёраў ноч прайшла ў напружанай, небяспечнай рабоце. Нарэшце, калі да світання заставалася меней за гадзіну, абодва атрады замкнулі кальцо.

Бунцаў па радыё звязаўся з камандзірам афганскага палка палкоўнікам Сардарам. Той паведаміў, што яго батальёны выходзяць на зыходныя пазіцыі...

Вяршыні гор сустракаюць новы дзень першымі. У далінах яшчэ спакойна ляжыць ноч, а вяршыні ўжо бачаць першыя пробліскі раніцы, сустракаюць яшчэ нясмелыя прамяні сонца.

Бунцаў загадаў узмацніць маскіроўку, спыніць любыя перамяшчэнні, арганізаваць назіранне за раёнам баявых дзеянняў. Прайшло яшчэ паўгадзіны, і полк афганскага войска пачаў баявыя дзеянні. Пяццю калонамі ён уварваўся на тэрыторыю, занятую праціўнікам. Поспеху спрыяла тое, што ў стане праціўніка пачалася паніка, паколькі напад быў нечаканым.

Не прайшло і трох гадзін, як усё было скончана. Афганскі полк разграміў банду, захапіў зброю і палонных.

Пакуль батальён Бунцава з дапамогай верталётаў здымаўся з блокаў, падпалкоўнік Джалал дапытваў палонных. Неўзабаве ён устанавіў, што душман, які здаўся ўладам напярэдадні, паведаміў праўду. Бандзе ўдалося захапіць у палон аднаго параненага савецкага салдата, таджыка па нацыянальнасці. Дзевятнаццацігадовы хлопец адмовіўся даваць якія-небудзь паказанні. Адхіліў ён і прапановы перайсці на бок ворага, і ўсялякія абяцанкі за здраду. І тады па загадзе замежных саветнікаў душманы доўга і вытанчана катавалі яго, але ён застаўся верным прысязе і Радзіме...

З цяжкім сэрцам накіроўваўся падпалкоўнік Джалал да камбата Бунцава. Ён вёз яму ваенны білет савецкага дэсантніка, знойдзены ў палоннага верхавода банды...

***Пераклад з рускай***
***Алеся МАРЦІНОВІЧА.***

***Заканчэнне будзе.***





## Хведар ГУРЫНОВІЧ

### ОДА ПІШУЧАЙ МАШЫНЦЫ

Ах ты вячэрняя пчолка мая,
Першы чытач і прыяцель,
Клавіятуру ад «а» і да «я»
Зноў я дзяўбу, нібы дзяцел.

Літараў россып — як птушак касяк.
Нібы ў маленечкіх сподках
Кожная літарка, азбука ўся —
Мудрая спадчына продкаў.

А каб зручней іх адшукваць — яны
Збілі свой вечны парадак.
Сведка пакутнай маёй цішыні,
Звонкаю рыфмай парадуй.

Ох, увайшла ты апоўначы ў смак,
Гагаеш, быццам бы гускі.
Ты не крыўдуй на мяне, цвёрды знак, —
Зменены «і» беларускім.

Як у бабульчыных кроснах чаўнок,
Слізгае ўвішна карэтка.
Вунь і світанак ружовіць акно,
Лісцем гуляючы рэдкім.

---

***Гурыновіч Хведар Хведаравіч** нарадзіўся 15 верасня 1950 года ў вёсцы Крывічы на Салігоршчыне.*

*Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1981). Працаваў мастаком, дырэктарам музея, карэспандэнтам раённай газеты «Шахцёр», рэдактарам газеты «Калійшчык Салігорска».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Хлеб і соль» (1980), «Дачыненне» (1991), «Вішня цвіце» (1992), «Што я ўнуку скажу» (1995), «Запрашаю пад дождж» (2000), «Год — как жизнь, жизнь — как год» (2009) і інш., кніг для дзяцей «Пасадзім па дрэўцу» (1993), «Птушыная азбука» (1997), «Лес на далоні» (2001) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра (1997).*

Але ж паэзія, знаеш сама, —
Добраахвотнае рабства.
Выхаду з гэтай хваробы няма
Нат з дапамогай лякарства.

Ну а ў заложніцах — ты ўжо здаўна
З гэтай жалобнаю стужкай.
Ты, мой характар спазнаўшы спаўна,
Стала адданаю служкай.

Ты аж ахрыпла за трыццаць гадоў,
Трошачкі «ц» западае.
Толькі я шчыра зазначыць гатоў:
Ты ўсё яшчэ маладая.

Холад ці сквар, ці вятрыска скубе,
Але, да вершаў прыкуты,
Не прамяняю ніколі цябе
Я на сучасны камп'ютар.

## ЗАМОВА

Ах, як птахі пяюць па вясне,
Як звіняць над палянаю!
Так і ты акрыляеш мяне,
Дарагая, каханая.

Адступіла рудая імгла,
Загаіў свае раны я,
Бо заўсёды ты побач была,
Дарагая, каханая.

Як шчымліва люблю цябе я,
Лёсам наканаваная.
Ты — над лугам вясёлка мая,
Дарагая, каханая.

Залюляю цябе, бы дзіця,
Вершам, як калыханкаю.
Ты — нябёсаў працяг і жыцця,
Дарагая, каханая.

Хай твае залацеюць сляды,
Сонцам зацалаваныя.
Заклінаю цябе ад бяды,
Дарагая, каханая.

Калі ж чорнай маланкай мільгне
Хвіля неспадзяваная,

Дык закрый тады вочы мае,
Дарагая, каханая.

Забяру твае смутак і боль
І душою адданаю
Буду я і на небе з табой,
Дарагая, каханая.

## ЗГАДКІ ПРА ТУМАН

* * *

Вёска зняла рукавіцы.
Цёплы, як бацькаў кажух,
Перапаўзае мяжу
Першы туман сакавіцкі.

* * *

Гусіны клін на скразняку
Плыве спрадвечным накірункам.
І пахне першым пацалункам
Туман у волкім лазняку.

* * *

Жабіны хор крамсае ціш лагчын,
Смяецца ў лузе лотаць залаціста.
Трымціць туман — пяшчотны, бы ўспамін
З далёкага вясковага дзяцінства.

* * *

Сышоў з вялікаю вадою
Апошні снег з канаў глухіх.
І ранкам разам з чарадою
Туман займаюць пастухі.

## ТАКАВІШЧА

Яшчэ світанак спіць,
А ў вы́жары за Плянтай
Адчайна ток кіпіць
Заўзятых дуэлянтаў.

На лапіне зямлі,
Звяснелае, рудое,
Шыпяць, як вугалі,
Залітыя вадою.

Гудуць цецерукі,
Даказваючы самцы:
— Глядзі, я зух які!
— Заўваж, я лепшы самы!

Яно мо й так, але ж
Складана разабрацца,
Бо на таку не менш
Іх, пэўна, за пятнаццаць.

Насы — як вухналі,
І пыху — бы ў манархаў.
А ў студзені ж былі
Такія ўсе манахі.

Надзьмулі валлякі,
Ажно аглухнуць можна,
Нібы гарох які
Палошча ў горле кожны.

Цікую праз кусты:
Ну й пеўні, ну й задзіры!
Загнутыя хвасты
Падобныя на ліры.

Не ток — сапраўдны бой,
Ідуць на сценку сценка.
З алешыны крывой
Паглядвае цяцерка

І квохча: — Малайцы,
Хаця й не знаюць меры,
А ўсё ж такі байцы,
Ліхія кавалеры!

І хмельны, як віно,
Віруе ранак волкі.
І зеўраюць даўно
Ствалы маёй двухстволкі.

І ўсё-ткі я зніму
З курка зацёкшы палец…
Лепш пёрка я вазьму —
Загнутае — на памяць.

## КРЫЎДЛІВЫ ЎСПАМІН

Сябры ганялі мяч на поплаве,
Нямко з канавы брыў з уловам.
А я сядзеў у змрочным пограбе
І з бульбы парасткі абломваў.

Як чарвякі — даўгія, вострыя,
Я іх у кут шпурляў з агідай.
Зусім адзін, нібы да вострава
Шалёнай хваляю прыбіты.

Худыя парасткі тапоршчылі
Картоплі, мяккія, як жабы,
Прытым пляскатыя і ў зморшчынах.
І колькасць іх мяне пужала.

Я перамацаў іх з паўтысячы —
«Жаб», і маленькіх, і вялікіх.
І, на падмогу брата клічучы,
Лічыў, лічыў — і збіўся з ліку.

Сядзеў як пахаваны зажыва,
Было балюча мне і горка.
І жарабяткам з пысай замшавай
Падбрыкваў чэрвень на падворку.

Аб дзверы цёрся шыяй ласкавай,
Нібы цягнуў мяне з палону.
Было чуваць, як хлопцы ляскаюць
Мячом на поплаве зялёным.

А тут ад бульбін фіялетавых
Такой сумотай лютай дзьмула!
І я не вытрымаў — і лета мне,
Як змоўшчык, хітра падміргнула.

І пацягнула ў бездань сінюю,
Туды — дзе сонца, поплаў, гульбы...
І па мячы я стукнуў з сілаю,
І ён вялізнай здаўся бульбай.

## НА ГЛУБЛІ

У люстраным блакіце Глублі
Чырванапёрых плотак гульбы,
Стракоз і чаек віражы.
Я пад разгалістай сасною
Ныраю ў возера лясное,
Разбіўшы неба вітражы.

А ў небе замшавым сваволіць
Бакас, хмялеючы ад волі,
Крамсае ранішні прастор.
У кацялку бунтуе грэчка,
І падымае кіпень вечка,
І варам пырскае ў касцёр.

Стаіць, як варта, над палаткай
З карою глянцаваю, гладкай
Дубок, касцісты, як казак,
І чорны граб па левым флангу.
І рэха з горкі бумерангам
Да нас вяртаецца назад.

Блакіт азёрны лашчыць цела.
Гарбатай лесвічкай збуцвелай
Абрыў аздоблены круты,
Імхі на ім зусім пажухлі.
А ў крышталёвай вазе Глублі
Стаяць букетам чараты.

## ВОБЛАКІ

З астраўком пасярэдзіне
Сонны выгін ракі.
Ліст, расой пасярэбраны,
Прытулю да шчакі.

Зграбны лісцік арэхавы
З вераснёўскай казны...
Быццам даўняе рэха мы
Адазвалі з вясны.

Хіба ж можна: над пожнямі —
Раптам — спеў салаўя!
Ліст пяшчотна-ўстрывожаны,
Як далонька твая.

Ах, навошта, навошта мне
Той шчымлівы рэгістр —
Ліст з юначаю поштаю?
Ненапісаны ліст,

Прахалодай расстайнаю
Мне шчаку апячы...
Трызняць воблакі стайняю,
Каб прыстаць на спачын.

Вецер швэндае, стрэсавы,
І не перастае,
Ён аблокі растрэсвае,
Быццам думкі мае.

## КАПУСТА

Звазілі бульбу, моркву — і шыкуем:
На кухні гарадской пад маладзік
Капусту запазнелую шаткуем.
Яна ўрадзіла сёлета наўздзіў.

Гайдае пах кватэру, трохі горкі,
Таму кастрычнік фортку прачыніў.
А на стале ў зялёна-белай горцы
Пакрэктваюць тугія качаны.

Капуста! Шчэ парою старажытнай
Прызначаны табе высокі сан…
А нож над качанамі смачна жыкаў
І тоненькія стружкі выкрасаў.

Крамсаў яе на лустачкі ён хвацка,
Ён адбіваў чачотку на стале.
Падобная на піраміду, храпка
Прасілася, каб схрумсталі яе.

Вось шаткаванку ўжо абмяла жонка,
Пры гэтым сыпануўшы шчодра соль,
І колькі сакавітых морквін жоўтых
Суцішылі капусты белы боль.

Каб удалася — стопачку наліў я.
Капусткаю гаркавай зажаваў.
І ўспомніў, як танюткае каліўе
Вадою дажджавою паліваў.

Акучваў глебай кожненькі карэньчык,
Каб ёй лацвей стаяць было ў зямлі.
Падвязваў і маліну, і парэчку,
Каб сонейка ў яе не аднялі.

І попелам ссыпаў улетку густа,
І шкодных матылёў на ёй лавіў…
І весела падміргвалі з капусты
Рубінавыя зоркі журавін.



**Людміла КЕБІЧ**

# МАНЬКА

*Апавяданне*

## 1

Сёмая палата, у якую накіравала Антаніну дзяжурная медсястра, знаходзілася ў самым канцы бальнічнага калідора, адразу за працэдурным кабінетам. Нягледзячы на «ціхую гадзіну», дзверы ў палату былі прыадчынены, і Антаніна нячутна ўвайшла ў яе. Справа ложкі былі занятыя, на іх ляжалі хворыя жанчыны і, мабыць, спалі. Злева, паміж двума незанятымі і ахайна засланымі, на самым краі свайго ложка сядзела жанчына ў чырвоным світары. Апусціўшы ногі ў мяккіх шлэпках на падлогу і адвярнуўшыся спінай да дзвярэй, яна пільна ўзіралася ў акно, за якім не магла ўбачыць нічога, акрамя халоднага белага снежаньскага неба.

Антаніна прайшла на сярэдзіну палаты. Жанчына, пачуўшы яе крокі, рэзка азірнулася.

— Праходзьце, калі ласка, — ветліва запрасіла яна, — выбірайце любое месца. Але кала акна, магчыма, халаднавата будзе.

— Чакайце, чакайце, — у сваю чаргу прамовіла Антаніна, набліжаючыся да ложка жанчыны. — Вельмі мне голас ваш знаёмым падаўся… Марыся, ты?!

Жанчына толькі цяпер разгледзела новенькую. Вочы яе заззялі яркім парэчкавым бляскам, а тонкія вусны асвяціліся цёплай усмешкай здзіўлення.

— Тонечка, любачка, Божа мой! Гэта ж колькі гадоў мы з табой не бачыліся?!

— Пасля школы і не бачыліся ні разу, — прыгадала Антаніна.

— Так, так… І давялося вось дзе сустрэцца, у гэтым жудасным месцы! — хітала галавой разгубленая і не менш за Антаніну ўзрушаная жанчына.

---

***Кебіч (Вайтулевіч) Людміла Антонаўна** нарадзілася 17 ліпеня 1951 года ў гарадскім пасёлку Краснасельскі Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыла аддзяленне тэорыі музыкі Маладзечанскага музычнага вучылішча (1971), філалагічны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы (1981). Працавала выкладчыкам музычна-тэарэтычных дысцыплін у Гродзенскім дзяржаўным каледжы мастацтваў. Цяпер — старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Аўтар паэтычных кніг «Па музычных законах» (1996), «Зялёная рутвіца» (2001), «На беразе белай ракі» (2003), «Ключы ад Неба» (2005), «Светач мастацтва» (2008), «Непераможны колер охры» (2008) і інш.*

— Нічога, выжывем, «пятая анкалогія» — гэта яшчэ не бяда, — заспакоіла яе Антаніна. — Дарэчы, ты з чым сюды трапіла?

— А-а, нейкі гузак на пальцы выскачыў. У паліклініцы дактары ўсё заспакойвалі: маўляў, нічога сур'ёзнага, гэта — солі ў вас. А калі я не на жарт захвалявалася, дык накіравалі ў абласную анкалагічную паліклініку ў Пышкі, да доктара Баярчыка, а той адно зірнуў і адразу паклаў мяне на аперацыю. Вось і чакаю ўжо пяты дзень тае аперацыі… А ты чаго сюды?

— У мяне амаль такая ж гісторыя. Радзімка на плячы пачала сябе дрэнна паводзіць. Таксама сама занепакоілася, пайшла да анколага і вось, трапіла сюды. Трэба ж да Новага года ад усяго дрэннага і непатрэбнага вызваліцца! — паведаміла Антаніна сяброўцы.

— Вызвалімся, дасць Бог, і будзем як новенькія! — аптымістычна і прыўзнята абнадзеіла Марыся.

Жанчыны з суседніх ложкаў з цікаўнасцю сачылі за размовай Марысі і Тоні. Нарэшце старэнькая бабулька, на твары якой бялела некалькі пластыравых крыжыкаў, не вытрывала:

— Хіба вы ведаеце адна адну?

— Мы аднакласніцы, бабуля, сяброўкі, зямлячкі! — радасна паведаміла Марыся. — Больш таго, мы жылі некалі ў адным пад'ездзе і столькі ўсяго перанеслі разам!

— А пасля школы мы паехалі вучыцца: Марыся — у Гродна, я — у Мінск, і не бачыліся амаль сорак гадоў. І вось дзе Гасподзь нас звёў! — далучылася да тлумачэнняў Антаніна.

— Прасіце літасці ў Бога, Ён адгукнецца, — ціха параіла бабуля і перахрысцілася.

Жанчыны змоўклі. Антаніна пачала выкладваць свае рэчы з пакета ў тумбачку. Дастала пачак пячэння, апельсінавы сок.

— Частуйся, Марыська, — прапанавала яна сяброўцы.

— Не, дзякуй, Тонечка, у мяне сваіх прысмакаў поўная шуфляда. Сыны нанеслі, сёстры. Ды і сама я цяпер, дзякуй богу, добра жыву. Не галадаю, як некалі ў дзяцінстве. Памятаеш, як мы жылі? — яна ўважліва зірнула ў Антанініны вочы.

— Памятаю, Марысечка, усё памятаю, — ціха прамовіла сяброўка.

## 2

Манька — Тоніна суседка. Яна жыве насупраць у трохпакаёвай кватэры. Манька — шостае дзіця ў сям'і, а ўсяго ў іх восем дзяцей. Манька падобная на матулю: такога ж складу і чорная, нібы цыганка. Імя ў дзяўчыны таксама матуліна — Марыя. Але так называць яе будуць потым, у той новай, прыгожай прышласці, калі яна стане дарослаю і з'едзе са свайго Краснасельскага пасёлка назаўсёды. Паедзе вучыцца ў Гродна, напрыклад, абавязкова на прадаўца або кухара, выйдзе там замуж і застанецца жыць. Дзяўчына так марыць, асабліва, калі ёй не спіцца цёмнымі зімовымі начамі ад голаду.

У сям'і нястача. Матуля нідзе не працуе, таму што дзеці нараджаюцца адно за другім, іх трэба гадаваць. І накарміць, і абмыць, і ў школу адправіць. Матуля вечна занятая, пад рукі ёй лепей не трапляць. Манька здзіўляецца: «Як можна ўвесь час лаяцца і халеравацца на сваіх родных дзяцей? Можа, яна нас не любіць?»

Тата іншы. Ён амаль заўсёды маўчыць, дома бывае рэдка, таму што працуе па сутках машыністам паравоза на мясцовай чыгунцы. Вяртаецца з працы стомлены, брудны, прапахлы і перапэцканы паравозным мазутам. Доўга мыецца, пераапранаецца ў сваю адзіную кашулю ў «арыфметыку» (цёмна-сінія клетачкі), і, пад'еўшы, уладкоўваецца адпачываць. А яшчэ тата любіць выпіць. Тады ён робіцца вясёлы і шматслоўны, павучае дзяцей, разважае на палітычна-эканамічныя тэмы.

— Сціхні, абрыда! — незадаволена крычыць на яго матуля, асабліва, калі тата пачынае нешта напаўголаса спяваць. — Весела яму, бачыш!..

Уся лепшая яда ў хаце — для таты, таму што ён — адзіны ў сям'і здабытчык і працаўнік. Калі і што есць матуля, ніхто не бачыць. Дзеці сілкуюцца хто дзе і як могуць: таго, што даюць дома, ім не хапае.

Манька заўсёды хоча есці, але ніколі не падае выгляду. Ганарыстая ад нараджэння. Не папросіць, не прынізіцца. Летам добра. Летам можна наесціся яблыкаў з чужога саду: голад — не дзядзіна, з'ясі і крадзена. Або пазбіраць агрызкі, якія пакідалі багатыя равеснікі, абмыць іх у лужыне і, схаваўшыся за кусты, даесці. Калі агрызкаў збіраецца шмат, Манька іх нават перабірае: спачатку есць салодкія, а затым кіслейшыя. Бывае, што і, наогул, кіслыя павыкідвае.

А яшчэ летам з матуляю і цётачкай Гэляй з суседняга пад'езда можна схадзіць у ягады. І хоць матуля будзіць дзяцей вельмі рана і загадвае кожнаму назбіраць абавязкова па поўным літровым слоіку ягад, Маньцы хапае часу, каб і загад матулін выканаць, і ягад наесціся ўволю. Хутка працуе дзяўчына, спраўна.

Летам тату на працы выдзяляюць бясплатныя пуцёўкі ў аздараўленчы лагер, у які адпраўляюць малодшых школьнікаў. Некалькі разоў трапляла ў лагер і Манька. Гэта быў месяц сытага шчасця. Дзяўчынка з'ядала ўсё, што падавалі на сняданне, полудзень і вячэру, не адмаўлялася ад дабаўкі і пачувала сябе найлепшым чынам. З радасцю вярталіся дзеці з піянерскага лагера да сваіх бацькоў, сясцёр і братоў, і толькі адна Манька прасілася ў выхавальнікаў: «Пакіньце мяне тут яшчэ на адзін тэрмін, не адпраўляйце дахаты!» Не хацела вяртацца ў дом, дзе панавалі голад і нястача.

Зімою горай. Ні садоў, ні агародаў, ні лагераў. Адно школа, хатнія заданні і вечнае адчуванне голаду, якое перакрэслівае, перабівае нават самыя прыгожыя і светлыя думкі. Тады Манька апранае на сябе зімовае паліто і ўкладваецца на ложак пад коўдру, каб сагрэцца.

У пакой зазірае малодшая сястра Валя.

— Манька, ты дзе? — ціха шукае яна сястру.

— Тут я, пад коўдраю, — не высоўваючы носа, адгукаецца Манька. — табе чаго?

— Зірні, што ў мяне ёсць, — спакушае Валька.

Манька імгненна скідае з галавы коўдру і цікавіцца:

— Пакажы, што?

— Цукеркі ў мяне ёсць, вось што! — І хітае перад вачыма галоднай сястры поўны пачак каляровых цукровых гарошынак.

— Ух ты, малайчына! А дзе ўзяла? — дапытваецца Манька.

— Цётачка Ніна пачаставала, за тое, што я па хлеб ёй схадзіла, — прызналася дзяўчынка.

— Смачныя, напэўна, — зглытнула сліну Манька. — Дай пакаштаваць… Адну…

— Не дам, не дам, мне і самой мала, — схавала пакунак з цукеркамі за спіну Валька.

— Ну і не трэба, жмінда, падумаеш! Заўтра я цётачцы Тамары падлогу памыю, і яна мне не такое дасць… А ты ідзі, еш свае цукеркі адна, я з табой гуляць не буду!

Валька моўчкі сапла, усё яшчэ трымаючы руку з гарошынкамі за спінай.

— А я ведаю такую цікавую гульню, дарэчы, мы з табой у яе яшчэ ніколі не гулялі, — дражніла сястрычку хітрая Манька. — Хочаш, зараз навучу?

— Хачу, хачу — загарэліся вочкі ў неразумнага дзіцяці.

— Ну, тады слухай умовы: ты будзеш багатай і добрай гаспадынькай, а я буду курачкай, маленькай такой, рабенькай. Ты будзеш курачку карміць. Хадзі сюды, станавіся на ложак. Гэта, як быццам, ганак твайго вялікага дома ці палаца, у якім ты жывеш. — Манька падхапіла сястрычку і, скінуўшы з ножак сандалікі, паставіла яе на свой ложак, а сама села на кукішкі побач з ложкам.

— Ну, даставай гарошынкі з пачка, кармі курачку. Гэта ж нібыта зярняткі! — падахвочвала яна малую. — Ко-ко-ко-ко!

І прастадушная Валька пачала кідаць Маньцы цукеркі, а тая на ляту лавіла іх ротам і, амаль не разжоўваючы, глынала.

— Ко-ко-ко! — здзекавалася Манька, вырабляючы такія выкрутасы на падлозе каля ложка, ад якіх дзяўчынка заходзілася звонкім смехам.

— Еш, мая курачка, ціпу, ціпу, ціпу, ціп! — падскоквала на ложку Валька, кідаючы «курачцы» цукерку за цукеркай.

І раптам каляровыя пахучыя гарошынкі скончыліся. Валька засунула руку ў пачак і, зразумеўшы, што ён пусты, зайшлася жудасным плачам. Дзяўчынка саскочыла з ложка і пабегла скардзіцца матулі.

— Мама-а, мама-а, а Манька мяне зноў абдурыла-а! — лямантавала малая. — Усе цукеркі мае з’ела, я ніводнай не пакаштавала-а-а…

Маньцы зрабілася горача: без лупцоўкі тут не абыдзецца! Дзяўчынка завязала хустку, ціхутка выскачыла ў вітальню і, намацаўшы ў агульным завале з абутку свае боцікі, схапіла іх у рукі і выбегла з кватэры.

«Куды падзецца? Можа, да Тонькі?» — мільгалі ў галаве думкі. Манька наблізілася да дзвярэй кватэры аднакласніцы, якая жыла насупраць, і прыслухалася. «Ага, ціха, піяніна маўчыць, значыць Тоня ці ўрокі рыхтуе, ці ў музыкалку пабегла», — разважыла дзяўчынка і асцярожна пастукала ў дзверы.

Адчыніла Тоніна матуля:

— А, гэта ты, Марыся, праходзь. Тоня там, у сваім пакоі.

— Прывітанне! А ты адкуль, апранутая, абутая такая? — здзіўлена аглядаючы сяброўку, пацікавілася Тоня, якая выйшла сустрэць аднакласніцу.

— Ой, Тонька, я тут шкоду зрабіла і з хаты ўцякла, дык можна ў цябе крыху пасяджу, а то матуля, чуеш, як заліваецца? — Дзяўчынка падняла ўказальны палец угору, запрашаючы Тоню прыслухацца. Але ўсюды было ціха.

— Добра, пабудзь. Я тут адну цікавую кнігу чытаю, калі хочаш, раскажу змест?

— Давай… — уздыхнула Манька і накіравалася да канапы.

— А потым будзем гарбату піць з аладкамі, мама пячэ, — паабяцала сяброўка.

Манька толькі цяпер адчула смачны пах, які даносіўся з кухні. Яна расслабілася і заплюшчыла вочы.

## 3

Да канца дня ніхто з медыцынскага персаналу ў палату не зайшоў. Хворыя жанчыны, у асноўным пасля аперацыі, належалі самі сабе. Было відаць, што яны пакутавалі, хаця лічылася, што ў гэтым, пятым анкалагічным аддзяленні абласной клінічнай бальніцы, аперыруюць найбольш лёгкіх хворых: з пухлінамі скуры і шчытападобнай залозы. Асабліва горка было пазіраць на сталую жанчыну, даволі яшчэ рухавую і прыгожую тварам, якой цалкам аднялі руку. Надзея Міхайлаўна — так звалі гэтую жанчыну — увесь час стагнала.

Перад сном, калі на дзяжурства заступіла іншая медыцынская брыгада, маладая сястрычка прынесла ўсім таблеткі, а Надзеі Міхайлаўне ўкалола нешта заспакаяльнае, і тая заснула да раніцы.

— А мне зноў нічога? — звярнулася Марыся да медсястры.

Дзяўчына адно развяла рукамі і пасміхнулася.

— Вось так і ляжу, як на курорце: ні лекаў, ні дактароў не бачу, — паведаміла Марыся Тоні. — Забыліся яны, хіба, пра мяне?.. Тут жа працы на пятнаццаць хвілін: чыкнуць і зашыць!

Яна выставіла свой круглы, як балонік, палец, пакруціла ім у паветры і расчаравана ўздыхнула.

— Ну і ляжы сабе, адпачывай… Дойдзе чарга і да цябе, не хвалюйся, — заспакоіла жанчыну Антаніна.

Але чарга прасоўвалася вельмі марудна. Дактары аперыравалі не толькі «планавых» хворых, але і тых, што прывозілі на «хуткай дапамозе». Хірургі стамляліся неверагодна, і гэта было відавочна. Жанчыны ў палаце ўсё разумелі, таму цярпелі свой і фізічны, і душэўны боль, і прасілі аб дапамозе адна адну.

Марысю прасіць не трэба было. Яна нейкім неверагодным чынам адчувала і прадбачыла што, каму і калі патрэбна. Не паспее заварушыцца на сваім ложку Ніна са Скідаля, як Марыся падхопліваецца і накіроўваецца да жанчыны.

— Давайце я Вам падушачку вышэй падаб’ю, падыміце галоўку, — добразычліва прапануе яна.

На ноч Марыся здымала коўдры з пустога ложка і ўкладала іх на падаконне, каб затуліць ад халоднага ўсюдыіснага ветру бабулю з крыжыкамі на твары. Тройчы на дзень падносіла таблеткі і кубачак з вадою аднарукай Міхайлаўне, дапамагала нацягнуць халат на здаровую руку, калі жанчына часам хацела пасядзець на ложку, і цярпліва накрывала яе, падтыкаючы пад ногі і бакі коўдру, калі тая клалася адпачываць. Паклікаць сястрычку, каб тая адключыла кропельніцу, падаць вады, адкаркаваць бутэльку з сокам ці мінералкай, адрэзаць каўбаскі… — усё Марыся.

«Служка… Яна з дзяцінства служка», — сочачы за сяброўкай, узгадалася Антаніне. Марыся быццам прачытала яе думкі.

— А мне не цяжка, Тонечка, я прывыкла — усё жыццё ўсім служу… Я ўжо, як той сабака вартавы: не паспее штосьці дзесьці заварушыцца, як у мае мазгі сігнал паступае і вушы натапырваюцца, маўляў, ляці, можа, хто костку кіне! — прызналася Марыся, прысеўшы на край Тонінага ложка. — І ты ведаеш, Тоня, я ж цяпер нармальна жыву, усяго мне хапае. Ваня мой добра заўсёды зарабляў, я на пошце працавала, — ціха і давяральна, разважаючы нібыта сама з сабой, працягвала яна далей. — І людзі мяне паважалі,

любілі, асабліва пенсіянеры — я ж ім пенсіі прыносіла і заўсёды хоць крыху паразмаўляю з імі, раскажу пра навіны, развяжу трывогі… Кватэру я атрымала таксама трохпакаёвую, абставілі мы яе добра, утульна і чыста ў мяне заўсёды было…

А вось гэтае пачуццё зняважанасці, уласнай нікчэмнасці, нібыта я — апошняя нейкая сярод людзей, глыбока засела ўва мне з дзяцінства і праяўляецца незалежна ад мяне.

Тоні вельмі захацелася абняць Марысю, пашкадаваць яе і суцешыць. Яна вельмі добра разумела сяброўку, нездарма іх дзяцінства прайшло разам.

— Нешта ты не тое гаворыш, Марыся, — перапыніла сяброўку Тоня. — Пра якую знявагу ты пляцеш? Ды ты проста па сваёй натуры такая: шчырая, чулая, а дабрыні ў цябе — дык на сто сэрцаў, даражэнькая! Вось і бяжыш кожнаму сустрэчнаму-папярэчнаму дапамагаць па гэтай прычыне… Ты ж заўсёда такой была, Манька, самая добрая і гатовая ў любую хвіліну кінуцца на дапамогу, успомні!

— Я шмат чаго памятаю, Тоня, — задуменна прамовіла Марыся. — А ты ці памятаеш, як я Кубаевым служыла? Я ж з малога ім дапамагала: па хлеб, малако схадзіць, ходнікі патрэсці… А з восьмага класа стала ў іх сапраўднай служанкай. А ты мяне супакойваеш…

## 4

У той вечар Манька позна вярнулася дахаты ад Тоні. Дзяўчаты, пасеўшы на канапе, доўга размаўлялі і сакрэтнічалі. Затым Тоніна матуля паклікала іх на вячэру. Яны пілі салодкую гарбату, якая пахла летнімі лугавымі зёлкамі, мачалі гарачыя мучныя аладкі ў місачку з мёдам, апетытна запіхвалі іх у рот, аблізвалі пальцы і весела ўсміхаліся.

— Як маленькія! — зрабіла заўвагу Тоніна матуля, падкладаючы дзяўчатам аладак. — Няўжо ручнік нельга ўзяць?

— Мама, гэтак жа смачней, як ты не разумееш! — засмяялася Тоня.

— Ну, зразумела: найлепшыя відэльцы — гэта ўласныя пальцы! — падтрымала добры настрой дзяўчынак Тоніна мама.

Маньцы было ўтульна ў Тонінай сям'і, яна пачувала тут сябе амаль сваёй. «А дома… Што яе сёння чакае? — Ад гэтай думкі хацелася скурчыцца, схавацца або збегчы на край свету. — От, каб можна было не пайсці дахаты наогул!»

Манька нячутна адчыніла дзверы сваёй кватэры і прыслухалася. Пераканаўшыся, што там ціха, увайшла. Хутка павесіла на вешалку паліто, запхнула ў рукаў хустку, кінула ў агульную вялікую гурбу абутку свае так і неабуваныя боцікі і накіравалася ў дзіцячы пакой. На кухні яшчэ гарэла святло — там, як заўсёды, корпалася мама. Толькі Манька падумала, што, мусіць, ніяк не абміне непрыемнай размовы, як матуля выйшла ёй насустрач.

— Ну, і дзе ты швэндаешся ўвесь дзень, га? — спытала яна ніколькі не злосным голасам дачку. — Тамара Кубаева перадавала, каб заўтра пасля школы да іх зайшла.

— Добра, — адно і вымавіла перапалоханая дзяўчына.

Яна ўвайшла ў пакой, дзе спалі малодшыя дзеці: Валька і Мішык. Не запальваючы святла (добра, што слуп з вялікім яркім ліхтаром быў укапаны якраз насупраць акна іхняга пакоя), распранулася, роўна склала сваю

вопратку на крэсла ля ложка і пачала прымошчвацца каля сястры. Валька моцна спала, лежачы сярод ложка. Манька падсунула яе да сцяны і, абняўшы гарачую, як толькі што вынятую з печкі бондачку, дзяўчынку, сцішыла дыханне.

Назаўтра пасля школы Манька зайшла дадому ўсяго на некалькі хвілін — толькі каб пераапрануцца ў хатнюю сукенку і пакінуць партфель з цяжкімі школьнымі падручнікамі. Яна спяшалася да Кубаевых. На ўсялякі выпадак зазірнула на кухню.

— Мамо, паесці ёсць што? — запытала асцярожна.

Маці, якая спакойна сядзела на маленькім нізенькім столачку і абірала бульбіну, выбухнула нечакана. Хаця, чаму нечакана? Маці заўсёды, колькі Манька сябе памятае, крычыць на іх, абражае і праганяе з кухні. Так што і цяпер нічога незвычайнага і новага не адбылося. Не пакідаючы занятку і нават не гледзячы на дачку, жанчына пачала як заўсёды лаяцца:

— А каб вы паздыхалі! Дзе я вам той яды набяруся?! Жабраваць ідзіце, каб на вас ліхаманка якая напала! Адно і тое кожны дзень: есці, есці, есці… От жа Бог долечку даў, каб яна ляснула!..

Далей Манька не чула. Яна хуценька выйшла з хаты і па драўляных сходках паднялася на другі паверх — да Кубаевых.

Насустрач ёй выйшла цётачка Тамара. Невысокая, прыгожая тварам, з ахайна сабранымі ў тугі вузел на патыліцы чорнымі валасамі і вельмі поўная, яна нагадвала Маньцы Каробачку з «Мёртвых душ» Гогаля. Яны толькі што прайшлі гэты твор па рускай літаратуры. «Начапіць бы ёй на галаву яшчэ карункавы каптур — вылітая была б!» — не аднойчы бачылася дзяўчыне, і яна незаўважна пасміхалася.

— Добра, Манечка, што прыйшла, — узрадавалася цётачка Тамара. — Я хачу папрасіць цябе пасядзець гадзіны тры з дзецьмі, таму што нам з Ларыкам неабходна тэрмінова з’ездзіць у Ваўкавыск.

— Пасяджу, не хвалюйцеся, — таксама ўзрадавалася Манька, але выгляду не падала. Дзяўчыне падабалася прыходзіць у гэты дом. Жылі Кубаевы заможна ў параўнанні з іншымі, нават з Таньчынай сям’ёй. Дзядзька Іларыён — Ларык — працаваў галоўным інжынерам у аддзеле кантрольна-вымяральных прыбораў на цэментным заводзе, а цётачка Тамара лічылася вельмі слыннай акушэркай у пасялковай бальніцы. Таму ў іх доме заўсёды хапала ежы, а ў буфеце стаяла шмат усялякіх бутэлек з вінамі, лікёрамі, каньякамі ды спакусліва прыцягвалі пагляд каляровыя пачкі з шакаладнымі цукеркамі. У кватэры было чыста і прыбрана. На вокнах — капронавыя фіранкі, падлога ўслана квяцістымі дарагімі дыванамі, а не паласатымі самаробнымі ходнікамі, як у Кубаевых. Радыёпрыёмнік і нават тэлевізар быў у іх. На ўвесь пасёлак толькі два тэлевізары пакуль што значыліся: адзін — у Іваноўскіх, другі — у Кубаевых. «Рэкорд» называўся. І дзяцей у іх было толькі двое, дзве дзяўчынкі-пагодкі — Галя і Валя. Прыгожанькія, дагледжаныя, рухавыя пампушкі чатырох і пяці гадоў.

— Слухай, Маня, можа ты яшчэ посуд памыеш і падлогу на кухні і ў калідоры падатрэш? — папрасіла цётачка Тамара.

— Зраблю, добра, што тут цяжкага, зраблю, — пагаджалася Манька.

— А цяпер хадзем абедаць, а то хутка Ларык з працы вернецца, яго карміць трэба будзе. Кліч дзяўчынак! — завіхалася клапатлівая цётачка Тамара.

Галю і Валю клікаць не трэба было: яны стрымгалоў кінуліся да Манькі, як толькі пачулі яе голас у вітальні, і павіслі на абедзвюх руках дзяўчыны.

— Ура, ура! Наша Маня прыйшла! — шчабяталі яны радасна. — Будзеш з намі гуляць у хованкі? І маляваць князёўну!

— Буду, буду, адпусціце толькі, рукі паадрываеце! — смяялася разам з дзяўчынкамі задаволеная нянька.

Абед у Кубаевых сытны і шчодры. Як і належыць, з трох страў. Сёння на першае быў суп з мяснымі клёцкамі, на другое — бульбяная каша з катлетай і салёным агурком, на трэцяе — хочаш, яблычны кампот, хочаш, гарбата з цукрам. Цукеркі і печыва можна браць з белай шкляной вазачкі, колькі з’ясі. Але Манька — дзяўчынка сціплая і разумная: не хапае прагна тых цукерак, а есць спакойна, паводзіць сябе годна. Ёй і таго дастаткова, што на стол паставілі, хапіла б месца ў страўніку. А яшчэ дзяўчынка ведае, што калі пасля доўгага недаядання наесціся адразу шмат, дык можна захварэць вельмі непрыемнай хваробаю. Калі яны жылі ў вёсцы, бабуля называла гэтую хваробу брудных дзіцячых рук вельмі смешна — «разлюзненне». Яна прымушала дзяцей, якія падхапілі гэтае «разлюзненне», у першую чаргу, памыць з дзёгцевым мылам рукі, а затым запарвала траву палыну горкага або суплоддзяў вольхі і паіла хворых пакуль тыя не паправяцца.

Пасля таго, як Кубаевы, нарэшце, сабраліся і паехалі, Манька задала дзяўчынкам заданне: намаляваць сад з яблынямі і грушамі, у садзе — дом з трубою, а над домам — сонца ў небе. Карацей кажучы — карціну. Яна пасадзіла Галю-Валю за стол у іх дзіцячым пакоі, паклала перад кожнай чысты аркуш паперы, а пасярэдзіне стала — пачак каляровых алоўкаў і загадала:

— Малюйце ціха, я хутка ўсё зраблю, што ваша мама прасіла, прыйду і буду вызначаць, чый малюнак лепшы, зразумелі?

Дзяўчынкі згодна заківалі цёмнымі галоўкамі.

Праз хвілін дваццаць Манька справілася з усім, што павінна была зрабіць па просьбе цётачкі Тамары. Дадаткова паліла яшчэ і вазоны, а затым памыла рукі пахучым ружовым мылам і накіравалася да дзяцей. Тыя, высалапіўшы языкі, шчыравалі над малюнкамі.

— А я дом не ўмею маляваць, бачыш, які крывы і шырокі атрымліваецца, — надзьмула вусны малодшая Валечка.

— А ў мяне груша не выходзіць, — услед за сястрою паскардзілася старэйшая Галінка. — Ты нам намалюй!

І Манька, у якой да малявання не было якраз-такі аніякіх здольнасцей, чыркала нешта на паперы, тлумачачы здзіўленым дзяўчынкам, што гэта насамрэч, а сёстры заліваліся звонкім вясёлым смехам.

Потым яны з дзяўчаткамі наладзілі гульні. Спачатку ў хованкі, затым у «жмуркі», і, нарэшце, у самую любімую — «холадна-горача». Таму тры гадзіны прабеглі незаўважна.

Званок у дзверы вярнуў да рэальнасці, усе разам пабеглі адчыняць. Кубаевы з дзвюма вялікімі гаспадарчымі сумкамі вярнуліся з Ваўкавыска.

— Вазьмі, Маня, нясі на кухню і выгружай, — распарадзілася цётачка Тамара і паставіла сумкі на падлогу.

О, чаго там толькі не было! Пачкі з макаронамі, крупамі, палкі каўбас, закручанае ў паперу мяса, хлеб, батон, цукар, малако, смятана і нават… апельсіны. Манька аблізнула вусны: «Вось бы мне адзін!»

У кухню ўвайшла цётачка Тамара. Яна паспела пераапрануцца ў свой байкавы сіне-блакітны халат з атласнымі каўняром і паскам.

— Ну, усё, дарагая, дзякуй табе за тое, што паслухала, дапамагла.

Жанчына дастала з кішэні некалькі манет і падала іх Маньцы.

— Гэта табе за працу…

І Манька пайшла. На лесвіцы разгарнула далонь, у якой сціскала грошы. Трыццаць капеек! Іншая згарэла б з сораму ад знявагі, ад крыўды, ад… ад… А Манька адно ціха пасміхнулася, сціснула кулачок з дробяззю і радасна паскакала па драўляных чырвоных прыступках уніз, у сваю кватэру.

«І гэта добра, на дарозе не валяюцца! У суботу на танцы ў Рось будзе за што схадзіць. Вось толькі пантофлікі чорныя на шпільках у цётачкі Тамары пазычу, і схаджу. Так што, жывём!»

## 5

Ішоў час. Міналі дні, а пра Марысю і Антаніну нібыта забыліся. Кожны дзень падчас ранішняга агляду хворых доктар Віктар Сяргеевіч абяцаў:

— Чакайце, жанчынкі, чакайце, хутка і да вас чарга дойдзе. Перагрузка, разумееце, цяжкіх шмат, як ніколі…

І яны, паабураўшыся крыху, чакалі. І чакаць ім было даволі лёгка. Часам забывалі нават, што яны ў бальніцы. Па-першае, ніякіх працэдур і лекаў ім не прызначалі. Аднойчы толькі прынесла медсястра нанач па нейкай малюсенькай белай таблетачцы і загадала абавязкова выпіць: гэта, — каб лепш спалі. А раніцай пасля той таблеткі ў Антаніны з’явілася чырвоная высыпка на каленях і локцях — алергія! А Марыся пачала засынаць не ноччу, а днём. Адмовіліся жанчыны ад гэтакіх лекаў назаўтра ж.

Па-другое, Марыся з Тоняй не маглі нарадавацца сустрэчы і нагаварыцца. Яны ўспаміналі дзяцінства, школьныя гады, сваіх сясцёр і братоў, настаўнікаў і аднагодкаў, розныя мерапрыемствы і выпадкі, якія з імі здараліся. Бальнічныя вечары ў палаце № 7 ператварыліся ў вечары ўспамінаў. Усяго хапала ў такія вечары: і сумных, са слязьмі на вачах, Марысіных аповедаў пра яе галоднае дзяцінства, неверагодную галечу і нястачу, і пра тое, як яна імкнулася выжыць і не стаць горшай за іншых, як цягнулася за Тоняй і іншымі аднакласніцамі, каб добра вучыцца, і як, зачыніўшыся ў кладоўцы ці схаваўшыся пад коўдру на ложку, плакала ад бяссілля. Дзіця, яна разумела, што нічога не можа змяніць у сваім жыцці і хоць у нечым дапамагчы сям’і. Успамінала і пра тое, як ёй вельмі хацелася мець новыя пантофлікі, свае, уласныя, каб хадзіць на танцы ў Рось, а не прасіць кожны раз, прыніжацца, у цётачкі Тамары. У сясцёр жа не папросіш, у іх ногі вялікія. А ў Манькі — трыццаць чацвёрты памер, якраз як у Кубаевай. Ды і ці далі б сёстры?..

Жанчыны — суседкі па палаце — вельмі ўважліва слухалі Марысіны і Антанініны аповеды-ўспаміны. Здавалася, жанчыны нават ружавелі і весялелі, калі слухалі пра што гавораць сяброўкі, чакалі працягу. Перад «ціхай гадзінай» нехта з жанчын абавязкова пытаўся, як быццам нагадваючы Марысі і Мані:

— Ну, артысткі нашы, сёння пра што нам будзеце баіць?

— Ат, можа ўжо сёння памаўчым, а то сваёй балбатнёй не даём вам адпачываць, — як бы прасіла прабачэння Антаніна.

— О, у нас ёсць пра што расказаць. Я маю на ўвазе, нашаму пакаленню! — адгукалася імгненна Марыся. — Я сваім сынам магу цэлымі днямі расказваць пра сваё жыццё, ды ўсё новыя эпізоды. А яны што раскажуць сваім дзецям? Што ўспомняць?.. Як за камп’ютарамі суткамі сядзелі і ўсялякую бязглуздзіцу там чыталі? Ці на школьныя вечары ў джынсах і майках хадзілі ды «стаячыя» танцы танцавалі, або скакалі, як вар’яты, вакол скінутых у кучу заплечнікаў? Або як дзяўчаты з хлопцамі ў адну прыбіральню бегалі, ці як пасля кожнага

танца, успацелыя і распранутыя, выходзілі на ганак, каб цыгарэту адно ў аднаго «стрэльнуць» і піва за вуглом нахлябтацца?..

Жанчыны падтаквалі і згодна хіталі галовамі.

— Не дзіва, што цяпер сем'і гэтак развальваюцца, — уступіла ў размову Ніна. — Я па сваіх хлопцах мяркую. — «Нашто мне жаніцца, маці? — здзіўляецца кожны раз малодшы мой, калі я яму пра жаніцьбу пачынаю нагадваць, маўляў, унукаў хачу пагушкаць. — Я ўжо з пятнаццаці гадоў «жанаты», і ўсе «радасці» вашага сямейнага жыцця даўно спазнаў! Дзеўкі ж цяпер, адно міргні, самі ў ложак лезуць!»

— О, гэта дык чыстая праўда, — не сцярпела, каб не ўставіць сваё слова, ужо сяк-так ачуняўшая аднарукая Міхайлаўна. — Мы во за сваю ўнучку гэтак баімосо, перажываем, каб хаця не ўляпалася ў якога п'яніцу! Цяпер жа хлапцы ўсе п'юць! На піве гэтым, нібыта свет клінам сышоўся…

— Ага, і дзеўкі добра цягнуць, і не толькі піва, — падала голас са свайго ложка ля акна маладая жанчына Ірына, якую паклалі ў палату дзень таму. — Я ў школе працую прыбіральшчыцай і ведаю, што там дзеецца. За сваіх дзяцей, часам, страшна робіцца, а іх у мяне трое. Пакуль малыя, не пускаю нікуды, каля сябе трымаю, добраму ўсяму вучу. Але ж хутка не ўтрымаеш — растуць!

— Так, а там вуліца іх хутка перавучыць, што, дзе і па чым — падкажа, — сумна канстатавала Марыся. — У цяперашніх дзяцей, не ва ўсіх, вядома, але ў большасці, няма нават двара — такога двара дзяцінства, які быў у нас. А калі і ёсць, дык у гэтым двары ўсе адзін аднаму чужыя. Рэдка хто ў кватэру пускае сяброў сваіх дзяцей, замкнуліся людзі, амаль як на Захадзе. Там, кажуць, жывуць па-прынцыпе: мой дом — мая крэпасць. У госці і так, на пасядухі, напрыклад, сусед да суседа не ходзіць, не прынята ў іх.

— Не тое, што ў нас некалі, праўда, Марыся? — перапыніла сяброўку Антаніна. — Дзверы на ноч не зачынялі часам, а ўдзень дык, наогул, моды ніхто не меў…

— А, канчайце, бабы, гэтую бясконцую размову. Тое, пра што гаворым, мабыць, проста так не вырашыць. І наогул, мы тут ні да чаго не дагаворымся! Расхвалюемся адно, а нам гэта нельга, — перабівала звычайна такія філасофскія развагі жанчын Ніна. Яна таксама ўжо адчувала сябе значна лепей пасля аперацыі, якую ёй зрабілі на зобе. — Давайце пагаворым пра што весялейшае. Марыся, Тоня, вы ў нас такія красамоўніцы!

— Ну, добра, — падахвоцілася нястомная Марыся, якая зайздросна хутка ўмела пераключацца з сумнай хвалі на вясёлую. Па зіхоткіх вачах жанчыны было відаць, што кампліменты ёй даспадобы. — Тады слухайце, як аднойчы матуля паслала мяне занесці тату на працу абед, — пачала Марыся і ўсміхнулася.

Жанчыны зручней уладкаваліся на сваіх ложках і таксама настроіліся на жартоўны лад.

— Тата мой машыністам паравоза працаваў і на абед ніколі не прыходзіў, але заўсёды браў «ссабойку». А ў той дзень, мусіць, не было чаго ўзяць, і мама напякла бульбяных аладак. Паклала ў торбачку хлеб, закруціла ў ручнік міску з аладкамі, гарбаты слоічак уставіла і адправіла мяне, сказаўшы: «Глядзі толькі нікуды не заходзь, нідзе не спыняйся, бо я цябе ведаю!»

А я што, дурная? Не. Я — вечна галодная. Пахнуць тыя аладкі — думаць ні пра што не даюць. Смокча ў мяне пад лыжачкай смактун, слінкі цякуць… Дайшла я да паварота ў паравознае дэпо, сышла на абочыну, села на пасыпаную белым цэментным пылам траву, паставіла на калені торбачку з гара-

чымі свежымі аладкамі і з’ела ўвесь татаў абед. Гэтак уплятала, што ажно за вушамі трашчала! А затым паднялася і падалася дахаты, бессаромная гэтакая. Але ў дом не адразу заходзіла. Кінула пустую торбачку пад куст каля пад’езда, а сама на дзіцячую пляцоўку пабегла. А там — арэлі, лапта, бэркі і — да цямна. Нават ні разу не ўзгадала пра тое, што начаўпла… От, тады мне ад мамы ўляцела! Лупіла і па плячах, і па задніцы, і па галаве, не шкадуючы. Праўда, ручніком біла. А я ж яшчэ ёй назло выкручвалася, як змяя, паддзыгала і агрызалася: «А мне не баліць, а мне не баліць!» і гэтым падахвочвала матулю яшчэ больш мяне лупцаваць. Во, як было… Цяпер дык смешна, а тады…

Жанчыны весела, наколькі маглі ў тым стане, у якім былі, смяяліся. Яны з захапленнем сачылі за мімікай, жэстамі і зменлівымі інтанацыямі голасу агульнай любіміцы: каб хаця не прапусціць ніводнага слова! А Марыся — гумарыстка з маленства, акцёрка, яна не натурыцца спецыяльна, штучна — уся жывая і шчырая.

— Марыся, раскажы яшчэ, як цябе Бадзёніха наняла козы пасвіць, — нагадала вясёлы выпадак з дзіцячага жыцця сяброўкі Антаніна.

— Ага, так. Было ў мяне такое. Пагнала я тыя козы (іх у цёткі Бадзёніхі аж пяць было) на выган за пасёлак. Туды, памятаеш, Тоня, пад лясок за Красанасельскім стадыёнам, паблізу дарогі, што вядзе на Подрась, Ваўкавыск… Цяпер за гэтым ляском лецішчы нашых краснасельцаў. А Бадзёніха мне заўсёды сняданак з сабою давала. Ну, я прыгнала козы, села на камень, адразу той сняданак з’ела і дамоў пайшла. А што мне яшчэ там было рабіць? — засмяялася Марыся сваёй дзіцячай наіўнасці. — А козы тыя вечарам аж пад Ваўкавыскам палавілі!

— Во, якая пастушка! — пасміхаючыся, сказала бабуля з крыжыкамі.

— А што ж, акрамя таго, што малая і неразумная, дык яшчэ ж і заўсёды галодная! — перайшла Марыся да сваёй «фішкавай» тэмы. Але раскруціць яе не паспела: дзверы палаты нечакана рэзка адчыніліся і ў праёме з’явіўся малады, складны і даволі прыгожы мужчына. Хворыя, як адна, павярнулі галовы ў яго бок.

— Мама, хадзем выйдзем! — камандзірскім тонам прамовіў ён і, хітнуўшы чорным чубам у бок калідора, імгненна знік.

— Гэта мой Дзімка, Тоня, — да мяне, — уздымаючыся з ложка, паведаміла Марыся сяброўцы і накіравалася на сустрэчу з сынам.

Жанчыны пырснулі смехам.

— Быццам з танцаў за вугал свайго саперніка выклікае, каб з-за дзяўчыны якой адзін аднаму морду набіць! — сказала маладзейшая за ўсіх у палаце Ірына.

— Занадта ўжо рухавы і ваяўнічы, казала Марыся, — дадала Міхайлаўна. — І гарэлку любіць, каб на яе ліхаманка!

— А знешнасць якая, заўважылі? Выкапаны расійскі артыст Аляксандр Дамагараў! — падзівілася Антаніна, якая ўпершыню бачыла сына сваёй школьнай сяброўкі.

Марыся вярнулася ў палату літаральна праз некалькі хвілін з пакункам бананаў і пачкам соку. Пасміхаючыся, адказала на зацікаўленыя позіркі суседак па няшчасці:

— Сказаў: «Ляжы, мама, усё ў нас добра. Варым самі і ямо самі».

— Ну, вось бачыш, і ляжы! — узрадавалася за Марысю Антаніна.

— Ага, добра ў іх… Гэта таму, што Дзімка цяпер не ў запоі, а то не ўлежала б я тут, даражэнькая… Дзякуй богу, што ў цябе хоць усё добра склалася

ў жыцці, — перавяла Марыся размову на Тоніну асобу. — Каб вы бачылі, бабачкі, які ў яе муж, якая яны прыгожая пара, як ён яе кахае! Яны ж усюды — толькі разам. А дзеткі якія цудоўныя: дачушка і сын, і ўнукаў ужо двое. Усе павывучваліся, пасады добрыя займелі, кватэры пабудавалі свае… Хоць табе, сяброўвачка мая, Бог долю добрую даў! Ты заслугоўваеш — лепш за ўсіх у класе вучылася, хаця зубрылкай не была. Мы ўсе ў яе матэматыку спісвалі, а яна і не шкадавала нам. А калі падлеткамі былі і першыя ўжо сімпатыі пачалі праяўляцца, дык усе хлопцы ў Тоньку ўлюбляліся, нават тыя, што да бабуль на канікулы прыязджалі з другіх гарадоў!.. Ты ў іншай сям'і вырасла, а гэта вельмі шмат значыць, таму і адукацыю належную атрымала, і лёс табе спрыяе. Як падумаю часам: «Каб нас вучылі, як належыць, гэта ж якія б з нас людзі вялікія атрымацца маглі б! Мы ж усе такія здольныя былі, хоць і розныя». Дзякуй богу, шчыра кажу, — я за цябе вельмі рада. І ведай, што мы, твае аднакласнікі, табою ганарымся!

— Ну, ты і прамоўца, Марыська! — хацела перапыніць расчуленую сяброўку Антаніна. — Што ты такое гаворыш? Не памятаю я нічога гэтага.

Але Марыся працягвала:

— А што не гэтак? Я ўсё пра цябе ведаю, у курсе, хаця мы і не сустракаліся сорак гадоў. Адно толькі здзіўляе: як ты магла такой злой хваробай захварэць?

— Ну, напэўна, і ў маім жыцці не ўсё так гладка, як іншым падаецца, — хацела было прымусіць сяброўку задумацца Антаніна, але тая не слухала яе.

— Усё ў нас, бабачкі, будзе добра, я дык ні на момант не сумняваюся! Хаджу цэлымі днямі, пазіраю на сваю гульку на пальчыку і паўтараю бясконца — кадзірую сябе: «Пальчык мой здаровы, усё ў мяне добра, я думаю толькі пра дасканаласць, імкнуся толькі да дасканаласці, таму што я — сама дасканаласць!» Так трэба гаварыць. І ў цябе, Тоня, усё павінна быць нармальна, я адчуваю. Падумаеш, радзімка!

Антаніна прамаўчала, таму што не магла аспрэчваць Марысіну шчырую ўпэўненасць і наіўнае нежаданне нават выслухаць яе, некалі сваю самую блізкую сяброўку. Яны ж не бачыліся сорак гадоў, а за гэты час магло здарыцца немаведама што! Магчыма, Марыся не хоча руйнаваць мінулае, або ведае пра Антаніну ўсё, але баіцца пачуць пацвярджэнне іншай праўды і згубіць назаўсёды выявы неверагодна ідэалізаванага, казачнага дзяцінства, той далёкай і незваротнай пары, у якой і яна, бедная маленькая дзяўчынка, пазбаўленая самага дарагога і неабходнага — звычайнай матулінай пяшчоты і любові, была, насамрэч, шчаслівай. Антаніна разумела, што не мае права сцерці светлыя вобразы мінулага з Марысінай памяці.

## 6

Гады бягуць хутка не толькі тады, калі чалавек старэе. Вось ужо і Манька дзясяты клас канчае.

Сям'я значна паменшылася. Старэйшыя сёстры — Ніна і Клава — пайшлі замуж, атрымалі пакоі ў інтэрнаце і перасяліліся туды. Брат Мікалай, адслужыўшы тры гады на Балтыйскім флоце, вярнуўся дахаты толькі на месяц, у адпачынак, а затым з'ехаў у Ваўкавыск — бліжэйшы раённы цэнтр, уладкаваўся на працу на ліцейны завод і там меркаваў застацца жыць.

Вяртанне Мікалая з арміі стала сапраўднай падзеяй у жыцці сям'і. Марак прывёз поўны чамадан падарункаў. Паставіў чамадан на стол, які стаяў

пасярэдзіне самага вялікага пакоя, адчыніў яго і, хвалюючыся, напэўна ад таго, што рабіў гэта ўпершыню, пачаў дставаць розныя пакункі і адорваць імі кожнага члена сям'і. Нікога не мінуў. Манька вельмі хвалявалася, і калі чарга дайшла да яе, і брат усунуў ёй у рукі адрэз квяцістага крэп-маракену на сукенку, дзяўчына не стрымалася і заплакала. Мікалай бадзёра абняў сястру і весела прамовіў:

— Не плач, Марыська, усё ж добра! Лепш бяжы да Бодзічыхі, няхай яна вам з Валькай сукенкі пашые. Ды толькі самые модныя, чуеш!

Мікалай вылучаўся з астатніх дзяцей асаблівым пачуццём гумару, лёгкім норавам і сардэчнасцю. У гэтым яны з Манькай былі падобныя. Не аднойчы разважала дзяўчына пра тое, што калі б Мікалаю было за кім вучыцца, каб не галеча ў іх сям'і, брат мог бы стаць прафесійным танцорам і танцаваць у якім-небудзь народным харэаграфічным ансамблі або кіраваць ім. Мікалай і ў школьным ансамблі танца лічыўся лепшым танцорам. Ва ўсіх канцэртах удзельнічаў, якія адбываліся ў заводскім клубе, на раённыя і абласныя агляды мастацкай самадзейнасці ездзіў. У арміі брат таксама танцаваў і, калі вярнуўся, такое матроскае «Яблычка» аднойчы збацаў, што родныя ў здзіўленні паадкрывалі раты. А малодшыя дзеці ўвесь час прасілі Мікалая паўтарыць танец для каго-небудзь са сваіх сяброў: ім вельмі хацелася пахваліцца таленавітым братам.

Другі Маньчын брат Аляксандр, якога ў сям'і называлі Шурыкам, змалку вучыўся і жыў у інтэрнаце. Пасля васьмігодкі паступіў у Гродзенскае радыётэхнічнае вучылішча. Пасля і на працу яго размеркавалі на адзін з гродзенскіх заводаў, там, у горадзе, ён і застаўся.

Яшчэ адзін брат, Валодзя, таксама са школьных гадоў не жыў дома. Яго «ўсынавіў» музычны полк Ваўкавыскага вайсковага гарнізона, таму што ў хлопца выявіліся цудоўныя музычныя здольнасці. Валодзя граў у палкавым духавым аркестры на габоі, наведваў музычную школу. На выхадныя часам прыязджаў да бацькоў у Краснасельскі. Хлопца так і называлі — сын палка. Скончыўшы школу, Валодзя паступіў у Гродзенскае музычнае вучылішча на аддзяленне «народныя інструменты» па класе баяна. Так што, бяднейшы — канечне не дурнейшы. Нягледзячы на складаныя ўмовы жыцця, дзеці ў сям'і Міхалькоў выраслі не толькі жыццяздольнымі, але і творчымі людзьмі.

Акрамя Манькі ў доме засталіся яшчэ малодшыя Валька і Мішык. Жыць стала лягчэй, і есці амаль хапала. Тым больш, што канчаліся багатыя шасцідзясятыя.

Манька рыхтавалася да школьных выпускных экзаменаў і да паступлення ў інстытут. Але не гэта хвалявала дзяўчыну найбольш, а выпускны вечар. Дзяўчаты ў класе абмяркоўвалі гэтую важную падзею кожны дзень, чакалі выпускнога балю, як немаведама якога чароўнага свята ў сваім маладым жыцці. Сукенкі, прычоскі, макіяж (упершыню ж будзе дазволена нафарбавацца не хаваючыся!), туфлі, іх фасоны і колеры — пра ўсё гэта толькі і гаварылі выпускніцы.

Марыся не ўдзельнічала ў гэтых шумных і радасных размовах. І чым бліжэй быў выпускны вечар, тым часцей дзяўчыну ахоплівала роспач: «У чым я пайду? Ні сукенкі, ні пантофляў!» Бывала, што і плакала па начах: «Не пайду я на выпускны баль, не суджана».

Лёс вырашыў па-свойму і паставіў перад дзяўчынай больш трагічную перашкоду.

Нечакана захварэла маці. Боль у галаве — злегла ў ложак. Такога сям’я не памятала. Ну, балела ў матулі галава час ад часу, а ў каго яна не баліць? Ну, крычала, лямантавала матуля на іх, дзяцей, не сціхаючы, а хто не крычыць і не лаецца? Яны ж таксама добрыя цацы! А тут матулі зрабілася настолькі дрэнна, што тата выклікаў доктара з Краснасельскай паліклінікі. Матулю паклалі ў бальніцу, правялі, нарэшце, поўнае абследаванне і паставілі жудасны дыягназ: пухліна галаўнога мозгу. Затым адправілі Маньчыну матулю на аперацыю ў Гродна, але было вельмі позна.

Толькі цяпер стала зразумела, што лаяла і праклінала сваіх дзяцей, не стрымліваючыся, матуля не таму, што ненавідзела і не любіла іх. Хвароба яе гэтага вымагала.

Пахавалі Маньчыну матулю першага мая. Малога брата Мішыка адразу аформілі ў інтэрнат. Валька, на два гады малодшая за Маньку, скончыла якраз восьмы клас і паступіла ў Баранавіцкі дывановы тэхнікум. Здала выпускныя экзамены і Манька, і ў Гродна паехала — у гандлёва-эканамічны тэхнікум паступіла на кантралёра прадуктовых тавараў. Як і марыла. Але гэта было потым.

А зараз Манька хадзіла, як у ваду апушчаная. Сям’я развалілася. Бацька адно працуе і п’е, да іх, дзяцей, ніякага дачынення не мае. Хлопцы-браты прыязджаць перасталі: чаго і да каго? Пуста без мамы, холадна і самотна. Здаць бы толькі экзамены і з’ехаць адсюль, каб вочы не бачылі, каб на ўсе пакуты забыцца. Думка пра выпускны баль знікла з яе галавы сама.

Але свет не без добрых людзей. Зноў, як і тады, калі хавалі матулю, на дапамогу прыйшоў заводскі камітэт і цудоўная цётачка Тамара Кубаева. Аднойчы вечарам, калі Манька вучыла білеты па гісторыі ў іх з Валькай пакоі, расклаўшы падручнікі і канспекты па ўсім сваім ложку (таму што Валька перайшла спаць на Мішыкаў), у дзверы пастукалі. Парог пераступіла суседка з другога паверха цётачка Іра Халецкая, муж якой працаваў старшынёй заводскога камітэта.

— Тут такая справа, Марыся, — мякка пачала размову жанчына, — Уладзімір Сцяпанавіч перадаў табе грошы. Заўкам вырашыў выдзеліць табе на выпускны. — І яна працягнула збянтэжанай дзяўчыне белы канверт з грашыма.

— Дзякуй, цётачка Іра, — апусціўшы чорныя густыя павейкі і ўзрадаваўшыся, падзякавала дзяўчына. — Толькі я не магу пайсці на выпускны, мама ж…

— Можаш, можаш, дзетка, — перапыніла яе суседка. — Выпускны адбудзецца ў канцы чэрвеня, сорак дзён па маме ўжо міне, так што бяры грошы і шукай тканіну на сукенку, купляй туфлі і ўсё, што неабходна.

Манька была ўзрушана. У галаве адразу замільгалі вобразы святочных прыбраных аднакласніц, сярод якіх і яна — не горшая. Дзяўчына збегала да цётачкі Тамары, якая пасля смерці Маньчынай маці цалкам апекавала сірату, і падзялілася з ёю нечаканай навіной.

— Вось і добра, у бліжэйшую нядзелю з’ездзім на рынак у Рось і купім табе ўсё, што трэба, — паабяцала жанчына.

Так і сталася. Праўда, грошай заўкамаўскіх хапіла на белую бліскучую тканіну і адну пантофлю. Адчуўшы, як настрой у Манькі сапсаваўся, цётачка Тамара весела засмяялася:

— Не плач, дзяўчына, я дадам, калі не хапае. Ты павінна быць прынцэсай у гэты дзень!

Сукенку пашыла краўчыха Залушчыха, добрая знаёмая цётачкі Тамары. Прычоскі на галаве яны змайстравалі разам з Тоняй самі, напрышчапляўшы ў валасы маленькіх штучных белых кветачак. А самыя прыгожыя і стылёвыя туфлі, як прызналі ўсе выпускніцы іх класа, былі ў Марысі!

## 7

Антаніне зрабілі аперацыю на восьмыя суткі пасля таго, як яна паступіла ў аддзяленне. За ўвесь гэты час жанчыну ніхто не прыйшоў праведаць. Калі Марыся, ды і суседкі па палаце пацікавіліся ў Антаніны чаму так, яна развaжліва патлумачыла:

— Не хачу я, каб хто ведаў пра маю хваробу, забараніла, каб хадзілі… Потым, можа, пасля аперацыі, а цяпер, чаго?..

Але і пасля аперацыі да яе ніхто не прыйшоў. Муж, праўда, патэлефанаваў аднойчы на мабільны, спытаў, чаго прынесці, але Антаніна, ледзьве ачуняўшая ад наркозу, катэгарычна адмовіла:

— Ты ўжо ўсё зрабіў для мяне, што мог. Нічога не трэба. І паклала трубку.

За Антанінай назірала Марыся. Яна кінулася была з усёй сваёй душэўнай шчодрасцю выходжваць сяброўку-аднакласніцу, але тая не дазволіла ёй гэтага рабіць.

— Дзякуй, Марысечка, я сама спраўлюся, я — прывыклая.

Сапраўды, у параўнанні з іншымі жанчынамі ў палаце, яе захворванне лічылася лёгкім, і Антаніна хутка выздараўлівала. Марыся шчыра радавалася за сяброўку. Але час ад часу ходзячы ў задуменні між ложкамі, паўтарала:

— Нічога, вось паглядзіш, усё ў нас будзе добра. Я ўпэўнена, што нічога дрэннага на маім пальчыку няма. Толькі чаму ж яны, заразы, мяне не бяруць на аперацыю? Колькі можна тут без толку сядзець? Аперацыі тае — на пяць хвілін адно: адшчыкнуць гэты сіні балонік і забінтаваць!..

Нарэшце, на адзінаццаты дзень, недзе каля полудня ў палату ўвайшла медсястра і папярэдзіла, каб Марыся не вячэрала сёння, а заўтра не снедала — рыхтавалася да аперацыі.

— Ура-а-а! — радасна залямантавала жанчына, — дачакалася і я свайго зорнага часу!

Назаўтра апоўдні Марысю паклікалі ў працэдурны кабінет, які знаходзіўся побач з іх палатаю, і зрабілі ёй аперацыю. Аперацыя працягвалася, як і прагназавала Марыся, не доўга, пятнаццаць хвілін.

— Божа літасцівы, а колькі ж трымалі чалавека, задарма кармілі, навошта? — казалі жанчыны, калі Марыся, вясёлая і шчаслівая, быццам нічога сур’ёзнага з ёй не адбылося, вярнулася ў палату.

— Во, зірніце, адсеклі адно гульку маю і забінтавалі, — паказваючы руку з забінтаваным пальцам, пасміхалася Марыся, накіроўваючыся да свайго ложка і збіраючыся класціся.

— І ты ўсю аперацыю бачыла? — жахнулася, ажно здрыганулася, Антаніна.

— А як жа! Мне ж пад мясцовай замарозкаю рабілі… Нічога страшнага няма! Усё добра будзе.

Цяпер у палаце былі прааперыраваныя ўсе жанчыны. Антаніна і Марыся, як і астатнія, пачалі чакаць вынікаў аналізаў. Ад гэтых вынікаў залежала далейшае жыццё.

Прайшло яшчэ некалькм дзён. Марыся, упэўненая, што і ў яе, і ва ўсіх жанчын палаты аналізы будуць адмоўныя, гэта значыць, добрыя, не сумавала, а калі і хвалявалася крыху, ды і, напэўна, хвалявалася, дык не паказвала выгляду. Яна, па-ранейшаму, была бадзёрая і энергічная, добра ела і спала, ахвотна хадзіла на перавязкі, яшчэ вастрэй жартавала.

— Ой, Марыся, спыніся! — прасілі жанчыны калі-нікалі. — Можа, і не вельмі добра гэтак шмат смяяцца і жартаваць? Мы ж вунь у якім аддзяленні ляжым…

— Вы што, бабачкі, наадварот! Вы, хіба не ведаеце пра карысць смеху? Дык я вам раскажу!.. Амерыканскія вучоныя даследавалі, што смех уздзейнічае на арганізм чалавека гэтак сама, як фізічныя практыкаванні. А мы — усе ляжачыя, і не можам фізкультурай займацца. Таму трэба смяяцца. Смех стымулюе працу імуннай і нервовай сістэм, супакойвае боль, здымае стрэс, нават паляпшае працу страўніка, во як! Пасмяяцца — тое самае, што ёгаўскую дыхальную гімнастыку зрабіць. Галоўнае тое, што стрэс пасняхова здымаецца станоўчымі эмоцыямі, таму што тады ў нашых залозах унутранай сакрэцыі выпрацоўваюцца асаблівыя рэчывы — антыстрэсары.

Марыся гаварыла вельмі пераканаўча і прыводзіла ў якасці доказаў шматлікія факты і прыклады, вядомыя ёй.

— Дарэчы, — працягвала яна, — смех лічыцца паказчыкам душэўнага і фізічнага здароўя. Калі чалавек не ўмее жартаваць — гэта паўбяды, а калі ён не ўмее смяяцца — гэта ўжо трывожны званочак, які сведчыць пра тое, што чалавек знаходзіцца ў стрэсе, ён — хворы. Так што, бабачкі, давайце смяяцца, усміхацца, спадзявацца на добрае, таму што гэта нам толькі на карысць! І асабліва тут, у нашым стане. Аналізы будуць лепшыя, чаго вы?!.

— Але ты, Марыся, малайчына! — неяк пахваліла сяброўку Антаніна. — Я так не магу. Мяне заўсёды нейкі жук точыць.

— А мяне, Тонечка, жыццё вымушае смяяцца, таму што слёзы свае я раней выплакала, — нагадала ізноў сяброўка. — Я, Тоня, каб не гумар, даўно б у магіле была. На адным аптымізме ўсю дарогу і еду. І табе, даражэнькая, раю.

Яшчэ праз некалькі дзён Антаніну і Марысю выпісалі.

— Праз пяць-шэсць дзён патэлефануеце і даведаецеся пра вынікі аналізаў, — патлумачыў доктар, які іх лячыў. — А цяпер — дахаты, жанчынкі, з Богам.

Марыся патэлефанавала Тоні праз тры дні і радасна паведаміла, што ў яе ўсё добра, адказ адмоўны — анкалогіі няма.

— І ты не хвалюйся, прыгажуня мая, разумніца, я адчуваю, што і ты здаровая. Падумаеш, нейкая радзімка!

Праз пяць дзён і Антаніна пайшла да Віктара Сяргеевіча, іх доктара. Яна павінна была з'явіцца ў аддзяленне на перавязкі. Доўга чакала яго з аперацыі, не дачакалася і вырашыла зазірнуць у кабінет да загадчыка аддзялення. Алесь Паўлавіч Яршэвіч, цудоўны доктар і прыгожы чалавек — так пра яго адгукаліся хворыя — сядзеў за сталом.

— Прабачце, калі ласка, Вы не маглі б мае аналізы паглядзець? Мой доктар на аперацыі, і я яго ўжо даволі доўга чакаю, — папрасіла жанчына.

— Чаму не? — пагадзіўся загадчык і пачаў адкрываць неабходную інфармацыю ў камп'ютары.

— Ну, што, — уважліва зірнуў на Антаніну, — а можа, усё ж такі да свайго доктара падыдзеце, ён вам усё раскажа. Патлумачыць…

У грудзях Антаніны як быццам штосьці абарвалася, на вочы імгненна навярнуліся слёзы.

— Кажыце, Алесь Паўлавіч, я сама ўсё ведаю…

— Ну, і што Вы ведаеце? — не пазіраючы на жанчыну, спакойна спытаў доктар, нібы падрыхтоўваючы яе да непрыемнай навіны.

— У мяне — анкалогія, але ў аналізах не шмат ракавых клетак, так? — запытліва ўзіраючыся ў вочы доктару, хутка прамовіла Антаніна.

— Так. Вам трэба сцерагчыся… Сонца — Ваш вораг…

— Мой вораг — маё жыццё, — ціха прамовіла Антаніна і павярнулася, каб пакінуць кабінет загадчыка.

— Дзеці? — спыніў яе пытаннем доктар.

— Ды не, дзеці ў парадку… Здрада ў мяне і крыўда вялікая, Алесь Паўлавіч, — выдыхнула жанчына, і голас яе задрыжэў.

Антаніна не адважылася патэлефанаваць Марысі адразу. Пазірала на тэлефон, здымала трубку і клала яе на месца. Што яна ёй скажа? Як такое вытрываць?!

А калі Марыся, не дачакаўшыся званка ад Тоні, патэлефанавала ёй сама, тая, сабраўшы нервы ў тугі балючы камяк, як мага спакойна адказала:

— Ну, усё, Марыся, і мяне, здаецца, пранясло: адмоўны аналіз, сёння толькі даведалася.

Рашэнне прыйшло імгненна: Антаніна будзе казаць, што ўсё скончылася добра. Нават сваім дзецям. А тым больш, Марысі. Няхай застаецца яна, Тоня, ва ўяўленнях сяброўкі і ўсіх сваіх аднакласнікаў такой, як была заўсёды, калі што якое. Няхай думаюць, што яна, па-ранейшаму, самая прыгожая, самая шчаслівая, самая здаровая, а галоўнае, — самая каханая і жаданая жанчына ў свеце.





## Анатоль ЗЭКАЎ

### ПЕСНІ

Ці то на полі жыта жалі,
ці то зграбалі ў лузе сена, —
у вырай песні адпраўлялі
жанчыны круглы год нязменна.

А вечарам ля хаты нейчай,
было, рассядуцца суседкі
і песнямі прадоўжаць вечар,
што і без песень доўгі ўлетку.

А быў таму ён доўгі, можа,
што, песняй цемру адагнаўшы,
матыў выводзілі прыгожы
штовечар прабабулі нашы.

Здавалася, іх век не песціў
і не была бясхмарнай доля, —
а змалку з вывучанай песняй
не расставаліся ніколі.

---

***Зэкаў Анатоль Мікалаевіч*** *нарадзіўся 20 студзеня 1955 года ў вёсцы Патапаўка Буда-Кашалёўскага раёна. Пасля заканчэння гісторыка-філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1977) працаваў карэспандэнтам гомельскай раённай газеты «Маяк», у камсамольскіх арганізацыях, рэдакцыях газет «Чырвоная змена» і «Книга и мы». Рэдагаваў газету «Добры вечар», штотыднёвік «Сталіца» і «Беларускую лясную газету», быў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Вожык», рэдактарам аддзела прозы часопіса «Полымя». Цяпер — у часопісе «Вясёлка».*

*Выдаў кнігі паэзіі «Боль сумлення» (1989), «Аварыя сумлення» (1996), «Лісты да цябе» (2005), «Чарнобыльскі вецер» (2006), «Промнік позірку твайго» (2008), сатыры і гумару «Дуэль» (1994), «Дуэль-2» (1995), «Кругі ў галаве» (2007), «Каханне на снезе» (2011), прозы «Вясельнае падарожжа ў Стамбул» (2000), «Генеральскі нумар» (2011), для дзяцей «Чатыры зярняткі» (2000), «На арэхавым кані» (2003), «Мянтуз сярод мядуз» (2007), «Зязюля Гулюля» (2011).*

Над тым я думаю нязменна,
ды застаецца ўсё ж загадкай:
чаму не перадаўся генна
настрой іх песенны нашчадкам?

## СТАРАЯ ЯБЛЫНЯ

Старая яблыня глядзіць
на гэты свет,
дзе гам і грукат.
Яшчэ мой дзед яе садзіў,
а вось ласуюцца і ўнукі,
і нават праўнукі.
Яна
на ўсё глядзіць у задуменні,
і, мусіць, час — таму віна,
што пладаносіць стала меней.
Скубуць старэнькую вятры,
жыўцом галіны адрываюць,
і штось падточвае знутры...
Але ж яна яшчэ жывая!
Ды колькі век адмераў ёй
яшчэ стаяць у садзе гэтым,
таго, напэўна, і самой
старэнькай яблыні не ведаць...

## НА МАГІЛЕ МАЦІ

Вось ужо і мама на пагосце.
Смерць яе — як рана нажавая.
На пагост прыходжу,
нібы ў госці
прыязджаў,
калі была жывая.

І адно што цешаць успаміны
пра той час, калі яшчэ з матуляй
размаўляць мог доўгія гадзіны
і было мне хораша і ўтульна.

Я ж дахаты прыязджаў не часта,
справамі прывязаны ў сталіцы.
Эх, вярнуць бы зноў назад мне час той,
каб з матуляй мог нагаварыцца!

* * *

Сядзіць на ганку бацька й кошыкі
пляце — аж глянуць любата.
Вартуе куранят ад коршака
і ад суседскага ката.

А кураняты ўзбоч капошацца,
разбегшыся па мураве,
то пільна аглядаюць кошыкі,
нібы гняздо, дзе хтосьці жыве.

Хоць ні ката няма, ні коршака
наўсцяж, як бачны далягляд,
ды бацька за пляценнем кошыкаў
вачэй не зводзіць з куранят.

* * *

Ганяў падлеткам у начное
штовечар
з дзедам Грышкам коней,
і там, за далеччу рачною,
адлік пачаўшы ад сутоння,
мы аж да самага світання
ля вогнішча сядзелі з дзедам,
каб не спалохаць і дыханнем
ідылію начную лета.

## МОЙ ЛЕС

Мой сябар лес,
з табою поруч
я па жыцці іду заўсёды.
Ты і з душы здымаеш горыч,
і наталяеш асалодай.

Мой лес,
ці летам, ці вясною,
зімою сцюжнаю ці ўвосень
наяве ты і ў снах са мною
пад грай птушыны шматгалосы.

Гатовы біць табе паклоны,
бо ўдзячны без канца і краю,
што ты мяне святлом зялёным
яшчэ на ўзлеску сустракаеш.

Хоць сам жывеш не без турботаў,
хоць і самому зябка ўзімку,
гатовы ты
з лясной пяшчотай
прыняць мяне ў свае абдымкі.

Здаецца — велічны і строгі,
і, як зірнеш, — то нават важны,
а заблуджуся, дык дарогу
заўсёды мне дамоў пакажаш.

Адвеку ты жывеш па праўдзе,
не наракаючы на долю.
Ты не падманеш, і не здрадзіш,
і не схітрыш ні ў чым ніколі.

Мой лес,
спакойны і шумлівы,
табе клянуся я (ці чуеш?):
нібы пад зоркаю шчаслівай,
пад кронаю тваёй жыву я.

* * *

Жыву з надзеяй дачакацца
баравіковае пары,
каб потым ранкам прачынацца
і, з сонцам разам у бары
сустрэўшы дзень зіхотка-новы,
у час прасветлены такі
пад птушак спеўных пераховы
свае шукаць баравікі
і тым сябе, магчыма, цешыць
з хвіліны радаснай тае,
што ў лес прыйшоў я самы першы
і ўсе грыбы цяпер мае...

* * *

Калі ў прырэчныя лагчыны
туман на досвітку плыве, —
здаецца, з неба аблачыны
сышлі, каб вымыцца ў траве.

Нібыта прасціною белай
усцелюць поплаў спакваля —
і ўжо зусім незразумела,
дзе неба тут,
а дзе — зямля.

## ВЕЧАРОВАЕ

... А пара вечаровая
гэтак нас зачароўвае,
калі сонца як быццам
спаць за лесам садзіцца.

Але ж мы добра ведаем,
што няпраўда ўсё гэтае.
Хоць нам сонца не свеціць —
свеціць іншым на свеце.

## ВОСЕНЬСКІ НАСТРОЙ

Восень хмура пазірае,
прыглушыўшы птушак спевы.
Як на вогнішчы, палаюць
у самотным лесе дрэвы.

На палетках стала гола,
несціхана неба плача.
Нават, як раней, вясёлых
твараў
у людзей не бачыш.

## НЕПЕРСПЕКТЫЎНЫЯ ВЁСКІ

О, колькі іх,
неперспектыўных вёсак,
якім ад лёсу не схавацца ў прочках.
Яны даўно ўжо спісаны па ўзросце,
прапісаны трывала на пагосце,
куды іх жыхары сыходзяць моўчкі.

З зямлі знікаюць, з памяці няўдзячнай,
і вецер на прагалах хатніх вые,
і не чуваць тут галасоў дзіцячых,
хіба хаўтурна-памінальным плачам
і адгукнуцца вёскі, што жывыя.

Пакуль жывыя,
хоць і засталося
зусім нядоўга тут, пад небам, жыць ім.
І вестку сумную вятры разносяць,
і на зіму ўсур’ёз бярэцца восень —
і ледзь не кожны мкнецца іх пакрыўдзіць...

* * *

Магчыма, нешта пераменіцца
і стане даўнім і забытым,
на жорнах часу перамелецца
ды і прасеецца праз сіта.

Аднак, пакуль млын-час уключыцца,
што ўсё перамалоць павінны,
датуль, напэўна, буду мучыцца,
чакаючы тае хвіліны...

* * *

На суткі суткі так кладуцца,
нібы на дзежку абручы,
і не паспееш азірнуцца,
а ўжо і год пражыў, лічы.

Нібы за вокнамі вагона
за дрэвам дрэва мільгане,
так і мае гады да скону
усё хутчэй нясуць мяне.

Не спыніш іх, не прытармозіш,
бо ўжо такі жыцця расклад:
гады ляцяць па той дарозе,
што не вяртаецца назад.

* * *

Без крылаў вершаў не бывае.
Калі без крылаў — то не вершы.
Натхненне гэтак акрыляе,
што ты сабе ўжо не належыш.
Дарэмна думаеш, што вольны
і маеш тое, што жадаеш,
аднак натхненню падкантрольна
твая метафара любая,
і ты душой усёй залежыш
ад слова кожнага пры гэтым...
Без крылаў не бывае вершаў.
І тое ведаюць паэты.

## НА ПІСЬМЯНКОВЫМ ЛУЗЕ

***У дзень Магілёўскага абласнога свята паэзіі і аматарскай песні «Пісьмянкоў луг».***

На лузе Пісьмянковым —
паэзія і песня,
і музыка, і слова...
Шкада, што без Алеся.

Сабраў сяброў на лузе
Алесь у дзень прыгожы,
бо й сам служыў ён Музе
да хвілі
да апошняй.

Служыў аддана слову,
не знаючы спакою...
Над лугам Пісьмянковым,
над Бесяддзю-ракою

паэзія і песня,
бы пад крылом бусловым,
ляцяць у паднябессе
і клічуць Пісьмянкова...





Янка СІПАКОЎ

# МАЯ БІБЛІЯТЭКА

*Кніга пра кнігі*[1]
*Паліца другая. Аўтографы*

Іяе ж, Варварына, пісьмо да брата Буніна, да Юлія Аляксеевіча: «За последнее время особенно часты и резки стали наши ссоры с Ваней; сначала я сама придерживалась пословицы: «милые бранятся», и каждая наша ссора кончалась хорошим миром, теперь же эти ссоры участились, и мы, буквально, миримся для того, чтобы вновь поссориться». «Вам покажется странным, что я не поговорила с вами лично, это потому, что перед самым вашим приездом сюда Иван мне поклялся, что он будет верить мне, перестанет изыскивать предлоги для ссор… Я всему этому ещё раз поверила, но, конечно, напрасно: на другой же день мы поссорились, и поссорились серьёзно. Так длилось больше месяца; теперь я уже не верю ни его обещаниям, ни клятвам…

Поверьте мне, что я его очень люблю и ценю, как умного и хорошего человека, но жизни семейной, мирной у нас не будет никогда. Лучше, как мне ни тяжело, теперь нам разойтись, чем через год или полгода. Это, согласитесь, будет и труднее и тяжелее. Сама я не могу этого ему сказать, потому что достаточно мне принять серьёзный тон, чтобы у него явилось озлобление, он начинает кричать на меня, и дело кончается истерикой, как, например, вчера, когда он бросился на пол в каменных сенях и плакал, как в номерах «Тула», где он в порыве раздражения хотел броситься из окна. Всё это невыразимо угнетает меня, у меня пропадает и энергия, и силы…

Я вам уже говорила, что он не верит мне, а теперь прибавлю, что он и не уважает меня, а если и утверждает, то только на словах. Он мне толкует о моей неразвитости, — я знаю это сама, — но к чему же принимать такой холодный, обидный, саркастический тон?! Он говорит беспрестанно, что я принадлежу к пошлой среде, что у меня укоренились и дурные вкусы, привычки, — и это всё правда, но опять странно требовать, чтобы я их отбросила, как старые перчатки… Если бы вы знали как мне всё тяжело!»

А вось і сам Ваня. Таксама ў пісьме да брата Юлія:

«С Варей мы расходимся окончательно. Моё настроение таково, что у меня лицо как у мертвеца, полежавшего с полмесяца. Помоги же мне ради бога. Вот слушай. Я писал тебе, что мы ездили с ней к отцу; она осталась, была с ним, разговаривала и после меня и вернулась совсем больная и расстроеная с предложением, чтобы мы разъехались на год. Отец этого требует, хочет, чтобы мы сошлись только тогда, когда у меня будет определённое положение. Он плакал, просил её об этом, она дала ему слово, и стоит на этом предложении. Она

[1] Працяг. Пачатак у № 2, 3, 5, 6 2012 г.

говорит, чтобы я уезжал, нашел место, постарался найти и ей и через год мы съедемся. Я принять этого ни за что не могу. Я довольно ждал, я уже второй год слышу колебания, такое предложение оскорбительно мне донельзя, я не могу вследствии такого предложения верить, что она меня любит. Расставаться с любимым человеком ещё на год, когда уже дело тянется два года — это не любовь! Она, — я думаю, я убеждён, — сама боится, что я не буду работать, что у нас будет нужда… Но я этого не могу — я уже несколько раз сказал, что мы расстанемся, но только навсегда. Богом клянусь, это уж лучше!

Я наконец даже уступал, предлагал, что я согласен ждать совместной жизни, но буду жить в Орле, буду работать сперва в редакции, а потом в Управлении Орловско-Грязской дороги (которое переходит в Орёл и в котором обещают мне место), и будем жить так, как до сих пор жили — то есть она будет ходить ко мне. Но она и на это не согласна! Она говорит, что, исполняя желание отца, она не может сделать это… а если и согласится, то этакая жизнь, будет ей тяжела. Этакое хождение друг к другу в гости нам уже давало себя знать — это, действительно, тяжело, не удовлетворяет… Так вот она говорит, что ей будет и теперь также тяжело. Теперь я решительно не знаю, что делать, не знаю, чем уговаривать её, и … единственно что могу предложить — расход! Да, непременный!.. Она тоже проплакала вчера целый день. Что делать? Скажи? На такой компромисс я не пойду, ни за что! Чего она боится? Что изменится, если мы паселимся под одной кровлей? Ведь детей у нас не будет!»

Вялікую Айчынную вайну Бунін сустрэў у Францыі, у Грасе. Тут жа іх, эмігрантаў, як рускіх пачалі арыштоўваць, рабіць у іх вобыскі — Францыя, каб дагадзіць фашыстам, разарвала дыпламатычныя адносіны з СССР. Зураў у пісьме да Бабарэкі ад 4 красавіка 1962 года ўспамінаў пра той час:

«Во время оккупации немцы привезли в Грасс советских военнопленных, заставили их рубить лес и работать на хлебопекарнях. Это были солдаты, носившие ещё советскую форму (потом им немцы выдали американские комбинезоны защитного цвета), их доставили прямо из Гатчины. Их охраняли военные полицейские с собаками. Вначале их не отпускали с работ, но потом немцы разрешили им прогуливаться и вне лагеря так как пленные французского языка не знали и бежать из Грасса не могли. Вот эти солдаты (из Ленинграда, Москвы, Донецкого бассейна, Белоруссии, Украины) бывали у нас. В столовой Иван Алексеевич с жадностью слушал их рассказы. Они делились с нами чёрным хлебом, пели, слушали радио. Все они после освобождения Грасса уехали в Марсель к советскому полковнику Пастухову. Вернулись в СССР. Найдите этих людей. Они вам многое расскажут…

Было ли опасно? Да. В трехстах пятидесяти метрах от нашей виллы (в санатории «Гелиос») помещался немецкий штаб, который охраняли автоматчики, вооруженные ручными гранатами. Об этом периоде я вам потом расскажу».

Асабліва цяжка было Буніну не ў вайну, а пасля вайны. Вось што ён пісаў сябрам у Амерыку 5 снежня 1948 года: «Решаюсь наконец сказать вам вот ещё что: я стал очень слаб, задыхаюсь от энфиземы лёгких, летом чуть не умер (буквально) от воспаления лёгких, два месяца пролежал в постели, разорился совершенно на докторов, потом на бесполезное лечение энфиземы (ингаляцией), которое мне стоило 24 тысячи — и т. д. 2 января должен уехать с В. Н. Опять на зиму в Juan-les-Pins, чтобы не свалиться опять от парижского климата и холода в квартире… Короче сказать: мне пошел 79-й год и я так *нищ*, что совершенно не знаю, чем и как буду существовать. И вот, от совершенного

отчаяния, прошу вас — сделайте, ради бога, что-нибудь для меня — попросите, например, Кусевицкого и добрых людей, знакомых его, помочь мне хоть немного.

Возможно, это просьба моя глупа и безнадёжна — тогда сожгите это моё позорное письмо».

Так, горды, незалежны вялікі рускі пісьменнік, дваранін, лаўрэат Нобелеўскай прэміі… Так, нялёгка далося яму гэтае пісьмо… Па ім адчуваецца, як перахоплівае яму горла, як засядаюць словы. Але ж жабрацтва і адчай пісалі гэтае пісьмо. Страшныя маральныя пакуты, звязаныя з неабходнасцю звяртацца па дапамогу да багатых людзей. А яму пайшоў ужо 79-ы год…

80-гадовы юбілей Буніна, якому нездаровілася, адзначалі дома. Франсуа Марыяк пісаў:

«Мой дорогой и знаменитый собрат. Я знаю, что ваши друзья собираются скоро праздновать ваше восьмидесятилетие.

По этому случаю я хочу выразить и своё восхищение, которое я испытываю от вашего творчества, и симпатию, которую мне внушает ваша личность и столь жестокая судьба, какой была ваша.

Андрэ Жыд у газеце «Фігаро» віншаваў Івана Аляксеевіча «сэр імя Францыі». Маўляў, ён вітае і абдымае яго «как своего друга, проникся глубокой симпатией к его творчеству, которым восхищался задолго до того, когда наши дороги пересеклись».

І вось апошні дзень, апошняя ноч — раніцы ў Івана Аляксеевіча ўжо не будзе. Пра гэта падрабязна напісала Вера Мікалаеўна:

«Вдруг я почувствовала, что он приподнялся, я спросила, что с ним. «Задыхаюсь», «нет пульса… Дай солюкамфр». Я встала и накапала двадцать капель… «Ты спал?» — «Мало. Дремал… Мне очень нехорошо». «Дай я спущу ноги». Я помогла ему. Он сел на кровать. И через минуту я увидела, что его голова склоняется на его руку. Глаза закрыты, рот открыт, я говорю ему — «возьми меня за шею и приподнимись, и я помогу тебе лечь», но он молчит и недвижим… Конечно, в этот момент он ушел от меня… Но я этого не поняла и стала умолять, настаивать, чтобы он взял меня за шею. Попробовала его приподнять, он оказался тяжёлым. И в этот момент я не поняла, что его уже нет. Думала, обморок. Я ведь первый раз в жизни присутствовала при смерти. Кинулась к телефону, перенесла его в кабинет. Телефон оказался мёртвым. Тогда я побежала на седьмой этаж к нашему близкому знакомому, который живёт в комнате для прислуги. Стучу и громким шёпотом умоляю: «Николай Иванович. Кажется, Иван Алексеевич умирает…» Он вышел в халате и сказал, что сейчас придёт. Я опрометью кинулась к себе. Ян был в той же позе. Взяла телефон, не реагирует… В это время пришёл Н. И. Введенский, и мы подняли и положили Ивана Алексеевича на постель. Но и тут мне ещё не приходило в голову, что всё кончено. Я кинулась к Б. С. Нилус (вдове художника П. А. Нилуса), которая живёт напротив нас. Мне было очень неприятно беспокоить её, так как она сама нездорова, но я всё же позвонила. Она сейчас же проснулась, и я кинулась к телефону, но телефон не работал. Я уже хотела просить Введенского, чтобы он сходил в аптеку, ближайшая открыта всю ночь. Но телефон вдруг очнулся, и я позвонила: «Владимир Михайлович, вы необходимы!» — «Сейчас приеду». Живёт он далеко. Нужно было одеться, дойти до гаража, взять машину. В это время пришла Б. С. Нилус, и мы стали греть его холодные руки и ноги. У меня уже почти не было надежды, но Б. С. всё повторяла: «Он тёплый, спина, живот, только руки и <ноги> холодные…» Вскипятили воду и клали мешки к конечностям. Дверь входная была открыта.

Мы как раз вышли в столовую, и я увидела входящего бледного, с испуганными глазами Зернова. Он прошел прямо к И. А. Я осталась, не зная почему, стоять в столовой. Через минуту он вышел к нам: «Всё кончено…» Я пошла к постели. «А вы прикладывали зеркало?» — «Не стоит…»

Ужо немаладым Бунін запісаў словы Ф. Пятраркі: «Я хочу, чтобы смерть застала меня за книгой, с пером в руке».

Так яно і атрымалася: перад самай смерцю за некалькі гадзін ён чытаў, перачытваў пісьмы, прасіў Веру Мікалаеўну нешта падкрэсліць, зрабіць закладкі для будучай працы: ён пісаў кнігу пра Чэхава…

Вось як шырока і глыбока раскалыхала маё ўяўленне цудоўная кніга ўспамінаў Аляксандра Кузьміча Бабарэкі «Дарогі і званы»! Гэта было як цунамі — столькі невядомых фактаў, арыгінальных думак, мудрых згадак, настойлівай працы, упартай барацьбы і вялікай дасведчанасці ва ўсім, што гэта, можна сказаць, ашаламіла мяне.

І ўсё ж сёе-тое мяне ў гэтай кнізе непрыемна зачапіла, і я, малады і порсткі, не змог утрымацца і шчыра напісаў пра гэта Бабарэку. Як калісьці і ён сам не ўтрымаўся і напісаў Твардоўскаму пра яго артыкул аб Іване Буніне.

Я кажу пра маю нацыянальную годнасць — я нідзе не мог прайсці міма таго, што зневажаюць маю зямлю. А мая зямля, гэта ж і зямля А. К. Бабарэкі.

Між тым Аляксандр Кузьміч пісаў: «С русской литературой в техникуме происходили страшности: учитель толковал о «Евгении Онегине» по-белорусски».

Ну і што з таго? У Францыі ж гэты раман «толкуют» па-французску, у Англіі — па англійску, у Польшчы — па-польску. І ніхто не здзіўляецца гэтаму.

«Белорусский язык навязывался властями силой. Рассказывали, что двух учителей, мужа и жену, уволили с работы, так как кто-то подслушал и донёс, что дома они между собой разговаривали по-русски»: Ой-ёй-ёй! Якія жахі!

«В Белоруссии велась борьба то с какими-то нацдемами, то ещё невесть с кем, слетали с плеч головы».

А хто ён тады, Адам Бабарэка? Дзядзька Аляксандра Кузьміча? І яго ж таксама галава зляцела... Як у нацдэма…

І я не ўтрымаўся, напісаў пра гэта Аляксандру Кузьмічу. І адчуў, што між намі з’явілася нейкая льдзінка, нейкі халадок. Канечне, па часе гэтая льдзінка, растала, нашы лісты пацяплелі, сталі амаль такія ж, як і да майго пісьма.

Я і сам перажываў потым. Навошта пісаў? Аляксандр Кузьміч, хоць і нарадзіўся ў Беларусі, але ён тыпова рускі інтэлігент, выхаваны на высокай культуры вялікага рускага народа, на яго літаратуры. А я яму пра нейкага Адама Бабарэку, пра нейкую беларускую мову, пра нейкія свае беларускія клопаты і крыўды.

Далей мы пра тое пісьмо не ўспаміналі — ні ён, ні я. Пісалі пісьмы, як і раней — шчыра і добра. Але сустрэцца ўжо разам не змаглі: пачалася перабудова і Кактэбель, гэты светлы рай на зямлі для пісьменнікаў, знік, як прывід і застаўся толькі ўспамінам.

У мяне шмат ягоных пісем — цэлая папка.

У мяне многа ягоных фотаздымкаў — ён заўсёды прыязджаў у Дом творчасці з фотаапаратам, і здымаў, можна сказаць, апантана.

Вось ягоныя здымкі: мы сям’ёю — жонка, сын і я — каля нашага катэджа ў Кактэбелі. Вось мы з Сярожам на сваёй верандзе ядзім чарэшню. Вось мы з Аляксандрам Кузьмічом разглядаем — здымае яго сын — нейкія кадры на фотаплёнках…

Разглядаючы фотаздымкі, я нібыта чую няспешлівы голас Аляксандра Кузьміча:

— І тады Іван Аляксеевіч…

Аляксандр Кузьміч Бабарэка — слынны літаратуразнаўца і падзвіжнік. Рускі інтэлігент.

## 10

У маёй бібліятэцы шмат кніг з аўтографамі і беларускіх крытыкаў ды літаратуразнаўцаў.

Першаю ластаўкаю ў ёй была кніга крытычных артыкулаў — нават не хочацца ўжываць гэтае цэпкае слова, бо змешчаныя ў ёй артыкулы былі і лёгкія, і мудрыя, — майго сябра Анатоля Клышкі «Права на верш». У ёй былі глыбокія думкі, высокае разуменне літаратуры і ўвогуле творчасці, чысціня і патрабавальнасць. Прызнаюся, мне і цяпер шкада, што яна ў крытыка засталася ягонаю першаю і адзінаю. Не, Анатоль Канстанцінавіч вельмі шмат працаваў у розных іншых жанрах і праявах — таленавіта стварыў «Буквар», які прызнаны лепшым у свеце, пераклаў з арыгінала «Святое пісанне», «Евангелле», працуе і цяпер над перакладам з грэчаскай мовы «Адысеі», выдаў шмат найцікавейшых кніжак для дзяцей. — Крытычнаю ж застаецца адна — «Права на верш».

Гэтая кніга была такога ўзроўню, якога дасягаюць тыя, хто ўжо зведаў славу крытыкі.

У ёй, як аб'екты даследавання, — М. Багдановіч, П. Панчанка, М. Танк, Р. Барадулін, Т. Шаўчэнка…

«Гісторыю народа калечылі, нявечылі, руйнавалі, адбіралі. Езуіты прыходзілі ў край, каб будаваць школы, у якіх навучалі дзяцей забіваць бацькоў:

Каб не ведалі і ўнукі,
Хто такія іх дзяды.

Максім Багдановіч марыць скласці буквар. Родная школа… Вечны, несуняты боль. Праз дваццаць гадоў пасля, у Заходняй Беларусі, Валянцін Таўлай засумуе тым жа багдановічаўскім сумам аб беларускім буквары:

Будзе Купала вучыць на пячы
Дзетак без роднае школы…

Праз гушчыню нявер'я з глыбіні стагоддзяў глядзелі на яго (Багдановіча) мудрыя вочы Дантэ, які таксама некалі адважыўся адкінуць латынь і прамовіць на матчынай мове, па-італьянску, гучна, на ўвесь свет, абуджаючы «мужыцкія» мовы ўсея Еўропы — французскую, іспанскую, нямецкую, англійскую…»

Так, той час, ведаеце, быў не вельмі спрыяльны для выказвання гэтых «крамольных» думак… Аднак Анатоль Клышка, ужо тады, бачыце, сур'ёзна думаў пра беларускі буквар!

«Права на верш» выйшла ў 1967 годзе. Анатоль падпісаў мне:

«Янку Сіпакову —
Хай сцяг Магеланаў
над ветразем рэе тваім
у паэзіі і ў вандраванні…

*Ад падарожніка*
*Ан. Клышкі*
*18.III.68 г.*

Ага, ад падарожніка — падарожніку. Справа ў тым, што да гэтага, у 1961 годзе мы з Анатолем ужо здзейснілі адну нашу агульную мару — праплылі на рудавозе па Прыпяці ад Пінска да Мазыра. І напісалі нарыс «Паэма дарог», і надрукавалі яго у «Полымі». «Паэму пераклалі на рускую мову і зноў жа надрукавалі ў маскоўскай «Дружбе народов», і адзначылі прэміяй, і славуты тады Эдуардас Межэлайціс, якому нарыс спадабаўся, на рэдкалегіі часопіса змагаўся за нейкую яшчэ большую для нас прэмію…

Рыгор Бярозкін, які выбухнуў быў фельетонам «Адказнасці, больш адказнасці» — з выпадку надрукавання маіх нататак пра паэзію, змешчаную ў «Дні паэзіі» ў 1966 годзе, ужо ў 1972 годзе падарыў мне сваю кнігу крытыкі «Постаці. Артыкулы пра паэтаў» з добрым надпісам:

«Дарагому Янку Сіпакову, добраму паэту, добраму чалавеку ад усёй шчырасці. Р. Бярозкін. 16.II.72 г.».

Нібыта той «адказнасці» і ў паміне не было!

Рыгор Саламонавіч пісаў на маю першую кніжачку «Сонечны дождж» закрытую рэцэнзію для выдавецтва. І ў ёй я знайшоў адзін вельмі дарагі мне сказ: «Сіпакоў — паэт ад Бога!» І я быў вельмі шчаслівы — сам Бярозкін сказаў, што я паэт! Ды яшчэ — ад Бога!

Здзівіўся — на тытуле «Постацей» было пазначана: «На грамадскіх асновах кнігу адрэдагаваў Іван Мележ». Што, і Бярозкіна трэба рэдагаваць?! Я ж думаў, што Бярозкін — такі ўжо эстэт і без рэдагавання…

Прагледзеў тую сваю публікацыю. Што ж яго так раззлавала? І знайшоў — мусіць, вось гэтае:

«І бяда, калі крытык, рэцэнзент даверыцца толькі свайму густу, паверыць у справядлівасць толькі сваёй ацэнкі. Тады, прыняўшы позу неаспрэчнага настаўніка, ён ківае пальцам пад носам «цяжкага» паэта і павучае — так не трэба і так не трэба. Маўляў, ты параўнаў зямлю з глобусам? Што ты робіш! Можна толькі сказать, што глобус падобны на зямлю.

І яшчэ горш бывае, калі густ у настаўніка прымітыўны, а вучань па інтэлектуальным развіцці стаіць за яго трошкі вышэй. Не зважаючы на гэта, настаўнік усё роўна ківае пальцам перад яго носам і, як гаварылася ў адной дыскусіі, абураецца:

— Я табе пакажу валетбол! Я табе пакажу радзівол круціць!..»

Які жах! Ну які ж гэта крытык можа дараваць нейкаму пачаткоўцу такую абразу!

А можа, вось гэты пасаж не спадабаўся:

«Куды смялей ехаць на зацугляным кані, моцна ўчапіўшыся за аброць. Але ж паэту няблага паспрабаваць пракапыціць на вольным кані».

Алесь Адамовіч падараваў мне сваю кнігу «Горизонты белорусской прозы», якая выйшла ў Маскве, і ў надпісе нібыта па сакрэце прызнаўся:

«Івану Сіпакову з тайнай (яшчэ не выказанай друкарскім спосабам) павагай да яго моцнай, дзелавой прозы. Алесь Адамовіч. 4.6.74 г.».

Мы з Алесем Міхайлавічам неяк падружыліся зноў жа ў Кактэбелі. Ён любіў там адпачываць у жніўні—верасні, і я таксама.

Я любіў яго вячэрнія вогнішчы на ўскраі валожынскага парку, хадзіў у яго пешыя прагулкі ў Стары Крым, дзе нарадзіўся Аляксандр Грын, наш зямляк, а часам на пляжы, на мелкаводдзі, мы так разгульваліся з мячыкам, што іншым нас даводзілася нават супакойваць.

У сваіх цікавых і грунтоўных артыкулах Алесь Міхайлавіч нярэдка ўстаўляў у сур’ёзныя, усесаюзныя літаратурныя абоймы і маё прозвішча.

А Віктар Антонавіч Каваленка, доктар філалагічных навук, дырэктар Інстытута літаратуры НАН Беларусі, нават абараняў мяне.

Напісаў я аповесць «Жыві, як хочацца». Ну, на яе і накінуліся. Асабліва жанчыны ўзяліся за яе: «Не з таго боку напісана! Усё ў ёй з пункту погляду мужчыны!» Я ж мужчына, дык з якога я боку буду пісаць?! Вядома, з мужчынскага! Ды ніякага там сексу не было! Аповесць — вельмі цнатлівая рэч.

А яе абмяркоўвалі і асудзілі нават на партыйным сходзе ў Саюзе пісьменнікаў. Я — беспартыйны, ніколі членам Кампартыі не быў, таму на сходзе не прысутнічаў. А там пацяшаліся: «Раней у творах Я. С. рыпеў пясочак, а цяпер рыпяць ложкі».

І Віктар Антонавіч кінуўся ў абарону мяне. Спачатку ён надрукаваў вялікі артыкул «Іскры над попелам» у «Літаратуры і мастацтве» (1981 г.), а затым і ў Маскве, у папулярным на той час часопісе «Литературное обозрение»

«У аповесці «Жыві, як хочацца», — піша В. Каваленка, — глыбока і пераканана паказаны даволі распаўсюджаны ў нашы дні стан душы чалавека, раскрыта складанасць маральных імкненняў, што зараджаюцца ў звычайных людзей, накрэслены тыповыя побытавыя канфлікты і па-мастацку асветлены нялёгкія зрухі чалавечага сумлення да вышэйшага адчування сутнасці жыцця. І гэтым яна цікавая».

На адным з пленумаў Саюза пісьменнікаў Беларусі, на якім я выступаў з дакладам па маладой паэзіі, у зале сядзеў і Віктар Каваленка і так уважліва слухаў, што ўсё маё выступленне найперш я пераказаў менавіта яму.

Сваю кнігу «Вытокі. Уплывы. Паскоранасць. Развіццё беларускай літаратуры XIX—XX стагоддзяў», якая выйшла пад грыфам Акадэміі навук БССР, у 1975 годзе Віктар Антонавіч падараваў мне з надпісам: «Янку Сіпакову — выдатнаму паэту і празаіку, талентам якога заўсёды захапляюся, з найлепшымі пажаданнямі, з глыбокай павагаю».

І ягоны раман «Падвышанае неба», таксама падараваны з добрым, дарэчы, подпісам, я берагу ў сваёй бібліятэцы.

Серафім Андраюк таксама абараняў ад нападаў аповесць «Жыві, як хочацца». Ён напісаў водгук яшчэ на «палымянскі» варыянт, у якім аўтара змусілі памяняць нават загаловак: не «Жыві, як хочацца», а «Жыві, як трэба». І таму ён завяршае свае развагі наступным маналогам:

«Паставіўшы назвай твора пытанне «Ці так жывеш?», Я. Сіпакоў логікай разгортвання падзей, логікай унутранага разгортвання характараў, усім пафасам твора рашуча адмаўляе жорсткі прынцып: «Жыві, як хочацца», сцвярджае такія адносіны да жыцця, да чалавека, сутнасць якіх можна выказаць наступным чынам: жыві не так, як хочацца, а так як трэба жыць сярод людзей».

Кнігу «Жыць чалавекам», у якой змешчаны гэты водгук, Серафім Андраюк падпісаў:

«Янку Сіпакову, таленавітаму, сумленнаму пісьменніку, з пажаданнем вялікіх творчых здзяйсненняў. Шчыра. С. Андраюк».

Другі аўтограф жадае мне «новых творчых здзяйсненняў, здароўя, аптымізму». Ён прэзентуе свой зборнік літаратурна-крытычных артыкулаў «Пісьменнікі. Кнігі», дзе змешчаны мой творчы партрэт «Даверлівы талент», які быў прадмоваю да майго двухтомніка выбраных твораў «Сад людзей».

Дзмітрый Бугаёў ніколі і нідзе не пісаў пра мяне і маю творчасць. Аднак на сваёй кнізе літаратурнай крытыкі «Талент і праца», таксама падараванай мне, пакінуў шчырыя словы:

«Дарагі Іван Данілавіч! Прымі гэтую кнігу разам з маёй шчырай прыхільнасцю да цябе і тваёй сумленнай працы ў літаратуры. 9.10.1079 г. Д. Бугаёў».

У кнізе — ці не самае сур'ёзнае і грунтоўнае слова пра таленавітую паэтэсу нашага дваццатага стагоддзя — пра Жэню Янішчыц. «Будзь мне мамай,

Радзіма мая». «Бяспрэчная, арыгінальная паэтычнасць», — кажа вядомы крытык.

Вельмі высока цаніў мае нарысы, добра, з душою пісаў пра іх, і, калі трэба было далікатна і выхавана кідаўся на абарону Уладзімір Міхайлавіч Юрэвіч.

У сваёй кнізе выбранага з літаратурнай крытыкі «Абрысы», якую ён падпісаў мне: «Дарагому Янку — Івану Данілавічу ад шчырага сэрца з пажаданнем новых крылаў над нашай даверлівай зямлёй», ёсць шмат згадак пра Сіпакова-нарысіста.

І пра нашу сумесную з Анатолем Клышкам «Паэму дарог», якая, здаецца, спадабалася ўсім:

«Падарожны нарыс, калі да яго паставіцца, як да сапраўды мастацкага жанру, можа пакінуць прыкметны след у нашай літаратуры. Пра гэта сведчыць, напрыклад, супольнае выступленне ў друку двух маладых пісьменнікаў — Анатоля Клышкі і Янкі Сіпакова, аўтараў «Паэмы дарог».

І пра маю «Ціхую Акіянію», якую я прывёз з Далёкага Усходу:

«А Янка Сіпакоў, жвавы, нават крыху экзальтаваны і адначасова шчымліва-тужлівы — увесь на кантрастах у «Ціхай Акіяніі».

Добраю, зычліваю рэцэнзіяй адгукнууўся Уладзімір Юрэвіч і на мой твор «Акно, расчыненае ў зіму». І атрымаў за гэта!

Адзін пісьменнік вельмі абурыўся, і напісаў у «ЛіМе», даў і мне, і крытыку, як кажуць адлуп:

«І яшчэ б хацелася пару слоў сказаць аб рэцэнзіі У. Юрэвіча на нарыс Я. Сіпакова «Акно, расчыненае ў зіму» («Літаратура і мастацтва» за 18 верасня 1970 г.). І жаданне гэтае ўзнікла таму, што вельмі ж, прачытаўшы нарыс, стала смешна і дзіўна, як разважаюць пра вёску некаторыя пісьменнікі…

А яшчэ больш дзіўна, калі, расхвальваючы нарыс на ўсе лады, У. Юрэвіч піша ў рэцэнзіі: «Аўтар з публіцыстычным запалам адстойвае свае перакананні ў тым, што і сёння мы павінны пакланяцца і закінутай некуды на гарышча старажытнай сяўні», і «забытаму, пачарнеламу, з’едзенаму шашалем цэпу», і «патрэсканым ступе і жорнам, і дзяжы, і печы, і калаўротам, і кроснам… Не пасылаць ім праклёны, а пакланяцца!»

«Не магу зразумець, — іранізуе далей «крытык», — навошта раптам Вам з аўтарам нарыса спатрэбілася пакланенне цэпу і жорнам, дзяжы (ах, гэтая дзяжа!) і калаўроту? Добра, што хоць не прасніцы, калаўрот усё ж механізацыя».

Неўзабаве «Акно, расчыненае ў зіму» было вылучана на атрыманне Дзяржаўнай прэміі. Прэміі не атрымала, але ж прэсу набыло вельмі нават вялікую і ўхвальную.

Пасля «Акно» ў перакладзе на рускую мову было надрукавана ў часопісе «Дружба народов».

«Кожнае выступленне Я. Сіпакова ў жанры нарыса заўважаюць», — сцвярджае Юрэвіч. І праўда!

Напісаў я вялікі нарыс «Чалавек на зямлі». Пра калгас «Бальшавік» на Аршаншчыне і яго старшыню Генадзя Шведава. І тут знайшлі крытыкі за што прычапіцца! І зноў Уладзімір Міхайлавіч становіцца маім абаронцам. Абараняе мяне і ў «Литобозрении» ў Маскве, і ў згаданай ужо сваёй кнізе «Абрысы»:

«Газета «Літаратура і мастацтва» (30 сакавіка 1973 г.), — піша Юрэвіч, — падтрымала нарыс, але не сцярпела, каб не кінуць дакор аўтару за тое, што ў нарысе «вельмі мала гаворыцца пра камуністаў калгаса. Толькі ў тэлефоннай размове выпадкова названа імя сакратара партарганізацыі калгаса…» Дакор, шчыра кажучы, са старога арсенала, калі галоўным крытэрыем ацэнкі твора

лічылася — «адлюстраваў» або «неадлюстраваў» аўтар прафсаюзную арганізацыю, камсамольскую ячэйку і г. д.».

І ўсё ж «Чалавек на зямлі» быў надрукаваны ў кнізе «Века сыновья», выдадзенай Палітвыдатам у 1974 годзе. І там, сярод туркменаў, армян, эстонцаў, грузін быў прадстаўлены і ён, беларус, старшыня калгаса з Аршаншчыны. Стотысячным тыражом!

Потым нарыс разам з аповесцю «Крыло цішыні» і пад назваю «Даверлівая зямля» быў перавыданы ў выдавецтве «Праўды». Ужо тыражом у 500 тысяч экзэмпляраў!

Вось табе і «вельмі мала гаворыцца пра камуністаў».

Пасля таго, як камуністы і камсамольцы разбурылі вялікую і моцную дзяржаву — СССР, думаецца: дык, можа, гэта і добра, што я сам ніколі не быў камуністам і «мала пісаў пра іх»…

Сваю кнігу «Свет жывы і блізкі» мой незабыўны сябра Варлен Бечык — а каму, скажыце, ён быў не сябра?! — падпісаў мне:

«Янку Сіпакову, Паэту і Празаіку, чытаць якога радасна (пісаць пра якога — таксама радасна). З усім добрым Варлен Бечык. 20.XII. 1974 г.».

І вось як ён напісаў у гэтай кнізе пра мой нарыс «Па зялёную маланку»: «Нарыс расказвае нам пра падарожжы душы, а ў душы свае вымярэнні і свае маштабы. Лучацца разам вялікае і малое, знешняе і ўнутранае, далёкае становіцца блізкім, а блізкае — далёкім. І ў душы свае шляхі — едучы наперад, яна вяртаецца назад, з дому імкнецца ў далячынь, у далячынях смуткуе па родным доме…»

Янка Казека кнігу сваіх артыкулаў, літаратурных партрэтаў і ўспамінаў «Падарожжа ў маладосць» (1984 год) падараваў мне са шчырым надпісам:

«Дарагому Івану Данілавічу Сіпакову — пісьменніку, якога я вельмі люблю».

Некаторыя творы з гэтай кнігі я, калі працаваў загадчыкам аддзела культуры «Маладосці», надрукаваў у часопісе. З Іванам Дарафеевічам, чалавекам вельмі ўважлівым і высокакультурным, было прыемна працаваць: ён з далікатнасцю і дабратою адносіўся да ўсяго — і да выдання, куды прапаноўваў свае творы, і да таго, што ўспамінаў. А пра яго эмацыянальнасць і апантанасць як намесніка галоўнага рэдактара «БелСЭ» раскажу крыху пазней.

«Янку Сіпакову, слыннаму майстру жанру таямнічага і незвычайнага, здолеўшаму ўвесь славянскі сусвет змясціць у дынамічных і трагічных формах балады. У знак вялікай павагі».

Такі шаноўны аўтограф напісаў на падараванай мне кнізе Іван Фёдаравіч Штэйнер. «Варожаць балады вякоў». Беларуская балада і славянскія традыцыі. Кніга выдадзена ў 1993 годзе пад грыфам Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны. Мяркую, што гэта доктарская дысертацыя Івана Фёдаравіча, якую ён бліскуча і з гонарам абараніў у Акадэміі навук Беларусі.

У кнізе паказана і даследавана развіццё гэтага незвычайнага і таямнічага жанру на шырокім фоне еўрапейскай і славянскай паэзіі. Тут сабраны такі вялікі і разнастайны матэрыял, што яго б хапіла не на адну доктарскую дысертацыю.

Разглядаючы мае балады «Руяне», «Ловы», «Падман», у якіх, на думку даследчыка, гаворыцца пра тое, што часам з-за нейкай тваёй памылкі можа загінуць твой народ, Іван Фёдаравіч разважае:

«Невыпадкова гэтыя балады звязаны з імем палабаў, славянскага племені, што знікла ў варожай навале і ад якога засталося толькі некалькі дзясяткаў

слоў, а памяць пра яго трагічны лёс пранеслі суседнія плямёны. Нешта падобнае, бадай, яшчэ больш фантасмагарычнае, сустракаецца ў баладных творах П. Мерымэ: у сельве Амазонкі даследчыкі злавілі папугая, які памятаў словы знішчанага каланізатарамі індзейскага племені».

Іван Штэйнер робіць параўнаўчы аналіз «Посмертных записок старца Фёдора Кузьмича» Льва Талстога і «рускай балады-легенды «Пустэльнік» Янкі Сіпакова». Былы цар Аляксандр І, які пад імем Фёдара Кузьміча зрабіўся пустэльнікам, па словах даследчыка, у абодвух творах сам асуджае сябе: «Если бы я на исповеди не сказал про себя правду, небо удивилось бы; если же я сказал бы, кто я, удивилась бы земля».

Разглядаючы маю балгарскую баладу «Зброя» (зброя — гэта перац, які труць балгарскія жанчыны перад наступам туркаў) Іван Штэйнер прыводзіць цытату з яе:

Зялёным зацьменнем
Турэцкі сцяг:
Ідуць па цярпенню,
Нібы па касцях, —
Бліжэй…
Бліжэй…
Бліжэй…

І піша: «Трайным паўторам апошняга радка абрывае свой самотны аповед — няма сіл расказаць баладу да канца. Але яе фінал асветлены заравам пушкінскай трагедыі — з цара жыўцом знялі скуру і надзелі на здрадніка Радзівоя, трагедыямі паўднёваславянскага гераічнага эпасу. Падобная падсветка дастварае трагедыю безабаронных жанчын у фантазіі чытача».

Вось у якія высокія сферы выводзіць «Веча славянскіх балад» даследчык!

«Адказ на ўсе гэтыя пытанні славяне далі на палях змагання. Сваё ўласнае слова сказаў і Янка Сіпакоў у выключна арыгінальнай беларуска-славянскай анталогіі «Веча славянскіх балад» — паэтычнай гісторыі славянства ад загадкавых і таямнічых вытокаў да нашага супярэчлівага, пульсуючага, імклівага дня».

І, урэшце, мой балгарскі сябра Георгій Вылчаў. У мяне цэлая папка ягоных пісем — і з Балгарыі, дзе ён жыў, і з Фінляндыі, дзе нейкі час працаваў, і з Лужыцы, што ў Нямеччыне, дзе гасцяваў і адкуль дасылаў мне шмат якія кнігі, якія я прасіў, працуючы над «Вечам славянскіх балад»: лужыцкія казкі, песні, паданні, падручнік па вывучэнні лужыцкай мовы, вершы лужыцкіх паэтаў.

Сваю кнігу «Приобщения. Літаратурныя кантакты і аналогіі» Георгій прыслаў мне… не ведаю адкуль, бо пад аўтографам стаіць: Хельсінкі — Сафія. А сам подпіс і сапраўды вельмі нават сяброўскі: «Сипакову Янке! Светлое воспоминание о искренней большой дружбе! Георгий В. 1972 г.».

У кнізе пра балгарскія літаратурныя стасункі з літаратурамі славакаў, лужычан і беларусаў. І партрэтныя эцюды пісьменнікаў Беларусі — дарэчы, тыя ж якія змешчаны і ў своеасаблівай анталогіі «Беларускія паэты — адно пакаленне». Адзінаццаць паэтаў. Ад У. Караткевіча да Д. Бічэль.

Дарэчы, і склаў, і зрабіў рэдакцыю анталогіі ўсё той жа нястомны сябра Беларусі і беларускіх пісьменнікаў Георгій Вылчаў. І прадмову да яе таксама напісаў ён. А ў прадмове — добрыя словы пра У. Караткевіча, С. Гаўрусёва, А. Вярцінскага, А. Лойку, Н. Гілевіча, П. Макаля, В. Зуёнка, Г. Бураўкіна, Я. Сіпакова, А. Наўроцкага, Д. Бічэль. У лепшых перакладах лепшых паэтаў Балгарыі Йордана Янкава, Івана Давідкава, Андрэя Германова, Стэфана Паптонева, Найдана Вылчава, Сняжаны Ізворскай і інш.

Усю маю падборку цудоўна пераклаў выдатны паэт Марка Гончаў: вершы «Блюз пра чорны храм», «Скарга прыручанага ваўка», «Гекзаметры рыбака», «Дуэль», «Мір» і іншыя вершы.

Дарэчы, Марка потым, пасля перабудовы, быў Паўнамоцным і Надзвычайным паслом Балгарыі ў Беларусі, і мы з ім часам сустракаліся ў Мінску. Я бываў у яго ў пасольстве, ён бываў у мяне дома.

І вось я ў Балгарыі, хаджу па вузкіх вулачках старога Плоўдзіва, якія памятаюць тысячагоддзі, любуюся старажытнейшымі збудаваннямі над гэткімі старажытнымі брукаванкамі і мне напраўду здаецца, што я вярнуўся ў тыя стагоддзі, якія ўжо мінулі, прайшлі…

Раніца. Старажытнае сонца ўзыходзіць над старажытнай Фракійскай раўнінай і ягоныя промні найперш залацяць старажытныя пагоркі Плоўдзіва. А ўнізе — ціхая, спакойная, таксама старажытная Марыца, рэчка, якая сваімі водамі лашчыцца да скалістых, старажытных узгоркаў.

Лукіян называў Плоўдзіў самым вялікім і прыгожым з усіх гарадоў Фракіі. Для рымлян ён быў проста Трымонцыумам — Трохгор’ем, бо асноўная яго крэпасць была размешчана на трох пагорках, якія зрасліся між сабою над самой Марыцай. Потым, па часе, горад заняў і ўсе сем пагоркаў, а яму ўсё было мала.

Хаджу па старажытных вулачках Плоўдзіва і ўвачавідкі бачу, як яднаюцца ў ім дзве эпохі — эпоха антычнага свету і эпоха балгарскага Адраджэння. Калі над разбуранамі крапаснымі сценамі Трохгор’я выраслі, узвысіліся на скалах над імі шыкоўныя дамы эпохі Адраджэння.

Вось рэшткі вялікага булеўтэрыя — антычнага тэатра з радамі мармуровых сядзенняў.

Вось частка вялікага мармуровага стадыёна, які быў акружаны тэрмамі і іншымі антычнымі дамамі і славіўся сваёй гандлёваю плошчаю старажытнага горада. А вось і антычныя вуліцы. Брукаванкі. І ля іх — дамы, якія нібыта ўціскаюцца ў скалы. Яны на 2-3 метры ніжэйшыя за пазнейшы горад.

А вось і ансамблі эпохі Адраджэння. Велічныя, шыкоўныя. Дом Стамбаляна, дом Паўліта, дом Хіндліяна… Якая прыгажосць! Нават сонца, якое ўжо шчыруе над Плоўдзівам, ломіцца ў гэтыя шэдэўры — ці то каб найлепей мне паказаць усё, ці то каб самому яшчэ раз палюбавацца гэтай прыгажосцю…

З ласкаю закрываю фотаальбом «Стара архитектура в Пловдив», які выйшаў у Сафіі, у «Бібліятэцы балгарскай даўніны». Альбом, з дапамогаю якога я падарожнічаў толькі што па горадзе на сямі пагорках.

А яго мне прыслала Марыя Дзімітрова з Плоўдзіва. Са шчырым надпісам-запрашэннем:

«Дорогому Ивану Даниловичу на память о моем городе, который ждет его. Мария Димитрова. Пловдив, сентябрь, 1981 год».

На вялікі жаль, я так і не скарыстаўся гэтымі шчырымі запросінамі.

Марыя Дзімітрова пераклала маю аповесць «Крыло цішыні», і ў яе перакладзе на балгарскую мову кніга выйшла ў Плоўдзіве ў выдавецтве «Христо Г. Данов», якое заснавана яшчэ ў 1855 годзе!

А якую прачулую прадмову да кнігі напісала яна! «С обаянието на съкровен споме»! З яе відаць, што Марыя вельмі, гэтак жа, як і я, а, можа, нават і мацней, чым я палюбіла майго Яська!

Перакладала яна з беларускай мовы! Я чым мог дапамагаў ёй: пасылаў моўнікі, падручнікі па вывучэнні беларускай мовы. Тады мы вельмі часта ліставаліся. Яна пыталася значэнне многіх маіх слоў, якіх не знаходзіла ў слоўніках, і я адказваў ёй грунтоўнымі пісьмамі.

І зрабіла цудоўны пераклад! Пра гэта мне гаварылі тыя, хто ведае балгарскую мову.

Радасна, што Марыя не забылася нашу мову і сёння.

Раптам пад новы 2009 год атрымліваю пісьмо з Балгарыі. І машынка тая ж самая, — і почырк той жа — вялікія друкаваныя размашыстыя літары…

Марыя Дзімітрова! Вядома, гэта ж яна!

«Перабіраючы гэтымі днямі свой архіў, — пісала яна, — я знайшла Вашу навагоднюю паштоўку 2001 года. І раптам захацелася мне даведацца, як Вы, як у Вас склалася жыццё за гэты не малы адрэзак часу. Дай бог усё ў вас у парадку са здароўем, з Вашай сям'ёй. Мне будзе вельмі прыемна атрымаць ад Вас вестачку. А ў мяне нармальнае жыццё пенсіянеркі, якая памагае мужу па гаспадарцы. Цікаўлюся, вядома, жыццём маёй краіны, сачу за з'явамі ў мастацтве, у літаратуры, у прыватнасці. Аднак няма ў мяне ніякай жывой сувязі з калегамі, з выдавецтвамі. Узрост ужо не той, і, галоўнае, здароўе не дазваляе ніякіх нагрузак. Але я час ад часу перакладаю сёе-тое для нашага гумарыстычнага лідара «Стыржэл» (Авадзень). Аднак паколькі ўся сістэма падпісак знішчана, мне перасылаюць тое, што на сяброўскіх пачатках высылаюць ім. За апошні месяц я пераклала ім тры фельетоны з украінскай мовы. Часам з'яўляюцца, але вельмі рэдка, карыкатуры і фельетоны беларускія. Мяне цікавіць ваш «Вожык» (не ведаю, як дакладна пішацца — Вы правільна напісалі, шаноўная Марыя!). Вы пераканаліся, што і рускі мой вельмі стаў накульгваць — бо столькі ж гадоў прайшло з таго часу, як мы з мужам перасяліліся ў горную вёсачку і не шкадуем гэтага. Тут лес, а я прыроду вельмі люблю. Аднак размоўнага асяродку ў сувязі са спецыяльнасцю ў мяне няма. Не ведаю, як мне Вас папрасіць высылаць мне час ад часу, ну хоць раз у два месяцы, гумарыстычныя вершы і фельетоны на Ваш густ з вашага «Вожыка», ці (у прыдачу) з «Крокодила». Нам ён таксама недаступны.

Дазвольце мне павіншаваць Вас, дарагі Іван Данілавіч, з надыходзячым Новым годам і пажадаць Вам і Вашай сям'і ўсяго самага светлага ў Вашай мілай для майго сэрца Беларусі. Прывітанне ад майго мужа Атанаса…

*З глыбокай павагаю —*
*Марыя Дзімітрова.*
*Сяло Ляскава, абшчына Асенаўград.*
*10 снежня 2009 г.».*

Я напісаў Марыі, расказаў, што і нашага «Вожыка» ўжо няма, а ёсць усяго толькі альманах, які выходзіць два разы на год. Паслаў ёй апошні нумар, яна зноў адгукнулася, вельмі горача падзякавала і пачала перакладаць беларускі гумар для «Стыржэла»…

Значыць, у Плоўдзіў у мяне ўжо няма да каго ехаць… Ды я ж там ужо і, лічы пабываў — вачыма прайшоўся па ягоных, стаптаных стагоддзямі, вулічных плітах ды бруку…

Георгій жа Вылчаў быў такі падзвіжнік! І лёгкі на пад'ём. У нас з ім у свой час проста бурліла перапіска. Ён пісаў мне адусюль, дзе толькі не жыў, дзе толькі не знаходзіўся ў камандзіроўках. А ездзіў ён шмат. То атрымліваю яго пісьмо з Лужыцы, з зямлі лужычан у Нямеччане, і потым ён дасылае мне кнігі лужычан, — кнігу за кнігаю! — якія мне так былі патрэбны для стварэння «Веча славянскіх балад». То ён раптам піша мне з Фінляндыі — «Я жыву ў Хельсінкі» — і я яму таксама пішу ў Хельсінкі. Аказваецца, Георгій даследуе там, як фіны дапамагалі балгарам вызваліцца ад турэцкага іга. Фінляндыя тады, як федэратыўнае княства, уваходзіла ў склад Расійскай імперыі — імпе-

ратар аб'явіў сябе і Вялікім князем Фінляндскім, і таму фінскія салдаты разам з рускімі дапамагалі балгарам рабіцца вольнымі. Па часе атрымліваю — ужо з Сафіі! — яго кнігу «Финляндски дневницы и мемоари от 1877—1878 г.». З сяброўскім надпісам «Другу Янке Сипакову! Вспоминая наше старое, дорогоценное приятельство, Янка! София, 18.04.1978 г.». Якраз стагоддзе завяршэння руска-турэцкай вайны.

У кнізе цікавыя, амаль невядомыя нават балгарам факты пра ўдзел Фінляндскага гвардзейскага батальёна, састаўной часткі рускай арміі, у вызваленчай руска-турэцкай вайне 1877—1878 гг. Гэта дзённікі, мемуары, рэпартажы. «Дзённік фельдфебеля Лемікайнена» — фельдфебель бліжэй за ўсіх стаіць да салдата і таму ягоныя запісы вельмі цікавыя. «Паход Фіндляндскага батальёна», «Успаміны пра вайну», «Дзённік спайперыста». Песні, якія спявалі фіны на той вайне: задумлівыя і шчымлівыя — зразумела ж, усе яны пра Радзіму…

Нашу перапіску перарвала перабудова. Спрабаваў знайсці Георгія — не знайшоў. Распытваў — ніхто не ведае, дзе ён, як ён…

А гэтую кнігу я прывёз з Азербайджана. Быў на з'ездзе пісьменнікаў, пасля якога мяне запрасіў у госці дадому Сулейман Гусейн аглы Рагімаў — народны пісьменнік Азербайджана, аўтар папулярных тады раманаў «Саглы», «У гарах Агбулага», трохтомнага «Шамо».

Кніга, якую ён мне падараваў, была зусім не літаратурнаю — «Вопросы изучения строения земли». У ёй — даследаванні Каспійскага землетрасення 1961 года, Таузскага 1962 г., Агдамскага 1963 г. і інш.

«Былі выпадкі абвалаў калодзежаў, падалі кнігі, посуд, вазы. Лёгкія прадметы падскоквалі і перакульваліся. Людзі з цяжкасцю ўтрымліваліся на нагах. Была ўсеагульная паніка, усе выбягалі з памяшканняў…

Каардынаты эпіцэнтраў — па інструментальных і макрасейсмічных дадзеных».

Словам, гэта навуковае выданне. Дорачы мне кнігу, Сулейман Рагімаў напісаў на ёй: «Дорогому Янко от отца Шамо. 28.XI.1968 г. г. Баку».

Шамо Рагімаў скончыў фізфак МГУ імя Ламаносава ў Маскве. Аспірантура, дысертацыя. Вярнуўся ў Баку кандыдатам фізіка-матэматычных навук, узяўся за развіццё сейсмалогіі рэспублікі.

І раптам жыццё ўжо знанага савецкага сейсмолага Шамо Сулеймана аглы Рагімава заўчасна абарвалася — ён памёр у 34 гады.

Калі мы гасцявалі ў Сулеймана Рагімава, нягледзячы на тое, што з той трагедыі прайшло ўжо тры гады, у доме бацькі ўсё яшчэ адчувалася горыч ад таго страшнага гора і нібы была яшчэ яўнай прысутнасць таленавітага сына: «Шамо сказаў», «Шамо зрабіў», «Шамо ведаў»…

Сулейман Рагімаў частаваў нас шашлыком, загорнутым у вінаграднае лісце. Дарэчы, за сталом ён адзін вёў рэй. Жанчыны прыйшлі, прынеслі ўсё на стол, паставілі і пайшлі. За сталом яны не прысутнічалі. Некаторых, хто не ведаў усходніх звычак, гэта здзівіла.

Сулейман Гусейн аглы Рагімаў напісаў добрае мне пажаданне ў мой блакнот. Па маёй просьбе — на фарсі, на іхняй старадаўняй мове… На жаль, успомніць, што ён мне пажадаў, ужо не магу. Ды і прачытаць не магу таксама. Помню толькі, што ён пісаў, бо, мусіць, пісаць на фарсі і для яго было нялёгка…

З Альбінасам Жукаўскасам, вельмі лірычным і мудрым літоўскім паэтам, я пазнаёміўся таксама ў Азербайджане. Але ўжо з іншай нагоды — мы з ім прыехалі на святкаванне юбілею Вагіфа, Малла-Панаха Вагіфа, які нават увайшоў у народныя пагаворкі. «Не кожны, хто вучыцца, стане Малла-Панахам».

Мы з Жукаўскасам падружыліся, шмат гаварылі. Едучы ў Шушу, што ў Нагорным Карабаху, — там жыў і памёр Вагіф — мы садзіліся побач. Потым мы шукалі такую ўсходнюю піялу, у якой бы купіраваліся ўсе найлепшыя пахі чаю — мы з ім захапляліся чаем. Я зваў яго дзядькам Альбінасам — Жукоўскім — і я бачыў яму гэта падабалася — беларускія карані. Таму і ён мне сваю кніжку на літоўскай мове «Трудная радасць», дарэчы, амаль малютку, цудоўна выдадзеную, падпісаў таксама з намёкам: «Дарагому Сіпаку з павагай дзядзька Альбінас. 69.II.66. Вільнюс». А з той паездкі я прывёз у Мінск ад яго вельмі шмат прывітанняў — і Танку, і Броўку, і Куляшову — аказваецца, ягонымі сябрамі былі амаль усе старэйшыя паэты Беларусі.

А кнігу вершаў Арві Сійга «Снежное лето», якую з эстонскай мовы пераклалі Яўген Еўтушэнка з паплечнікамі, я прывёз з Таліна. Арві падараваў мне з добрым подпісам:

«Янке Сипакову с пожеланием продолжить писать много и хорошо от Арви в дни литературы и искусства Белоруссии в Эстонии. Май 1968».

З Сійгам і яго сям'ёй я пазнаёміўся ў тым жа Кактэбелі. А ўжо ў Таліне Рыгора Барадуліна, Віктара Казько і мяне Арві прымаў як гаспадар. Таму мы з ім назаўсёды засталіся на здымках: вось з ружамі — адразу па прылёце, вось на адкрыцці кніжнай выставы, вось на заключным канцэрце, вось у парку Маар'ямягі мы садзім галінастае, карэнневістае дрэва: Гілевіч, Барадулін, Казько, я, і ён, Арві Сійг. Ці расце дрэва? Такое ж карэнне… Не можа быць, каб яно не прыжылося.

Я з асалодаю перакладаў вершы Арві Сійга:

Асфальт разбурыў лугалесу адзінства.
Занята ўспамінамі зноў галава.
На ціхай узгоркавай пашы дзяцінства
наноў маладая ўзнялася трава.

Там статак стракаты ля рэчкі пасуць
і чэрвень бялявы, і сонечны ліпень.
І сэрца маё — спагадальнік вялікі —
дзіравіць кратовымі норамі сум.

З майго падарожжа па Туркменіі, з тых часоў, калі я ў Каракумах таптаў барханныя пяскі — гарачыя, як прысак! — яны хадзілі, і я з імі хадзіў! — я прывёз шмат арыгінальных, экзатычных выданняў.

Кнігу П. Караева «Туркменскія коні» падараваў мне Аманназар Ашыраў, з якім мы сядзелі побач на з'ездзе пісьменнікаў Туркменіі і які падахвоціўся паказаць мне і Рэпетэкскі барханны запаведнік, і старажытную Нісею-Нісу, і вярблюдаводчы малочны саўгас «Сакар-Чага» ў ауле Кешы, дзе разводзяцца гэтыя найпрыгажэйшыя і найспрытнейшыя ў свеце коні. Імі любаваліся Герадот і Ксеркс, людзі Мідзіі і Урарту, Асірыі і Двухрэчча.

Гэтыя коні — сапраўдныя прыгажуны: стройныя, з доўгаю і гібкаю шыяю, вялікімі вачамі, тачонай галавою, моцнымі нагамі…

І вось мы з Аманназарам у ауле Кешы, дзе ў 1892 годзе заснавана першая конегадоўчая канюшня. Дзіва! Я магу паглядзець і гляджу! —найпрыгажэйшых коней на зямлі, спадкаемцаў тых, якімі любаваўся Герадот і запрагаў у свае калясніцы Ксеркс! І Ластаўку, Карлангач, магу пагладзіць, і таго вунь буланага, што стрыжэ вушамі, — Ельялы, як вецер — таксама.

Аманназар, помнячы, як я шкадаваў, што мне не давялося пабываць у Бадхызскім запаведніку, дзе і да сёння жывуць дзікія коні — куланы, аж двойчы дасылаў мне ў Мінск набор паштовак «Бадхызскі запаведнік» з запрашэннем зноў прыехаць у Туркменію. У студзені 1982 года з надзеяй, у подпісу: «Пры-

едзеш у сакавіку — убачыш гэта… Дарагому Янку ў дзень 50-годдзя! Табе яшчэ 50! Аманназор Ашыраў. Сакавік 1986 г. Туркменія, г. Мары».

«Распусцілася фісташка. У жывёл з'явілася патомства. Штогод у Бадхызе адлоўліваюць куланят. Гэта робяць для таго, каб потым адправіць іх у розныя заапаркі і запаведнікі». І такое: «Выхоўваць куланя даручаюць asліцы». Навошта? У іх жа ёсць маці. Незразумела чаму, і па паштоўках гэтага не разгадаеш. Трэба было з'ездзіць зноў.

А даведнік па Рэпетэкскім пясчана-пустынным запаведніку мне падпісаў Сухан Вейісаў, адзін з яго складальнікаў: «Янку Сіпакову ад супрацоўнікаў Рэпетэкскай пясчана-пустыннай станцыі Інстытута пустынь АН Туркменскай ССР».

Памятаю толькі, што пасля соўгання па распаленых барханах мяне мучыла, не давала спакою толькі адна вялізная, як кропля вады, думка: «Піць!»

## 11

Ян Гушча, польскі паэт з Лодзі з беларускімі каранямі (Гушча ж!), з якім я пазнаёміўся ў Мінску на адным сімпозіуме і які перакладаў мае вершы, прыслаў мне потым сваю кнігу «Rozmowx і zaklęcia» з добрым аўтографам: «Пану Янцы Сіпакова́ві з падзякаваннем за «Веча балад» і за памяць — з найлепшымі (хоць і крыху спазнёнымі) зычэннямі навагоднімі — узрушаны яго вершамі. Ян Гушча. Лодзь. 3.І.1977 г.».

Цікавы паэт, арыгінальны чалавек, вялікі гумарыст і жартаўнік. Калі яго сусед па кватэры павесіў у сябе на дзвярах шыльду: генерал ад інфанэрыі такі-та, Гушча, смеючыся з яго, на сваіх дзвярах зрабіў бронзавую, шыкоўную шыльду: «Радавы Гушча». А вось да сваіх перакладаў ён адносіўся вельмі сур'ёзна: прысылаў мне ўжо надрукаваныя пераклады маіх вершаў — усе скрэсленыя, амаль перапісаныя напалову, — нават у іх, надрукаваных ужо, ён увесь час знаходзіў што правіць… Дарэчы, па сутнасці, ён адзін выбраў, склаў, апрацаваў, пераклаў кнігу «Вершы беларускія», якую выдала Wydawnictwo Lódzkie. Сапраўдная анталогія беларускай паэзіі!

З Амерыкі, з Нью-Ёрка, з вострава Лонг-Айленд, з доўгай выспы, на якой нарадзіўся вялікі вершаруб Амерыкі Уолт Уітмен, нечакана прыслаў мне сваю цудоўную кнігу прозы «Белая лошадь удачи», у якой змешчаны апавяданні і аповесці, мой даўні і, як я жартую, адзіны сапраўдны сябра за ўсімі акіянамі, на другім паўшар'і зямлі — Марат Баскін. Са шчырым прызнаннем: «Дарагому шаноўнаму Івану Данілавічу, які мроіў пра гэту кнігу не менш, чым я! Майму самаму лепшаму сябру, майму настаўніку і дарадцу, Паэту і Чалавеку з вялікай літары, якому я ўдзячны за нашу Дружбу. Сардэчна Ваш — Марат Баскін». Нью-Ёрк, 2008 г.».

А пазнаёміліся мы з Маратам тады, калі я працаваў у часопісе «Вожык». Не памятаю ўжо, ці то Марат, хлопец з Краснаполля, даслаў нам з райцэнтра, ці то прынёс сам вершаваную карацельку, якая мне спадабалася і якую надрукаваў «Вожык». Што тут пачалося! Мама Марата ўзрадавалася больш за ўсіх — і паскупляла ўсе экзэмпляры «Вожыка» ў Краснапольскім і бліжэйшых да яго раёнах. Гэта ж падзея: сын надрукаваўся і не абы-дзе, а ў самім «Вожыку»!

Марат пісаў на беларускай мове, захоплена і шчыра. Але ж не ўсё, як і ў кожнага пачаткоўца, удавалася. Часам і яму вярталі творы: «Не, для нас гэта не падыходзіць». Але ён, добразычлівы і далікатны, ні на кога не крыўдзіўся,

а часцей за ўсё дзякаваў тым, што вярталі. Многія не разумелі яго: «Во, дзівак, мы яму аддаём назад аповесць, а ён яшчэ нам «дзякуй!» кажа».

І ўсё ж ён надрукаваў сваю першую кнігу. Дваццаць адно гумарыстычнае апавяданне! У калектыўным зборніку. Сярод іншых перспектыўных гумарыстаў: В. Блакіт, Зм. Бяспалы, Т. Казлоўская, Р. Мазуркін, І. Стадольнік. І яе ён падпісаў мне гэтак жа шчыра, як і апошнюю, ужо згаданую: «Янку Сіпакову, майму настаўніку ў жыцці і ў літаратуры, з вялікай павагай і падзякай аўтар Марат Баскін. 23.12.77 г.».

Потым — Чарнобыль. Ён пакрыў сваім чорным крылом і яго родную Краснапольшчыну. І Марат Баскін з сям'ёю, са сваімі бацькамі едзе за акіян, у Амерыку. І там яго, як кажуць, прарывае — апынуўшыся ўдалечыні ад месца, дзе яны нарадзіліся, у іншым, зусім незнаёмым свеце, вядома ж, ім было цяжкавата ў новых варунках. А гэта пісьменніка цвярозіць, як нашатыр. І Марат пачаў апантана пісаць. Пісаў, зразумела, па-руску — а дзе ж надрукуешся па-беларуску? — пазнаёміўся з рускамоўнаю газетаю «Рускі базар», часта друкаваўся там. Сумуючы па Краснапольшчыне, Марат як не кожны тыдзень піша мне — па-беларуску! — і я вельмі часта ў канвертах знаходзіў яго цудоўныя апавяданні. Ён пісаў пра свой народ. На гэтым нялёгкім жыццёвым пераломе. Пісаў шчыра, апантана, радуючыся і сумуючы са сваім народам, крыху пасміхаючыся з яго, крыху подбадзёрваючы яго і заўсёды — любячы яго, верачы ў яго! Ён расказаў пра тое, як нядаўнія краснапольцы абжываюцца ў Амерыцы. Столькі лёсаў, столькі пачуццяў. І, ведаеце, расказваў Баскін пра ўсё гэта з няменшай праніклівасцю, чым у Шалома Алейхема. Але гэта ўжо не гумар! Гэта ўжо сапраўдная псіхалагічная проза. Я ўмоўна ўсю гэтую кнігу называю «Краснапольскія амерыканцы». Самі перасяленцы жартуюць, што, дзякуючы Баскіну, у ЗША Краснаполле цяпер ведаюць болей, чым Маскву.

Цяпер Марат і супрацоўнічае з газетай «Еврейский мир», і друкуецца там. А часам і ў Ізраілі. Паколькі ў ізраільскім штотыднёвіку «Секрет» ён друкаваўся ўпершыню, яго папрасілі напісаць пра сабе. Вось што ён напісаў. А на пачатку, дзеля знаёмства, ён так расказаў — адным абзацам! — у гэтай газеце пра сябе:

«Нарадзіўся я ў першы пасляваенны год, у Беларусі, у маленькім, тупіковым мястэчку Краснаполле, куды вяла ўсяго адна прасёлкавая дарога, якая ў бездарожжа рабілася непралазнай. Калі прыйшоў час выбіраць інстытут, бацькі, жадаючы зрабіць мне жыццё крыху лягчэйшым, параілі пастпаць у машынабудаўнічы: вечная местачковая мара пра горад зрабіла сваю справу. Ды і інстытут быў побач — у абласным цэнтры. Але жыццё ў горадзе аказалася нялёгкім і няпростым… Будучы студэнтам, пачаў пісаць апавяданні. І амаль адначасова з атрыманнем дыплома атрымаў сігнальны экзэмпляр сваёй першай кніжкі. Пісаў я апавяданні на беларускай мове і зараз пішу пісьмы сябрам у Беларусі таксама па-беларуску. Але, пераехаўшы ў пачатку дзевяностых у Амерыку, пачаў пісаць па-руску. Першае маё апавяданне, напісанае ў Амерыцы, было не пра Амерыку, а пра Краснаполле. Памяць дала мне ўратавальны шанц застацца ў літаратуры, калі я збянтэжана, разгублена ўглядаўся ў зусім незразумелы мне на першым часе свет. Я пачаў пісаць пра тое, пра што раней ніколі не пісаў: Краснаполле і краснапольцы сталі (зрабіліся) асноўнымі героямі маіх апавяданняў».

Углядаюся ў паштоўку, якую даслаў мне са свайго Brooklinа Марат. Вялікая і высокая на ўсю вуліцу, на ўсе сцены дамоў рэклама і маленькія, зусім маленькія, нібы прыдушаныя людзі. Іх многа, іх натоўп, але яны маленькія.

І разумею сэнс Маратавай мініяцюры, што на адвароце:

Как вечный двигатель прогресса,
Глядит рекламой в небеса
Таймс-сквер!
Мечтающий о капле сна!

І ўспамінаю яго пісьмо, у якім ён з замілаваннем расказваў пра сваю хату ў Краснаполлі, пад вокнамі якой, будзячы яго, раніцою, спяваў певень. Марат усміхаўся: ён расказваў гэта, — як казку! — свайму сыну, і Эрык, ужо тыповы амерыканец, студэнт універсітэта, ніяк не мог нічога зразумець: пад вокнамі? Певень? Які певень?

Марат адгукнуўся на мой «Зялёны лісток на планеце Зямля» рэцэнзіяй у «ЛіМе». У ёй ён напісаў:

«Гэтая кніга павінна быць на стале кожнага, хто нарадзіўся ў Беларусі, беларуса і небеларуса, хто жыве там ці жыў, хто хоча зразумець гэты край. «Зялёны лісток на планеце Зямля». Гэтая кніга — размова з часам і сучаснікамі. Успамінаюцца словы Уолта Уітмена, выдатна перакладзенага Сіпаковым:

Не, гэта не кніга,
таварыш,
Хто дакранаецца да яе,
Той дакранаецца
да чалавека.

Зялёны лісток — гэта і мая Беларусь».

Марат Баскін жыў і працаваў у Маладзечне, ведаў, быў знаёмы з Генадзем Кахаплоўскім, сябраваў з мастаком Юрасём Герасіменкам, які, калі ён ад'язджаў у Амерыку, падараваў яму краявід, на якім — хата ў Ракуцёўшчыне, дзе калісьці спыняўся Максім Багдановіч. Калі сумна, успамінаў у пісьмах Марат, разглядаю гэты краявід, бяру кнігу Багдановіча, і мне спакайнее.

Амерыка любіць багатых. Марат Баскін — бедны… Працаваў на мэблевай фабрыцы, даглядаў хворага чалавека… Цяпер з нецярпеннем чакае пенсіі — у Амерыцы на пенсію выходзяць у 67 гадоў. «Кракчу, але працую», — жартуе ён. — «Дай бог і надалей трымацца, кракцець і рабіць сваю справу. Шмат яшчэ спраў у нас у жыцці!»

Вось яго пісьмо ад 19 кастрычніка 2010 года. Па-беларуску — і ніводнай памылкі!

«Дарагі Іван Данілавіч! — піша Марат. — Час ідзе… Вось і восень пералезла праз сваю сярэдзіну. Дажджыць, вятрыць… І жыццё бяжыць… Надрукаваў я апавяданне і, як заўжды, дасылаю Вам выразку з газеты. Неяк званіў рэдактаршы «Еврейского мира». Падымаю трубку, кажу: «Алё». А яна кажа: «О, пазнала вас. Гэта Пірасмані яўрэйскай літаратуры!» Я пытаюся, чаму Пірасмані, дык яна адказвае: «Таму што як Пірасмані: вы бедны, не прызнаны, таленавіты, і я лічу, калі-небудзь станеце вядомым». Вось гэткі жарт атрымаўся! Сумны і вясёлы! Можа, нават, болей сумны…»

А гэты «яўрэйскі Пірасмані», мой добры сябра Марат Баскін, ужо мае выдатную кнігу пра свой народ — я з прыемнасцю прачытаў яе ў дасланых ім мне публікацыях! — і я, гэтак жа як рэдактарша, зусім не сумняваюся ў тым, што Марат абавязкова неўзабаве стане вядомым…

Марат жыве літаратураю! У гэтым жа пісьме ён гаворыць:

«Пару тыдняў таму прачытаў пра лаўрэатаў Нобеля і ўзрадаваўся, што ў гэтым годзе нарэшце далі ўзнагароду сапраўднаму майстру літаратуры Варгасу Льюсу. Памятаю, што я яго чытаў гадоў сорак назад у цудоўнай серыі «Мастера современной прозы». Вось дзе былі сапраўдныя майстры! І сапраўдная серыя! Дзе і перакладчыкі, і аўтары былі сапраўдныя майстры сучаснай прозы».

У маёй бібліятэцы ўся гэтая, і праўда выдатнейшая, серыя ёсць амаль поўнасцю: гэта мексіканец Карлас Фуэтас, датчанін Вільям Хайнесен, нарвежац Юхан Борген, югаславы Іва Андрыч і Міхайла Лаліч, гватэмалец Мігель Анхель Астурыус, аўстраліец Патрык Уайт, індус Крышан Чандр, італьянец Чэзара Павезе, канадзец Мальком Лауры, немцы Вольфганг Кёпен і Герман Гесэ, паляк Станіслаў Дыгат, ісландзец Халдор Лакснес, японцы Кэндзабура Оэ і Каба Аба, француз Эрве Базен, венесуэлец Мігель Атэра Сільва, кітаец Лао Шэ, швед Пер Лагерквіст, калумбіец Габрыэль Гарсія Маркес… Прабачце, хочацца пералічыць усіх, а гэта ж немагчыма: то ж, можа, уся сотня тамоў!

Неяк пахваліўся сябру, што пераклаў на беларускую мову паэзію Вавілона, паэтаў Старажытнага Рыма і Старажытнай Грэцыі і цяпер падступаюся да арыйскай паэзіі, да гімнаў і замоў з самых старажытных кніг свету «Рыгведы» і «Атхарваведы». Набыў рэдкую кнігу для перакладаў. «О, і ў мяне гэткая ж кніга была, — адразу адгукнуўся ў чарговым пісьме Марат, — з яе нават мой бацька выпіскі замоў зрабіў, а потым па іх і лячыўся».

Я паслаў яму, як толькі выйшла, сваю «Зубрэвіцкую сагу». І Марат адразу ж адгукнуўся сваім вялікім, усхваляваным пісьмом:

«Дарагі Іван Данілавіч!

Атрымаў ад Вас самы дарагі мне падарунак — доўгачаканую «Зубрэвіцкую сагу»!

Я некалькі хвілін проста трымаў яе ў руцэ, любуючыся яе вонкавым выглядам, і дарагімі для мяне словамі — «Янка Сіпакоў. Зубрэвіцкая сага». Вось яна адчувальная найсапраўдная кніга, аб якой мы з Вамі марылі. Я пачаў чытаць яе адразу, але чамусьці не спачатку, а з апавяданняў «Па дарозе ў трывожны зялёны сад» і «Партызаны»! Балюча іскраметныя, важкія і светлыя чалавечай дабрынёй і смуткам — гэта сэрца Вашага рамана. Не ведаю чаму, я адразу звярнуўся да гэтых твораў, але менавіта яны павялі мяне ў цудоўны свет Вашай Чалавечнасці, Дабрыні і Спагады! Далі зразумець Ваш Вялікі Боль Душы і Вялікае Шчасце Несці Дабрыню! І я ўвайшоў у Ваш свет, палюючы на маманта і кахаючы русалку, углядаючыся ў слязу Перуна, з павагаю схіляючыся перад мядзведзем Хутам, разважаючы аб жыцці разам з Ягайлам і палюючы на сланоў разам з Алемпіем… Бо ўсе героі гэтага рамана — гэта Вы самі! І іх боль і смутак. Шчасце і каханне, радасці і перамогі Вашы!

Калісьці Джон Стэйнбек, у адным з пісьмаў да рэдактара сваіх кніг, напісаў «что всякий роман — это человек, который его пишет… Автор романа, возможно бессознательно, отождествляет себя с главным или центральным персонажем. Вы легко найдёте подобного героя в каждой из моих книжек, да и в романах всех, кого я помню».

Вельмі справядлівыя словы. І ў гэтым рамане я бачу за кожным героем Вас, нягледзячы на абставіны і часы дзеяння герояў Вашай Сагі. У гэтым рамане Вы расказалі пра час і сябе! Гэта кніга, як глыток крынічнай вады, якую пісьменнік нясе людзям! Гэта Кніга на Усе Часы!

Віншую Вас з яе выхадам да чытача! І віншую з яе напісаннем! Шчыра скажу, Вы напісалі вялікую кнігу пра род беларускі, упісаўшы Вашы святыя Зубрэвічы ў Вялікую Літаратуру!

Вялікае прывітанне ўсім Вашым ад усіх маіх і мае віншаванні ім у сувязі з выхадам гэтай кнігі! Бо без іх, падтрымліваючых нас, дапамагаючых нам, хіба былі б напісаны якія кнігі?

Абдымаю Вас з вялікай пашанай і пажаданнем здароўя і новых творчых радасцей.

*Ваш*
*Марат Баскін*

P. S. Чытаю, чытаю, чытаю… Перачытваю, перачытваю, перачытваю!»

І ў наступным пісьме:

«Усё вяртаюся і вяртаюся да Вашай Сагі! Перачытаў мо ў трэці раз — гэта па-сапраўднаму вельмі сучасны і мудры раман! Міфалагічная гісторыя Вашай вёскі ўвабрала ў сябе і гісторыю Беларусі, і гісторыю свету. Магічны шлях, пракладзены Вамі, праз час прымушае чытача зразумець, што кожная падзея ў жыцці, гэта развілка на шляху чалавецтва, і ў адказнасці за гісторыю чалавечага лёсу кожны з нас! Нешта падобнае я адчуваю, чытаючы Маркеса: далучэнне маленькага лёсу да вялікага лёсу! Гэта не проста раман з жыцця маленькай беларускай вёскі, а жыццё маленькай беларускай вёскі з планеты Зямля! Агульначалавечыя праблемы свету ў Вашай кнізе набліжаны да чалавечых лёсаў, да маленькага чалавека, у якім бы ён аблічы ні быў — князя, ваёўніка, уладара, селяніна, аратага, паляўнічага… Калісь падобнае зрабіў Маркес, узняўшы калумбійскую вёску да сусветных вышынь. І Вы гэтак жа смела, рашуча беларускую вёсачку прынеслі ў далонях да сусветнага чытача!

Каб ён зразумеў, што і яго лёс залежыць ад лёсу невядомай дагэтуль вёсачкі пад Воршай! Як і лёс Зубрэвічаў залежыць ад іх».

У інтэрнэце Марат знайшоў маю публікацыю з «Дзённіка настрою» «Шукаючы спакой у цішыні», якую зрабіў часопіс «Маладосць». І тут жа мне паведаміў: «А я сябраваў з бацькам Даніка. І нават не ведаў, што ў яго ёсць сын, такі таленавіты сын».

Я быў у гасцях у Галіны Твархановіч-Сеўрук, і там у кватэры, нібы ў музеі, пазнаёміўся з творчасцю Даніка Твархановіча, яе сына. Тое, што робіць гэты хлопец, мяне ўразіла. І я расказаў пра яго ў маленькім эсэ.

Эсэ спадабалася і Марату, і Галіне. Калі ў наступны раз мы ўбачыліся ў Мінску, Галіна сказала, што яна вельмі многа добрых слоў чула пра Баскіна, ад свайго былога мужа, асабліва ад свекрыві — якая расказвала пра Марата шмат і з захапленнем.

Цяпер Галіна жыве ў Польшчы, яна жонка Яна Чыквіна. Яны ўдваіх выдаюць у Беластоку беларускамоўны часопіс «Тэрмапілы».

Дарэчы, кнігу «Бурштынавы яблык», якая выйшла ў яе ў Польшчы, Галіна Твархановіч падпісала мне: «Дарагому Івану Данілавічу — далейшага творчага, духоўнага ўзыходжання, радаснага штодня. З захапленнем, шчыра

*Галіна. 4.10.10, г. Мінск».*

З гэтай кнігі:

Неўпрыкмет  
Праз гушчар самоты і абавязкаў  
Сцежка вывела на паляну,  
дзе шмат лагоднага сонца,  
пяшчотных колераў кветак,  
духмяністых ягад суніц.

Кніга выйшла ў Беластоку, у «Бібліятэцы беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа». Яна — семдзесят трэцяя. Да яе ўжо выдадзена 72 кнігі з гэтай «Бібліятэкі…» пісьменнікаў-белавежцаў з дапамогаю Культурнага цэнтра Беларусі пры Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча. Гэта ж цэлая паліца на паліцы.

«Slovnik spisovatelu». У сямідзясятыя гады мінулага стагоддзя ў былой Чэхаславакіі была разгорнута неверагодна цяжкая і ў той жа час захапляльная праца па стварэнні слоўнікаў літаратур усяго зямнога шара. Над ёй працавалі дзясяткі, а то і сотні літаратуразнаўцаў. У 1977 годзе ў папулярнейшым выдавецтве «Одеон» выйшаў аб'ёмнейшы двухтомнік амаль на паўтары тысячы

старонак «Sovetski Svaz», у якім усе літаратуры Савецкага Саюза. Шырока прадстаўлена і беларускае прыгожае пісьменства. Над беларускім слоўнікам шчыра працаваў Вацлаў Жыдліцкі — даўні і адданы сябра Беларусі і беларускіх пісьменнікаў, якія загаварылі па-чэшску — дзякуючы яму. Ёсць там і яго персаналія пра мяне. Пра маю паэзію ён піша: «Вызначаецца культываваным версіфікацыйным уменнем, свежасцю асацыятыўнай метафорыкі, багатай метрыкай і належнай разнастайнасцю жанраў…» І пра прозу: «Праз псіхалагізацыю, філасафічнасць і лірычнасць пісьма ўзняўся да выдатнай празаічнай «кнігі вёскі» «Крыло цішыні», лірызаванай трылогіі, якая спасцігае з незвычайнай глыбінёй вясковы свет».

Свой «Слоўнік» Вацлаў падпісаў мне: «Паважанаму Янку Сіпакову з найлепшымі пажаданнямі, шчыра — Вацлаў Жыдліцкі. Прага, 20.II.1980 г.». Мы сустракаліся з ім у Мінску. Вацлаў заўсёды казаў мне, што марыць перакласці на чэшскую мову «Крыло цішыні»…

Ён жа напісаў у слоўніку ўсё і пра ўкраінскую літаратуру.

Дарэчы, шырокая ў маёй бібліятэцы, вельмі шырокая і паліца з украінскай літаратурай. Гэта і шматлікія выданні «Кабзара» Тараса Шаўчэнкі — і па-ўкраінску, і на іншых мовах у розных падарункавых выданнях, і вельмі дарагі мне альбом мастацкіх твораў Тараса Рыгоравіча, і першы том «Гісторыі Украінскай ССР», вялікі фаліянт, які спатрэбіўся мне, калі я пісаў «Веча славянскіх балад», і які даслалі мне сябры з Кіева, гэта і двухтомнае выданне «Украінскай савецкай паэзіі», па-беларуску, і «Беларускай радзянскай паэзіі» на ўкраінскай мове, дзе ёсць і мае вершы па-ўкраінску, і мае пераклады з украінскіх паэтаў.

У маёй бібліятэцы Якуб Колас выдатна размаўляе па-ўкраінску. Яго слынную паэму «Новая зямля» бездакорна пераклаў на ўкраінскую мову Валерый Стралко, які выдатна валодае і ўкраінскай, і беларускай мовай. Украінец, які спачатку палюбіў пляменніцу Купалы, узяў яе за жонку, а потым і апантана палюбіў яе Радзіму — нашу Беларусь.

«Новая зямля» па-ўкраінску выйшла яшчэ да 100-годдзя пачатку творчай дзейнасці і 125-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа. Валера падпісаў кнігу мне:

«Паважанаму Івану Данілавічу, даўняму сябру не менш паважанага Уладзіміра Радзівонавіча Каламійца (рэдактара кнігі) на добрую памяць. Валера Стралко. Г. Кіеў». Валодзя Каламіец будзе рэдактарам Коласавай «Новай зямлі». Упэўнены, усё будзе як найлепш. Ён любіць слова і шануе яго.

Ну, Валодзевы амаль усе кнігі ў мяне ёсць. І ўсе з добрымі пажаданнямі і зычлівымі згадкамі.

«Янку Сіпакову — сябру, паэту, якога люблю, на дабро і шчасце». Гэта на кнізе «Дзень тварэння».

«Янку Сіпакову — від сэрца! Володимир Коламієць». Гэта на томіку выбранай паэзіі з маладым, амаль хлапчуковым здымкам. Там мяне захапіла яго «Як пахне сонцам салома». І я пераклаў яго на беларускую мову.

«Раса і попел», кніга Уладзіміра Каламійца, якая выйшла ўжо ў новым тысячагоддзі, у 2006 годзе, і якую мне прывёз Валерый Стралко з Кіева, мае падзагаловак «Аповесць з побытавых і няпобытавых навел». Яна — як гаворыцца ў анатацыі, дэбют у жанры прозы немаладога ўжо сямідзесяцігадовага чалавека, лаўрэта Нацыянальнай прэміі Украіны імя Тараса Шаўчэнкі. А ў ёй — найцікавейшыя згадкі і ўспаміны Валодзі. Да прыкладу, «За шо мене зняли з рэдактара». Ён працаваў у маладзёжным часопісе «Дніпро». Калі «патурылі» яго любімага вельмі шэфа Юрыя Мушкеціка з галоўнага рэдактара, па настойлівай рэкамендацыі перад усімі чыноўнікамі Алеся Ганчара, яго

«зрабілі» галоўным рэдактарам. А па часе і крытыкаваць пачалі. На пленуме ЦК КПУ — не тую лінію вядзе, трапляюцца нацыяналістычныя ўхілы… А тут яшчэ памёр Брэжнеў. І ў тым нумары «Дняпра», дзе расказвалася пра пахаванне Генсека, цэлы аркуш перавярнулі, паставілі ўверх нагамі… З ЦК пазванілі Шчарбіцкаму, які на той час быў у Маскве, на «паклоне» ў новага Генсека, і той рапарадзіўся «гнать в три шеи». І вось пашыраны сакратарыят ЦК. І ён, Валодзя, як на аўтадафе, на трыбуне. Яго засыпаюць перакрыжаванымі пытаннямі. Усе гавораць па-руску, і толькі адзін ён — па-ўкраінску. Устае загадчык ідэалагічнага аддзела ЦК КПУ Леанід Краўчук:

— Что здесь Коломиец выкручивается перед нами…

Валодзя яшчэ спрабуе ўратавацца: «Хотілось би й далі працювати на цій ніві»….

— Нет, хватит… Наиздевались вы над нами. Хватит!

Выгналі з работы. Уляпілі партвымову. Прайшоў час і…

І ў канцы Валодзя нібы здзіўляецца: а ў маім дыпломе лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Украіны імя Т. Г. Шаўчэнкі за кніжку «Золатасінь» подпіс першага Прэзідэнта суверэннай Украіны Леаніда Макаравіча Краўчука.

У «Расе і попеле» шчымлівыя згадкі пра дзеда Максіма, у якога падчас галадамору паўмірала ўся сям’я, апроч Валодзевай маці, — і бабуся, і цёткі. Дзед не бачыў гэтага — адбываў «разкуркуленне», раскулачванне ў Котласе.

І яшчэ, як ён гасцяваў у Паўло Тычыны і, вясковы хлопчык, упершыню еў масліны і як яны яму не спадабаліся.

І яшчэ маленькае эсэ «Авакян і Янка Сіпакоў» з вельмі дарагімі для мяне словамі: «А з Янкам Сіпаковым пазнаёміўся я праз узаемаабмен матэрыяламі майго часопіса «Дніпро» з беларускім часопісам «Маладосць». Дзіўна шчыры вродліво-сціплы гэты цудоўны паэт — Я. С., праз душу якога можна зазірнуць і ў душу ўсяго беларускага народа».

А падпісваючы кнігу вершаў для дзяцей «Ярмарок див», Валодзя ўсміхаецца: «Майбутнім внучаткам — сіпаковченяткам — на радасць! Аўтар В. Каламіец. 29.V.83 г.».

«Любому Янці Сіпакову — сяброві-побратимові — на творче щастя, від сэрця!», гэта ўжо на «Яре віно» ў 1988 годзе. З пісьмом. І з добраю весткаю:

«А цяпер — пра галоўнае. Як памятаеш, я абяцаў табе падумаць пра выданне тваёй кнігі на Украіне. Дык вось, нарэшце, такая мажлівасць наспела. Выдавецтва «Радяньский письменник» (дзе я працую галоўным рэдактарам паэзіі) плануе выдаць зборнік Янкі Сіпакова «Веча славянскіх балад» у 1990 годзе. Укладальнікам украінскіх перакладаў я папрасіў афіцыйна быць Пятра Перабійноса, хоць фактычна давядзецца гэтым займацца мне. У аснову кніжкі сапраўды, я думаю, варта пакласці твой зборнік «Веча славянскіх балад», за які ты атрымаў Дзяржпрэмію, — ці так? І дапоўніць усім лепшым, чаго ты пажадаеш. Перакладаць цябе згадзіліся найлепшыя нашы паэты: акрамя мяне і Перабійноса, я ўжо гаварыў (і пачуў пра шчырае жаданне перакладаць цябе) з Дзмітром Паўлычкам, Пятром Засенкам, Алесем Дарычэнкам. Думаю, далучацца Барыс Алейнік, Іван Драч, Мікола Вінграноўскі. А каго б ты яшчэ хацеў? Каго я пакуль не згадаў? Напішы».

І кніжка на Украіне выйшла! Вядома ж большасць клопатаў узяў на сябе ён, Валодзя Каламіец, мой сябра. Пасляслоўе напісаў Пятро Засенка — «Каб зноў араць і сеяць». Шмат перакладаў у кнізе і Пятра Перабійноса.

З Пятром мы пазнаёміліся ў Туркменіі, у Ашхабадзе — мы разам былі на з’ездзе туркменскіх пісьменнікаў, пасля нас запрасіў дадому паэт Тахар Барджакаў, і мы цэлую ноч слухалі як ён іграў на дутары і спяваў народныя

песні. Канечне, мы не разумелі мовы, не разумелі пра што яны і, аднак, без мовы, было відаць пра што яны: пра душу, пра жыццё, пра свой народ, пра край сокалаў і песняў.

І ў нас з Пятром між сабою завязалася сапраўдная дружба. Як і дружба з Тахарам ды іншымі туркменскімі пісьменнікамі.

Пятро Перабійнос быў шчодры на аўтографы.

«Дружа, браце мой! — напісаў ён на сваёй кнізе «Срэбнае вяселле». — Калі я думаю пра Беларусію — то бачу Цябе. Калі я думаю пра Цябе — то бачу Беларусію. Моцна абдымаю. Пятро Перабійнос».

Надпіс на яго паэтычнай кнізе «Дакладны час» я і сёння перачытваю з хваляваннем: «Рідній душі мої, щедрому таланту Білорусі — Янці Сіпакову — аби не забывав доріг на Украіну. Від серца — Пятро Перабійнос. 23.XI.90». І чамусьці прыпіска «Масква — далёка».

Яму вельмі спадабаўся верш «І не абтросшы з ног дарожны пыл» з маёй кнігі «Усміхніся мне», і ён адгукнуўся на яго паштоўкаю:

«Мой крэўны пабрацімe Янку! Сардэчна дзякую Табе за цудоўны падарунак (кніга «Усміхніся мне»). Твая кніжка — сапраўдная з'ява ў нашай літаратуры. Багата ў ёй <u>вечных</u> вершаў. Але ёсць адзін, асаблівы. Гэта — «І не абтросшы з ног дарожны пыл...» Ён проста перавярнуў маю душу. Калі гэта дакументальны факт, то Ты — вялікі талент, калі ж гэта выдумка, фантазія, то Ты, Янку, — геній! Віншую Цябе з вялікаю творчаю ўдачаю! Пятро Перабійнос. Кіеў. Украіна».

А маю вялікую памерам паэму ў прозе пра Тараса Шаўчэнку «Хата», Пятро, калі быў галоўным рэдактарам «Літаратурнай Украіны», цалкам надрукаваў у перакладзе на ўкраінскую мову на старонках сваёй газеты.

Тамара Каламіец бездакорна пераклала для гэтай маёй украінскай кнігі вянок санетаў «Жанчына». Выдатная паэтэса! Сваю кнігу «Асенняя бярозка» яна падпісала мне ў Кіеве: «Янці Сіпакову на добру згадку про Київ — із словами щирими і почуттямі світлими». А ў ёй — свой вянок санетаў — «Хлеб». Дык вось адкуль у яе бездакорнае адчуванне санета, вянка санетаў, трыялета ды іншых тонкіх формаў паэзіі. І яшчэ ў кнізе верш «Памяці Еўдакіі Лось», «Ліст (з Яўгеніі Янішчыц)». Шмат вершаў прысвечана Беларусі. Тамара Каламіец любіць Беларусь! Сапраўднай, шчырай любоўю…

Шчыры ўдзел у стварэнні маёй украінскай кнігі паэзіі браў і мой даўні сябра Раман Лубкіўскі са Львова. Ён не толькі мой сябра, ён сябра ўсіх беларускіх паэтаў і ўвогуле ўсёй беларускай паэзіі ды і ўсёй нашай літаратуры.

Сваю кнігу «Звіздар» Раман падараваў мне яшчэ ў 1978 годзе з надпісам: «Дарагому майму беларускаму сябру Янку Сіпакову, чыя паэзія прыўкрасіла гэтую кніжку, — на шчасце, здароўе, на дабро і вечнае пабрацімства. Раман. 27.IV.78 г.».

У кнізе — раздзел перакладаў «З братняга поля». Там, сярод слынных аўтараў, чые імёны я вымаўляю з піетэтам, — Валерый Брусаў, Федэрыка Гарсія Лорка, Канстанты Ільдэфанс Галчынскі, Любамір Леўчаў, ёсць і Янка Сіпакоў.

Потым Раман Лубкіўскі засяродзіў сваю ўвагу на славенскіх паэтах і славенскай паэзіі. І тут, можна сказаць, здзейсніў подзвіг. Вось ён, яго своеасаблівы двухтомнік — «Славянскае неба» і «Славянская ліра». А ў іх выбраныя пераклады Рамана Мар'янавіча з усіх славянскіх моў, з усіх славянскіх краін, з усіх славянскіх паэзій.

Абодва дарагія мне томікі з аўтографамі. На адным, на «Славянскім небе», Лубкіўскі напісаў: «Дарагому, сардэчнаму сябру Янку Сіпакову, які працуе на

блізкай для мяне хвалі — са шчыраю любоўю і павагаю. Раман. 9.Х.1973 г. На сімпозіуме перакладчыкаў з беларускай літаратуры». У подпісе на «Славянскай ліры» Раман таксама шчодры: «Дарагому беларускаму пабраціму, аднаму з аўтараў гэтай кніжкі — з братняю любоў'ю. 4.I 1986 г. Львоў».

Дарэчы, цудоўную прадмову да «Славянскай ліры» напісаў Дзмітро Паўлычка, які, як мне здаецца, ад самага нараджэння ўжо быў славутым украінскім паэтам. У мяне шмат ягоных кніг з кароткімі, але моцнымі аўтографамі.

На «Таямніцы твайго аблічча»: «Янці Сіпакову, дарагому пабраціму, на шчасце. 7.IV.75 г.».

На кнізе пра каханне, якая шыкоўна выдадзена ў 1980 годзе: «Ріднаму Янці Сіпакову сэрцам до сэрця».

У гэтых кнігах — цудоўныя лірычныя вершы пра Каханне, Пра Яго і Яе, пра тое пачуццё, якое найгалоўнейшае з усіх чалавечых пачуццяў. Я з захапленнем і насалодаю перакладаў гэтыя вершы на беларускую мову. І Дзмітро, мусіць, адчуваў гэта і з вялікай прыхільнасцю паставіўся да іх — яны, я бачыў, і яму падабаліся. А каму, скажыце, можа не падабацца вось такое:

Так светла ты снілася мне:
Не рукі, не вочы, а голас,
Твой голас, як дзень у акне,
Як вецер, ласкава-вясёлы.

Між ночы, як досвітак, ты
У слове паволі святлела,
Свіцілася, нібы бурштын,
Тваё яшчэ соннае цела.

Ты ўзнікла зусім неспадзеў,
І ўся была светлатою,
І сэрца абмыць я хацеў
Святлом тым і чыстасцю тою.

Як добра было нам дваім!
І трэба ж так раптам збудзіцца…
Мятлік у сэрцы маім
Трапеча аброшаным крылцам.

Пасляслоўе да ўкраінскай маёй кнігі напісаў Пятро Засенка — «Каб зноў араць і сеяць». Ён паказаў мне Кіеў. А з Засенкам мяне пазнаёміў Янка Купала. Вось як пра тое расказвае ў згаданай прадмове сам Пятро:

«Першы летні месяц 1982 года набліжаўся да канца, і кіеўскія вечары густа пахлі ліпавым цветам. Той парою, ідучы вуліцамі, міжволі з'яўлялася адчуванне — падзяліцца прыгажосцю нашага горада з добрымі людзьмі, якія яшчэ не бачылі сталіцы над Дняпром. Нагода ж такая трапіла сама сабою: набліжалася слаўная дата ў гісторыі славянскага пісьменства — сто гадоў з дня нараджэння беларускага паэта Янкі Купалы. З гэтай нагоды Саюз пісьменнікаў Украіны загадзя стварыў юбілейную камісію, у якой мне давялося выконваць абавязкі сакратара. Апрача гэтага, я павінен быў сустрэць госця з Мінска — ім быў вядомы беларускі паэт і празаік Янка Сіпакоў».

Ён пападараваў мне зялёную з густам выдадзеную, таненечкую-таненечкую, як першы зборнік пачаткоўца, кніжачку. Але ж які магутны подых мела гэта кніжка! Я аж трымцеў, перакладаючы ягоны верш «На кірмашы вятроў»:

Як туры, хмары з-за бароў
Плывуць на чорным небакраі…
А я на кірмашы вятроў
Вятры, як коней, выбіраю…

Вятроў з сабою чараду
Я правяду у дом Тычыны.
Руку на грыву пакладу
Жывому ветру з Украіны.

Аляксандр Білаш. «Мелодыя». Паэзія. Кніжка-мініяцюра. Вядомейшага на той час украінскага кампазітара. Ягоныя песні спяваў як не ўвесь Савецкі Саюз. Кніжка таненечкая-таненечкая. Усяго на некалькі старонак. Аўтар называў яе сваім малітоўнікам. Неяк мы, сустрэўшыся, — Білаш, Барыс Алейнік і я — хораша прагаварылі да глыбокай ночы. Сваю «Мелодыю» Білаш падпісаў мне:

«Дарагому Янкові Сіпакову, красивому сябру — на добро і вічне сонце! Нехай щастить Тобі, Янку! Щиро. Білаш».

А гэтая кніга не мае аўтографа. Хоць яна магла б сабраць ладную сотню іх.

«Шевченкова дорога в Білорусь». Усё пра сувязі і самога Тараса Рыгоравіча, і яго паэзіі з беларускай зямлёю, з беларускай паэзіяй, з беларускім народам. Кніга выйшла ў Львове. Склаў яе зноў жа Раман Лубкіўскі. У ёй — і мой артыкул «З думкаю пра нязводнасць народа». Гэта маё выступленне на Шаўчэнкаўскім свяце паэзіі.

«Щасливий народ, які мае такога паэта. Але шчаслівы і паэт такога народа, які яго, Паэта, плоць ад плоці сваёй, кроў ад крыві сваёй — падняў на касмічную, недасяжную вышыню», — сказаў я тады ў Кіеве.

Канечне, мне б хацелася, каб у гэтай кнізе была змешчана і мая паэма ў прозе «Хата», пра якую самі ўкраінскія сябры гаварылі і пісалі, што ва ўкраінскай літаратуры такога твора пра Тараса Рыгоравіча пакуль што няма. Але ён, мусіць, аказаўся велікаватым для гэтага мабільнага выдання...

***Працяг будзе.***





## Ганад ЧАРКАЗЯН

* * *

Усё, як некалі. І заўтра будзе гэтак
Усё падобным на ўчарашні дзень.
А ты ўсё хочаш, каб паболей кветак
І хмурасці ніякай анідзе,

Каб весялосць і новых песень зыкі,
Сяброў усмешкі, мілыя грашкі…
Ды іншы час даўно цябе паклікаў
Цягаць турбот цяжэзныя мяшкі.

* * *

Вясна. І суму майго ледавік,
Чуваць, як пакрыху тае.
Я, што хадзіць па зямлі прывык,
У сне ўсё часцей лятаю.

---

***Чарказян Ганад Бадрыевіч*** *нарадзіўся 18 кастрычніка 1946 года ў Арменіі. Пасля заканчэння сярэдняй школы вучыўся ў тэхнічным вучылішчы № 1 горада Ерэвана, у прафесійна-тэхнічным вучылішчы № 27 горада Эчміадзін, працаваў на суднарамонтным заводзе імя Ф. Дзяржынскага ў горадзе Туапсе Краснадарскага краю, служыў у Савецкай Арміі. Скончыў Ерэванскі індустрыяльна-педагагічны тэхнікум (1976) і будаўніча-педагагічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (1982). Працаваў у будаўнічых арганізацыях Мінска, у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Цяпер — дырэктар фірмы ТСТ.*

*Піша на курдскай, армянскай і рускай мовах. Выдаў у перакладзе на беларускую і рускую мовы зборнікі вершаў «Прочность» (1980), «Цвет доброты» (1986), «Пространство и время» (1990), «Плач» (1994), «Караваны гор» (1996), «Чаргаві» (2001),«Дом дождя» (2001), «Тоска по дому» (2003), «Зорная глыбіня» (2005), «Мелодия разлуки» (2006), кнігі прозы «Шамдзін» (1998), «Камни печали» (1999), «Белая вежа» (2010), раман «Опередить смерть» (2005) і інш; кнігі для дзяцей «Казкі дзеда Ганада» (1996), «Пумпур у калясцы» (2004).*

Ля дома, дзе ты жывеш, я лячу,
Паветра грабу рукамі.
І нумар твой набраўшы, маўчу,
І ты маўчыш і чакаеш.

Ты, несустрэтая, зноў адляціш,
Знікнеш у сіняй прасторы.
У небе задумліва зорка трымціць,
Мы пра цябе з ёй гаворым.

* * *

Ружы расцвілі. Ружовым святам
Дзень ружова бераг ахінуў.
Ружы расцвілі, і чмель бухматы
У ружовай хвалі патануў.

І пчала, і матылёк знаёмы
У суквеццяў хвалях ажылі,
І адразу стала ўсім вядома,
Што раптоўна ружы расцвілі.

І ніхто нідзе свайго не ўпусціць.
Разам, гуртам, лёгка і ўсур'ёз
З кусціка куляюцца на кусцік
І…не заўважаюць слёз.

Плачуць ружы, што іх дзень мінае.
І слязой расчулілі мяне.
Хоць чмяля ўсё гэта не кранае…
І краса, як маладосць, міне.

* * *

Гэта добра ці дрэнна гэта?
Я званю, я спяшаюся ў лета,
А мяне вясна за акном
Хмеліць зранку зялёным вінам
І па тварах нямых аканіц
Б'е зялёным крылом:
—Адчыні!

Трэба ліўня,
І ліўня такога,
Каб, не чуючы анікога,
Я ў дзяцінства сваё ляцеў.
Можа б, там, каб дазволіў час,
Я па-іншаму б жыць пачаў.

Ах, расчуліўся…
Ці ні даволі?
Хто каму дзе такое дазволіў?

* * *

Дабро ў абдымках цешыцца са злом.
Хто кажа мне, што гэта нетыпова?
Дык ведай:
Крылы ёсць і ў добрых слоў,
Калі іх кажуць нам своечасова.

Вунь, бачыш, перад намі двое, тых!
Высока як над буднямі крыляюць!
І свецяцца звысоку твары іх,
А стрэлы злосці бокам аблятаюць.

Хутчэй такія словы мне кажы,
Каб жар іх моцна галаву кружыў.
А момант шчасця, ён няўлоўны,
Хоць
Усё паўторыць вышыня шматкроць.

* * *

Старасць — гэта калі
Нашы твары і сэрцы грубеюць
І застываюць у пэўнасці,
Калі думкі сціскае
Марудства і жорсткасць.
Вось тады мы, нарэшце,
Бачым тое, што бачаць усе,
І ўсяму па-дзіцячаму верым.
Хоць праз шкліны павелічальныя
Бачны ўсе недахопы й заганы,
Ды ўжо слоў нестае
Выкрываць іх рашуча.
Камянеюць штодня
Нашы рукі
І лыжку да рота калі і даносяць,
Дык толькі пустую.
Камянеюць і сэрцы,
І толькі ў азерцах вачэй
Яшчэ ўсё адсвечвае вільгаць.
Можна ўжо і ўздымаць
Нас, каменных, на пастаменты.
Будзем ціха стаяць,
Будзем помнікамі

Самім сабе
І жыццю,
Што, як хваля, нас выбіла неяк на бераг,
У якога імя — забыццё.

## ШУМ

Траскоча трактар у полі.

Надрываецца ў лесе піла «Дружба».

Абсыпае грукатам самалёт.

Пазвоньваюць шыбы аконныя
Ад вулічных аўтамабіляў.

Даймае ўвесь час тэлефон.

Грыміць за сцяной тэлевізар.

Уладарыць Шум.
Ён — дзіця цывілізацыі.

З кожным крокам яе
Ён стараецца,
Перабіраючы меру.

І няма ад яго ратунку.

Шум —
Апошняе слова жыцця.

* * *

І дзень мінуў,
І ў памяці тваёй
Зусім раптоўнай іскраю згарэў ён.
Пражыты так нікчэмна
І дарэмна,
Табе ўжо не належыць ён.

Зусім звычайны,
Незваротны дзень,
Якіх у бездань канула ці мала.
А ты спакойна на яго глядзеў,
І смеласці заплакаць
Не хапала.

* * *

Сёння ружовыя зняў акуляры
І нават здзівіўся —
У чорна-белым
Свет куды цікавейшы.
Ён не слізгае больш
Па гламурнай паверхні пачуццяў,
Але так закранае душу
І нават
Паказвае сэрца.
Чую: гулка, раскацiста
Яно бухае ў рэбры,
І вышуквае словы патрэбныя,
І пасылае да горла іх.
Гэта нават някепска,
Ды толькі не ў нашы гады.

Зноў працёр
Запацелыя шкельцы,
Уссаддзіў іх на нос.
Аглядзеўся вакол
І паціху
Пачаў супакойвацца.

* * *

Шкадавання ўздыхі марныя…
Што былое шкадаваць?!
Што не знікла — тое маем мы,
Згодны й гэтае аддаць.

І нічога ўжо не зменіцца,
І не знікне ўсё знячэў.
А мука старая  мелецца,
Млын гудзе, цячэ ручэй.

Ні папрокам, ні парадаю
Нас ужо не зменіць час.
Засталося толькі радаваць
Ці кагосьці засмучаць.

А прылягу — сон адолее, —
Ціха рэчы прыбяры
І мяне, з усмешкай добраю,
Кажушком старым накрый…

* * *

Дзяўчыну тую, што кахаў і сніў,
О, як ты, неспагадны час, змяніў!
Яе сустрэў — і спахмурнеў мой дзень:
Насустрач мне бабуляю ідзе.

Дзяўчына тая з казкі маладой
Сплыла на чоўне з веснавой вадой.
Шчаслівая, трымаючы за ручку,
Вядзе бабуля птушаня-унучку.

Нястрымна, лёгка дні бягуць яе.
Пяе вясна вадой, сама пяе.
Глядзіць яна: імклівая вада
Змывае ўсё…І следу не відаць…

* * *

Я з табой размаўляю вечарам.
І так лёгка цячэ размова,
Калі зоркамі неба расквечана,
Калі ў згодзе і зоркі, і словы.

Я з табой размаўляю ноччу,
Калі спіць гэты свет стамлёны,
Калі поўня бяссонная сочыць
За зямлёй жоўтым вокам здзіўлёным.

Ты прыходзіш, і я, паўсонны,
Пазнаю цябе па дыханні.
У мяне непрыемнасці сёння.
Мо забудзецца ўсё да рання?

Ты мне ў вочы  глядзіш самотна,
Бачыш тое, што іншы не бачыць.
У вачах у маіх вільготна,
Ды і ты прыхавана плачаш.

Ты у шэрасці дня гарадскога
Чуеш толькі адны мае крокі.
Ёсць сяброў у мяне нават многа,
Але ім да цябе далёка.

Ты і ў холад мяне сагрэеш,
Ад брыды адвядзеш усялякай.
Толькі ты мяне разумееш,
Дарагі мой і верны… сабака.

* * *

Прыпы́ніць сонцу  ранкам светлы шлях
Аблокаў стылых сумная аблога,
Але не спіць, варушыцца зямля,
Цяпло сваё шле сонцу на падмогу.

І ў небе, дзе сыходзяцца франты
І вогніва пляцецца ў сотні столак,
Пабачыш і парадуешся ты,
Як адступаюць зноў і змрок, і холад

І як пасля вясёлая вада
Ліецца па зямных грудзях шчасліва,
Каб каласіла, шчодрылася ніва,
З якой сялянскі лёс увесь відаць.

У кожнай бітве пераможца свой.
Напэўна, так прыдумала прырода.
І чалавек услед ідзе за ёй.
Яе закон — яго заўсёды згода.

***Пераклад з курдскай***
***Казіміра Камейшы.***



Таццяна АРЛОВА

# ТЭОРЫЯ ДРАМЫ ЯК ФІЛАСОФСКАЯ КАТЭГОРЫЯ І САЦЫЯКУЛЬТУРНЫ ФЕНОМЕН

Літаратура як унікальны від мастацтва абапіраецца на шматзначнае і гнуткае слова. Тэатр як сінтэтычны від мастацтва апроч літаратуры ўбірае ў сябе магчымасці жывапісу, музыкі, архітэктуры. Прынцыпы семантычнага разгляду мастацкага твора дазваляюць па-новаму аналізаваць тэксты, у прыватнасці і такія складаныя, як драматургічныя.

Акадэмічнае літаратуразнаўства разглядае драму выключна як твор літаратуры. Сённяшняе становішча ўвасаблення драмы на сцэне (яшчэ па меркаваннях Антанена Арто) не можа быць адлюстраваннем напісанага тэксту, перададзенага словамі, а з'яўляецца шматслойным тэкстам, створаным з літаратуры, жэста, гука, фарбаў і іх узаемасувязі. Іншымі словамі, драма размаўляе на мове ўсіх тэатральных сродкаў. Тэкст становіцца ўсёабдымнай формай. Уступаючы ў складаныя адносіны з сацыякультурным кантэкстам, тэатральны тэкст (працэй, спектакль) перастае быць элементарным выказваннем. У яго з'яўляецца памяць, ён ускладняецца, трансфармуе паведамленні і стварае новыя.

Паняцце тэкст зарадзілася ў тэорыі лінгвістыкі. Праблему «тэксту», якая ўзнікла на перакрыжаванні лінгвістыкі, паэтыкі, літаратуразнаўства, семіётыкі, пачалі актыўна абмяркоўваць толькі ў другой палове XX стагоддзя. З-за гэтага сёння не існуе грунтоўнага цэласнага даследавання, прысвечанага вывучэнню тэксту твора мастацкай культуры, у прыватнасці тэатральнага.

У сучасным семіятычным разуменні тэкст адыходзіць ад носьбіта пэўнага сэнсу і становіцца яркім, дынамічным, унутрана супярэчлівым феноменам. Паводле сучасных уяўленняў філасофскага, культуралагічнага, псіхалагічнага, сацыяльнага ды іншых кірункаў навуковага ведання, гэты феномен ёсць інфармацыйна-энергетычная субстанцыя, семіятычна аформленая і ўвасобленая ў розных матэрыяльных формах.

У эпоху постмадэрнізму тэкст стаў цэнтральным паняццем філасофіі і ў якасці філасофскай катэгорыі з'яўляецца носьбітам ідэй, ведаў, скіроўвае навуковую і грамадскую думку ў пэўных напрамках. Тэкст мастацкага твора ў сваю чаргу з'яўляецца зменлівым жывым арганізмам і ўяўляе шматгранны аб'ект даследаванняў мастацтвазнаўцаў. Нашым прадметам вывучэння з'яўляюцца тэксты сучасных драм, якія ў большасці належаць маладым аўтарам.

Аўтары сучасных п'ес адварочваюцца ад мінулага і няўпэўнена разважаюць пра будучыню. На маладых драматургаў не ціснуць цяжар культурнага вопыту. Яны яго проста не ведаюць і ведаць не хочуць. Сёння тэатр актыўна ўзаемадзейнічае з новымі сродкамі камунікацыі. З аднаго боку гэта звязана з прагрэсіўнымі тэхнічнымі набыткамі сучаснага тэатральнага працэсу. З другога — гэта новы спосаб пісаць п'есы і ствараць спектаклі. Актыўнае супрацоўніцтва тэатральных людзей з электроннымі СМІ і віртуальнай прасторай прымушае па-іншаму глядзець на выніковы прадукт, у прыватнасці на тэкст. Усё часцей ён разглядаецца як здольны або не здольны прынесці камерцыйную выгаду тавар. У выніку губляе свой творчы складнік і ўзмацняе структурныя і стылістычныя характарыстыкі, якія цяпер часцей абазначае паняцце «фармат». Страта асабістых характарыстык

тэксту робіць заўважнай яго малыя аб'ёмы, а таксама знікненне аргументацыі і аналітыкі.

Як толькі не называюць сучасныя спробы маладых аўтараў ствараць п'есы, непадобныя да класічных узораў: новая драма, іншы тэатр, антып'есы сучаснасці, чацвёртая вышыня, апакаліптыка і г. д.

У Беларусі даследаванне феномена «новай драмы» адбываецца нясмела і няўпэўнена. Тэксты ёсць. Іх колькасць павялічваецца ў геаметрычный прагрэсіі. Яны запаланілі інтэрнэт-прастору і атрымоўваюць прэстыжныя прэміі ў Расіі, Германіі, Польшчы. Не знаёмыя з імі толькі ў нашай краіне, таму што ў незразумелай паслядоўнасці ім адмаўляюць у выданні ды сцэнічным увасабленні.

Можна сцвярджаць, што ў беларускай драматургіі прайшло пераразмеркаванне сіл. Агульнавядомыя драматургі аказаліся незапатрабаваныя тэатрам. На першы план выйшлі аўтары, якія не ўмеюць (ці не хочуць) пісаць п'есы па звыклых законах драматургічнай тэхнікі. Сацыяльныя ўзрушэнні і палітызацыя жыцця іх мала хвалююць. Яны вызнаюць цікавасць выключна да асабістага існавання, паглыбляюцца ў асабістыя філасофскія пошукі. Добра, калі на сцэне ўвасабляюцца цікавыя арыгінальныя аўтарскія ідэі пра свет і чалавека ў свеце.

Па сваёй сутнасці новая беларуская драматургія маналагічная. Драматург атаясамлівае сябе з героем, гаворыць за яго, за сябе, спавядаецца рацыянальна і сухавата і не спадзяецца быць пачутым. Суб'ектывісцкая адвольнасць формы і зместу даўно ўвайшлі ў моду ў сусветным тэатральным працэсе. У першую чаргу, нашы драматургі адносяцца да тэатра як да трыбуны, з якой можна пракрычаць пра тое, што набалела, кінуўшы выклік класічнай драматургіі. У гісторыі культуры «драмай крыку» лічаць творчасць экспрэсіяністаў. Але беларускія аўтары расчапляюць жыццё не па правілах класічнага тэатра, а па законах вольналюбівага перформансу. Нязвыкла, знарочыста яны крычаць пра сусветны апакаліпсіс і знайшлі сабе паплечнікаў у асобе маладых рэжысёраў. Аднак жыццё такіх спектакляў кароткае. Іх не разумеюць і дрэнна прымаюць гледачы. Крык гучыць у пустыні.

На пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя М. Шаўлоўская ў невялікай кніжачцы «Беларуская драматургія» паспрабавала вызначаць родавую і жанравую спецыфіку, своеасаблівасці сюжэта і кампазіцыі, унікальнасць канфліктаў, вобразную структуру гэтых першых беларускіх п'ес [7].

У 2000 годзе выйшаў дапаможнік для настаўнікаў Пятра Васючэнкі «Сучасная беларуская драматургія», дзе ўжо больш упэўнена прасочваецца дынаміка сучаснага драматургічнага працэсу. Навуковец звязвае з'яўленне новых імёнаў і новых форм з эпохай «выбуху камунікацыі», стварэннем віртуальнай рэчаіснасці, дэмаграфічных зрухаў і экалагічных катастроф жыцця» [1, с. 154]. І далей: «Дынаміка сучаснага драматургічнага працэсу забяспечваецца існаваннем авангарда, высілкамі творцаў-эксперыментатараў, арыентацыяй аўтараў на драму абсурду. Што з гэтага атрымаецца — яшчэ большы абсурдызм або прарыў у новую сферу драматургічнай творчасці — пакажа час» [1, с. 157].

У найноўшых даследаваннях — зборніку навуковых артыкулаў «Русскоязычная литература Беларуси конца XX — начала XXI века», які выдадзены ў 2010 годзе С. Ганчаровай-Грабоўскай, зроблены якасны прарыў у аналізе абнаўлення айчыннай драматургіі, рэвізіі традыцыйнай структуры драматычнага твора, жанравых асаблівасцей, канфліктаў і герояў сучасных п'ес. Фармальна аўтар засяроджваецца на рускамоўных аўтарах, такіх як А. Папова, А. Курэйчык, Дз. Балыка. Але варта улічыць, што іх п'есы перакладзены на беларускую мову і ідуць у нашых нацыянальных тэатрах. Да таго ж эстэтычныя і этыка-філасофскія пошукі ў гэтых творах знаходзяцца ў адным рэчышчы і фактычна не аддзяляюцца ад усёй сучаснай беларускай драматургіі, прадстаўленай А. Дударавым, С. Кавалёвым, П. Расолькам, А. Шчуцкім, С. Гіргелем, П. Пражко і іншымі. Аўтар адзначае, што «праблемай сучаснай драмы становіцца асоба са складанай псіхікай, якая згубілася ў гэтым свеце» [6, с. 158].

Ва ўсе часы ўсялякі асабісты пачатак у культуры падвяргаўся нападкам. Жыццё асобы было пазначана болем і драматычнасцю. Новае «выпрабоўвалася», «рэдагавалася» і «ўдакладнялася» на вопыце іншых людзей. Павінна прайсці шмат часу, перш чым народжаны талентамі новы сэнс стане сімвалам веры, новым мастацкім стылем ці навуковым прынцыпам. Рэалізацыя значнага творчага пачатку адбываецца часцей за ўсё ў вострым сутыкненні з прыхільнікамі іншых сэнсавых дамінантаў. Мастацтву перш за ўсё неабходна ўнутраная свабода, бо яно праяўляе сябе ў вобразах і сімвалах. Без такой свабоды нічога сур'ёзнага нарадзіцца не можа. Для духоўнай свабоды неабходна мецць смеласць і быць здольным рызыкнуць.

Сёння такой свабодай валодаюць маладыя аўтары, такія, як М. Рудкоўскі, А. Шурпін, П. Пражко, Дз. Багаслаўскі, якія не спадзяюцца на камерцыйны поспех, не ўдзельнічаюць у свецкім тэатральным жыцці, якія выраклі сябе на абсалютную адзіноту і не прад'яўляюць нікому ніякіх прэтэнзій. Найбольш паспяховы з іх — Павел Пражко. Яго імя знаходзіцца па-за шэрагам імён, стаіць асобна, і пра яго п'есы варта пагаварыць больш падрабязна. Не так даўно журы экспертаў аднаго з самых вядомых фестываляў на постсавецкай прасторы «Залатая маска» прысудзіла яму Гран-пры ў драматургічным «Конкурсе конкурсаў». Наша публіка знаёмая з аўтарам па чытках у Цэнтры беларускай драматургіі, on-line праектах і па спектаклі «Калі скончыцца вайна» ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі.

Свядомасць даследчыка ўсё яшчэ атаясамліваецца з пісьмовым тэкстам (выданнем п'ес), як дакладным спосабам яго фіксацыі. Тэксты п'ес П. Пражко неапублікаваныя. Яны рэгулярна з'яўляюцца ў інтэрнэт-прасторы, вывучаюцца вузкім колам спецыялістаў ды ацэншчыкаў «новай драмы». Практыка прачытання тэкстаў Пражко тэатрам існуе ў Расіі, і там з-за адрыву ад усіх класічных канонаў пабудовы п'есы яны атрымліваюць вострыя markednaбаковыя ацэнкі.

З часоў Платона дыялог прадугледжваў наяўнасць апанента, які пагаджаўся ці пярэчыў. Драма будавалася на наяўнасці канфлікту, імкнення да яго вырашэння, напалу ўнутраных дзеянняў, духоўных адкрыццяў — на тым, што адчувае мастак, апынуўшыся ў экстрэмальных абставінах. Усяго гэтага няма ў тэкстах Пражко, які быццам існуе часткова ў нашым свеце, а часткова — у нейкім невядомым. Для яго творчай манеры ўласцівы варыятыўнасць паводзін і парушэнне норм (традыцый, забарон), моцны ўплыў іншых культур. Часта ён ігнаруе веды і выкарыстанне традыцыйных форм і сродкаў уздзеяння. У прынцыпе, абвяргаючы традыцыйныя абсалютныя сэнсы, ён з'яўляецца тыповым (па ацэнках сацыёлагаў [5]) прадстаўніком сучаснага маладога пакалення.

Падчас лабараторыі маладой рэжысуры «On.Тэатр» у Санкт-Пецярбургу ён стаў трыумфатарам. Аднак гэта не перашкодзіла Марыне Дзмітрэўскай, галоўнаму рэдактару «Петербургского театрального журнала», прафесару Санкт-Пецярбургскай акадэміі тэатральнага мастацтва вынесці яму наступны прысуд: «За новатора теперь у нас — Пряжко, но хотя его «Запертая дверь» была лучшим показом лаборатории, для театра такие тексты — никакое не новое, как ни доказывают это апологеты Пряжко. Это просто проза, рассказ-наблюдение, череда ремарок, и ставить это можно привычными для театра способами. Да, он описывает происходящее в настоящем времени, а не как классики в прошедшем: «Он шел и думал». Но у театра никогда нет прошедшего, у него всегда только настоящее: актер на тексте «шел» — идет. Поэтому текст Пряжко типа: «Она сидит и ни о чем не думает», — ничего нового театру не предлагает [2, с. 63].

Аўтарытэтная крытыка прыходзіць да высновы, што ў Пражко не п'есы, а тэксты. Падставы для гэтага, безумоўна, ёсць. Аўтар ігнаруе такія складнікі драматычнай структуры, як канфлікт і інтрыгу, не выпісвае характары і не імкнецца адасобіцца ад дзеючых асоб, аддае перавагу фіксацыі пэўных сацыяльных фігур. У Пражко добрае пачуццё гумару. Ён валодае ўменнем перадаваць непаўторныя

інтанацыі персанажаў. Цікавых дыялогаў таксама няма. Ёсць роўны манатонны рытм і падрабязныя рэмаркі. Аднак з гэтых няп'ес, а тэкстаў рэжысёры ствараюць цікавыя спектаклі. Можна згадаць Фрыдрыха Ніцшэ, які быў перакананы, што «прачытаць тэкст як тэкст, не накладваючы інтэрпрэтацыі, — той вопыт, які наўрад ці магчымы» [4, с. 14]. Інтэрпрэтацыя ўвогуле і ёсць праца тэатра. Чытаць тэксты Пражко мала хто будзе. Бачыць іх у рэжысёрскім прачытанні — значыць выяўляць сэнс.

У 2009 годзе два маскоўскія тэатры (Тэатр.doc і тэатр «Практыка») паставілі п'есу Пражко, «беспрацоўнага аўтара з Мінска», — «Жизнь удалась». З дапамогай мовы моладзі з гарадскіх ускраін, нецэнзурных форм і адпаведных норм паводзін створана пазнавальнае публікай дзеянне. Але пры гэтым захоўваецца аўтарская іранічная дыстанцыя. Як адзначана ў «Петербургском театральном журнале»:

«С рационализмом конструктора Пряжко вычерчивает стройные сюжетные схемы, искусно фиксируя в них центробежный характер жизни своих героев, дробность и заторможенность мышления пьяных, в меру безобидных людей, желания и мысли которых, то и дело запинаясь, двигаются по кругу. <…>

Пьесу Пряжко нельзя судить по канонам жизнеподобия и только: разумеется, важно и социальное происхождение его героев, хотя кто, будучи сильно пьян не попадал в состояние безнадежного хождения по кругу, невозможности ответить на вопрос и осознания крайней необходимости на эти вопросы ответить [3, с. 84]. <…>

Пряжко — не натуралист позапрошлого века, традицию которого охотно трансформируют, скажем, драматурги школы Николая Коляды. Он не культивирует концепцию «маленького человека» со всем комплексом социальных обстоятельств. Сюжеты его пьес сводятся к сгущенной фиксации обыденных действий, ничем внешне не примечательных, но при определенном сочетании и конденсации превращающихся в абсурдистскую концепцию жизни. Подобный способ изложения мельчайших деталей человеческого бытия, помещенных в разреженное пространство, в котором ничего не происходит, свойственен и современному росийскому кинематографу. Но Пряжко — театральный драматург, и только в театре можно воплотить трагикомическую вязь его подробных ремарок, которые то копируют, то умножают действие, то объясняют смысл обезличенной речи, вполне музыкально снабженной матом. На этих стыках рождается комический эффект несовпадения — между тем, что говорится, и тем, что думает и чувствует герой на самом деле. Но еще таким образом нам показывают зазор между речевой фактурой, обрывистым инверсионным и вечно незаконченным синтаксисом, лексическим однообразием, — и тем, что на самом деле происходит в головах и сердцах инфантильных россиян белорусского разлива. Это очень интересный фокус, говорящий о состоянии общества, гораздо точнее многих других.

Но в самой структуре пьесы то и дело срабатывает заикающийся речевой механизм, подслушанный автором и художественно преобразованный в своеобразную музыку современного города» [3, с. 84].

Такія падрабязныя адзнакі п'есы даюць поўнае ўяўленне пра сацыяльны лад сучаснага жыцця, пра бессэнсоўныя дзеянні цэлага сацыяльнага пласта моладзі. На жаль, такога дакладнага разумення асаблівасцей новай драмы нестае ў беларускім тэатразнаўстве, якое адрынула п'есы такога кшталту ў першую чаргу з-за выкарыстання ў іх ненарматыўнай лексікі.

Замежныя тэатразнаўцы, якія даследуюць структурную мадэль тэатра, увесь час звяртаюцца да лінгвістыкі і структурнага літаратуразнаўства. Асноўнай адзінкай п'есы з'яўляецца моўны знак. У спектаклі — прасторавы знак. Менавіта ён выступае ў якасці аб'екта ўспрымання гледачоў. Як сацыяльная з'ява спектакль існуе на скрыжаванні рэчаіснасці і ўяўлення. Тэатральны тэкст не інфармуе, не сцвярджае, а заахвочвае да сутворчасці. Увабраўшы ў сябе лінгвістычную існасць, тэатральны тэкст будуецца па прасторава-часавых законах. Вось чаму ў

аснове навуковага аналізу тэатральнай гісторыі і тых працэсаў, што адбываюцца ў сучасным тэатры, павінна палягаць узаемазалежнасць мастацкіх каштоўнасцей і працэсаў аб'ектыўнага свету. Іншымі словамі, у кантэксце аналізу цяпер павінен пераважваць хранатапічны прынцып, калі вызначальным з'яўляецца часпрастора. Гэта цягне за сабой іншую методыку, іншую тэрміналогію, іншае асэнсаванне мовы тэатра, якое адрозніваецца ад таго, чым займаецца традыцыйнае тэатразнаўства.

## Спіс літаратуры

1. Васючэнка, П. В. Сучасная беларуская драматургія / П. В. Васючэнка. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2000. — 158 с.

2. Дмитревская, М. Марина Дмитревская о лаборатории «ON.TEATR» / Петербург. театр. журн. — 2010. — № 3. — С. 63.

3. Матвиенко, К. Счастливы, но не вместе / К. Матвиенко // Петербург. театр. журн. — 2009. — № 3. — С. 83—85.

4. Ницше Ф. Сочинения: в 2 т. / Ф. Ницше. — М., 1994. — Т. 2. — С. 146.

5. Ротман, Д. Г. Белорусская молодежь на рубеже веков: штрихи к портрету / Д. Г. Ротман // Социология. — 2004. — № 1. — С. 57.

6. Русскоязычная литература Беларуси конца XX — начала XXI века : сб. науч. ст. / РИВШ; редкол.: С. Я. Гончарова-Грабовская [и др.]. — Мн., 2010. — 206 с.

7. Шаўлоўская, М. Ф. Беларуская драматургія / М. Ф. Шаўлоўская. — Мінск: Народная асвета, 1981. — 128 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 25 красавіка 2012 г.

**Таццяна Арлова**
**Тэорыя драмы як філасофская катэгорыя і сацыякультурны феномен**

**Рэзюмэ**

Разглядаецца сучасная беларуская драматургія, яе сувязь з навакольным асяроддзем, аўтарам, мастацкай канцэпцыяй і сцэнічным увасабленнем.

**Tatsiana Arlova**
**Drama Theory as a Philosophical Notion and Sociocultural Phenomenon**

**Summary**

In the article author examines modern Belarusian dramaturgy and its connection with the reality, author, artistic concept and stage creation.



# ІСФАНДЗІЯР ВАГАБЗАДЭ: «МОВА ДУШЫ ЎСІМ ЗРАЗУМЕЛАЯ»



***Пасля развалу Савецкага Саюза ўсім нам прыгадваецца шмат чаго: і шчымліва-радаснага, і горкага. Несумненным набыткам вялікай дзяржавы была дружба паміж прадстаўнікамі розных нацыянальнасцей, якія жылі пад адным гістарычным дахам. Цяпер, калі кожны народ гэтай вялікай суполкі жыве сваім самастойным жыццём, дружалюбныя, паважлівыя адносіны адно да аднаго сталі асноўнай прэрагатывай і ў міжнародным культурным дыялогу паміж краінамі. Гэта добра відаць і на прыкладзе беларуска-азербайджанскіх адносін.***

***Пра гэта гаворка з Надзвычайным і Паўнамоцным паслом Азербайджана ў Беларусі Ісфандзіярам ВАГАБЗАДЭ.***

**— Азербайджан сёння — які ён, што змянілася ў краіне за гады суверэнітэту?**

— Коратка сказаць цяжка, бо змены кардынальныя. Краіна прыкметна змянілася. Пахарашэла. Прыярытэтным сектарам па-ранейшаму застаецца нафтагазавы. Азербайджан лідзіруе сярод краін СНД па тэмпах росту замежных інвестыцый. Другі па значнасці — сектар сельскай гаспадаркі. Вырошчваем бавоўну, тытунь, цытрусавыя, гранаты і г. д. За гады суверэнітэту значна вырас гандлёвы абарот з краінамі далёкага і бліжняга замежжа. Расце аб'ём транспартных перавозак, будуюцца новыя дарогі… Але ж, як вы разумееце, Азербайджан — гэта краіна не толькі нафтавых вышак, прыгожых дываноў і спелых гранатаў…

**— Вось-вось. А таму, відаць, лагічна перайсці на тэму культурных узаемаадносін Азербайджана з іншымі краінамі?**

— Маючы багатую культурную спадчыну, Азербайджан паспяхова трансфармуецца ў ідэальную платформу па міжкультурнаму дыялогу рэгіянальнага маштабу. У 2009 годзе Баку быў аб'яўлены сталіцай ісламскай культуры, а ў 2011-м у нас адбыўся сусветны форум па міжкультурнаму дыялогу. Гэта лагічны вынік працэсу, які ініцыяваўся азербайджанскім бокам. Ён атрымаў назву «Бакінскага працэсу», аснова якога была закладзена ў Азербайджане яшчэ ў 2008 годзе на пасяджэнні міністраў культуры краін — членаў Савета Еўропы. Палітычная філасофія Прэзідэнта краіны Ільхама Аліева накіравана на тое, каб прадстаўнікі

розных культур і рэлігій адкрыта абмяркоўвалі паміж сабой набалелыя праблемы. Паказальна і тое, што ў 2007 годзе у Спіс Сусветнай спадчыны ўвайшоў і помнік азербайджанскай культуры «Габустан», дзе захавалася больш як 4 тысячы наскальных малюнкаў, старадаўні посуд. Цікава і тое, што там знаходзіцца скала з лацінскім надпісам, які сцвярджае, што тут яшчэ ў I стагоддзі нашай эры знаходзіўся цэнтурыя Рымскага легіёна…

Нельга не падкрэсліць заслугі і падтрымку першай лэдзі Азербайджана, дэпутата Мілі Меджліса, Прэзідэнта Фонда Гейдара Аліева і Пасла добрай волі ЮНЕСКА і ІСЕКА Мехрыбан ханум Аліевай, якая надае асаблівую ўвагу захаванню, развіццю і прапагандзе такіх шэдэўраў азербайджанскай культуры, як мастацтва мугама (трыа спевакоў і двух музыкаў), дыванаткацтва, майстэрства ашугаў (народных спевакоў) і старадаўняе свята вясны Наўруз Байрамы. Усё гэта — у перыяд з 2003 па 2010 гады — трапіла ў Спіс Нематэрыяльнай культурнай спадчыны чалавецтва.

**— Як змянілася за гэты час ваша сталіца?**

— У Баку з'явілася шмат новых пабудоў. З'явіліся і дамы ў стылі мадэрн, хмарачосы, якія сімвалізуюць агонь. Вы, відаць, ведаеце тое, што Азербайджан у перакладзе азначае краіна агню (азер — агонь). А ў нас захаваліся культавыя помнікі трох рэгілій — зораастрызму (прыхільнікаў агню), хрысціянства і іслама. Напрыклад, храм святога Елісея ў сяле Кіш лічыцца адным з самых ранніх помнікаў хрысціянства не толькі на Каўказе, але і ўва ўсім свеце. Многа гістарычных помнікаў і ў сталіцы Азербайджана. Яе сімвалам па-ранейшаму лічыцца Дзявочая Вежа (XII стагоддзе), а таксама гісторыка-культурны запаведнік «Ічэры-Шэхер». Менавіта тут здымаліся папулярныя савецкія фільмы — «Брыльянтавая рука» і «Чалавек-амфібія». З 1977 года гэты комплекс атрымаў статус гісторыка-архітэктурнага запаведніка, а з 2000-га ўключаны ў Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА. Тут шмат музеяў, выдавецтваў. Толькі ў Баку знаходзіцца 24 кніжныя выдавецтвы. Створана Асацыяцыя новых выдавецтваў, працуе Бакінская картаграфічная фабрыка. Паспяхова развіваецца паліграфічная база краіны, камп'ютарызацыя.

**— Безумоўна, інтэрнэт — вялікае дасягненне навукова-тэхнічнага прагрэсу, але яе Вялікасць кнігу ён усё ж не заменіць. У Беларусі, дзе кожны трэці з вышэйшай адукацыяй — кнігу любяць. А як у вас?**

— З гэткай жа пашанай ставяцца да кнігі і ў нашай краіне. Мяркуйце самі: кніжная Мудрасць краіны прадстаўлена 4650 публічнымі бібліятэкамі. У Азербайджане ёсць і свой музей літаратуры. Актыўна працуюць выдавецтвы: Азернэрш, Апостраф, Язычы, Хазар… Напрыклад, толькі ў выдавецтве «Адыльаглу», створаным 10 гадоў таму, выходзіць больш як 300 найменняў кніг у год, сярод якіх і пяцітомнік Нізамі Гянджаві, выпушчаны па заказе Гянджавінскага ўніверсітэта ў гонар 870-годдзя вялікага паэта. Шмат навінак можна знайсці ў кніжных магазінах Баку: «Алі і Ніно», «Дом рускай кнігі», «Ніл» і іншых. У Баку, напрыклад, ёсць музей мініяцюрнай кнігі, дзе экспануецца больш як 5 тысяч кніг-малютак.

**— Не так даўно ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі праходзіла прэзентацыя кнігі Гусейнбалы Міраламава «Зарыфа Аліева», выдадзенай на беларускай мове, а чытачы часопіса «Полымя» пазнаёміліся з раманам Камала Абдулы «Даліна чараўнікоў». Як, на ваш погляд, развіваецца сучасная азербайджанская літаратура і з творчасцю якога з пісьменнікаў вы б хацелі ў першую чаргу пазнаёміць нашага чытача?**

— На жаль, мой лёс склаўся так, што я ўжо больш за 20 гадоў, выконваючы сваю дыпламатычную місію, жыву ў іншых краінах і назіраю за культурным жыццём Азербайджана толькі на адлегласці. Мне, напрыклад, цікава было сачыць, як гэтым летам праходзіў міжнародны музычны фестываль «Шаўковы шлях» у горадзе Шэкі, як у Антычным тэатры Турцыі сустракалі балет Палада Бюль-Бюль аглы «Каханне і Смерць». Цікава было даведацца пра тое, што лаўрэатам літаратурнай прэміі за 2011 год стаў малады пісьменнік Мірмехці Агааглу.

У Азербайджане многія ведаюць і любяць творчасць народнага паэта краіны Джабіра Наўруза, дзіцячага пісьменніка і драматурга, вядомага пад псеўданімам «Дзед Казачнік», на рахунку якога 40 кніг і 33 драматычныя творы, Алі Самедлі.

Асабіста мне падабаецца творчасць пісьменніка, рэжысёра і сцэнарыста, якога ведаюць далёка за межамі краіны — Анара. У сваіх кнігах ён ствараe вобраз нашага сучасніка, паказваючы, з якімі цяжкасцямі яму даводзіцца сутыкацца. Ён апавядае пра тое, як традыцыйныя ўяўленні і менталітэт уплываюць на жыццё людзей. Адзін з самых вядомых яго твораў — «Шосты паверх пяціпавярховага дома». Анар — менавіта той аўтар, з якім бы нам хацелася ў першую чаргу пазнаёміць беларускіх кнігалюбаў.

Безумоўна, галоўнае не тое, у якой краіне ты нарадзіўся і на якой мове размаўляеш, важна, каб цябе пачулі людзі. Тады і масты нашых узаемаадносін пабудуем, і мову агульную знойдзем.

**— Для вас, чалавека высокаадукаванага, доктара філалагічных навук, члена Саюза пісьменнікаў Азербайджана і ганаровага члена Саюза пісьменнікаў Беларусі, які вырас у сям'і народнага паэта Азербайджана, акадэміка Нацыянальнай Акадэміі навук, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР Бахціяра алы Вагабзадэ, гэтая тэма не чужая. Вялікі Бахціяр Вагабзадэ — адзін з тых людзей, пра якіх кажуць: «Яго пацалаваў Бог», даўшы такі шматгранны талент: паэта, драматурга, вучонага, перакладчыка, педагога. Больш як 40 гадоў ён выкладаў у Бакінскім універсітэце, дый яшчэ і сваіх дзяцей гадаваў. Неяк вядомая савецкая паэтэса Рыма Казакова вельмі тонка заўважыла: «Ён глядзеў на свет вачыма бацькі…» Які каментар далі б вы да гэтых слоў? На чым акцэнтаваў вялікі паэт свой бацькоўскі погляд? Як ён выхоўваў сваіх дзяцей і як яму дапамагалі кнігі і мастацтва? І ці лёгка быць сынам такога бацькі?**

— Быць сынам такога шматграннага чалавека, як Бахціяр Вагабзадэ — справа нялёгкая. Па-першае, да дзяцей вялікіх людзей у грамадстве ставяцца не толькі з павышанай цікаўнасцю, а і даволі прыдзірліва, то трэба паводзіць сябе адпаведна: усюды і з усімі быць дысцыплінаваным і ўзорным. Па-другое, бацька быў вельмі патрабавальны да нас, сваіх дзяцей, і шмат чаму вучыў. Напрыклад, я вучыўся ў музычнай школе, дзе асвоіў старадаўні азербайджанскі музычны інструмент — тар. Бацька навучыў нас любіць сімфанічную музыку. Асабліва ён любіў творы Бетховена. Шмат разоў запар прымушаў мяне перачытваць творы Спінозы, пакуль я, нарэшце, не пачаў разумець думкі вялікіх філосафаў. У школьныя гады мне давялося перачытаць амаль усю класічную літаратуру — ад Шэкспіра да Шандора Пецёфі…

Па натуры я рамантык і заўсёды блізка да сэрца ўспрымаю ўсё, што адбываецца навокал. Гэтаксама як і герояў тых мастацкіх твораў, якія чытаў. Разам з Шэкспірам, напрыклад, «пражываў» лёс Гамлета, як свой асабісты, прапускаючы яго праз сваё сэрца… Між іншым, вялікія дыпламаты ад Нікаля Макіявелі і да Чэрчыля былі адначасова і літаратуразнаўцамі, і паэтамі. Але, як высветлілася пазней, рэальнае жыццё аказалася больш суровым, чым той кніжны свет, у якім я жыў дагэтуль. У гэтым мне давялося пераканацца, працуючы ў Афганістане. Мой бацька мог бы, як кажуць, «адмазаць» мяне ад небяспечнай камандзіроўкі, але ён не зрабіў гэтага. Сказаў проста і па-мужчынску сурова: «Як усе — так і ты».

Бацькоўская школа выхавання дала свой плён: у 33 гады я стаў доктарам філалагічных навук, а праз год — прафесарам. Бацька ніколі не дазваляў сабе аблегчыць маё жыццё: Ён толькі з пэўнай дыстанцыі сачыў за самастойнымі крокамі сына па жыцці.

**— Як вядома, паэтычныя творы Бахціяра Вагабзадэ перакладзены на шматлікія мовы свету, у тым ліку яго знакамітая паэма «Гюлістан», за якую Паэт пакутаваў ад рэпрэсій савецкіх улад. На многіх сцэнах — і не толькі азербайджанскіх — ішлі спектаклі па яго п'есах — «Сумленне», «Пасля**

**дажджу», «Крык» і іншых. Ці ёсць шанец у беларускага чытача і гледача пазнаёміцца з гэтай унікальнай спадчынай?**

— Мой бацька вельмі любіў сваю радзіму і народ, і яны адказвалі яму ўзаемнасцю. Ён заўсёды перажываў за лёс свайго народа, падзеленага на дзве часткі паміж Расійскай імперыяй і Персіяй (Іранам) паводле Гюлістанскай мірнай дамовы 1913 года. Яшчэ у савецкія часы ён прысвяціў гэтаму паэму «Гюлістан». Такога ўлады не маглі дараваць, але ўсенародная любоў і падтрымка тагачаснага першага сакратара ЦК КП Азербайджана Гейдара Аліева выратавала бацьку ад непазбежнай рэпрэсіі. Дарэчы, Гейдар Аліеў з’яўляўся вельмі дальнабачным чалавекам, аберагаючы шматлікіх дзеячаў мастацтва і культуры, якія мелі ярлык антысаветчыка. Адным з іх і быў Бахціяр Вагабзадэ, які выступаў супраць знішчэння савецкімі ўладамі самаідэнтыфікацыі азербайджанскіх цюркаў, іх культуры, звычаяў і рэлігіі. Бацька заўсёды марыў аб уз’яднанні азербайджанскага народа і сябраваў з многімі паэтамі з Паўднёвага Азербайджана. Асабліва моцнае сяброўства было ў яго з вялікім Мухамадам Хусейнам Шахрыярам. Гэтыя два вялікія паэты сталі сімвалам падзеленага народа.

Творы вялікага Бахціяра Вагабзадэ можна знайсці і прачытаць у інтэрнэце, а калі гаварыць пра пастаноўку яго драматычных твораў на беларускай сцэне — чаму б і не?

**— Як захоўваюць свае традыцыі азербайджанцы і з якімі нацыянальнымі беларускімі святамі і абрадамі вы пазнаёміліся ўжо?**

— Кожны народ абавязаны захоўваць і зберагаць сваю нацыянальную культуру, святы і традыцыі, перадаючы іх з пакалення ў пакаленне. За гады, якія знаходзіліся ў складзе СССР, мы, азербайджанцы, змаглі не толькі зберагчы і захаваць сваю мову, звычаі і святы — некаторыя з іх былі ўзведзены ў ранг дзяржаўных. І ў гэтым вялікая роля нашага агульнанацыянальнага лідара Гейдара Аліева.

Мы заўсёды лічылі беларусаў сваімі братамі і цікавіліся іх звычаямі і святамі. Яшчэ да таго як прыехаць у Беларусь, я ўжо ведаў пра Каляды, Грамніцы, Вялікдзень, Радуніцу, Сёмуху, Дажынкі. Магу з упэўненасцю сказаць, што нашы народы змаглі захаваць сваю культуру.

**— У нядаўнім Пасланні Кіраўніка нашай дзяржавы, Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі беларускаму народу і Нацыянальнаму сходу прагучала думка аб неабходнасці адрадзіць промыслы слуцкіх паясоў — сёння ў Беларусі ўжо распрацоўваецца Дзяржаўная праграма адраджэння і развіцця народных промыслаў «Слуцкія паясы».**

**Яшчэ ў XVIII стагоддзі ў Слуцку, які з’яўляецца пабрацімам азербайджанскага горада Шэкі, была створана ўнікальная мануфактура, дзе ткалі знакамітыя паясы, у аснове стварэння якіх — вядомая школа майстроў Усходу. У Азербайджана ёсць ужо вялікі вопыт дыванаткацтва. Азербайджанскія дываны захоўваюцца ў многіх музеях свету: у парыжскім Луўры, піцерскім Эрмітажы, у музеі вытанчаных мастацтваў у Бостане. Кожны такі дыван — самабытны твор дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Ці будзе магчымасць у беларусаў пазнаёміцца з азербайджанскімі дыванамі?**

— Правядзенне падобных мерапрыемстваў — прэрагатыва Міністэрстваў культуры Азербайджана і Беларусі. Паміж імі склаліся добрыя стасункі, і я мяркую, што неўзабаве з нашай дапамогай мы зможам арганізаваць такую выставу ў Беларусі. Думаю, на ёй можна будзе ўбачыць шмат цікавага.

Вы, напэўна, ведаеце пра тое, што ў 1996 годзе ў Азербайджане было створана прадпрыемства «Азер-Ілмэ», якое мела ўжо свае індывідуальныя дыванаткацкія майстэрні не толькі ў Баку, а і ў сельскай мясцовасці Апшэрона. Самыя старажытныя створаны на тэрыторыі Азербайджана яшчэ ў 5-м тысячагоддзі да нашай эры. Сёння больш як 900 кампазіцый дываноў тчэцца з высакаякаснай шэрсці і шэкінскага шоўку. Пры іх вытворчасці выкарыстоўваюцца натуральныя фарбавальнікі з розных траў, кары дрэў, шкарлупіны грэцкага арэха, шалупіння

цыбулі і г. д. Таму колеры азербайджанскіх дываноў такія яркія і цёплыя. Між іншым, у Баку ёсць Палац дываноў і галерэя «Чароўныя вузельчыкі», дзе можна таксама ўбачыць шмат цікавага.

**— Правядзенне нядаўняга песеннага конкурсу «Еўрабачанне-2012» у Баку яшчэ раз прадэманстравала цікавасць нашых народаў адзін да аднаго. Тысячы беларусаў, якія шмат гадоў жылі пад адным гістарычным дахам з азербайджанцамі, з настальгіяй прыгадваюць душэўныя, пранізлівыя песні Мусліма Магамаева, Палада Бюль-Бюль аглы, Рашыда Бейбутава і іншых цікавых выканаўцаў. Магчыма, мы хутка пазнаёмімся з новымі імёнамі таленавітых азербайджанскіх выканаўцаў?**

— Конкурс «Еўрабачанне-2012» стаў для нас самым буйнамаштабным, сусветным культурным мерапрыемствам. За кароткі час у Баку была пабудавана канцэртная зала «Baku Crystal Hall», перабудаваны і пашыраны Бакінскі бульвар, горад стаў прыгажэйшы, а жыхары сталіцы і шматлікія госці пераканаліся ў перавагах дзяржаўнай незалежнасці нашай краіны.

Падрыхтоўка правядзення гэтага конкурсу праходзіла пры падтрымцы першай лэдзі краіны, Прэзідэнта Фонда Гейдара Аліева, старшыні арганізацыйнага камітэта конкурсу «Еўрабачанне-2012» Мехрыбан ханум Аліевай, а Прэзідэнт нашай краіны Ільхам Аліеў асабіста курыраваў працэс падрыхтоўкі.

На жаль, пасля развалу СССР культурныя адносіны паміж суверэннымі дзяржавамі сталі ўспрымацца чымсьці другасным. І толькі калі ўсталяваліся дыпламатычныя адносіны паміж нашымі краінамі, у гэтай галіне пачалі адбывацца перамены ў лепшы бок: быў арганізаваны канцэрт дзеячаў мастацтва Азербайджана сумесна з Прэзідэнцкім аркестрам Рэспублікі Беларусь, на беларускай сцэне паспяхова прайшла пастаноўка спектакля выдатнага азербайджанскага кампазітара Узеіра Гаджыбекава «Аршын мал алан».

Азербайджан — краіна старадаўняй культуры і традыцый. Гэтая зямля падаравала нам такіх спевакоў з прыгожым, чароўным голасам. З маладых выканаўцаў магу адзначыць Брыльянт Дадашаву, Айгюн Кязімаву, Азера Зейналава і іншых.

Мяркую, што вельмі хутка беларускі слухач зможа пачуць нашых вядомых эстрадных спевакоў — у кастрычніку гэтага года плануецца правядзенне Дзён культуры Азербайджана ў Беларусі. Можна будзе паглядзець і балет на музыку цудоўнага кампазітара XX стагоддзя Кара Караева «Сем прыгажунь» на сцэне Беларускага тэатра музычнай камедыі.

**— Што любіце чытаць у вольны час, якую музыку слухаць і карціны якіх мастакоў Вас асабліва ўражваюць? Што, на ваш погляд, у свеце цудоўнага можа быць аднолькава хвалюючым і беларусу, і азербайджанцу?**

— Люблю чытаць вершы вялікіх Нізамі, Фізулі, творы Чарльза Дзікенса, Ірвіна Шоу, Джона Апдайка і іншых. Уважліва сачу за творчасцю маладых азербайджанскіх паэтаў і пісьменнікаў, імкнуся быць у курсе ўсіх падзей, якія адбываюцца ў сусветным культурным жыцці. Што датычыць карцін, то мне больш імпануе творчасць такіх мастакоў, як Леанарда да Вінчы, Пабла Пікасо, Сальвадора Далі, Вінсента Ван Гога, Ісака Левітана і іншых. І ў беларусаў, і ў азербайджанцаў, урэшце, як і ў кожнага народа свету пачуцці аднолькавыя — мова душы ўсім зразумелая.

*Гутарку вяла Святлана ХОРСУН.*



**Мікола МІКУЛІЧ**

# НА СЛУЖБЕ СВЯТЛА

*Да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Танка
і 90-годдзя часопіса «Полымя»*

Як вядома, Максім Танк выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР VII (1969, дадатковыя выбары), VIII (1970), IX (1974), X (1979) і XI (1984) скліканняў. Адгукаючыся на шматлікія просьбы сваіх выбаршчыкаў, ён звяртаўся з афіцыйнымі і неафіцыйнымі запытамі да многіх міністраў БССР, першых сакратароў абкамаў і райкамаў, старшынь аблвыканкамаў і райвыканкамаў і г. д. «Паважаная Марыя Іванаўна! — паведамляў ён 15 лістапада 1985 года адной з выбаршчыц. — Я ўжо Вам пісаў, што просьбу сваю аб паскарэнні рашэння Вашага жыллёвага пытання я накіраваў у Брэсцкі абком 16.X.1985 г. Адказу я яшчэ не атрымаў. Прыезд Ваш у Мінск нічога не зменіць. Мяне пераконваць у Вашым цяжкім становішчы няма неабходнасці.

Калі ў бліжэйшы час з абкома не атрымаю адказу, пастараюся сустрэцца на сесіі Вярхоўнага Савета з тав. Сакаловым Я. Я. і буду прасіць яго разабрацца ва ўсёй гэтай сумнай гісторыі з рамонтам Вашага дома».

А гэты ліст — да настаўнікаў Воранаўскай сярэдняй школы Столінскага раёна, якія паскардзіліся на цяжкія ўмовы свайго пражывання. «Дарагія таварышы К. К. Клімовіч, В. В. Новік і Н. А. Акабчук! — звяртаўся М. Танк. — Я атрымаў Ваша калектыўнае пісьмо, у якім Вы пішаце аб цяжкіх жыллёвых умовах настаўнікаў Воранаўскай СШ. З Вашым пісьмом я пазнаёміў міністра асветы БССР тав. Мінкевіча М. Г. і па яго парадзе пасылаю сваё пісьмо старшыні Брэсцкага аблвыканкома з дэпутацкай просьбай дапамагчы вырашыць гэту праблему палепшання Вашых жыллёвых умоў».

У лісце на імя старшыні Брэсцкага аблвыканкама У. Грыгор'ева М. Танк падкрэсліваў: «Звяртаюся да Вас з дэпутацкай просьбай: разгледзець калектыўнае пісьмо настаўнікаў Воранаўскай СШ Столінскага раёна, якія знаходзяцца ў надзвычай цяжкіх жыллёвых умовах, у выніку чаго многія з іх жывуць на прыватных кватэрах, а многія спецыялісты пакідаюць сваю працу.

Буду ўдзячны за адказ аб рашэнні аблвыканкома».

Восенню 1988 года да М. Танка звярнуліся жыхары г. п. Лагішын Пінскага раёна з просьбай дапамагчы пабудаваць Дом культуры. У лісце ад 5 кастрычніка таго ж года, адрасаваным кіраўніцтву Лагішынскага сельсавета, народны паэт адзначаў:

«Дарагія таварышы!

Я атрымаў Ваша пісьмо, пад якім падпісаліся шматлікія выбаршчыкі і дэпутаты вашага пасялковага сельсавета.

Поўнасцю падзяляю Вашу заклапочанасць аб стварэнні лепшых умоў для культурнага адпачынку ў вашым гарадскім пасёлку.

Пісьмо Ваша разам са сваёй дэпутацкай просьбай сёння пасылаю старшыні Брэсцкага аблвыканкома тав. Бурскаму В. І. Не ведаю, як удасца вырашыць гэту

справу. У кожным выпадку, я прашу яго ўважліва разгледзець і задаволіць гэту нашу супольную просьбу».

Сапраўды, у той жа дзень М. Танк паслаў наступны дэпутацкі запыт на імя старшыні Брэсцкага аблвыканкама В. Бурскага:

«Паважаны Віктар Іванавіч!

Звяртаюся да Вас з дэпутацкай просьбай, калі ёсць якая магчымасць дапамагчы жыхарам г. п. Лагішына ў будаўніцтве Дома культуры. Лагішын, як Вам вядома, налічвае каля 4 тыс. чалавек, якім зараз няма дзе праводзіць свой культурны адпачынак, бо стары клуб разлічаны толькі на 220 месц. Пад просьбай падпісалася больш 500 чалавек, у тым ліку і ўсе дэпутаты Лагішынскага сельсавета.

Вельмі прашу Вас уважліва разгледзець гэту нашу супольную просьбу.

*З глыбокай пашанай*

*Максім Танк».*

У сувязі з гэтым наўрад ці можна пагадзіцца з Я. Чыквіным, які ў сваім нядаўнім артыкуле «Літаратурна-эстэтычныя погляды Максіма Танка: паміж тэорыяй і практыкай», поўным супярэчлівых і спрэчных разважанняў і высноў, адзначае: «Здаўна схварэлы і ад пачатку перабудовы ў Савецкім Саюзе адсунуты на абочыну новых падзей, Танк, аднак, не спыняў творчую працу...»

Як вядома, перабудова ў былым Савецкім Саюзе пачалася ў 1985 годзе, з прыходам на пасаду Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова. М. Танка, народнага паэта БССР, да 1989 года дэпутата Вярхоўнага Савета СССР і да 1990 — старшыню праўлення Саюза пісьменнікаў БССР і члена ЦК Камуністычнай партыі Беларусі, — яркую і каларытную асобу, — цяжка было адсунуць «на абочыну новых падзей». Ды і такой грамадскай сілы не было. Наадварот, у тых «новых падзеях» ён прымаў непасрэдны і актыўны ўдзел. Многія факты сведчаць пра тое, што ў другой палове 1980-х гадоў М. Танк шмат і прадуктыўна працаваў, паспяхова выконваў свае службовыя абавязкі і грамадскія даручэнні, пісаў і друкаваў творы і карыстаўся вялікай павагай як сярод непасрэдных калег па пяры, патрабавальнай і прыдзірлівай творчай інтэлігенцыі, так і шырокай грамадскай супольнасці.

Разам з тым, праўдай будзе сказаць, стан здароўя народнага паэта пагаршаўся. У канцы 1980-х гадоў ён некалькі разоў клаўся ў бальніцу, у тым ліку двойчы лячыўся ў Рэспубліканскім Вільнюскім цэнтры хірургіі сэрца і сасудаў: у 1988 годзе — з 6 па 15 красавіка і ў 1989 — з 9 па 20 студзеня. У выпісцы з гісторыі хваробы М. Танка № 5902 ад 15 красавіка 1988 года адзначаецца: «Хворы прыбыў са скаргамі на агульную слабасць, хуткую стамляльнасць, задышку ў час фізічнай нагрузкі і прыступы ўдушша, нерэгулярнае сэрцабіццё, галавакружэнне, кашаль з макротай, часам з пражылкамі свежай крыві. З анамнеза вядома, што АЦ знаходзяць павышаным з 1976 года, у 1965 г. перанёс інфекцыйны міякардыт. Пагаршэнне стану з 1983 г. (з’явіліся складаныя парушэнні рытму і праводнасці, павелічэнне дэкампенсацыі), з 1986 г. пастаянная форма мігальнай арытміі. Неаднаразова лячыўся ў Маскве і Мінску. Стан пры паступленні: агульны стан сярэдняй цяжкасці…»

12 красавіка 1988 года кансіліум вядучых дактароў бальніцы ў складзе прафесараў А. Марцінкявічуса, В. Сірвідзіса, Л. Лаўцявічуса, Х. Кібарскіса, дацэнта Г. Уждавініса, доктара медыцынскіх навук Н. Палюшчынскай, кандыдата медыцынскіх навук З. Касінскаса прыняў наступнае рашэнне: «У сувязі з тым, што ў хворага на фоне мігальнай арытміі бываюць эпізоды вельмі выражанай брадыкардыі (да 45 уд/мін.), падчас якіх хворы адчувае сябе кепска (што паказвае на недастатковасць мазгавога кровазвароту), хвораму паказана імплантацыя электракардыястымулятара тыпу «Дэманд»…»

Выпіска падпісана кіраўніком Рэспубліканскага Вільнюскага цэнтра хірургіі сэрца і сасудаў прафесарам А. Марцінкявічусам, загадчыкам II аддзялення хірургіі сэрца прафесарам В. Сірвідзісам і доктарам А. Урбонасам.

12 студзеня 1989 года М. Танку была зроблена аперацыя па імплантацыі электрастымулятара амерыканскай фірмы Метронікс Дэманд. Пра гэта сведчыць выпіска з гісторыі хваробы ад 20 студзеня 1989 года. У ёй жа прыводзіцца канчатковы клінічны дыягназ захворвання народнага паэта БССР: «Атэрасклероз венечных сасудаў сэрца, аорты і сасудаў галаўнога мозга. Атэрасклератычны кардыясклероз. Мігальная арытмія, брадысісталічная форма. Жалудачкавая экстрацісталія. Сімптаматычная гіпертэнзія. Адносная мітральная недастатковасць і аортальная недастатковасць. Хранічнае парушэнне мазгавога кровазвароту. Дысцыркулятарная энцэфалапатыя. Дэфармуючы спондзілеартроз. Эмфізема лёгкіх…»

Імплантацыя электракардыястымулятара ў цэлым некалькі стабілізавала агульны стан здароўя М. Танка, але не надоўга. Неўзабаве пачаліся новыя праблемы, звязаныя з сардэчна-сасудзістай недастатковасцю, тромбафлебітам, трафічнымі язвамі і інш. У першай палове 1990-х гадоў і без таго хвораму паэту давялося перажыць цяжкія страты — смерць спачатку мужа сястры Людмілы — Язэпа Семяжона, пасля дачкі Веры і праз лічаныя месяцы самой Людмілы і, нарэшце, жонкі Любові Андрэеўны. Страты гэтыя дарэшты падбілі яго здароўе і жыццёвыя сілы. Тут ужо было не да ўдзелу ў «новых падзеях», пра што піша Я. Чыквін. Спасылаючыся на сваіх калег, выкладчыкаў універсітэта, у 1995 годзе я прапанаваў М. Танку выступіць у сродках масавай інфармацыі з ацэнкай некаторых грамадска-палітычных падзей і іх актыўных чыннікаў. Ён адмовіўся, са скрухай заўважыўшы, што «сваё ўжо адвыступаў».

І ў 1980-я, і ў 1990-я гады да М. Танка як вялікага літаратурнага і духоўна-маральнага аўтарытэта пры вырашэнні розных праблем і супярэчнасцей звярталіся прадстаўнікі дзяржаўных устаноў і грамадскіх арганізацый, аўтары пэўных ідэй і праектаў, прыватныя асобы і інш. Паэт актыўна рэагаваў на гэтыя звароты. У прыватнасці, ён выступіў прыхільнікам стварэння Беларускай акадэміі мастацтваў, як і таго, каб усіх беларускіх пісьменнікаў-эмігрантаў лічыць членамі Саюза пісьменнікаў Беларусі і г. д.

Дык ці можна гаварыць пра тое, што М. Танк быў «адсунуты на абочыну новых падзей»?..

Дарэчы, далей у згаданым артыкуле Я. Чыквін піша: «Танк ведаў, …што праз увесь савецкі перыяд і да канца сваіх дзён яго лічылі «заходнікам» і «дэмакратам», а значыць ён быў на прыцэле, увесь час пад тайным наглядам. Бачыцца цалкам невыпадковым, што пасля пасмяротнай журнальнай публікацыі запісак («Полымя», 1996 № 9—12, 1997 № 1—12), рукапісы танкаўскіх «Дзённікаў» раптам зніклі, прапалі — магчыма, каб нельга было зверыць арыгінал з «палымянскай» копіяй, адносна якой адразу ўзніклі некаторыя пытанні аб іх поўнай верагоднасці».

На мой погляд, гэта сцвярджэнне сфармулявана без належнага ведання характэрных асаблівасцей жыцця і творчасці народнага паэта Беларусі, а таксама спецыфікі беларускіх грамадска-сацыяльных умоў і абставін і гучыць яно не толькі непераканаўча, але і наіўна. У «савецкі перыяд» ды і пазней «на прыцэле» грамадскасці, розных чыноўніцкіх структур і спецыяльных органаў знаходзілася, відаць, кожная публічная асоба, а тым больш асоба яркая, каларытная, знакавая, якая ўплывала ці магла ўплываць на сацыяльныя настроі і працэсы. Любая дзяржава, калі яна хоча быць моцнай і паспяховай, павінна клапаціцца пра сваю інфармацыйную, ідэалагічную, эканамічную, ваенную і іншую бяспеку і самазахаванне. Разам з тым, у нас няма ніводнага факта, які б сведчыў пра тое, што М. Танк «увесь час» быў «пад тайным наглядам».

На працягу ўсяго свайго жыцця Максім Танк шчыра і глыбока верыў у прынцыпы і каштоўнасці камуністычнай маралі. Развал Савецкага Саюза толькі пахіснуў яго веру, не болей.

Максім Танк быў глыбока законапаслухмяным чалавекам і грамадзянінам, ён з павагай адносіўся да кіраўнікоў рэспублікі, у прыватнасці, з цеплынёй і сімпа-

тыяй выказваўся пра Кірылу Мазурава і Пятра Машэрава, лічыў, што яны шмат зрабілі для беларускага народа і яго культуры.

Зусім відавочна, што калі б паэт выклікаў нейкае ідэалагічнае падазрэнне, а тым больш недавер, ён бы не быў дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР і СССР, старшынёй Вярхоўнага Савета БССР, старшынёй праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, Героем Сацыялістычнай Працы, лаўрэатам Ленінскай прэміі і г. д.

Што датычыць рукапісу «Дзённікаў» М. Танка… Наведваючы народнага паэта, я меў магчымасць знаёміцца з многімі дакументамі і матэрыяламі яго хатняга архіва, у тым ліку і з дзённікавымі нататкамі. Яны ўяўлялі сабою рабочыя запісы розных гадоў жыцця ў рознага фармату старых сшытках, зробленыя характэрным дробным танкаўскім почыркам са шматлікімі праўкамі, скарачэннямі, устаўкамі і г. д. Паколькі мала хто мог расчытаць гэтыя запісы, пазней М. Танк на працягу доўгіх месяцаў сам з дня ў дзень друкаваў іх на машынцы, рыхтуючы канчатковы варыянт «Дзённікаў». Па ходу, зразумела, ён нешта ўдакладняў, развіваў, правіў, а нешта, наадварот, апускаў, як гэта здараецца з кожным аўтарам тэксту.

Ніякіх сацыяльна вострых, а тым больш апазіцыйных вядучай грамадскай ідэалогіі і дзяржаўнаму ўладкаванню думак і ідэй у дзённікавых нататках М.Танка не было і быць не магло. Усё асноўнае, што ўтрымліваў у сабе рукапіс, захаваў і машынапіс, які з’явіўся безумоўнай асновай публікацыі ў часопісе «Полымя». У машынапісны тэкст «Дзённікаў» не ўвайшлі толькі разрозненыя фрагменты запісаў, у розныя гады зробленыя ў недзённікавых сшытках, а таксама на асобных аркушах паперы. Пра іх М. Танк мог проста забыць ці не знайсці ў сваім багатым і разнастайным хатнім архіве.

Не выключана, што дзесьці могуць быць асобныя аркушы запісаў, зробленых народным паэтам у 1995 годзе, пасля надрукавання ім «Дзённікаў» на машынцы. Ва ўсякім выпадку, самыя апошнія з іх нядаўна давялося выявіць у фондах Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва:

«27/VII Заўтра нейкія аналізы. Наведалі Максім, Аня, мой сусед з гасцінцамі са свайго агарода, Міхноўскі Мікола з літфондаўскімі лекамі. Не ведаю, як перажыву гэту ноч. Хутчэй бы развязка нейкая.

28/VII Сустрэў (? — прозвішча неразб.), калі мяне вазілі на абследванне. Справа мая безнадзейная.

5/VIII Быў Няфёд. Выдае кнігу пра Аляхновіча, прасіў падпісаць просьбу аб яе выданні. Я адмовіўся, бо ўжо столькі нападпісваў розных папер і просьб, што і з ліку збіўся. Ды пра Аляхновіча, што я магу сказаць? Драматург з круга Астроўскага, вайной — рэдактар пра-фашысцкага напрамку, асуджаны партызанамі і забіты імі. Не ведаю, якая віна. Аўтар кнігі пра Салавецкую сваю ссылку. Вось і ўсё. У кожным выпадку мне не хацелася ўмешывацца ў гэту гісторыю.

А мне, відаць, без аперацыі не абысціся».

Як бачым, да смерці М. Танку заставаліся лічаныя дні, тым не менш ён імкнуўся занатоўваць «жыцця свайго старонкі»…

Дарэчы, дзесьці ў красавіку—маі 1996 года машынапісны тэкст «Дзённікаў» М. Танка знаходзіўся ў мяне. За гэты час мною была падрыхтавана публікацыя для «Народнай газеты». Гэтая публікацыя з’явілася ў нумары за 10—12 жніўня таго ж года пад назвай «У кожнага мастака, паэта павінна быць мяжа незалежнасці…»

Мяркую, рукапіс і машынапіс «Дзённікаў» М. Танка прапалі ў выніку звычайнай чалавечай халатнасці. Для той неразбярыхі, якая панавала ў нашым грамадстве сярэдзіны 1990-х гадоў, гэта была не рэдкасць.

Ян Чыквін падкрэслівае, што «танкаўскі «цэласны мастацкі арганізм» ламала, выкручвала і дэфармавала тая сістэма, у якой паэт жыў і працаваў, якой быў гарачым прыхільнікам і якой верна служыў — каб быць урэшце яе ж і ахвяраю». Ці магчыма ўсё адзначанае ў нейкай узаемазвязанасці і адзінстве, а тым больш у межах адной асобы?.. Каб быў і «цэласны мастацкі арганізм», і ў той жа час яго «ламала, выкручвала і дэфармавала» сістэма, і пры гэтым дадзены «цэласны мастацкі арганізм» ёй «верна служыў»…

Не варта забываць той важнай акалічнасці, што, па-першае, толькі дзякуючы камуністычна-партыйным поглядам і перакананням М. Танк здолеў развіць грамадзянска-патрыятычныя асновы і прынцыпы свайго паэтычнага таленту, стаць адной з самых яркіх і каларытных асоб у гісторыі беларускай літаратуры і культуры. І па-другое: хочацца нам гэта прызнаваць ці не, аднак да самых апошніх дзён жыцця ён заставаўся на сваіх ранейшых пазіцыях, г. зн. акрамя народна-патрыятычных арыентаваўся і на камуністычныя ідэйна-маральныя каштоўнасці.

Нішто М. Танка не ламала і не дэфармавала. Гэта была падкрэслена цэльная, сістэмная і арганічная асоба.

Дарэчы, напярэдадні 100-гадовага юбілею М. Танка ў нашым друку з'явіўся шэраг публікацый, якія ўтрымліваюць у сабе сур'ёзныя памылкі і недакладнасці адносна раскрыцця асаблівасцей жыцця і творчасці народнага паэта Беларусі. Яны не толькі ўводзяць у зман недасведчанага чытача, але і выклікаюць недапушчальную ў такіх выпадках факталагічную блытаніну і неразбярыху. Да прыкладу, праз каментарый да нядаўна выдадзеных лістоў М. Танка на поўным сур'ёзе сцвярджаецца, што ён ужо ў 1950-я гады кантактаваўся з будучым народным мастаком Беларусі Георгіем Паплаўскім, што паэта ў 1956 годзе на пероне Ленінградскага вакзала сустракаў (разам з вядомым рускім пісьменнікам Паўлам Кабзарэўскім) былы прэзідэнт Беларускай цэнтральнай рады, калабарацыяніст Радаслаў Астроўскі, што яму ў 1970 годзе званіў, цікавячыся рэспубліканскім пісьменніцкім з'ездам, будучы Генеральны сакратар ЦК КПСС, першы і адзіны Прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў і інш. Але гэта зусім не адпавядае рэчаіснасці.

Тое ж самае выданне паведамляе, што, часта бываючы ў ад'ездзе, М. Танк ліставаўся са сваёй жонкай, пачынаючы з 1941 года. Аднак, як сведчаць шматлікія дадзеныя, паэт актыўна перапісваўся з Любоўю Андрэеўнай і ў 1930-я гады.

У нядаўнім газетным артыкуле «Дамовіліся і ў снах прыходзіць…» з пафасам глыбокага навуковага адкрыцця гаворыцца пра тое, што да замуства Любоў Андрэеўна мела прозвішча Скурко, што паэт здымаў у яе бацькоў «пакойчык падчас навучання ў гімназіі, якую, аднак, не закончыў, бо быў выключаны як вальнадумца», што з пачаткам вайны «Яўген Іванавіч з жонкай эвакуіраваліся на ўсход, а бацькі аказаліся пад нямецкай акупацыяй. Уладкаваўшы жонку з малым сынам Максімам, паэт вярнуўся на захад» і г. д. Нават неспецыялісту тут зразумела: аўтар, што называецца, не ў тэме. Відаць, беручыся за напісанне артыкула, яму патрэбна было хоць збольшага вывучыць матэрыял.

Дзявочае прозвішча Любові Андрэеўны — Асаевіч. Паэт, у якога ў віленскія гады часта не было сродкаў нават на хлеб і лекі (пра што сведчаць тыя ж «Лісткі календара»), не мог здымаць і ніколі не здымаў асобны пакойчык. Дарэчы, пра якую гімназію ідзе гаворка? М.Танк з кароткім перапынкам вучыўся ў дзвюх віленскіх гімназіях. Што гэта за геаграфічныя вызначэнні: «эвакуіраваліся на ўсход», «вярнуўся на захад»? Як іх разумець?

Некалі за такія пісьмовыя работы ў курсе «Уводзіны ў літаратуразнаўства» я студэнтам ставіў двойкі.

Але што гаварыць пра сціплую газетную публікацыю, калі памылкі і недакладнасці «гуляюць» у прымеркаванай да 100-годдзя народнага паэта і выдадзенай у папулярнай і прэстыжнай серыі «Жыццё знакамітых людзей Беларусі» кнізе ўспамінаў, эсэ, прысвячэнняў «Максім Танк. На камні, жалезе і золаце».

Вось С. Александровіч у, несумненна, цікавым і пазнавальным эсэ «Тут зямля такая…», напісаным у далёкім 1965 годзе, адзначае, што ў 1932 годзе «ў Львове выходзіць беларуская аднадзёнка «На пераломе», у якой з'явіўся верш «Заштрайкавалі гіганты каміны» ўпершыню за подпісам Максім Танк». А крыху ніжэй, прыгадваючы сваю вучобу ў Віленскай беларускай гімназіі, у артыкуле «Проста добры чалавек» П. Кузюковіч заўважае іншае: «Нас, вучняў гімназіі, зацікавіў надзвычай гучны псеўданім — Максім Танк, якім ён упершыню падпісаўся ў 1935 годзе». Як можа быць упэўнены чытач, тут памыліліся абодва

аўтары. Псеўданім «Максім Танк» упершыню з'явіўся пад вершам «Заштрайкавалі гіганты коміны», надрукаваным у Львоўскай газеце-аднадзёнцы «Беларускае жыццё» 7 красавіка 1932 года.

Гаворачы пра кабінет паэта на яго нарачанскім лецішчы, С. Александровіч падкрэслівае: «З акна адкрываецца цудоўны краявід на возера». Здаецца, дробязь, аднак яна з'яўляецца фактычна прынцыповай у сваёй памылковасці. Справа ў тым, што акно з кабінета М. Танка выходзіць акурат на хату-дачу Міхася Лынькова і з яго Нарач не праглядваецца.

Успамінаючы працу над дакументальным фільмам з нагоды 70-годдзя М.Танка, сваё наведанне разам з народным паэтам яго родных мясцін, М. Арочка сцвярджае літаральна наступнае: «Хведар (брат М. Танка. — **М. М.**) даўно перабраўся ў новую хату — адгрукаў яе на тым самым двары, зусім поруч са старой хацінай бацькоў». Гэта зусім не адпавядае рэчаіснасці. Новая хата была пабудавана бацькамі Іванам Хведаравічам і Домнай Іванаўнай задоўга да таго, як пасля разрыву сямейных адносін з Мінска ў Пількаўшчыну вярнуўся Хведар. Дарэчы, яе будаўніцтва фінансаваў М. Танк.

У артыкуле «Поэзии хлеб насущный», напісаным у 1971 годзе (ён шмат дзе друкаваўся, у тым ліку і як прадмова да Збору твораў М. Танка ў трох тамах у перакладзе на рускую мову) і падноўленым у 1997, Я. Хелемскі пераканана заўважае: «С волнением и скорбью перечитываю одно из его писем, датированное апрелем девяносто первого года. Он только что похоронил любимую дочь, погибшую от лейкемии». Не ведаеш, як і рэагаваць на гэтае сцвярджэнне знакамітага рускага перакладчыка, які доўгія дзесяцігоддзі падтрымліваў з народным паэтам Беларусі блізкія сяброўскія адносіны. Няўмольныя факты гавораць пра тое, што дачка М. Танка Вера хварэла на анкалогію лёгкіх і памерла 20 мая 1991 года.

Памылковымі з'яўляюцца і некаторыя іншыя выказванні аўтараў кнігі «Максім Танк. На камні, жалезе і золаце», напрыклад, наступнае, якое належыць В. Вітку: «Паэт ужо дзесяць апошніх гадоў жыў са стымулятарам, ужыўленым яму хірургамі над сэрцам. Пра гэта мала хто ведаў». Відаць, мала што ведаў пра гэта і сам Цімох Васільевіч. Як мы адзначылі, электракардыястымулятар амерыканскай фірмы Метронікс Дэманд М. Танку быў імплантаваны 12 студзеня 1989 года. Няцяжка падлічыць, што пры яго падтрымцы народны паэт пражыў шэсць з паловай гадоў.

Успамінаючы апошнія гады жыцця М. Танка, І. Шамякін, яго блізкі таварыш і сябар, падкрэслівае: «У апараце (сардэчным стымулятары. — **М. М.**) селі батарэйкі, і ён быў на мяжы смерці. Дзякуй тады міністру замежных спраў Пятру Краўчанку: звярнуліся да яго, і ён хутка з далёкага замежжа прывёз гэтыя батарэйкі, што прадоўжыла жыццё Паэта». На жаль, дадзенае заключэнне сфармулявана на аснове слухаў і не адпавядае праўдзе. «На мяжы смерці» з-за старых батарэек кардыястымулятара М. Танк не быў, па дапамогу да міністра замежных спраў П. Краўчанкі ніхто не звяртаўся. Ва ўсякім выпадку, родныя і блізкія народнага паэта нічога пра гэта не ведаюць.

У выданні змешчаны верш У. Ліпскага:

Нагледзеўся за сваё жыццё крыжоў,
замшэлых і свежых.
А гэтыя два,
чорныя і велічныя,
у вёсцы Пількаўшчына,
на Мядзельшчыне,
запомню на ўсе дні жыцця.
У падмурку крыжоў
кароткі надпіс:
*«Максім Танк*
*Любоў Скурко*
*1912—1995».*

Памыліўся пісьменнік. Два «чорныя і велічныя» крыжы ён бачыў не ў вёсцы Пількаўшчына, а ў вёсцы Слабада. У Пількаўшчыне няма могілак. М. Танк і яго жонка Любоў Андрэеўна пахаваны на вядомым цяпер Слабадскім пагосце.

Ёсць і іншыя памылкі, неадпаведнасці, недакладныя подпісы здымкаў і г. д. І вось дадзенае выданне пойдзе ў бібліятэкі, будзе выкарыстоўвацца ў якасці дапаможнага матэрыялу пры вывучэнні жыцця і творчасці М. Танка ў сярэдніх школах і ўніверсітэтах… Відаць, мала было сабраць пад адну вокладку ўспаміны, эсэ і прысвячэнні народнаму паэту розных аўтараў, ілюстраваць іх фотаздымкамі. (Дарэчы, некаторыя вельмі важныя і знамянальныя матэрыялы чамусьці не ўвайшлі ў кнігу.) Патрэбна было гэтыя ўспаміны, эсэ і прысвячэнні належным чынам адрэдагаваць, магчыма, пасля іх знешняга рэцэнзавання прапанаваць чытачу прафесійныя і граматныя каментарыі і тлумачэнні, зрабіць неабходныя ўдакладненні. Пісьменнік, пішучы пра пісьменніка, заўсёды мае схільнасць да пэўнага дамыслівання падзей і фактаў, вольнага абыходжання з імі, імкнецца падаць іх у сваёй індывідуальнай інтэрпрэтацыі і, зразумела, часта адхіляецца ад аб'ектыўнага стану рэчаў.

Вышэй мы гаварылі пра лісты да М. Танка ад асоб самага рознага ўзросту і сацыяльнага статусу са шматлікімі клопатамі і просьбамі. Паэт шчыра адгукаўся на праблемы, беды і няшчасці людзей, усяляк імкнуўся дапамагчы ім. Як рэакцыя-адказ на танкаўскую ўвагу, разуменне і душэўна-чалавечую адгуклівасць, выкананне шматлікіх зваротаў-просьбаў — хваля лістоў удзячнасці да мастака. Яны гэтаксама рознага характару, ад розных асоб, з розных мясцін Беларусі, рэспублік былога СССР, замежных краін.

*«Дарагі мой Друже!* — пісаў М. Танку 19 студзеня 1972 года былы КПЗБовец і паэт Францішак Каравацкі, які жыў у Польшчы. — *Вярнуўшыся з санатории, я найшоў дома Твае 2 аткрыткі.*

*Шчыра дзякую!*

*Многа разоў дзякую за Новагодніе прывітанні і пажаданні! Я спадзяюся, што Ты здаровы, чаго Табе і жадаю!*

*Прашу дараваць мне, За хлопаты, якія я прычыніў Табе у сувязі з хваробай і лячэннем маёй племянніцы! Пішучы к Табе, я верыў, што атклікнішся і не памыліўся. А сам знаіш, што бывае, калі нат самы блізкі з каторым спалі на адных астрожных нарах «выйдзе у людзі» становіцца неасягальным (недаступным). Але Ты астаўся такім нашым Максімам якім быў даўней. Я ганаруся гэтым! Такімі павінны быць нашы КПЗбоўцы.*

*Аб тым, што я атрымаў Твае «Лісткі календара» мне здаецца я напісаў. Дзякую і за гэта яшчэ раз! Мо вышлі у свет якіесь Твае новые творы? Прашу мне прыслаць. Сам ведаеш, што мне паэзія, гэта бальзам на сэрца.*

*Я атрымаў пісьмо і ад брата. Ен поведамляе, што згодна з Твой прапановай яго дачка Ольга як толькі зможа будзе у прафэсара Кузюковіча.*

*Прымі Мой друже яще раз падзяку ад мяне і ад імя маёй усей радні.*

*Прымі шчырые прывітанні ад маей сям'і і нашых таварышаў Табе і Тваёй сям'і!*

*Каравацкі».*

Доктар медыцынскіх навук, прафесар, вядомы беларускі хірург Пётр Кузюковіч, які згадваецца ў лісце Ф. Каравацкага, — блізкі сваяк М. Танка. Ён жанаты з дачкой сястры жонкі паэта Любові Андрэеўны. На працягу доўгіх гадоў іх звязвалі шчырыя сяброўскія адносіны. П. Кузюковіч кансультаваў і лячыў самога М. Танка, па ягонай просьбе дапамагаў вырашаць складаныя праблемы са здароўем яго шматлікім блізкім і знаёмым. Даволі паказальнымі і красамоўнымі з'яўляюцца надпісы паэта на падараваных прафесару кнігах. Да прыкладу,

на тытуле пятага тома свайго апошняга прыжыццёвага Збору твораў у шасці тамах 22 кастрычніка 1981 года ён пазначыў: «Дарагому Пятру Маркавічу Кузюковічу. Я быў бы шчаслівы, каб мая паэзія дапамагла столькім людзям, як Ваш скальпель цудоўнага хірурга. З любоўю

*Максім Танк».*

А гэты дарчы надпіс (ад 5 снежня 1981 года) знаходзім на тытуле шостага тома: «Дарагому Пятру Маркавічу Кузюковічу — з любоўю і ўдзячнасцю за яго дапамогу ў цяжкія хвіліны жыцця.

Ад усяго сэрца

*Максім Танк».*

Звяртаюць на сябе ўвагу лісты вядомага жывапісца і графіка, аўтара вокладкі першага зборніка вершаў М.Танка «На этапах» Міхася Сеўрука.

*«Дарагі і Шматпаважаны Яўген Іванавіч!* — пісаў ён народнаму паэту. — *Кранутызы Вашай увагай да мяне і вялікі дзякуй за так бясцэнны падарунак — кніжку вершаў, цудоўных, поўных жыццёвай праўды, так блізкіх майму сэрцу. Пасылаю выпадкова знойдзены адрывак газеты, але якой я не магу вызначыць, можа ён у Вас быў і Вы чыталі, але я ўсё ж рашыў Вам паслаць, прыемна ж трымаць у руках пажаўцелы лісток і ўспамінаць сваю маладосць.*

*Ад усяго сэрца жадаю Вам і Вашай жонцы ўсяго найлепшага».*

У лісце ад 26 снежня 1978 года, ужо перад самай смерцю, М. Сеўрук адзначаў:

*«Дарагі Яўген Іванавіч!*

*Дзякую за віншаванне і ад усёй душы ўзаемна віншую з Новым годам і жадаю Вам усяго самага найлепшага!*

*Я задаволены, што артыкул спадабаўся Вам і мне таксама спадабаўся і здзівіла назва артыкула ў той час як у буржуазнай Польшчы не прызнавалася Беларусь. Сапраўды можа напісаў яго Путрамент.*

*Гэту выразку мне перадаў скульптар-керамік Зільберт. Яны ў гэтым годзе былі ў Варшаве, можа і адтуль ён яе прывёз, я гэта ўдакладню і тады можа выясніцца назва газеты.*

*Жадаю Вам творчых поспехаў, моцнага здароўя і ўсяго таго, чаго Вы самі пажадаеце.*

*З глыбокай павагай*

*Міша з жонкай».*

Няпростыя сітуацыі ўзнікалі часамі ў стасунках М. Танка і Д. Бічэль-Загнетавай — чалавека складанага характару і супярэчлівых паводзін, але, безумоўна, таленавітай паэтэсы. Здаралася, яна адносіла М. Танка, свайго настаўніка ў літаратуры, «да той касты пісьменнікаў», якім можна «гаварыць усё, што прыйдзе ў галаву». У самым пачатку 1985 года М. Танк, старшыня Камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры, тэлеграмай павіншаваў Д. Бічэль-Загнетаву з прысуджэннем ёй Дзяржаўнай прэміі БССР за зборнік вершаў «Дзе ходзяць басаніж» (1983). У адказ паэтэса пісала (4 студзеня 1985 года):

*«Дарагі Яўген Іванавіч! Шчыра дзякую Вам і ўсім Вашым паплечнікам як за Дзяржаўную прэмію так і за тэлеграму, якая прынесла мне гэтулькі прыемных эмоцый. Я жадаю вам усім вартых спраў і цікавых падзей. Хай усё будзе добра ў Вас асабіста і ў нашай літаратуры. Цалую Вас».*

Падкрэслена танкаўскія — мудрыя, ёмістыя, дружалюбныя — радкі мастака ад 9 студзеня 1985 года (ліст не ўвайшоў у Збор твораў паэта ў 13 тамах): «Дарагая Данута Іванаўна! Шчыра дзякую за памяць пра мяне, грэшнага прадзеда-Мароза (5.І нарадзіўся праўнук) і добрыя навагоднія пажаданні. Што да прэміі, дык мы

ўсе рады, што атрымалі яе Вы — выдатная паэтэса, з надзвычай абаяльным голасам, нават тады, калі злуецца на нашага брата. Яшчэ раз ад усяго сэрца віншую Вас з заслужанай перамогай, жадаю Вам здароўя і шчасця. Хай новы Год для ўсіх нас будзе шчодрым на хлеб і песні, мірныя творчыя дні і сяброўскія сустрэчы. З пашанай і любоўю — *Максім Танк».* Адказваючы на іх кароткай паштоўкай, Д. Бічэль-Загнетава, тады дырэктар Гродзенскага музея Максіма Багдановіча, 31 студзеня таго ж года звярталася да народнага паэта з просьбай:

*«Яўген Іванавіч! Прышліце ў Дом Багдановіча аўтограф Вашага верша пра Багдановіча — вельмі ён упрыгожыць нашу экспазіцыю. Шчыра Вас прашу і наперад удзячна. Жадаю Вашаму праўнуку светлага і доўгага жыцця на нашай зямлі».*

Варта запыніць увагу на двух характэрных лістах з Масквы. Адзін з іх — ад жонкі вядомага грамадска-палітычнага і культурнага дзеяча Браніслава Тарашкевіча Ніны Тарашкевіч, а другі — ад былога першага сакратара ЦК Кампартыі Беларусі, а затым першага намесніка Старшыні Савета Міністраў СССР Кірылы Мазурава. Абодва атрыманы паэтам пасля даслання іх аўтарам зборнікаў вершаваных твораў.

У пісьме, якое датуецца снежнем 1981 года, Н. Тарашкевіч дзякавала М. Танку за падараваныя ёй кнігі вершаў, паведамляла пра тое, што даўно цікавіцца яго паэзіяй і любіць яе. Ліст напісаны роўна праз пяцьдзясят гадоў пасля гістарычнага арышту польскай дэфензівай у Тчэве (5 лютага 1931 года) Браніслава Тарашкевіча. Сёння вядома, што паводле вобыску беларускага грамадска-палітычнага дзеяча і канфіскацыі ў яго рэчаў і матэрыялаў з пэўнай сакрэтнай інфармацыяй пра асобных удзельнікаў рэвалюцыйнага падполля ў Заходняй Беларусі следчым Янам Булгакам на працягу 1—23 красавіка 1931 года быў складзены «Пратакол агляду і тлумачэння». У якасці асобнага раздзела ў гэтым дакуменце змешчаны спіс кур'ераў з кароткімі звесткамі пра іх, якія выяўлены ў запісной кніжцы Б. Тарашкевіча. На с. 7 «Пратакола…» пад № 24 пазначана наступнае: «Скурко, хлопец дзельны, вучань беларускай гімн. ездзіў 1 раз у Слонімскі пав., дзе брат Дварчаніна».

Тут жа фігуруюць некаторыя сябры і знаёмыя 18-гадовага Яўгена Скурко, напрыклад, Серафін (так у дакуменце) Лавор (с. 6, № 18), Тарасюк Лёнька (с. 7, № 25) і інш.

Дарэчы, пра гэты выпадак ёсць дзённікавы запіс М. Танка. Успамінаючы сваю паездку ў 1930 годзе ў Наваельню, куды ён у «страшэнную галалёдзіцу» вазіў «падпольную літаратуру для брата пасла Дварчаніна», 15 лістапада 1994 года народны паэт пазначыў: «Не ведаю, якім цудам мне тады ўдалося вырвацца з паліцэйскай пасткі, бо, як потым даведаўся, за мной прыйшла пагоня».

Ліст К. Мазурава датаваны 25 студзеня 1988 года і напісаны на добрай беларускай мове. У ім вядомы дзяржаўна-палітычны дзеяч не проста адзначаў сваю даўнюю любоў да паэзіі М. Танка, але і аналізаваў яго асобныя вершы, падкрэсліваў да народнага паэта Беларусі пачуцці павагі і сяброўства.

Варта заўважыць, што яшчэ з часоў вайны М. Танк падтрымліваў даволі блізкія адносіны з многімі кіраўнікамі Беларусі. Паэт сустракаўся з імі на шматлікіх афіцыйных пасяджэннях, грамадска-культурных мерапрыемствах, падчас вырашэння пытанняў, звязаных з дзейнасцю Саюза пісьменнікаў і г. д. Некаторым з беларускіх палітычных і дзяржаўных дзеячаў, напрыклад, П. Панамарэнку, К. Мазураву, П. Машэраву, С. Прытыцкаму, А. Кузьміну і інш., М. Танк падпісваў і дарыў свае кнігі.

«Паважанаму Панцелеймону Кандрацевічу Панамарэнку, — адзначаў ён на тытуле паэмы «Янук Сяліба», якая выйшла ў Маскве ў 1943 годзе, — імя чыё нераздзельна і назаўсёды звязана з гераічнай вызваленчай барацьбой беларускага народа, з яго перамогай, з росквітам яго культуры — *Максім Танк.* Масква 21-XII-43 г.» Кніга адрасавана першаму сакратару ЦК КП Беларусі, кіраўніку Цэнтральнага штаба партызанскага руху. А гэты дарчы надпіс знаходзім на зборніку вершаў паэта «Праз вогненны небасхіл», выдадзеным у 1945 годзе ў Мінску: «Пава-

жанаму Панцелеймону Кандрацевічу Панамарэнку на ўспамін аб светлай даце далучэння Заходняй Беларусі. З пашанай *Максім Танк.* Мінск 4 снежня 1945 г.»

Як вядома, з 1948 года П. Панамарэнка жыў і працаваў у Маскве. Аднак М. Танк знаходзіў магчымасць для таго, каб пазнаёміць яго са сваімі новымі кніжнымі выданнямі. 8 чэрвеня 1949 года паэт падпісаў П. Панамарэнку, на той час ужо сакратару ЦК УКП(б), зборнік вершаў «Каб ведалі»: «Глыбокапаважанаму Панцелеймону Кандрацевічу Панамарэнку гэтыя вершы з Беларусі, з краіны, якую Ён шчыра пакахаў, з краіны, дзе шмат у Яго сяброў, якія заўсёды з любоўю яго ўспамінаюць.

З пашанай —

*Максім Танк».*

З блізкім да гэтага дарчым надпісам, толькі ўвасобленым у паэтычнай форме, М. Танк даслаў П. Панамарэнку сваю кнігу «Выбраныя творы», якая выйшла ў 1952 годзе.

«Глыбокапаважанаму Панцелеймону Кандрацевічу Панамарэнку.

Хай гэтыя песні, свабоднай хвілінай,
Прыпомнюць любімую Вамі Краіну,
Ў якой Вы, калісці, жылі, працавалі,
Расці і дужэць нам усім памагалі,
Дзе дружная наша сям'я баявая
Вас словам сардэчным заўжды ўспамінае.

*Максім Танк*
*Мінск 4.VIII.1952 г.»*

Гаворачы пра лісты ўдзячнасці М. Танку, нельга не згадаць Генадзя Шупенька. Красамоўныя радкі пісьма таленавітага крытыка, пасланага ім пасля паспяховага вырашэння яго складанай кватэрнай праблемы (5 верасня 1967 года):

*«Дарагі Яўгені Іванавіч!*

*Мне хочацца сказаць Вам так многа харошых слоў, я так Вам удзячны, што не ведаю, дзе знайсці гэтыя словы…*

*Я напісаў Вам некалькі самых цяжкіх у маім жыцці пісем у самыя, можа быць, горкія і змрочныя дні майго жыцця. І Вы адчулі і зразумелі мой боль, і не адвярнуліся ад мяне. І дапамаглі, як ніколі ніхто ў жыцці мне не дапамагаў. Прыміце ж ад мяне вялікую сардэчную сыноўнюю маю падзяку.*

*Хачу падзяліцца з Вамі сваёй радасцю. Гэтае пісьмо пішу на кухонным стале (пісьмовага яшчэ не прыдбаў) Сваёй (!!) кватэры. Проста не магу паверыць да гэтага часу».*

І далей Г. Шупенька пісаў: *«Я ведаю, што такое здароўе. І таму адно з маіх самых шчырых жаданняў — каб зменлівы жыццёвы лёс быў ласкавы да Вас і Вашых родных і блізкіх, каб не адняў самае дарагое ў жыцці — здароўе. Калі б я маліўся, то цяпер не раз бы ў сваім жыцці прасіў бы: «Дай, Божа, здароўя на доўгія гады Максіму Танку, Паэту і Чалавеку!..»*

Любоў і павагу да М. Танка і яго творчасці Г. Шупенька пранёс праз усё сваё жыццё. У многім паказальным з'яўляецца ліст-віншаванне крытыка, адрасаваны народнаму паэту з нагоды яго 60-годдзя:

*«Дарагі Яўгені Іванавіч!*

*У гэтыя горка-радасныя, тлумныя прад'юбілейныя дні Вы атрымаеце шмат лістоў, у якіх будзе многа добрых, шчырых, а часам і гучна-прыгожых слоў. Прыміце ж і маё ціхае, можа, не надта дасціпнае слова любві і прызнання. Як заўжды, жадаю Вам перш за ўсё найгалоўнейшага дару жыцця — здароўя. Хай жа чэсна і доўга паслужыць Вам Ваша разумнае, добрае, чулае сэрца, якое так многа спазнала і перажыло, з якога бурныя хвалі жыццёвых рэк вымылі «нямала руды», аднак не змаглі вымыць самага святога ў чалавеку — чуласці, якому і цяпер хапае работы, клопату, болі і трывогі за чалавека.*

*Апошні тыдзень пад уражаннем не толькі Вашага верша дзесяцігадовай даўнасці («...Рэкі смутку і радасці...»), але і ўсёй Вашай творчасці, якая, думаецца, чакае яшчэ адэкватнага ёй слова ў нашай крытыцы. Перачытаў увесь чатырохтомнік. Мы цяпер пераглядаем праграму для сярэдняй школы. А ў 10 класе Ваша творчасць прадстаўлена толькі вершамі да 1954 года, а гэта ўжо не простая некампетэнтнасць складальнікаў праграмы (перастрахоўшчыкаў, якія баяцца нават верша «Ave Maria», не кажучы ўжо пра такі шэдэўр, як «Хай пішуць распуснікі...»), а і вялікая іх віна перад Паэзіяй, перад роднай літаратурай. Хацелася б неяк пазней (як схлынуць святочныя турботы) сустрэцца, пагаварыць з Вамі.*

*А цяпер прыміце ад мяне і маёй сям'і (у мяне ўжо два сыны — харошыя, слаўныя дзеці, адзіная мая ўцеха ў жыцці: хоць тут яно не пасмяялася нада мною і я ўдзячны свайму лёсу за гэта) самыя шчырыя і самыя добрыя пажаданні.*

*Здароўя і моцы Вам, Яўгені Іванавіч!*

*Шчасця ўсім Вашым родным і блізкім!..*

*З павагай і пашанаю*

*Генадзь Шупенька.*
*13.IX.1972, г. Мінск».*

З вялікай удзячнасцю і захапленнем успамінае асобу мастака яго дваюрадная сястра Алена Болтуць. У яе памяці М. Танк застаўся як чалавек надзвычайнай шчырасці і адказнасці, сціплы, дабрадушны, спагадлівы, клапатлівы, надзейны.

Маці А. Болтуць Соф'я Хведараўна нарадзілася ў 1898 годзе ў Пількаўшчыне і была роднай сястрой бацькі Максіма Танка Івана Хведаравіча Скурко. У сваю чаргу яе бацька Іван Андрэевіч Чарняўскі, 1893 года нараджэння, паходзіў з суседняй вёскі Шкленікава, як вядома, па-свойму знамянальнай у жыццёвым і творчым лёсе народнага паэта БССР. Якраз у Шкленікаўскую польскую пачатковую школу Яўген Скурко пайшоў вучыцца пасля вяртання з сям'ёй у 1922 годзе з бежанства ў Расію. Да таго ж першым яго літаратурным творам быў пераказ вершам падчас навучання ў Вілейскай рускай гімназіі легенды пра Шкленікаўскае возера, пачутай ад дзеда Хведара Маркавіча.

У 1920-я гады бацькі А. І. Болтуць жылі ў вёсцы Гайна Лагойскага раёна БССР — Іван Андрэевіч пасля вучобы на фізмаце Ленінградскага ўніверсітэта працаваў дырэктарам школы, а Соф'я Хведараўна — выхавацельніцай дзіцячага садка. Здаецца, нічога не прадвяшчала бяды і ўзрушэнняў. Аднак час быў няпросты, чым далей, тым усё болей актуальным у грамадстве станавіўся пошук ворагаў і шкоднікаў савецкай улады і калгаснай сістэмы. Надыходзіла дзесяцігоддзе, якое з поўным на тое правам можна назваць крывавым у гісторыі савецкага рэжыму. У 1932 годзе ў ліку іншых ахвяр сталінскіх рэпрэсій сям'я Чарняўскіх была выслана ў Сібір і апынулася ў Алтайскім краі. Пры гэтым бяда, як кажуць, не ходзіць адна: толькі пачалі абжывацца на новым месцы, як рашэннем тройкі за нібыта антысавецкую дзейнасць у 1937 годзе прыгаворваецца да вышэйшай меры пакарання галоўны кармілец — Іван Андрэевіч. Можна было ўявіць стан Соф'і Хведараўны, якая засталася на чужыне адна з трыма маленькімі дзецьмі, якіх ёй патрэбна было падняць на ногі.

*«Хачу расказаць усім добрым людзям,* — падкрэслівае А. Болтуць у пісьме да мяне, — *пра выключныя чалавечыя якасці майго дваюраднага брата Скурко Яўгенія Іванавіча, якога я доўгія гады блізка ведала. Яўгеній Іванавіч, як ніхто іншы, вельмі даражыў сваякамі, роднымі і блізкімі. Ён пісаў нам з Вільнюса ў Сібір лісты, усяляк падбадзёрваў нас, прасіў маю маму вяртацца на Радзіму, дзе нам будзе лепш. Здаецца, у 1937 годзе прыслаў нам на Алтай свой зборнік вершаў «Журавінавы цвет».*

*У 1947 годзе пасля месяца цяжкай дарогі мы прыехалі ў Мінск. Яўгеній Іванавіч сардэчна, як самых жаданых і дарагіх гасцей, сустрэў нас на вакзале, кожнага абняў, расцалаваў, хоць ніколі дагэтуль не бачыў, і павёз да сябе дамоў. Жылі яны тады — сем чалавек — у невялікай двухпакаёвай кватэры».*

Як вынікае з ліста А. І. Болтуць, Максім Танк, нічколькі не вагаючыся, узяў на сябе асноўны цяжар адказнасці і клопатаў па ўладкаванні рэпрэсаваных родзічаў, якія спыніліся ў яго кватэры. Праз некалькі месяцаў ён дапамог ім набыць дом у Кабыльніку Мядзельскага раёна, перавёз іх туды, падтрымліваў маральна і матэрыяльна. Бацькі паэта і дзядзька Фадзей падарылі ім карову, авечак, пчаліныя вуллі, забяспечылі ўсімі неабходнымі ў вёсцы гаспадарчымі рэчамі.

Далей А. Болтуць адзначае:

*«Ён вельмі любіў Беларусь, сваю Пількаўшчыну. Уся яго творчасць прысвечана Радзіме, услаўленню роднай зямлі, простых людзей.*

*Кожную сваю новую кнігу ён абавязкова падпісваў і дарыў мне. Я іх захоўваю сёння як самае дарагое, што ў мяне ёсць.*

*Гэта былі рэдкія — на дзіва добрыя, сумленныя, чулыя, спагадлівыя, сціплыя людзі — і Яўгеній Іванавіч і Любоў Андрэеўна. Яны так падыходзілі адзін аднаму! Я пражыла ўжо 82 гады, але болей такіх людзей не сустракала.*

*Яны дапамагалі ўсім, хто да іх звяртаўся. Калі я ў маладосці цяжка захварэла, яны ўзялі мяне на сваё поўнае ўтрыманне: лячылі, даглядалі, пасылалі ў санаторый і г. д. Пазней я паступіла вучыцца на біялагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і доўгі час жыла ў іх. У мяне была выдатная магчымасць назіраць, як яны жывуць, як адносяцца адзін да аднаго і да іншых людзей. Гэта была ва ўсіх адносінах узорная сям'я. Дарэчы, такімі яны выхавалі і сваіх дзяцей.*

*Калі я выходзіла замуж, час быў цяжкі, галодны. Што вы хочаце — 1951 год. Яўгеній Іванавіч і Любоў Андрэеўна прыехалі да нас на вяселле і прывезлі такія падаркі, пра якія мы, рэпрэсаваныя людзі, нават марыць не маглі. Яны мне падарылі швейную машынку «Зінгер», дарагія пасцельныя рэчы і інш.*

*Я неаднойчы заўважала: яны што-небудзь дарылі чалавеку і атрымлівалі ад гэтага вялікае задавальненне.*

*У мяне не хапае слоў, каб перадаць вам, што сабою ўяўляў Яўгеній Іванавіч — Максім Танк. Гэта быў чалавек незвычайнай душэўнай чысціні і прыгажосці, вельмі высокай жыццёвай маралі і культуры. Колькі жыць буду на свеце, заўсёды буду яго помніць і любіць».*

Сапраўды, М. Танк надзвычай шмат зрабіў для сваёй цёткі Соні і яе траіх дзяцей. Толькі дзякуючы яго дапамозе і падтрымцы быў у 1956 годзе пасмяротна рэабілітаваны яе муж, атрымалі адукацыю дочкі і сын і інш.

Несумненна, факт высылкі ў Сібір цётак Соні і Полі быў трывала ўгнездаваны ў духоўна-мастацкай свядомасці М. Танка, стаў адным з этапных у асэнсаванні ім свайго чалавечага і родавага лёсу. Ён уключаўся паэтам у агульны ланцуг з'яў і падзей, якія паўплывалі на выпрацоўку асноў і прынцыпаў яго жыццёвай філасофіі і маралі, садзейнічалі выяўленню глыбінных каштоўнасцей народнага жыцця.У вершы «Тады... тады...», напісаным 16 верасня 1992 года, М. Танк заўважаў:

Заўсёды,
Калі расказвала маці
Пра нейкае здарэнне,
Па-свойму час удакладняла:

«Было гэта тады,
Калі яшчэ я дзявавала,
А ў Крывічах
Пракладвалі чыгунку».

Або:
«Было гэта тады,
Калі мы
З бежанства вярнуліся
На апусцелы свой надзел».

Або:
«Было гэта тады,
Калі цябе, сынок,
Паліцыя забрала
І я, праводзячы, прасіла,
Каб не білі».

Або:
«Было гэта тады,
Калі прыйшлі Саветы,
Калі ў Сібір саслалі
Цётак Соню, Полю
З малышамі,
Свата Анупрэя,
Ганулю-павітуху,
Якая бабіла цябе».

Як бачым, думка паэта разгортваецца ў стылі традыцыйнага для яго сінкрэтызму раскаванага, нязмушанага прамаўлення і ў той жа час лагізаванага аўталагічнага мыслення, заснаванага на прынцыпах характэрнага пералічэння і канстатацыі.

Або:
«Было гэта тады,
Калі з людзьмі
Спалілі немцы Слабаду,
Калі дачушку Верачку
З малым забілі».

Або:
«Было гэта тады,
Калі прынеслі партызаны
Звестку, што ты жыў
І ўзнагароджаны,
І я ўсю ноч праплакала,
Цалуючы той ліст газеты».

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Відаць, тады,
Глытаючы
Засеўшы ў горле комам
Хлеб чэрствы успамінаў,
Я ўпершыню адчуў
Увесь цяжар жыцця
І марнасць усялякай пісаніны.

А. Болтуць апісвае цёплую, сяброўскую атмасферу, што панавала ў сям'і М. Танка, гаворыць пра вялікае ўзаемнае каханне паэта і яго жонкі Любові Андрэеўны, якое і абумоўлівала гэту атмасферу. У сувязі з гэтым прыгадваюцца шчымлівыя словы дачкі Яўгена Іванавіча і Любові Андрэеўны Ірыны Яўгенаўны. У нашай нядаўняй гутарцы (ад 26 сакавіка 2012 года) яна адзначыла:

*«Прайшло ўжо сямнаццаць гадоў, як не стала маёй маці і бацькі. Яны прыйшлі ў гэты свет разам і разам яго пакінулі. Я ўспамінаю, як незадоўга да сваёй смерці бацька дастаў з шафы сваю старэнькую ў палоску кашулю і папрасіў яго пахаваць у ёй, таму што яе мыла і гладзіла сваімі рукамі мама».*

Максім Танк, тады яшчэ толькі Яўген Скурко, і Любоў Асаевіч пазнаёміліся дзесьці на мяжы 1920—1930-х гадоў. Малады віленскі гімназіст папрасіўся да бацькоў сваёй будучай жонкі на кватэру. У аўтабіяграфіі, напісанай 6 сакавіка 1949 года, паэт адзначае, што «некалькі год жыў на кватэры бацькоў» Любові Андрэеўны. «На гэтай кватэры шмат хавалася падпольных работнікаў, а ў 1934 г.

адбыўся там нелегальны з’езд пісьменнікаў, на якім была ўхвалена дэкларацыя ўсіх пісьменнікаў Зах. Беларусі за подпісью Васілька, Звястуна (П. Пестрака), Іверса і др. У гэтым з’ездзе актыўны прыймаў удзел В. Таўлай, які працаваў тады ў падполлі».

Пэўны перыяд адначасова з ім у Асаевічаў жыў і будучы вядомы беларускі матэматык Леанід Барысаглебскі. Незадоўга да сваёй смерці ў лісце да мяне ён пісаў наступнае:

*«Я пазнаёміўся з Танкам выпадкова ў 1931 годзе, калі мы жылі на кватэры ў яго будучай жонкі Любы. Сям’я яе складалася з маці, бацькі і сястры Зосі, старэйшай за Любу. Жылі мы ўсе ў Вільнюсе на вул. Буковай, д. 14. Апрача мяне і майго таварыша па вучобе Вярбіцкага Аляксандра, пасяліўшыхся ў адным пакоі, у другім пакоі жыў Танк, Гарох і яшчэ адзін чалавек, прозвішча якога я не памятаю. Я з Вярбіцкім вучыліся ў Віленскім універсітэце імя Стэфана Баторага. Час ад часу я граў з Танкам у шахматы, былі мы ў прыязных адносінах…»*

У 1930-я гады ў Вільні М. Танку давялося кватараваць у розных гаспадароў, але ён не парываў сувязей з Любай Асаевіч. Іх адносіны развіваліся і неўзабаве перараслі ў моцнае каханне. Маладыя людзі даволі часта сустракаліся, даверліва абмяркоўвалі важныя жыццёвыя праблемы, будавалі сумесныя планы на будучае, пісалі адзін аднаму лісты і паштоўкі.

Нельга не звярнуць увагі на ліст Л. Асаевіч ад 26 ліпеня 1939 года, які яна даслала М. Танку ў Пількаўшчыну:

*«Добры дзень Жэнюха!*

*Уяўляю сабе як Ты хораша цяпер выглядаеш і моцна цешуся. Лета мусіш правесьці ўдарна пад знакам здароўя і сілы. Вельмі разумна зрабіў што даўжэй затрымаўся ў Верачкі. Але аднак як ужо даўна Ты паехаў, здаецца цэлы год мінуў…»*

І далей у лісце чытаем наступнае: *«Вольнымі шэрымі вечарамі, калі агонь не запальваецца з ашчаднасьці, а ўсе ўжо палягуць, гадзінамі патрафлю думаць аб маім залатым хлопчыку, аб маім крушынавым шчасьці. Цяпер неяк прыемна і радасна думкамі ляту за Табой. Бачу гэту раскіданую льняную чупрынку, нежна цалую мае сінія вачаняты і хачу каб яны заўсёды былі ясныя і шчырыя.*

*Выбачай, даражэнькі, што не адпісала Табе на першую картку, хоць моцна хацелася яшчэ раз сказаць што люблю больш усяго на сьвеце, больш як цэлы сьвет. Пішучы да Цябе здаецца маю Цябе блізка і магу песьціць і туліць да сэрца.*

*А цяпер бывай. Моцна цёмна, іду спаць. Прывітаньні ад ўсіх і ўсім ад мяне шчыры прывет.*

*Цалую моцна, моцна».*

Ліставанне М. Танка і Любові Андрэеўны з рознымі перапынкамі вялося дзесьці каля паўстагоддзя. Яны пісалі адзін аднаму тады, калі народны паэт выязджаў у камандзіроўкі, на лячэнне і г. д. Іх лісты поўняцца ціхай радасцю налагоджанага сумоўя, непадробнай цеплынёй і пяшчотаю, пранікнёным клопатам аднаго пра другога, а таксама пра сваіх родных і блізкіх. Дужа паказальным з’яўляецца ліст Любові Андрэеўны да Яўгена Іванавіча ў санаторый ад 6 чэрвеня 1979 года, у якім яна пісала:

*«Добры дзень, мой дарагі Жэнька! Здаецца, ужо прайшла цэлая вечнасць, як мы з табой не бачыліся. Страшэнна сумна і адзінока, хаця кругом шумяць унукі і кожны дзень напоўнены рознымі справамі...»*

Максім Танк і Любоў Андрэеўна стараліся не афішаваць сваіх падкрэслена цёплых, а часам і сентыментальных адносін. Пра некаторыя даволі важныя моманты іх жыцця і ўзаемадачыненняў не ведалі нават дзеці. Нездарма, прачытаўшы маю кнігу «Максім Танк: на скразняках стагоддзя» (1999), у якую ўвай-

шлі многія архіўныя дакументы, яго дачка Ірына Яўгенаўна яшчэ 25 верасня 2000 года ў лісце да мяне пісала наступнае:

*«Паважаны Мікалай Уладзіміравіч! Вялікі дзякуй за Вашу кнігу. Сумленна кажучы, я не вельмі спадзявалася атрымаць яе. Прачытала з вялікай увагай і хваляваннем, на адным дыханні. Некаторыя моманты былі для мяне проста адкрыццём і ўжо ў каторы раз прымусілі вярнуцца ў думках у тое зусім недалёкае мінулае, калі былі жывыя бацька і маці. Ды і наогул, кніга ўскалыхнула душу. Проста нельга без слёз чытаць многія яе радкі, прасякнутыя Вашай шчырай павагай і любоўю да бацькі.*

*Дзякуй Вам!»*

Светлы вобраз бацькі, народнага паэта Беларусі Максіма Танка, вядома, назаўсёды застаўся ў сэрцы Ірыны Яўгенаўны. У згаданай гутарцы са мною яна падкрэсліла:

*«Зараз, ледзь не праз два дзесяцігоддзі пасля смерці бацькі, перш за ўсё ўспамінаецца адчуванне надзейнасці і абароненасці, адчуванне дабра і святла, якія зыходзілі ад яго асобы. Пакуль ён жыў, нават ужо будучы хворым, мы адчувалі сябе неяк больш упэўнена і спакойна ў гэтым свеце.*

*Бацька вельмі любіў людзей, ён пра ўсіх заўсёды выказваўся станоўча. Можа, таму на яго шляху сустракалася шмат па-сапраўднаму выдатных людзей. Так, напрыклад, у пачатку вайны, калі бацькі аказаліся ў Саратаве і маці з нованароджаным сынам Максімам патрэбна было знайсці жыллё, іх прытуліла да сябе вельмі сардэчная і чулая пажылая пара. З гэтымі людзьмі пасля вайны бацькі падтрымлівалі блізкія адносіны да самай іх смерці, аказваючы ім, ужо старым і нямоглым, немалую матэрыяльную дапамогу.*

*А як ён умеў смяяцца і радавацца, калі быў у добрым настроі і ў блізкіх усё было добра! У такія хвіліны шмат жартаваў, будаваў планы на будучае. Але калі хто-небудзь у сям'і хварэў або што-небудзь не ладзілася, то не было больш занепакоенага і ўстрывожанага чалавека, як бацька. Ён наогул прымаў усё вельмі блізка да сэрца. Быў чалавекам эмацыянальным, а ў працы і ў сваіх захапленнях — нават азартным.*

*Успамінаюцца дні на Нарачы, дзе бацька, часта з Міхаілам Ціханавічам Лыньковым, рыбачыў, любіў хадзіць у лес і добра ў ім арыентаваўся. А гэтыя вогнішчы, вакол якіх збіраліся не толькі ўсе нашы суседзі і госці, але і знаёмыя, якія ў той час адпачывалі на Нарачы. Як было цікава і весела!*

*У Крыме, у Кактэбелі, дзе мы з сястрой Верай і бацькам адпачывалі ў жніўні 1965 года, цяжка было адшукаць чалавека больш актыўнага, жыццярадаснага і вясёлага, чым ён. Часта хадзіў у горы, многа купаўся, плаваў, многа чытаў.*

*Любіў часам і папаляваць. У складзе невялікай кампаніі выязджаў у адну з паляўнічых гаспадарак, адкуль часта вяртаўся з трафеямі».*

І далей Ірына Яўгенаўна адзначала:

*«Успамінаючы бацьку праз столькі гадоў пасля смерці, я сёння шчыра здзіўляюся: якім шырокім было кола яго інтарэсаў, як многа ён паспеў зрабіць — і не толькі ў галіне літаратуры! А душой заўсёды заставаўся маладым, нягледзячы на гады і хваробы, нягледзячы на цяжкія, незваротныя страты. І нездарма ў самым канцы 1994 года, «Калі горыччу перапоўнена сэрца // І дыхаць і жыць немагчыма здаецца», бацька ў сваім вершы «Прызнанне» пісаў:*

Калісьці, узлятаючы на крылах, я
Стараўся праз навалу хмар прабіцца
І ўбачыць за другімі небасхіламі
Нябачаных галактык зараніцы.

Ды вецер збіў мяне з абрыву горнага.
Я доўга лячыў раны ў безнадзейнасці.

Не ведаю: да ўзлёту мне паўторнага
Ці хопіць часу,
ўпартасці
і смеласці...

Хоць ведаю, што з гэтым не змірыцца мне,
Што немагчымае заўсёды будзе, мабыць,
Сваёю неадлучнай таямніцаю
Да скону дзён і аклікаць і вабіць.

*Але, на жаль, век чалавека такі кароткі, і мы не паспелі сказаць бацьку, як мы яго любім і цэнім… Здавалася, што гэта само сабой зразумела… І праз гады ўсё больш усведамляеш, якая гэта цяжкая страта. І гора ад яе не ўціхае і да гэтага часу…»*

Калі гаворка зайшла пра сваякоў М. Танка, дык, натуральна, варта даць слова і Ганне Кузюковіч, якая таксама прыгадвае шмат цікавых і паказальных фактаў з жыцця і творчай дзейнасці народнага паэта.

*«Кожнае лета з 1960 па 1972 год,* — адзначае яна ў сваім нядаўнім лісце да мяне, — *я жыла на Нарачы ў сям'і Максіма Танка. Мая бабуля Вольга Андрэеўна і Любоў Андрэеўна, жонка Яўгенія Іванавіча, былі роднымі сёстрамі. Побач знаходзіліся дачы М. Ц. Лынькова і А. А. Куляшова. Іншы раз Яўгеній Іванавіч, Міхась Ціханавіч і Аркадзь Аляксандравіч разам гулялі на пабярэжжы, абмяркоўвалі розныя праблемы. Часам вечарам усе, хто знаходзіўся на дачах, збіраліся ля вялікага кастра. Звычайна яго распальваў Міхась Ціханавіч Лынькоў і ўсіх запрашаў да сябе.*

*Яўгеній Іванавіч любіў працаваць на агародзе. Ён садзіў і даглядаў бульбу, моркву, памідоры. Безумоўна, пісаў вершы ў сваім пакоі на другім паверсе дачы. Да Максіма Танка з самымі рознымі просьбамі звярталіся людзі. Шмат людзей. Яны ішлі да Яўгенія Іванавіча як да дэпутата Вярхоўнага Савета СССР, старшыні Вярхоўнага Савета БССР, старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі. Ішлі не толькі ў прыёмныя гадзіны непасрэдна на працу, але і ў розны час на кватэру, а таксама прыязджалі на дачу. Ён быў добрым, шчырым, бескарысным чалавекам. Кожнаму стараўся дапамагчы.*

*З вялікай павагай адносіўся ён да кіраўнікоў рэспублікі — К. Т. Мазурава, П. М. Машэрава, А. Н. Аксёнава, Ф. А. Сурганава, Ц. Я. Кісялёва. А з тагачасным старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Сяргеем Восіпавічам Прыгыцкім Яўгенія Іванавіча звязвала сяброўства яшчэ з таго часу, калі яны разам займаліся падпольнай дзейнасцю ў Заходняй Беларусі».*

І далей Г. Кузюковіч піша:

*«Як старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Яўгеній Іванавіч клапаціўся аб маладых літаратарах. Наогул, ён вельмі любіў людзей. Побач, на Нарачы, у будынку каля санаторыя звычайна наймаў дачу малады ў той час Ніл Сямёнавіч Гілевіч. Ён часта прыходзіў да Яўгенія Іванавіча, гутарыў з ім.*

*Ён быў адданым камуністам, патрыётам нашай вялікай краіны і вельмі шкадаваў, што яна распалася. Разам з тым яго непакоіў стан роднай мовы. У пачатку 1990-х гадоў ён неаднойчы звяртаўся да мяне: «Аня! Гавары па-беларуску».*

*Праз усё сваё жыццё Яўгеній Іванавіч пранёс каханне да жонкі Любові Андрэеўны. Ён вельмі любіў унукаў Максіма, Дзяніса, Сяргея і Кацю. Сяргею і Каці ён прысвяціў цікавыя вершы: «Іерархія» (1973), «Кормяць Сяргейку» (1975), «Гутарка з унучкай» (1989), «Божыя кароўкі» (1990)».*

Вельмі шмат у танкаўскім фондзе архіва-музея літаратуры і мастацтва допісаў да паэта ад супрацоўнікаў музеяў, краязнаўчых гурткоў, школьных калектываў, вучнёўскіх класаў, выхаванцаў дзіцячых дамоў, асобных настаўнікаў і вучняў. У іх — запрашэнні наведаць нейкія мясціны, даслаць кнігі, фотаздымкі, напісаць успаміны пра пэўны перыяд свайго жыцця і творчай працы і г. д.

*«Паважаны, дарагі Яўген Іванавіч,* — пісалі М. Танку вучні 8 «А» класа Зябраўскай сярэдняй школы Гомельскага раёна, — *Вы не можаце ўявіць сабе, якім для нас быў гэты дзень, калі мы атрымалі вашу бандэроль. Не толькі наш клас быў рады гэтаму падарунку, але і ўся школа. Гэты пакет пераходзіў з рук у рукі, з класа ў клас. Вы самыя першыя адказалі на нашу просьбу, хаця мы прасілі ў Вас толькі фатаграфію. Мы атрымалі ад Вас ваш верш і кнігі. Мы не можам перадаць нашу ўдзячнасць Вам. Калі Вы не супраць мы будзем перапісвацца з Вамі.*

*Пра Ваш падарунак даведаліся ўжо ў тэлебачанні і просяць нас прыняць удзел у перадачы. Пра што будзе перадача, мы яшчэ не ведаем, але пакуль далі сваю згоду. Мы пра ўсё Вам напішам пазней. Вялікі Вам дзякуй за ўсё».*

Далей чытаем:

*«Цяпер пра сябе. Наша вёска Зябраўка знаходзіцца ў 20 км ад Гомеля і ў пяці мінутах хады ад станцыі Саколка. Школа наша новая двухпавярховая сярэдняя.*

*У класе 24 вучні, з іх 8 камсамольцаў.*

*Першую чвэрць добра закончылі Маісеенка Люда, Бабкова Света, Рабчанка Тамара, Краўчанка Любоў, Сакалоў Анатоль, Савіцкі Уладзіслаў. Яўген Іванавіч, у класе ў нас ёсць лянівыя рабяты, якія не паспяваюць у I чвэрці. Але яны прасілі пра іх не пісаць. Паслухаем іх, пакуль пра іх Вам нічога пісаць не будзем. Наш клас рыхтуецца да 100-годдзя У. І. Леніна. Мы ўжо зрабілі два прыгожыя стэнды «Квітней Беларусь» і «Ленін з намі». Гэтыя стэнды падарылі школе, і вісяць яны на калідоры. Цяпер арганізавалі шэфства на ферме: абсталявалі «Чырвоны куток»: павесілі стэнд, адрамантавалі крэслы. Будзем і далей дапамагаць працаўнікам фермы. У нас класны кіраўнік, Мяшкова Любоў Фёдараўна, вядзе беларускую літаратуру, таму мы будзем заўсёды з Вамі перапісвацца, расказваць пра нашы справы.*

*Мы ведаем, што Вам вельмі няма калі. Але Вы нам хоць рэдка, але пішыце.*

*Прабачце, Яўген Іванавіч, за нашу просьбу. Хлопчыкі, нам здаецца, вельмі хваляваліся, баяліся, каб мы не пісалі пра іх. Пісьмо мы пісалі Вам усе разам. Вышлем Вам пазней фатаграфію класа.*

*Жадаем Вам выдатнага здароўя, поспехаў у працы. У пазакласнай працы па літаратуры мы цяпер будзем вывучаць старанна Вашу творчасць.*

*З павагай да Вас вучні 8 «А» класа.*

*Сакратар камсамольскай арганізацыі школы Краўчанка Люба (8 «А» кл.), групорг класа Савіцкі Уладзіслаў».*

Які шчымлівы дакумент таго, цяпер ужо няблізкага, часу! Хвалюецца сэрца, калі чытаеш радкі пісьма, прасякнутыя непадробнай шчырасцю, цеплынёй і ўдзячнасцю да М. Танка. Дзе цяпер гэтыя слаўныя вучні 8 «А» класа СШ № 2 з вёскі Зябраўка, што «знаходзіцца ў 20 км ад Гомеля і ў пяці мінутах хады ад станцыі Саколка»? Як склалася жыццё тых хлопчыкаў, якія «вельмі хваляваліся, баяліся», каб пра іх не пісалі М. Танку? Які лёс напаткаў гэтых мілых падлеткаў з такімі светлымі і высакароднымі марамі і імкненнямі? Што яны сёння думаюць пра той даўні выпадак, пра выдатнага паэта, дзяржаўнага і грамадскага дзеяча, які так аператыўна адгукнуўся на іх яшчэ наіўную і прастадушную ўвагу?

«Мы ведаем, што Вам вельмі няма калі. Але Вы нам хоць рэдка, але пішыце». За ўсім гэтым, безумоўна, угадваецца неабыякавая, руплівая і мудрая душа выхавацеля, педагога, арганізатара. Хто ён? Хутчэй за ўсё класны кіраўнік — Мяшкова Любоў Фёдараўна.

Нельга не звярнуць увагі на два наступныя лісты да М. Танка з Вілейшчыны. Першы з іх — ад членаў краязнаўчага гуртка «Спадчына» Хаценчыцкай сярэдняй школы:

*«Вывучаючы свае карані і асэнсоўваючы сучаснасць, мы збіраем матэрыялы з успамінамі людзей, жыццёвыя сцежкі якіх пакінулі свой след на дарогах нашай мясцовасці.*

*Вы, паважаны Яўген Іванавіч, у свой час у падлеткава юнацкім узросце мелі дачыненне да Вілейшчыны. Вы ў свой час былі студэнтам Вілейскай і Радашко-*

*віцкай гімназій. Асобныя жыхары нашага краю разам з Вамі былі таксама навучэнцамі Радашковіцкай беларускай гімназіі імя Ф. Скарыны. Асобныя з іх ужо не дажылі да нашага часу: закатаваны ў турмах Польшчы і Расіі, загінулі ў перыяд ваеннага ліхалецця. Але мясцовыя людзі памятаюць рэвалюцыйныя выступленні навучэнцаў з Радашковіч».*

І крыху ніжэй: *«Мы просім Вас, на колькі захавала Ваша памяць, прыслаць нам свае кароткія ўспаміны аб вучэбна-выхаваўчым працэсе ў Радашковіцкай гімназіі, аб умовах жыцця і быту яе навучэнцаў. Вельмі карысна было б для нас атрымаць ад Вас кнігу-дзённік «Лісткі календара», а таксама зборнік, які змяшчае творы даваеннага часу.*

*Даруйце за турботу, чакаем адказу.*

*Кіраўнік краязнаўчага гуртка «Спадчына» Я. І. Будавей.*

*Наш адрас...»*

Канечне, як можна ўявіць, сам тэматычны матэрыял моцна зацікавіў народнага паэта. Сталенне, вучоба ў гімназіях, далучэнне да заходнебеларускага народна-вызваленчага руху, першыя вершы, што неспадзявана прараслі ў душы і папрасіліся на паперу, — незабыўная пара. Прамінулі доўгія дзесяцігоддзі... Фактычна прайшло жыццё... Проста на атрыманым лісце ён па памяці накідвае два з паловай дзясяткі прозвішчаў навучэнцаў гімназій: Лавор, Гаўрылік, Чарняўскі, Хадзінскі, Нямцэвіч...

Няма ніякіх сумненняў у тым, што М. Танк адказаў вучням Хаценчыцкай сярэдняй школы, коратка распавёў пра сваю вучобу ў Вілейцы і Радашковічах. Хутчэй за ўсё тое адбылося 18 сакавіка 1993 года. Якраз гэтая дата пазначана пад прозвішчамі навучэнцаў.

Тут таксама адчуваецца — і ў змесце, і ў стылі, — што кволай вучнёўскай рукою акуратна і чуйна вадзіла клапатлівая настаўніцкая падказка.

Другі ліст М. Танк атрымаў ад вучняў Ільянскай сярэдняй школы. Напісаны ён за лічаныя месяцы да смерці народнага паэта Беларусі — 18 красавіка 1995 года. У ім — традыцыйныя клопаты і просьбы:

*«Мы ўжо Вам паведамлялі, што ў нас у школе працуе музей «Вілейшчына літаратурная». Пісьмо Ваша, за якое шчыра дзякуем, мы чыталі і перачытвалі шмат разоў, і вельмі ганарымся, што маем яго ў сваім музеі. Нядаўна даведаліся, што выйшла ў свет Ваша кніга «Мой ковчег», хоць са спазненнем, але прыміце нашы віншаванні. На жаль, у нас гэтай кнігі няма. А яшчэ, паважаны Яўген Іванавіч, дазвольце Вас павіншаваць з усімі веснавымі святамі, пажадаць Вам доўгіх гадоў жыцця, творчага натхнення, добрых надзейных сяброў. Яшчэ хочацца ў Вас запытацца пра Наталлю Арсеньеву, з якой некалі разам працавалі ў Вілейскай газеце. Ці засталіся ў Вас якія яе кнігі? Можа б Вы што-небудзь прыслалі са сваіх успамінаў нам для музея?*

*...P. S. Мы зараз рыхтуемся да вялікага свята, якое так і будзе называцца «Вілейшчына літаратурная». Калі зможаце, напішыце нам колькі слоў. На гэта свята мы запрашаем усіх паэтаў нашага раёна. Будзе прыемна пахваліцца ім, што Вы не абдзялілі нас увагай».*

Мы бачым, школьнікі віншавалі народнага паэта Беларусі «з усімі веснавымі святамі», жадалі яму «доўгіх гадоў жыцця, творчага натхнення, добрых надзейных сяброў», прасілі прыслаць свае ўспаміны. На вялікі жаль, адказаць ім М. Танк ужо не мог. Яго жыццё ўбіралася ў сваю заключную стадыю.

Максім Танк выпраменьваў шчырасць і дабрыню, чуласць і высакароднасць, цеплыню і спагаду. У ім жыло абвостранае адчуванне праўды і справядлівасці, адказнасці і абавязковасці. Гэта быў чалавек рэдкай душэўна-псіхалагічнай арганізацыі, маральнай чысціні і прыцягальнай сілы. Парывіста і ахвярна адгукаючыся на чужыя боль і гора, ён даў нам узоры высокага сацыяльна-маральнага і духоўна-гуманістычнага служэння роднай зямлі і яе людзям.

Серафім АНДРАЮК

# ПРАДЫКТАВАНА ЖЫЦЦЁМ, ПРАВЕРАНА ЧАСАМ

2012 — у Беларусі год слаўных літаратурных юбілеяў: 130-годдзе Янкі Купалы і Якуба Коласа, 100-годдзе Максіма Танка. Яны адзначаюцца на дзяржаўным узроўні. І гэты ж год у нас аб'яўлены Годам кнігі. Зусім натуральна, што кнігі гэтых аўтараў як найлепш уганаруюць год гэты, прысвечаны кнізе. Бо іх кнігі, іх творы і творчасць, і пры жыцці народных пісьменнікаў, і сёння — гэта духоўны хлеб нацыі. Яны ў высокай ступені нясуць у сябе нацыянальную энергію, разлічаную не толькі на свой час, але і на дзесяцігоддзі, на вякі. Класіка, а творчасць гэтых пісьменнікаў, несумненная нацыянальная класіка, не ўмірае. Яна жыве. Жыве не проста як сведчанне часу, а ўвайшоўшы ў духоўны свет народа.

Гістарычна склалася так, што беларуская літаратура ў сваёй сутнасці не толькі літаратура. Гэта і філасофія, і гісторыя, і палітыка, і этнаграфія. Так было, так і ёсць. Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі, Максім Танк, Іван Мележ, Янка Брыль, Васіль Быкаў… Нават калі браць толькі іх творы, творчасць, то гэта не проста творчасць. Гэта ўзноўлены, створаны беларускі свет. У кожным асобным выпадку такі непадобны, адметны, свой і, разам з тым, такі арганічна цэласны, такі глыбока ўгрунтаваны ў нацыянальным быцці, у нацыянальнай свядомасці.

Сёння патрэба ў такіх літаратурных творах, у такой творчасці, у такіх кнігах усё больш узрастае. Ад іх у вялікай ступені залежыць нацыянальнае светапоглядное самавызначэнне дзяржавы, яе гістарычная самадастатковасць, устойлівасць.

У значнай ступні адносіцца гэта да твораў майстроў слова сённяшняга старэйшага пакалення, так званага філалагічнага. А за ім жа гісторыя — рэальная і літаратурная, гераічная і трагічная, за ім — немалыя набыткі мастацкія. Якраз у творчасці пісьменнікаў гэтага пакалення, у яе ідэалах праўды, прыгажосці, дабрыні, у яе мове ўвасоблены дух народа, беларускі нацыянальны свет. Сёння свет гэты ўсё больш аддаляецца ад чалавека, ён — ад яго. Працэс гэты можа набыць трагічныя вынікі.

Можна сказаць, што пісьменнікі гэтага пакалення пішуць пераважна пра вайну, пра жыццё першых пасляваенных дзесяцігоддзяў. Гэта так. Але дух іх, творчасць, эмацыянальная атмасфера, іх этна-культурны змест вышэй, глыбей тагачаснага жыцця, калі хочаце, глыбей і выразней сучаснасці.

Вайна як містычнае ўвасобленне зла, цемры, смерці ў яе абагулена-абстрактным увасабленні, і вайна ў канкрэтных, жывых, заўсёды, па сутнасці, уведаных асабіста, праявах — такую вайну адчулі, убачылі і захавалі ў сваёй памяці дзеці вайны. Такая вайна вызначыла іх адносіны да навакольнага свету, да людзей, чалавека, разуменне сэнсу і мэты чалавечага існавання ў гэтым свеце. У гэтых узаемаадносінах чалавека і навакольнага свету вырашальная роля належала не яму, не чалавеку. У той час, у тых умовах, найчасцей, міжвольна, розумам, сэрцам, усёй сваёй існасцю ён толькі ўсё ўспрымаў, адкладваў. То быў вопыт, школа вайны, акупацыі, блакад, разбураных, галодных першых пасляваенных гадоў. Пазнейшае чалавечае ўспрыманне жыцця, яго мастацкае ўзнаўленне адбывалася праз прызму таго трагічнага вопыту. Пісьменнік як бы інстынктыўна прывучаны,

запраграмаваны найбольш глядзець у свет, а не ў сябе. Адсюль эпічны характар мастацкага спасціжэння свету — у сэнсе аб'ектыўнага свету і чалавека ў ім. Героі іх твораў — людзі свайго часу, сваёй зямлі. Іх экзістэнцыя, гістарычна і прасторава, сацыяльна-этнічна, духоўна-эмацыянальна, канкрэтная. Яны, можна сказаць, адэкватныя навакольнаму свету, *свайму* часу. Іх асабістая ўстойлівасць, іх «я» ў *гэтым* свеце і ў *гэтым* часе.

Усе, па сутнасці, пісьменнікі пакалення дзяцей вайны выйшлі з вёскі. Свет жыцця, у якім яны раслі і сталелі, у якім спеліўся іх талент, свет, які яны потым так шырока, багата адлюстравалі, так натуральна ўзнавілі ў сваіх творах, гэта ў вялікай ступені свет прыроды. У іх герояў, пераважна жыхароў вёскі, адчуваецца магутная прыродная субстанцыя. Прырода — глеба і асяроддзе чалавечага бытавання і існавання. Вёска — гэта прырода: зямля, лес, паветра, неба, надвор'е, жывёла, птушыны свет, сонца, месяц, зоркі, дождж, снег… Усё гэта вечнае, жывое, бязмежнае і бясконцае. Усё гэта чалавек бачыць, адчувае, гэтым і ў гэтым жыве; тут і памірае. Пры нармальным жыцці чалавек як бы нічога не заўважае, жыве — і ўсё. Вайна ж парушыла звыкласць. Неба ўвесь час у дыме пажараў, сонца чырвонае і ледзь прабіваецца; зямля стогне пад гусеніцамі танкаў, дробна ўздрыгвае пад падкаванымі ботамі фашысцкіх салдат; спеву птушак зусім не чуваць, часта выюць ваўкі; дрэвы паабапал дарог паламаныя, трава пакрытая мазутам і пылам. Трагедыя вайны была і трагедыяй прыроды. У дзіцячай свядомасці гэта адбілася назаўсёды. Дзіцячае сэрца адчула, дзіцячыя зыркія вочы ўбачылі, як цяжка, балюча прырода адчувала трагедыю вайны, як сусветна-маштабна яе ўспрымала. Такія адносіны да свету прыроды застануцца характэрнымі для ўсёй пазнейшай творчасці гэтых пісьменнікаў.

Пройдуць гады. Пісьменнікамі таго пакалення, пакалення дзяцей вайны, шмат зроблена ў літаратуры, многія ўжо закончылі свой зямны шлях, пакінуўшы багатую творчую спадчыну, на якую можна ўжо сёння паглядзець як на з'яву этапную ў нацыянальным літаратурным працэсе, з'яву вызначальную і павучальную ў плане суадносін творцы і рэальнага аб'ектыўнага свету. Можна пэўна сцвярджаць: у творчым выхаванні гэтага пакалення вайна Айчынная адыграла галоўную ролю. Вайна прадвызначыла трагічны характар ваеннага (пакалення) мастакоўскага светаадчування і светаразумення. Вайна ўспрымалася як з'ява ўсёпаглынальная (яна ахоплівала ўсё жыццё грамадства, ахоплівала ўвесь навакольны свет), як з'ява ў гэтым сэнсе ўсёвызначальная, з'ява ў сваёй ступені, у сваіх параметрах эпічная. У гэтым сэнсе можна зрабіць выснову: вайна абумовіла, вызначыла галоўны (эпічны) прынцып мастацкіх адносін да рэчаіснасці, дзе пануе безумоўны прыярытэт аб'ектыўнай рэчаіснасці, дзе ёсць шырокі погляд на свет, дзе перспектыва грунтуецца на глыбокім гістарызме. Такая эпічная творчасць народжана аб'ектыўнымі прычынамі, а не з'явілася як вынік асабістых жаданняў творцаў. Іх эпас — гэта эпас жыцця, таго жыцця, якім яны ўзгадаваны, якое назаўсёды засталося ў іх памяці, у іх сэрцы. Лад і парадак, глыбінны ўнутраны змест вытрымалі выпрабаванне ў найцяжэйшыя гады мінулай вайны.

Гэта быў свет для кожнага з творцаў родны па духу, па мове, па гарманічнасці і ўзаемаабумоўленасці. Гэтыя пісьменнікі, як творцы, былі, можа, апошнімі сведкамі эпічнага жыцця беларускай вёскі, для іх асабіста — сваёй, роднай. Той вёскі, дзе чалавек заўсёды жыў сярод людзей, з людзьмі, дзе чалавек і навакольны свет былі адзіныя, складалі адно арганічнае цэлае, дзе чалавек, стоячы на зямлі, адчуваў дыханне вечнасці, а ўзіраючыся ў бясконцыя высі нябёсаў, думаў пра неабсяжнасць сусвету і жыцця, інтуітыўна адчуваў, пачынаў потым і ўсведамляць сваё месца ў жыцці, у сусвеце. Такую вёску, такога вяскоўца добра ведалі пісьменнікі, чыё дзяцінства было захоплена вайной, акупацыяй, блакадамі. Яны самі ў сваёй сутнасці, у сваёй прыродзе былі тымі вяскоўцамі. Не варта забываць і на тое, што ў апошняй трэці XX стагоддзя стала досыць заўважна, што старая вёска, вёска традыцыйная, знікае. І яны паказалі тую вёску, той вясковы свет,



*Іван Пташнікаў.*

які захавала іхняя дзіцячая і юнацкая памяць, — вёску, вясковы свет эпічнага характару і зместу. Тут як бы зліліся дзве эпічныя стыхіі — стыхія вёскі і стыхія вайны. Шмат у чым гэта ўдалося зрабіць. Расказваючы пра жыццё вёскі ў часы найсуровейшых выпрабаванняў, паказваючы вёску ўсебакова, ва ўсім багацці яе выяўленняў, гэтым пісьменнікам шмат у чым удалося стварыць яе нацыянальны вобраз, вобраз, адэкватны нацыянальнаму жыццю. Гэта вобраз той вёскі, якой сёння амаль няма, зруйнавана ўжо ў мірныя гады, але якая так патрэбна ў нашым сённяшнім нацыянальным будаванні — як глеба, як аснова.

Уся творчасць Івана Пташнікава прысвечана, па сутнасці, вёсцы і вайне. Творы яго маюць няшмат герояў, знешне ў іх невялікі ахоп падзей. Але адчуванне эпічнасці ўзноўленага жыцця вёскі, узноўленых падзей ніколькі не меншае. У рэцэнзіі на раман «Алімпіяда» (характэрная назва — «Яго вялікасць жыццё») тонкі крытык і выдатны нарысіст Вера Палтаран пісала: «У рамане «Алімпіяда» ў цэнтры ўвагі… вёска з усімі яе складанымі праблемамі, але пісьменніка цікавіць не столькі вясковае, колькі народнае жыццё…»

Вядомы чэшскі перакладчык і даследчык славянскіх літаратур Вацлаў Жыдліцкі гаварыў, маючы на ўвазе ранейшы раман пісьменніка «Мсціжы», пра тое, што ў яго «ўзнікае жаданне сцвярджаць, што без Пташнікава вобраз вёскі не толькі ў сучаснай беларускай прозе, але і ў савецкай літаратуры наогул быў бы няпоўны, у нечым важным збеднены».

У Пташнікава свой свет вёскі. Той мастацкі свет, які творыць пісьменнік у раманах, аповесцях, апавяданнях, адкрыты ў прасторы і часе; ён быццам не мае строгай сюжэтна-кампазіцыйнай ці жанравай абмежаванасці, падпарадкаванасці зададзенай ідэі. Ёсць жыццё, пэўная жыццёвая сітуацыя, якая па-мастацку ўзноўлена-распрацавана ў яе самых шырокіх і самых істотных часавых сувязях. Не жыццё само па сабе, а жыццё чалавека вёскі, не жыццёвая сітуацыя як падзея ці гісторыя (у плане побытавым ці асабістым), а сітуацыя, у якой засяроджаны лёс чалавека, чалавека вёскі, яго вырашэнне. У гэтым свеце, унутрана рухомым, зменлівым у сваёй эмацыйнай і змястоўнай устойлівасці, свеце, у якім ёсць грунтоўная заглыбленасць у мінулае, найперш ваеннае, заўсёды адчуваецца выхад у будучыню. Асабліва глыбінна відаць гэта ў рамане «Алімпіяда», у апавяданнях «Францужанкі», «Пагоня» і іншых. Пісьменнікі яго пакалення, паказваючы, шырока ўзнаўляючы жыццё роднай вёскі ў гады вайны ці то ў пасляваенны доўгі час, жадаючы гэтага ці не жадаючы, паказалі, сцвердзілі той свет, які пераадолеў вайну, пераадолеў яе вынікі. Паказаў сваю жывучасць і жыццятворчасць. У такім паказе вёскі адчувалася, бачылася моцная стыхія адвечнага прыроднага жыцця, узаемаўзгодненасць і ўзаемадапасаванасць, дбайнасць і ўвага прыроды і чалавека, неба і зямлі.

Выказаўшы сваё захапленне, найглыбейшую ўдзячнасць таму свету, які іх гадаваў і песціў, дапамог выжыць, проста выратаваў у найсуровейшыя гады выпрабаванняў, даваў святло і цяпло, захаваў і мацаваў веру ў будучыню, пісьменнікі, былыя дзеці вайны, не маглі не заўважыць праз гады, не адчуць праз гады, як гэты свет, адвечны свет вёскі, пачаў імкліва знутры разбурацца, размываючы тым самым духоўныя асновы чалавечага агульнажыцця.

Такое адбывалася не толькі ў вёсцы беларускай, выявілася ў літаратуры не толькі беларускай.

Некалькі выказванняў на гэты конт.

Вядомы рускі пісьменнік Ф. Абрамаў, чыя творчасць народжана вёскай, у 1982 г. у інтэрв'ю гаварыў: «Чаму вёска стала маёй пераважнай тэмай? Я хацеў бы, каб гэта разумелі не ў вузкім сэнсе. Вёска — маці наша, гэта ніва, на якой ускаласілася руская культура. Перакананы: на прыкладзе жыцця вясковай бабы, якая не выходзіла за ваколіцу, можна даць не толькі гісторыю ўсёй краіны, але гісторыю чалавецтва…»

Зноў жа на адной сустрэчы са студэнтамі: «Усе мы выйшлі з вёскі. Вёска — наша мова, наша філасофія, наша маральнасць».

Вось словы выдатнага армянскага пісьменніка Г. Матэвасяна, які сваю творчасць прысвяціў вёсцы: «Землякі лічаць мяне як бы пасрэднікам паміж імі і вялікім светам. А сам я бачу, маё маленькае сяло — адлюстраванне таго, што адбываецца ў вялікім свеце. Усё добрае і ўсё дрэннае, што адбываецца ў ім, у вялікім свеце, як хвалі, даходзіць да нашага сяла. Я перакананы, што, не пакідаючы сюжэтна Цмакута (вёска, пра якую ўвесь час пісаў Г. Матэвасян. — **С. А.**), можна гаварыць пра самыя вялікія пытанні свету…»

І яны гаварылі — Ф. Абрамаў, В. Астаф'еў, В. Бялоў, Г. Матэвасян, Я. Носаў, В. Распуцін, у нас — найперш І. Пташнікаў, пісьменнікі таленавітыя, пісьменнікі асабліва блізкія жыццю — жыццю вёскі, жыццю прыроды. Жыццю арганічнаму. Інтуітыўна адчувалі, пачалі ўсведамляць глабальнае парушэнне гарманічна-натуральнай устойлівасці навакольнага свету, жыцця, бачыць яго — гэтага парушэння — недарэчныя мясцовыя і часавыя праяўленні. А яны асабліва адчувальныя, эмацыянальна відавочныя ў жыцці, звязаным з прыродай, у жыцці, дзе натуральнасць з'яўляецца асновай і дзе гэтая натуральнасць рэзка, балюча парушаецца. І паказваючы размыванне, разбурэнне вясковага жыцця, важна было давесці думку, што разам знікае векавая аснова, сіла нацыі, народа, аблічча і сутнасць этнасу.

Зразумела, глыбока, грунтоўна думка гэтая праводзіцца не толькі праз просты паказ вясковай працы, побыту, маляўнічыя апісанні прыроды. Праз гэта і дзякуючы гэтаму лагічна прыходзіш да высновы пра разбурэнне шматвяковай вясковай цывілізацыі, акцэнтуеш увагу на пэўнай духоўнай дэградацыі нацыі, бо якраз ва ўзаемаадносінах з прыродай, з зямлёю, з побытам фарміравалася духоўнасць народа. Чалавек і абставіны, чалавек і навакольны свет, чалавек і грамадства — па гэтых вызначальных каардынатах быцця адбываецца ў творах пра вёску мастацкае даследаванне чалавека, выяўленне яго духоўнага патэнцыялу.

Адтуль, з вёскі, вёскі ваенных і пасляваенных гадоў, народных глыбіняў, вырастаюць пісьменнікі пакалення дзяцей вайны. Там выток іх этычных і эстэтычных поглядаў і ўяўленняў. З гэтай прычыны і тыя маральныя нормы, тыя прынцыпы агульнага жыцця, у адпаведнасці з якімі жывуць іх героі, нарэшце, адсюль і тыя этычныя і эстэтычныя прынцыпы-прыёмы, па якіх будуюцца і жывуць іх творы, маюць такую жыццёвую глыбіню, такую простую мастацкую прыгажосць і ўстойлівасць. Далучанасць да народных духоўных вытокаў дазваляе ў паказе супярэчнасцей жыцця, яго драматызму заставацца ідэйна пэўным, эстэтычна цэласным, эпічна ўстойлівым. Шырокае бачанне жыцця, адчуванне яго глыбіняў, узбагачанае моцным сучасным (у часы напісання) духоўным, эстэтычным пачуццём забяспечылі Пташнікаву магчымасць стварыць свой мікрасвет, які ў істотных, вызначальных праявах і якасцях раўназначны вялікаму свету жыцця. Гэта мікрасвет драматычнай вясковай штодзённасці і нябачнай духоўнасці, што маюць магутную каранёвую сістэму ў часах ваенных. Менавіта ў гэтым мікрасвеце характары праходзяць самую суровую і прынцыповую праверку — праверку абставінамі. Найчасцей гэта абставіны штодзённага вясковага жыцця, якое тоесна жыццю народнаму ў часы драматычныя, трагічныя.

У сваёй творчасці пісьменнік, па сутнасці, ніколі не выходзіць за межы асабістага жыццёвага вопыту і ў часе, і ў прасторы. Сам час, сама гісторыя пасадзейнічалі, паспрыялі, што кожны вопыт асабісты быў аж перагружаны вопытам агульнанародным і агульназначным, а кожны лёс індывідуальны, часам зусім незалежна ад волі самога індывідыуума, абавязкова праяўляўся ў гістарычным кантэксце. Гаворачы пра арганічную цэласнасць творчасці пісьменніка, варта мець на ўвазе і тое, што ён практычна ўвесь час пісаў пра той свет, які яго стварыў, у якім ён жыў. У гэтым сэнсе вернасць мастака жыццю і свайму таленту тварылі і мацавалі цэласнасць ім зробленага, абвастралі чуласць духоўных зрухаў і ў грамадстве, і ў літаратуры.

Праблемна, тэматычна творчасць Івана Пташнікава паказала, даследавала тыя пласты народнага жыцця, нацыянальнай гісторыі, якія вызначалі лёс народа, лёс чалавека, пачынаючы з 40-х гадоў. Гэта — трагедыя спаленых і вынішчаных вёсак («Тартак»), вызваленне роднага краю («Найдорф»); паступовае, незаўважанае разбурэнне вёскі як асновы, крыніцы нацыянальнага самаўсведамлення, самапачування («Мсціжы»); гэта — самаахвярны, гераічны і разам трагічны лёс беларускай жанчыны, якая ва ўмовах нечуваных выпрабаванняў, разбурэння і вынішчэння мужна, самаахвярна тварыла жыццё, абнаўляла зямлю, гадавала дзяцей («Алімпіяда», «Тры пуды жыта»); гэта — чарнобыльская катастрофа («Львы»); гэта — відаць, самая трагічная і ганебная з’ява ў нашай гісторыі, звязаная з культам асобы, незаконнымі ахвярамі, праследам («Францужанкі», «Тры пуды жыта»). Пазначаны гадамі «Тартак» — 1967, «Найдорф» — 1975, «Мсціжы» — 1970, «Алімпіяда» — 1984, «Тры пуды жыта» — 1998, «Львы» — 1987, «Францужанкі» — 1997. Гэтыя даты паказваюць, у якой ступені Пташнікаў быў чулы да жыцця ды і да тых працэсаў, што адбываліся ў самой літаратуры.

І ў творчасці Пташнікава, і ў творчасці іншых пісьменнікаў гэтага пакалення Вялікая Айчынная вайна займае асаблівае месца. Гады вайны, ліхалецця, акупацыі, блакад аказалі на станаўленне чалавечай асобы, на выспяванне творцы, на выпрацоўку высокіх маральных крытэрыяў, што пазней выяўляюцца ў іх творчасці. Памяць пра вайну — гэта памяць чалавечая, народная. Гэтую памяць, памяць пра пакуты, жахі, выпрабаванні, перажытыя народам і чалавекам, якраз пачало першым увасабляць у літаратуры пакаленне дзяцей вайны. Тых, хто ўбачыў вайну чыстымі, акругленымі ад жаху і непаразумення вачыма, адчуў і ўспрыняў адкрытым, перапоўненым болем дзіцячым сэрцам. Не колькасць забітых людзей, вынішчаных вёсак, а жудасныя душэўныя пакуты людзей, якія воляю лёсу апынуліся паміж двух агнёў і адчуваюць немінучы надыход нечага жахлівага, вызначаюць аповесць «Тартак». Увесь твор эмацыянальна насычаны прадчуваннем трагічнага. Вакол страляніна, гарыць вёскі, людзі мітусяцца, вакол ворагі — немцы, уласаўцы. Сямёра сялян, розных па ўзросце, па характары, па загадзе ворага вязуць збожжа з Дальвы ў горад у мясцовую камендатуру. Ахопленыя страхам, нервовай узбуджанасцю, людзі ў гэтым апошнім для большасці іх шляху, нібы ратуючыся інстынктыўна, вяртаюцца думкамі да свайго ранейшага жыцця, згадваючы ўсё да драбніц, нібы перажываючы ўсё нанава. Кожны ўспамін з мінулага героя своеасаблівы, непаўторны асабісты свет. У кожнага сваё разуменне і адчуванне рэчаіснасці, свой сэнс і свая паэзія быцця; кожны нясе ў сабе трагічны зарад. Увогуле непаўторнасць індывідуальных лёсаў, непадобнасць асабістых светаў мае для пісьменніка такое прынцыпова важнае значэнне, што, нават аб’яднаныя агульнасцю апошняга шляху, лучнасцю ўсенароднай трагедыі, кожны герой як адзіны магчымы, непаўторны свет увесь час існуе самастойна. І сучаснае для ўсіх іх — працяг мінулага, трагічнае завяршэнне яго.

Агульная трагедыя складаецца з трагедый індывідуальных. Трагедыя вайны, трагедыя Дальвы, трагедыя Тартака — гэта не нейкая абстрактная трагедыя, трагедыя наогул. За ёю і ў ёй смерць Тані, Насты, Махоркі, смерць дзяцей, бацьb-

коў — смерць людзей. А ў кожнай смерці — знікненне адзінага ў сваёй непаўторнасці і незваротнасці свету.

Эмацыянальна аповесць насычана адчуваннем небяспекі, трывогай і страхам. Усё ў творы падпарадкавана стварэнню гэтай атмасферы. Трагедыю вайны, боль і пакуты, кроў і смерць адчуваюць, здаецца, і сонца, і неба, і зямля, і месяц, і воблакі. Дым, агонь, людскія слёзы і людскія пакуты заслалі, напоўнілі і зямлю, і неба — усё.

Так пісаць можна толькі тады, калі ведаеш людзей, ведаеш падзеі таго часу, калі душэўна адчуў, уведаў атмасферу таго часу.

У адным рукапісным накідзе Пташнікаў запісвае: «Трагедыю Дальвы 1944 года я сам перажыў, і яна стаяла ў мяне ў памяці да самых апошніх дзён, калі я пісаў аповесць, яна не дае мне супакоіцца і цяпер і не дасць, відаць, вечна. Бо таго, што было ў сорак чацвёртым, ніколі не апішаш».

Увогуле такая прывязанасць твора да рэальнай канкрэтнай падзеі ці канкрэтнага факта ўласціва ўсёй творчасці пісьменніка. Так было ў творах ранейшых (да «Тартака»), так будзе і пазней.

Аповесць «Іллюк Чачык» абмяркоўвалася на праўленні калгаса як рэальны дакумент. На пачатку аповесці «Лонва» зазначаецца: «Падзея, пра якую расказвае аповесць, адбылася ў нашых паўночных беларускіх лясах пасля вайны — у 1946 годзе. Людзі — сведкі яе — усе жывуць». Вось аўтарава сведчанне адносна аповесці «Найдорф»: «Падзеі, эпізоды з жыцця герояў аповесці — рэальныя. Яны ўсе адбываліся ў нашым баку; героі — не выдуманы, імёны камісара партызанскай брыгады імя Кутузава і партызана гэтай жа брыгады Алёшы Белановіча, які загінуў у сутычцы з эсэсаўцамі, што рвалі з акружэння на захад, — не зменены.

Час, апісаны ў аповесці, — май-чэрвень 1944 года. Час самай жорсткай апошняй фашысцкай блакады ў нашым раёне…

Гэта быў час, калі гарэлі ў лютым агні беларускія вёскі… У гэты час згарэла Дальва з людзьмі, згарэла мая хата ў маёй вёсцы…

Гэта быў час, калі нас выратавалі ад гібелі салдаты Чарняхоўскага…

Такое запомнілася. І доўга яшчэ будзе ўзнікаць і стаяць перад вачамі…»

Калі мець на ўвазе рэальную жыццёвую аснову творчасці Івана Пташнікава ў шырокім яе разуменні, то яна нясе ў сабе рысы і ўласцівасці выключна асабістага характару. Ва ўсіх творах вельмі добра відаць нязменная прывязанасць пісьменніка да родных мясцін Лагойшчыны, да яго «малой радзімы». Там, у вёсцы Задроздздзе, прайшлі яго дзіцячыя і юнацкія гады, гады нялёгкія, выключна трывожныя, балючыя. Якраз гэтыя гады далі будучаму пісьменніку практычна ўсё: жыццёвы матэрыял, тэмы і ідэі, багацце арыгінальных жыццёвых характараў, непаўторныя пейзажныя малюнкі, мову, якой нацыянальная літаратура не ведала. Піша ён пра тое, што знаходзіцца ў прасторавым і часавым абсягу, межах яго асабістага вопыту. Вопыту пазнавальна, духоўна, эмацыянальна набытага ў гады дзяцінства і юнацтва, па сутнасці да пачатку творчасці. Пазней адбывалася яго грамадска-сацыяльнае паглыбленне і пашырэнне, асэнсаванне і духоўнае ўзбагачэнне, сарыентаванасць на сучаснасць.

Пташнікаў пры ўзнаўленні-адлюстраванні рэчаіснасці імкнецца да максімальнай паўнаты і ўсебаковасці, багацейшай насычанасці падрабязнасцямі — бытавымі, пейзажнымі, псіхалагічнымі. Падзеі практычна ўсіх твораў адбываюцца на яго «малой радзіме», у родным кутку — увесь свет. Пішучы пра жыццё народнае, пісьменнік найлепш ведае тых людзей, з кім разам жыў, рос, выхоўваўся, хто народжаны той самаю зямлёю, што і ён, хто дыхаў і дыхае тым самым паветрам — людзей менавіта роднага кутка зямлі. Іх ён адчувае знутры. У чымсьці самым істотным, вызначальным яны — гэта ён, а ён — яны.

Час росту, духоўнага выспявання і сталення чалавека, асобы чалавека быў такі, што кожнага ўцягваў у сферу клопатаў і інтарэсаў агульнанародных, чалавека прыватнага далучаў да гісторыі. Чалавек проста вымушаны быў жыць і

дзейнічаць у гісторыі, тварыць гэтую гісторыю. Духоўна і маральна ён выхоўваўся гісторыямі. Пакаленне, да якога адносіцца Іван Пташнікаў, станавілася на ногі, расло, набіралася сілы, рабіла першыя крокі ў вялікі свет жыцця, пазнавала гэты свет, сустракала першыя нягоды і расчараванні не ў нармальных умовах звычайнага чалавечага жыцця, а ў абставінах ваеннага, партызанска-блакаднага руйнавання і вынішчэння, таксама пасляваеннага боса-галоднага ціску. У такіх абставінах скарачаліся і прыглушаліся і без таго рэдкія хвіліны простай чалавечай радасці, менш станавілася светлых сонечных дзён. Разам з гэтым загартоўваўся характар, выхоўваліся працавітасць, упартасць, усталёўваліся адказныя адносіны да жыцця.

З іншага боку, у тых умовах, у тых абставінах не магло развівацца, угрунтоўвацца так уласцівае дзіцячаму ўзросту пачуццё эгаізму, самалюбства і сябелюбства. Балелі свае болькі, але бачыліся раны і пакуты іншых. Свае слёзы высыхалі, чуючы плач і галашэнне суседзяў і аднавяскоўцаў. Гора асабістае раствaралася ў горы народным. Бяда агульная і гора народа бачыліся і чуліся, свае асабістыя — адчуваліся, балелі.

Па-свойму выявілася гэта ў творчасці Пташнікава. Асабліва ў творах пра вайну. Свет, які творыць-узнаўляе пісьменнік, неадлучны, адэкватны свету рэальнаму. Таму агульным горам, болем, пакутамі, няшчасцем напоўнена не толькі жыццё народа, асобнага чалавека, але і жыццё прыроды. Ва ўсёй яго творчасці, па сутнасці, у кожным творы, карціны прыроды, малюнкі, яркія, выразныя, эмацыянальна насычаныя, займаюць асабліва значную, у многіх адносінах вырашальную ролю. Без разгорнутых, эмацыянальна яркіх, жывапісных карцін прыроды нельга ўявіць сабе ніводнага Пташнікавага твора.

У тым рэальным свеце, у якім рос і выхоўваўся пісьменнік, прырода была для чалавека ўсім — домам, паветрам, паэзіяй, увасабленнем, носьбітам таямнічасці і прыгажосці, бясконцасці і велічы свету і жыцця. Прырода ў яго творах вельмі неабходная, проста неад'емная часціна людскога існавання. Тыя рэальныя гісторыі, падзеі, пра якія расказвае аўтар, тыя чалавечыя характары, якія ён стварае і якія праходзяць перад нашымі вачыма, нельга ўявіць без дрымучых лясоў, без пыльных і балоцістых лясных дарог, без неба, найчасцей у пагрозлівых хмарахтулягах, без насычанага смаловым хвойным пахам і дымам ляснога паветра. Героі Пташнікава жывуць у гэтай прыродзе, ёю народжаны і створаны, яны яе вышэйшая ў развіцці і дасканаласці часцінка. Сама ж прырода жыве ў кожным з іх, набываючы як бы індывідуальна-непаўторнае выяўленне, напаўняючыся чалавечым духам.

Прырода вечная. Яна ў няспынным абнаўленні. І якраз у прыродзе, у арганічным зліцці з ёю для герояў Пташнікава тоіцца невычэрпная крыніца жыццёвай сілы і трываласці. Прырода ва ўсім багацці яе праяўленняў з'яўляецца той адзінай асновай, на якой фізічна вырастаюць, фарміруюцца чалавек і народ, у якой знаходзяцца самыя магутныя і невычэрпныя жыццёвыя крыніцы. У прыродзе засяроджана мінулае, у ёй тояцца крыніцы будучага.

Махорка, адзін з герояў аповесці «Тартак», знаходзячыся каля лесапілкі, думае пра гатар, як той механічна, жорстка распраўляецца з лесам, у той жа час бачыць, як малады лес хавае здратаваную зямлю. Узнікаюць, плывуць думкі: «Праз некалькі гадоў ад тартака застанецца толькі званне; гэта месца: і лог у самы кут ад ракі, і буй, і лес за мостам на гары — будуць зваць адно Тартаком, як завуць ужо і цяпер. Толькі доўга будзе яшчэ ляжаць ля дарогі вялікае белае каменне, пакуль не патрэскаецца, не абрасце мохам, не пачарнее і не ўедзе ў зямлю — навек. На ім зноў тады вырасце лес — падыдзе да самай дарогі, як і даўней».

Вось гэтая злучанасць герояў Пташнікава з навакольным светам, з прыродай, нейкае падсвядомае жаданне глянуць у свет далей — як у вечнасць, надае творам выключна трагічнага зместу глыбокае аптымістычнае гучанне, героям — веру ў жыццё. Свет жа прыроды бясконцы.

Так Жаваранка, адзін з герояў аповесці «Найдорф», у час рэдкага ўнутранага спакою свабодна, без якога б там ні было «інтэлектуальнага намагання», суадносіць сваё жыццё, сваё рэальнае становішча з бясконцасцю сусвету. «Глядзеў — і яму здавалася, што ён ляжыць у акопе вечна, не было ні жыцця ў вёсцы да вайны, ні араў, ні сеяў, ні рваў карчы на пасецы; здавалася ён вырас у акопе з зямлі, як расце грыб, і яму суджана пакласці галаву тут, у гэтую зямлю…» Бачыць, як высока-высока ў небе хвалі нагрэтага паветра носяць бацяноў, канюхоў, нават ластавак. Узнікае сама сабою думка-адчуванне: «Куды ж вынесе паток на зямлі яго, Жаваранку?»

Раман «Алімпіяда». Сын Алімпіяды Міфодзя ідзе з бальніцы ад маці ў родны Крамянец. Бачыць, як пусцее вёска. «За ціхімі старасвецкімі дубамі, недзе пад Крамянцом, куды трэба было ісці, вісела вялікае цяжкае жоўтае халоднае воблака, займаючы ўвесь край неба. Сонца, заходзячы за сіні ў дыме лес, падсвечвала воблака, робячы яго чырвона-бурым, і здавалася, што яно старое-старое — вечнае. Вісела тут, калі не было яшчэ зямлі, і застанецца назаўсёды. За воблакам зажаўцеліся палоскі ад далёкіх самалётаў — два доўгенькія каласкі ячменю. Каласкі пасля выцягнуліся ў дзве вузенькія памятыя саломінкі і апусціліся на край зямлі».

Ва ўспрыманні Міфодзі адвечнае і сучаснае, прыроднае і створанае нашым тэхнічным часам злітыя ў адно. Але след самалёта — толькі маленькі каласок у супастаўленні з воблакамі.

Адчуванне бясконцасці свету, адчуванне-ўспрыманне вялікіх прастораў жыцця, якім надзелены героі твораў пісьменніка, зразумела ж, абавязаны, найперш таленту іх творцы, яго мастацкаму ўспрыманню свету.

Чытаем непасрэдныя малюнкі-ўспаміны аўтара ў «Ненапісанай аповесці», творы найбольш аўтабіяграфічным: «Некалі, змораны ад доўгай хады — баляць ногі, плечы і рукі, — ляжаш у траву, на дзяцельніцу з белымі і чырвонымі галоўкамі пад гэтыя прысады, слухаеш, як яны шумяць, а яны шумяць вечна, і ў шуме іх заўсёды вечнасць, — і глядзіш, — у неба. Неба чыстае-чыстае, на ім далёкія белыя дарожкі ад самалётаў, ніжэй іх ціхія бацяны — плывуць за самалётамі, не кратаючы крыллем, а на зямлі пчолы — звіняць і звіняць у дзяцельніцы над маім вухам».

У такім успрыманні-разуменні свету сучаснасць заўсёды суадносіцца з мінулым ці то як яго працяг, ці то як адмаўленне па кантрасце сучаснасці, змякчэнне яе драматычнага ціску. Так, дарэчы, успрымаюцца ўспаміны герояў «Тартака».

Вайна ў Пташнікава — гэта страшэннае парушэнне свету, якім жывуць яго героі, руйнаванне звыклага побыту, сямейных, асабістых узаемаадносін, прыроды нарэшце. Трагедыю вайны, кроў і пакуты яе адчуваюць, здаецца, і зямля, і неба, і сонца, і месяц. Сонца ўвесь час у тулягах, трывожна-чырвонае — людзі навокал бачаць зарывы пажараў, адчуваюць смурод гарэлага, які проста заглушае жывыя, багатыя пахі лесу, ён у чалавечай свядомасці, у псіхіцы яго. Пісьменнік, магчыма, свядома зрабіў героямі тых, хто адкрыта, непасрэдна не змагаўся і не мог змагацца з ворагам. Наста — жанчына-маці, Таня і Алёша — дзеці, Янук — глухі, Панок — хворы. Тут важна было паказаць трагізм вайны ў яго ўсеагульным змесце, у яго самым неаспрэчным выяўленні.

Усе героі аповесці на сваім шляху пастаянна вяртаюцца ў думках да свайго колішняга мірнага жыцця, згадваючы ўсё да драбніц, нібы нанова перажываючы. У гэтых успамінах псіхалагічна ўсё натуральна, па-мастацку падпарадкавана выяўленню і сцвярджэнню. Пра варожасць фашызму, у якім бы абліччы ні выступаў ён, жыццю, чалавечаму існаванню.

Ва ўспамінах кожны герой твора нібы пераносіцца ў тое мінулае, якім ён жыў. І жыццё ў гэтых успамінах-марах выключна натуральнае, адпаведна яго чалавечай і грамадскай сутнасці. І гэтыя ўспаміны як бы гавораць, што ёсць іншае жыццё, даюць сілы, каб выстаяць у гэтым страшным свеце, мацуюць надзею.

Калі ў аповесці «Тартак» вызначальным з'яўляецца трагічны матыў, паказаны боль і жах перажытага, то ў другой аповесці пісьменніка пра вайну «Найдорф» гераічны матыў пафасу, гераічная нота танальнасці становяцца вызначальнымі, падпарадкоўваючы эмацыянальна пачатак трагічны. Боль ад незлічоных страт і выпрабаванняў нібы ўраўнаважваецца пачуццём гонару за выключную мужнасць, самаахвярнасць людзей, за іх вялікую любоў да роднага краю, да бацькоўскага кутка зямлі. Паказваючы ўвесь трагізм, увесь жах і ўвесь боль нядаўніх выпрабаванняў, літаратура (і той жа Пташнікаў) павінна была задумацца і задумалася не толькі над мерай чалавечых выпрабаванняў, мерай народнага гора, але і над мерай мужнасці, самаадданасці, мерай народнай сілы і неперажнасці. Увасабленне балючай «народнай памяці» паступова прывяло літаратуру да спасціжэння «народнай думкі» пра вайну айчынную.

Аповесць «Найдорф» прысвечана апошнім дням, нават гадзінам вайны, вайны партызанскай, і першым дням міру на гэтай зямлі. То быў час асаблівага драматызму, асаблівай унутранай узрушанасці, выключных жыццёвых бытавых і псіхалагічных складанасцей, час, звязаны з пераходам чалавека, грамадства ў новы стан, з прадчуваннем і вялікім жаданнем яго ўсталявання.

У творы як бы дзве жыццёвыя стыхіі, дзве жыццёвыя сферы — вайна і мір, жыццё і смерць, стварэнне і разбурэнне. У цэнтры аўтаравай увагі два героі — сярэдніх гадоў селянін Яхрэм Жаваранка і зусім яшчэ малады хлопец Алёша. Асноўныя падзеі звязаны з імі, сюжэт разгортваецца вакол іх жыццёвых лёсаў.

У раздзелах, прысвечаных непасрэдна паказу вайны, блакады (першая частка мае назву «Заслон»), увесь час, ва ўспамінах герояў, прысутнічае даваеннае жыццё. Успаміны пра яго разгорнутыя, шчодрыя на фарбы і багатыя на падрабязнасці, поўныя ўнутранай паэтычнасці, глыбокага сэнсу і значэння. Жыццё ва ўспамінах Жаваранкі і Алёшы — сапраўднае: у гэтым жыцці ўгрунтавана іх сіла і няскоранасць у барацьбе, мэта гэтай барацьбы. І тое жыццё, мінулае працоўнае, — не толькі ўспаміны. Гэта — мара, сэнс жыцця і барацьбы. Там усё прыгожа, светла, велічна.

У раздзелах другой часткі, што называецца «Дома» і прысвечана першым дням, нават гадзінам пераходу да мірнага жыцця, у сваім падзейным руху як бы запаволеных (жыццё нібы спынілася, не верачы ў іншы, не ваенны свой стан), надзвычай багатых на падрабязныя апісанні, і ў падзейнай аснове, і ў чалавечых узаемаадносінах, і ў самім эмацыянальным напаўненні моцна адчуваецца прысутнасць вайны.

Пташнікаву праўдзіва ўдалося перадаць пераходны стан ад вайны да мірных дзён — зямлі, вёскі, чалавека. І Жаваранка, і Алёша, і яго маці, і іншыя персанажы, нібы па інерцыі жывучы яшчэ вайною, яе болем, яе трывогай і ўнутранай насцярожанасцю, усё больш адчуваюць, як іх неадольна цягне спрадвечнае — зямля, праца, клопат пра хлеб, тое, што з'яўляецца іх сапраўднай існасцю.

Той, хто зведаў вайну, выцерпеў яе выпрабаванні, пабачыў жахі, усё наступнае жыццё можа пражываць і ўспрымаць, толькі суадносячы яго з суровым вопытам перажытага. У ім — крытэрыі маральна-этычныя, у ім — крытэрыі праўдзівасці.

Вайна ў творчасці Пташнікава «жыве» ўвесь час, «жыве» практычна ва ўсіх творах. Але калі сёння ўсё напісанае пра вайну суаднесці з усім тым, што наогул створана пісьменнікам, то зусім выразна можна ўбачыць, што галоўная, вялікая тэма ўсёй творчасці пісьменніка — тэма вёскі. Вайна ў яго творах — гэта тое ж жыццё вёскі ў незвычайных, экстрэмальных умовах.

Сам пісьменнік, а разам і яго героі, неяк вельмі блізка, сардэчна адчуваюць жывую повязь з навакольным светам, прыродай, зямлёю — з вёскай. Якраз гэтая повязь з вёскай, яе характар, з'яўляецца вырашальнай у іх светапоглядлнай сутнасці. У ранніх творах («Алені», «Лонва») адносіны пісьменніка і яго герояў да свету вёскі, прыроды трымаліся ў асноўным на ўзроўні паэтычнага

сузірання. Пачынаючы з аповесці «Тартак» характар гэтых адносін мяняецца — выходзіць на ўзровень узаемапранікнення. Выяўлена гэта асабліва грунтоўна ў творах, праблемна і тэматычна звязаных з вёскай: «Мсціжы», «Алімпіяда». Не выпадкова, што гэта — раманы. Той найбагацейшы свет узаемадачыненняў чалавека з прыродай, свет бясконцы ў сваім руху і бязмежны ў сваіх зменах для свайго мастацкага ўвасаблення патрабаваў жанру эпічнага. Да таго ж, жанр гэты не скоўваў творчыя магчымасці пісьменніка, даваў прастору для поўнага выяўлення такіх якасцей таленту, як аналітычнасць і малюнкавасць.

Галоўны канфлікт рамана «Мсціжы» — гэта барацьба, знешняя і скрытая паміж чалавекам, які «абжывае зямлю», і чалавекам спажывецкіх, драпежных адносін да зямлі і да людзей. Канфлікт гэты ў творы не агалены, не адналінейны, ён вынікае з узаемаадносін галоўнага героя Вялічкі з іншымі персанажамі твора, грунтуецца на дыяметральна-супрацьлеглых іх адносінах да зямлі.

Зямля для Вялічкі — усё. Зямля для яго — як жывая істота. Ён чуе яе найтанчэйшыя пахі, адрознівае іх шматлікія адценні, якія пісьменнікам перадаюцца асязальна. Адчуванне пахаў у Вялічкі — не проста фізіялагічная асаблівасць, гэта якасць сацыяльна-гістарычная. Успрыманне тых або іншых пахаў, вызначэнне іх характару абумоўлена ўсім жыццём героя.

Вясною Вялічка заўважае, што «свежай зямлёй пачынае дома пахнуць з гародчыка рана, калі яшчэ толькі асядае снег і пад прызбай ля хлява і ля тыну ад вуліцы пакажацца сівая пасля зімы леташняя трава…»

Зямля гэтая яго, Вялічкава. Тут, у гэтым краі, у Прывіллі, ён усё ведае, усё ў яго памяці, свядомасці, у крыві. Зямля для Вялічкі — гэта і рэчка, і лес, уся родная прырода. Зямля ў шырокім яе разуменні — тая глеба, на якой чалавек вырастае чалавекам, якая дае яму сілы і надзяляе характвом. Зямля і Вялічка — гэта штосьці арганічна адзінае: тут агульныя самыя глыбінныя законы, адны і тыя ж жыццёвыя сокі, адно і тое ж паветра. Зямля патрэбна Вялічку, Вялічка патрэбен зямлі. Ён — гаспадар на зямлі. Мсціжы для яго не проста вёска, дзе ён нарадзіўся і вырас, яна дала яму мэту і сэнс жыцця, тут ён спазнаў гора і перажыў радасці. У ёй яго глыбокае карэнне. Складанае для яго асабіста пытанне: кінуць вёску, выехаць у пошуках лепшай долі ці застацца — ён вырашае адзіна правільна — застацца. Вялічка, які ўсё сваё жыццё пражыў сумленна, з карысцю для людзей, падсвядома адчуваючы каштоўнасць усяго жывога, натуральнага, павінен быў застацца, і ён застаўся ў родных мясцінах, на сваёй зямлі.

Ёсць у творы сцэна, вызначальная для разумення жыццёвай філасофіі Вялічкі. Ды і іншых герояў Пташнікава. Шмат перажыўшы, нямала выцерпеўшы, Андрэй Вялічка апынуўся адзін у сцішаным вечаровым лесе. Услухоўваецца ў лясную цішыню. Слухае, як падаюць сухія сасновыя шышкі. Ён любіць слухаць, як яны стукаюць. «Вечна б так стаяць і слухаць». Думкі ідуць шырэй, паглыбляюцца: «Няма сканчонага зямлі, няма і людзям. Людзі рассыпаюцца па зямлі, як шышкі з дрэва… Вечныя людзі на зямлі, вечныя і дрэвы. І вечна адзін ідзе на другога. І верх за чалавекам. Бо чалавек абжывае зямлю, звер — толькі плодзіцца… Есць і плодзіцца… Есць і плодзіцца, каб есці».

Іван Пташнікаў умее прымусіць «працаваць» навакольную прыроду на агульны эмацыянальны лад твора, на яго ідэйны змест, на тую ці іншую — зразумела, асабліва важную, вырашальную — падзею, сітуацыю, сцэну.

У рамане «Алімпіяда» ўдзел прыроды ў стварэнні агульнай атмасферы, у вызначэнні тону, у пэўнай эмацыянальнай акцэнтацыі асабліва шырокі і мэтанакіраваны.

«Алімпіяда» і падзагаловак «Воблакі шасцідзесятых»… Воблакі і вецер вызначаюць эмацыянальную атмасферу рамана, у самым пачатку як бы уводзяць у раман, наогул перадаюць характар, унутраны змест жыцця 60-х гадоў. Таго жыцця, калі раптам выразна ўбачылася абязлюдзенне вёскі, калі пагрозліва ўзнялася хваля алкагалізму, калі ў вялікім свеце таксама не ўсё было спакойна.

Увогуле «воблакі шасцідзесятых» ўвабралі ў сябе, можа, самыя глыбінныя супярэчлівасці часу. Пташнікаў паказвае звычайнае жыццё звычайнага чалавека. Але жыццё ў асабіста пераломны момант, калі з мінулага ў памяці ўсплывае самае істотнае, а падзеі, учынкі ацэньваюцца самымі высокімі маральнымі крытэрыямі. Духоўная атмасфера гэтага зрэзу жыцця — высокай чысціні, а самая дробная неадпаведнасць ёй заўважаецца адразу.

У «Алімпіядзе», як відаць, нідзе раней у творчасці пісьменніка, навакольны свет, жыццё, асабліва свет прыроды, перадаюцца адлюстравана, адбіта ў свядомасці, у душы галоўных герояў як свет імі ўспрыняты, як жыццё імі пражытае і перажытае. Свет гэты, адлюстраваны, узноўлены майстрам, здзіўляе сваёй праўдзівасцю — сваім багатым прыродным зместам, сваімі гаспадарча-сацыяльнымі параметрамі, багаццем і разнастайнасцю дэталей і падрабязнасцей, сваім моцным і высокім чалавечым напаўненнем. Свет гэты натуральна адкрыты ў прасторавую і часавую бясконцасць.

І дзіўная рэч. Пташнікаў як бы свядома падкрэслівае прасторавую абмежаванасць сваіх твораў — «Тартак», «Найдорф», «Мсціжы»… Тое ж у «Алімпіядзе», дзе пазначана, што падзеі адбываюцца ў 60-я гады. Бярэцца адзін калгас, адна вёска, адна мясціна. А якое адчуванне вялікага жыцця! Жыцця ваенных гадоў, пасляваенных, учарашняга, сённяшняга… заўтрашняга. Жыцця вёскі, раёна, рэспублікі, народа. Жыцця гэтай зямлі.

Ідэйны змест твора, духоўная атмасфера ўвасоблены галоўным чынам у вобразе Алімпіяды. І не вядзе яна, як кажуць, разумныя размовы, яе быццам і не цікавяць якіясьці глабальныя пытанні ці то праблемы. Жыве Алімпіяда самым звычайным жыццём — сумленным, працоўным, шчырым, добрым. Такое жыццё становіцца жыццём значным, жыццём не так (а, можа, не толькі) для сябе, як (але і) для іншых. Алімпіяда — чалавек вялікай душы, што напоўнена любоўю, спачуваннем да ўсяго навакольнага свету: людзей, жывёлы, прыроды. І гэта ні ў якім разе не зададзенасць, не парыў, а нармальны стан чалавека, стан яго душы. Дзякуючы такой духоўнасці, у высокай ступені жыццятворнай і жыццядзейнай, дзякуючы ёй жыццё чалавека, жыццё грамадства не губляе сваёй пэўнасці і ўстойлівасці. Галоўны носьбіт аўтарскай ідэі чалавечнасці, добрасці, справядлівасці — Алімпіяда; яна ж з'яўляецца стваральнікам і адпаведнай духоўна-эмацыянальнай атмасферы. У вобразнай сістэме рамана Алімпіяда — выключэнне. Выключэнне вельмі рэальнае, зямное. Калі іншыя вобразы падаюцца ва ўсёй іх жыццёвай складанасці, з падкрэсліваннем, магчыма, дзесьці і свядомым, негатыўных момантаў у паводзінах і ўчынках, узаемадачыненнях і выказваннях, то Алімпіяда пазбаўлена гэтага цалкам. У гераіні твора ў асабліва сканцэнтраваным выглядзе засяроджаны якасці, уласцівыя народнаму характару ў яго ідэальным увасабленні. Такім ідэальным для нас можа быць вобраз маці.

Іван Пташнікаў, як ужо зазначалася, у сваёй творчасці — узнаўленні падзей, распрацоўцы пэўных сітуацый, апісанні пэўнага ўнутранага стану, стварэнні карцін прыроды, стварэнні вобразаў — у вышэйшай ступені дакументальна-аўтабіяграфічны. Звярнуўшы ўвагу ў гэтым плане на галоўны вобраз рамана «Алімпіяда», унікнуўшы ў аўтаравы адносіны да яго, хочацца сцвярджаць, і напэўна, можна, што «спісана» Алімпіяда з маці пісьменніка. Ствараючы «Алімпіяду» Пташнікаў увасабляў вобраз маці, якой ужо не было, але якая жыла ў яго сэрцы, памяці, якую ён бачыў, успрымаў менавіта такою. Напэўна, невыпадкова многія героі твора называюць Алімпіяду маці.

Маці…

Вобраз Алімпіяды — прынцыповая ўдача пісьменніка, дасягненне беларускай прозы канца XX стагоддзя, усёй беларускай літаратуры. Для самога празаіка ўдача гэтая невыпадковая: ішоў да яе настойліва, мэтанакіравана, выконваў яе з поўнай аддачай душэўных сіл, шчыра і сумленна. Узяты ён (вобраз) з жыцця, з таго жыцця, да якога пісьменнік меў асабіста самае непасрэднае дачыненне.

Гэтаму асноватворнаму мастакоўскаму прынцыпу Пташнікаў верны і ў творах канца ХХ — пачатку ХХІ ст.: «Французжанкі», «Тры пуды жыта», «Ненапісаная аповесць». Варта звярнуць асаблівую ўвагу на апавяданне ці аповесць «Тры пуды жыта». «Аповесць, вартая рамана» — так зусім справядліва называлася рэцэнзія на гэты твор народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча. Змест твора, яго ідэйна-мастацкую аснову складае не эпізод, не падзея ці падзеі, нават не гісторыя, а па сутнасці лёс чалавека. Дарэчы, такі ж, па сутнасці, прынцып узнаўлення рэчаіснасці характэрны і для «Найдорфа», і для «Мсціжаў», і асабліва для «Алімпіяды»…

«Тры пуды жыта» — гісторыя аднаго чалавечага жыцця, жыцця, якое прайшло «пад знакам» культу асобы. У цэнтры твора — жыццёвы шлях, лёс Александрыны. Пісьменнік і тут дае зразумець, што гэта гісторыя блізкіх яму людзей. Прысвячэнне падказвае: «Памяці Сяльвестры і Александрыны». Але за жывым канкрэтным лёсам Александрыны бачыцца ва ўсёй сваёй жыццёвай і маральнай важкасці лёс беларускай жанчыны. Трагічны і самаахвярна трагічны чалавечы лёс.

«Высокая, ценькая, высахлая за свае праклятае бязмужняе адзінокае жыццё на трэску — адна гадавала трое дзяцей, бегала кожны божы дзень у калгас ад цямна да цямна па нарадзе, насіла кляймо сям'і «ворага народа», памагала ў вайну партызанам, рвала жылы пасля вайны пры бясхлебіцы, пакуль не састарэла і пакуль не перасталі да яе чапіцца калгасныя брыгадзіры, каб ішла араць, баранаваць, жаць, выкідаць з прыварын гной, палоць, выбіраць бульбу, даглядаць, малаціць, калаціць… Гэтулькі ўсяго перарабілі рукі з кляймом…» — такая яна, Александрына. Такая яе трагічна-самаахвярная доля, выказаная адным сказам: настолькі тут усё адзінае, аднаго плана.

Яе мужа Сяльвестру першы раз арыштаваў пагранатрад у 1933 годзе. Ні ён, ні яна не ведалі за што. У 1935-м ён адседзеў тры месяцы за тое, што, трапіўшы пад мароз, згніла ў парніку бульба. У 1937-м арыштавалі трэці раз. Арыштавалі і ўжо не выпусцілі.

У 1956 годзе паведамляюць Александрыне, што справа яе мужа будзе перагледжана. Пройдзе больш за год. Александрына ўвесь час «чакала вестак і лічыла кожны дзень, а то і кожную гадзіну». Нарэшце прыносяць пісьмо. Ваенны трыбунал Беларускай ваеннай акругі паведамляў, што «дело по обвинению Пташник Сельвестра Лазаревича пересмотрено», «постановление от… 1937… отменено и дело за отсутствием состава преступления прекращено.

Пташник Сельвестр Лазаревич реабилитирован посмертно».

Пісьменнік стрымана, дакладна перадае душэўнае ўзрушэнне жанчыны. Яна анямела. І ўсё анямела.

«І ходзікі, і радыё маўчалі…

У вачах то белае, то чорнае… І слёзы з воч… Самі цяклі руччом, самі перасыхалі, пасля зноў цяклі…»

З жахам думае, што дваццаць гадоў Сяльвестры не было. Пра гэта яна пастаянна помніла, лічыла, што ён жывы, чакала. «Помніла, але не памінала… А трэба было памінаць… Але дваццаць гадоў».

Такою была не яна адна, такое было не з ёю адною. На допыце ў кэдэбіста, яна аж крычыць пра тое, што згнаілі ў зямлі і Сяльвестру, і яго брата. «…І ў нашай вёсцы па чалавеку лічы праз хату…»

Зноў жа на адным допыце Александрына пачынае плакаць. Кэдэбіст не суцяшае. Яна думае, што ён «ужо наслухаўся і плачу і нагледзеўся бабскіх слёз. А таго плачу — вёскамі, і слёз — рэкамі ён не чуў і не бачыў, маладзён…»

Тут не проста словы, прадыктаваныя пэўным настроем, выказаныя ці падуманыя ў адпаведным душэўным стане. Яны жыццём яе выпакутаваныя, нажытыя. Яе асабістым жыццём і жыццём вёскі. Пташнікаву праўдзіва, балюча ўдалося паказаць, што значылі культаўскія рэпрэсіі не толькі для саміх рэпрэсаваных,

для іх родных і блізкіх. Яны нявечылі людскія душы, прыніжалі, гнялі чалавека, парушалі адвечны лад жыцця, разбуралі знутры духоўную атмасферу ў грамадстве. З дня ў дзень. Пастаянна. Штодзённа. Не ў аднаго пакалення. Сёння гэта адчуваецца, відаць.

Дзесьці пасля таго, як Александрына атрымала паведамленне пра пасмяротную рэабілітацыю мужа, зайшоў брыгадзір Петражыцкі. Паведаміў, што выпісалі ёй тры пуды жыта: зарплата Сяльвестра за два апошнія месяцы работы ў калгасе. Таксама выпісалі сенакосу паўгектара. Такое ўказанне зверху. Столькі каштавала жыццё чалавека. Пасля рэабілітацыі ўжо, у новых умовах. Цынізм заўсёды побач з бесчалавечнасцю.

Алімпіяда і Александрына… Два эпічныя, выключнай жыццёвай сілы вобразы. Магчыма, мацнейшыя ў нацыянальнай літаратуры. Надзелены жыццёвай нязломнасцю, духоўнай устойлівасцю. Разам з тым бачыцца і пэўнае адрозненне, выкліканае і рознай рэальнай падзейнай асновай, і новымі ўмовамі часу. Алімпіяда — вобраз моцна драматычны, Александрына — трагічны. Узмацненне, абвастрэнне драматызму, трагічнасць вобраза і падзеі абумовілі, выклікалі і пэўны ўнутраны пратэст, рашучае адмаўленне, непрыняцце пэўных з’яў, людзей. Пакорлівасць, памяркоўнасць знікаюць. Злосць, пратэст пачынаюць панаваць. Праўда, пакуль што ў душы, у свядомасці.

Характэрная сцэна касьбы. Александрына пасля хістанняў згадзілася ўзяць хлеб і касіць дзялянку. Косіць адна, высільваючыся, да знямогі, губляючы апошнія сілы.

Купіны, бабок, гадзюкі на купінах… Усё у вачах і свядомасці змяшалася. Касец зразае ўсё. У затуманенай свядомасці ўсплываюць вобразы пагранічнікаў: тых, што першы раз арыштавалі яе Сяльвестру.

«Шарх… Бліскучая васьміручка зразае адным махам і шэрыя шынялі, і шэрыя галовы ў гадзюк».

Каса рэжа і накрывае мохам уласаўцаў, што збіраліся паліць вёску.

Пасля яны ўсе перамяшаліся: і галоўкі бабка, і галовы гадзюк, і пагранічнікі, і ўласаўцы, і петражыцкія…

У апошнюю хвіліну перад тым, калі Александрына, трацячы прытомнасць, без сілы ўпадзе на пракос, у галаве прамільгне думка: «Столькі гадаўя на зямлі… Як ты іх усіх перарэжаш…»

Александрына паправіцца. Прыедуць дзеці. І гледзячы на іх, яна падумае: «Вот без вас, дзеці, нішто на зямлі не вечнае…» Словы — як сонечны праменьчык напрыканцы пахмурна-балючага аповеда пра лёс жанчыны. Беларускай жанчыны.

Пра культ асобы і ўсё, што з ім звязана, сказана шмат. І ўсё ж Пташнікаў сказаў сваё і па-свойму. Яшчэ раз пацвердзіўшы, што кожны чалавек, і той жа мастак, — гэта цэлы свет непаўторны ў сваіх праявах. І тут самае галоўнае — заставацца самім сабою ў любых абставінах, у самых розных сітуацыях, ісці ад свайго ўнутранага «я». Не хітруючы, не падманваючы ні сябе, ні іншых. Іван Пташнікаў так і зрабіў. Як і раней рабіў. І аказалася, што гэта вельмі важна. Бо такога ў літаратуры не было. У лёсе людзей было. Уся творчасць пісьменніка гэта пацвярджае.

Раманы, аповесці, апавяданні…

Здзіўляе іх незвычайная жыццёвасць, жыццёвасць у падзеях, фактах, чалавечых характарах, у апісаннях прыроды, ва ўзноўленай рэальнай атмасферы. Добра адчуваецца, што піша Пташнікаў выключна пра тое, што ў свой час знаходзілася ў абсягах, прасторавых і часавых, яго жыццёвага вопыту — ім пабачана, адчута, пеpainted. Незалежна ад таго, было гэта ў часе ваеннага ліхалецця, у першыя пасляваенныя ці то ў другой палове стагоддзя. Жыццё ў яго штодзённых драматычных, трагічных шырокіх праявах узнаўляецца з выключнай выразнасцю і праўдзівасцю. Здаецца, што тыя людзі ў той час і ў тых умовах маглі жыць і жылі

вось так. Так, як паказвае пісьменнік. Свет мастацкі, у сваёй цэласнасці і арганічнасці, адэкватны свету рэальнаму. Чытаючы творы, нібы чытаеш само жыццё, у рэальнасці якога ні на хвіліну не сумняваешся. Паглыбляешся ў жыццё, наскрозь пранізанае любоўю да чалавека, болем за яго. У гэтым сэнсе пісьменнік у нацыянальнай літаратуры годна развівае і сцвярджае тую лінію, дзе народнае жыццё, нацыянальны характар, духоўна-гістарычная нацыянальная самабытнасць з'яўляюцца момантамі асноватворнымі. Менавіта з гэтай лініяй развіцця беларускай літаратуры, з гэтай традыцыяй звязаны самыя значныя дасягненні нацыянальнага прыгожага пісьменства.

У новым стагоддзі, пачатак якога адзначаны руйнаваннем усталяваных вякамі крытэрыяў, нормаў і каштоўнасных арыенціраў ва ўсіх сферах чалавечай дзейнасці, гэтая традыцыя, забяспечвае спрыянне развіццю літаратуры, захаванне духоўнай самабытнасці народа. Традыцыя валікай увагі і павагі да жыцця і да канкрэтнага чалавека, традыцыя шчырасці, адкрытасці і разам з тым стрыманасці і сціпласці ў творчым самавыяўленні, традыцыя вялікай адказнасці за выказанае слова, беззапаветнай любові да яго. Бо тут, ва ўсім гэтым — крыніца народнасці, праўды, высокай мастацкасці.

З гэтай традыцыяй якраз і звязана ўся творчасць Івана Пташнікава. Сваёй творчасцю ён яе паслядоўна і годна працягвае, мацуе. Усё гэта тое, што ў нацыянальнай літаратуры пазначана як класіка.

У адказе на пытанне анкеты: «Класічная «ваенная» літаратура для вас — гэта (аўтары, творы)» — Янка Брыль даў такі адказ: «Нашай класікай у «ваеннай» літаратуры мне бачацца ў паэзіі лепшыя вершы Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі, Аляксея Пысіна, а ў прозе — Васіль Быкаў, Іван Пташнікаў». Творы Пташнікава «неваенныя» не менш глыбокія, праўдзівыя, высокамастацкія, і не менш самабытныя. Ужо ў гэтым годзе таленавітая пісьменніца Людміла Рублеўская ў рэцэнзіі на зборнік прозы пісьменніка называе яго класікам. Сімптаматычна, што адзін з найбольш таленавітых нашых празаікаў як бы ад класікаў свайго пакалення перадаў гэта званне прадстаўніку наступнага пакалення, пакалення дзяцей вайны, а пісьменнік сённяшняга сярэдняга пакалення пацвердзіў як само сабою зразумелае.

І ёсць свая жыццёвая заканамернасць, унутрылітаратурная логіка, што Год кнігі адзначаецца не толькі юбілеямі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка, Янкі Брыля, Пімена Панчанкі, але і 80-гадовым юбілеем пісьменніка за іх маладзейшага, а сёння ўжо самага старэйшага пакалення майстроў слова Івана Пташнікава.



Яўген ГАРАДНІЦКІ

# ПАЭЗІЯ-2011: ЗЯМНОЕ І ЎЗВЫШАНАЕ

Мінуў яшчэ адзін год у гісторыі развіцця нацыянальнай паэзіі. У параўнанні з тым велізарным шматвяковым гістарычным шляхам, які яна прайшла ў сваім развіцці, гэта як быццам невялікі адрэзак часу. Таму адназначна адказаць на пытанне пра тое, чым ён, 2011-ты, кардынальным чынам адрозніваецца ад шэрагу папярэдніх, даволі складана.

Складанасць гэта абумоўлена перш за ўсё самой прыродай паэтычнай творчасці, тым, што ў ёй у аднолькавай ступені істотнымі з'яўляюцца і ўласцівасці анталагічнага характару, сувязі з глыбіннай архетыповай асновай нацыянальнага быцця, і імпульсы новага, эўрыстычнага пазнання рэчаіснасці, якія сведчаць аб неразрыўнай духоўнай паяднанасці паэзіі з бягучым момантам, з пастаянна зменлівай, рухомай сучаснасцю.

Паэзія паводле сваёй родавай сутнасці заўсёды арыентавана на раскрыццё ўнутранага свету асобы — суб'екта лірычнага перажывання. Для яе важней за ўсё выразіць у асаблівай мастацкай форме тое, з чым судакранаецца паэт менавіта ў дадзены момант свайго існавання. Аднак жа за гэтым перажываемым паэтам імгненнем вышэйшага духоўнага ўздыму, празарэння, адчування гарманічнай паяднанасці з усім светам адкрываецца значна больш абсяжная перспектыва. Імгненне паяднoўваецца з вечнасцю.

Па гэтай прычыне пры разглядзе створанага паэтам у канкрэтны часавы перыяд ёсць сэнс падключаць яго творы да шырэйшага кантэксту, суаднасіць іх з папярэднімі этапамі яго творчага станаўлення. Сапраўды, немагчыма з поўнай упэўненасцю сцвярджаць, што выказанае ў дадзеным творы належыць толькі часу яго афармлення ў завершаным выглядзе вершаванай формы. Верш, безумоўна, з'яўляецца ў большасці выпадкаў непасрэдным водгукам на адчутае і перажытае ў часавым крузе, блізкім да моманту яго напісання. Але пры гэтым аўтарам могуць выкарыстоўвацца і значна больш аддаленыя па часе ўражанні і асацыяцыі, увесь яго папярэдні жыццёвы і эстэтычны вопыт.

Найбольш поўна і цэласна створанае паэтам за даволі значны перыяд яго жыцця выяўляецца ў зборніках вершаў, кнігах. У пэўным сэнсе выніковымі варта назваць выбраныя творы, што звычайна з'яўляецца падсумаваннем зробленага за ўвесь час творчасці. У такіх выданнях у найбольшай ступені выяўляецца якраз фактар адбору, пэўнай іерархізацыі самім аўтарам свайго здабытку. Пры ўкладанні зборнікаў аўтарскі адбор таксама мае месца, хоць і не ў такой выразна выяўленай форме. Ён вызначаецца ў такім выпадку патрабаваннямі жанрава-тэматычнай і структурнай цэласнасці. Тое ж можна сказаць і пра асобныя публікацыі ў перыёдыцы, падборкі вершаў, цыклы. Яны таксама вызначаюцца пэўнай тэматычнай і кампазіцыйнай цэласнасцю, абумоўленай задумай, адзінствам лірычнага перажывання і настрою. Менавіта пра такія публікацыі можна з найбольшай пэўнасцю гаварыць як пра плён у год іх ажыццяўлення.

Думаецца, мэтазгодна спыніцца на кожным з вышэй згаданых відаў паэтычнай прадукцыі, паколькі ўсё гэта ў сукупнасці і ўтварае агульную карціну раз-

віцця нацыянальнай паэзіі на зрэзе сучаснасці. Тым больш, што ўсе гэтыя віды прадстаўлены даволі грунтоўна ў паэтычнай плыні мінулага года.

Выбранае па традыцыі выдаецца да юбілеяў аўтараў. Гэтая ў пэўным сэнсе фармальная нагода ўсё ж такі дастаткова важкая падстава для таго, каб творчасць паэта, які дасягнуў аднаго з жыццёвых перавалаў, была асэнсавана і ацэнена ў яе прадстаўнічай паўнаце. Пры гэтым трэба ўлічваць, што творы, якія прастаўлены ў кнізе выбранага, хоць і ствараліся на працягу ўсяго творчага жыцця паэта, усё ж менавіта ў год выхаду кнігі быццам ізноў, паўторна становяцца фактамі літаратурнага працэсу, набываючы як бы новае жыццё ў новым кантэксце.

Паэтычная традыцыя адчувальная ў вершах **Міхася Башлакова**, які выдаў кнігу выбранага «Віно адзінокіх» («Літаратура і Мастацтва»). У некаторых ягоных творах можна знайсці пэўныя тэматычныя, стылявыя, інтанацыйныя пераклічкі з папярэднікамі. Так, у вершы «Матчыны грыбы перабіраю...» даволі выразная блізкасць элегічна-роздумным інтанацыям Аляксея Пысіна. У вершы М. Башлакова перажываецца эмацыянальна вяртанне ў мінулае, у дзіцячыя гады, што ўспрымаецца з дыстанцыі жыццёвага вопыту. З пысінскім матывам звароту ў мінулае гэты верш яднае такое ж умудрона-даверлівае, прасветленае адчуванне.

Міхась Башлакоў — паэт, не схільны да буйных эпічных форм паэтычнага выражэння. Яго верш — гэта звычайна замалёўка-ўвасабленне якога-небудзь канкрэтнага адчування, якое выражае пачуццёвую, псіхалагічную, інтэлектуальную характэрнасць дадзенага моманту. Разам з тым гэтыя паасобныя моманты-празарэнні ўзаемна прыцягваюцца, утвараючы больш абсяжнае і разгорнутае сэнсавае адзінства. З гэтай прычыны асабліва ўдалымі паўстаюць у кнізе цыклы, у якіх невялікія па аб’ёме творы — вершы-замалёўкі, вершы-імгненні — спалучаючыся між сабой, утвараюць новую цэласнасць, пашыраючы такім чынам духоўную прастору паэтычнага свету аўтара.

Адзін з такіх цыклаў мае характэрную назву — «Восеньскія эцюды». Кожны верш у ім — гэта асобны момант жыцця, асобны погляд на прыроду і свет. У той жа час разам гэтыя творы прачытваюцца як своеасаблівы лірычны дзённік, аб’яднаны цэльнасцю асобы самога аўтара.

Кніга **Алега Салтука** «Дзве зары» («Мастацкая літаратура») — ёмістая на думкі, назіранні, плён душэўнай працы. Яна важная ў творчым жыцці паэта, у пэўным сэнсе выніковая. Таму патрабуе больш грунтоўнай гаворкі, чым гэта магчыма ў агульным аглядзе. Хочацца толькі заўважыць, што роздум А. Салтука скіраваны на самыя галоўныя пытанні чалавечага існавання, пранікае ў тыя сферы духу, дзе жыццё і смерць паўстаюць аднолькава істотнымі гранямі быцця.

Спадзяёмся, просім нешта ў Бога,
Узамен нічога не даём.
А яна ж канчаецца, дарога,
Што вядзе за мройны вакаём.

Хмарыцца нязводная трывога.
Вінаваціць нам няма каго,
Што ідзём усё жыццё да Бога
І ніяк не дойдзем да яго.

**Уладзімір Марук**... Гэтага блаславёнага Божай ласкай паэта не стала 23 студзеня 2010 года. Аднак паэты, як тыя зоркі. Іх святло ідзе да нас праз гады. Летась напісанае У. Маруком па-ранейшаму ішло да свайго чытача, саграваючы чыесьці душы паэтавымі думкай, пачуццём, настроем. Выйшла кніга, якую паспеў падрыхтаваць яшчэ сам аўтар і даць ёй самавітую, загадкавую назву — «Кудмень» («Літаратура і Мастацтва»). Яна рэпрэзентуе свет запаветных думак і адчуванняў У. Марука, яго пошукі існасці.

У даліне нашай існасці
Вецер вольнасці шугае.
Ды ніяк не можам вынайсці
Ключ,
што існасць адмыкае.

Праз якую столькі страчана
Думак, вобразаў і светаў.
Існасць блісне непрадбачана,
Як з-за воблака камета.

Да гадавіны смерці паэта былі надрукаваны вершы і ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Найбольш кранальны, па-марукоўску прачулы, стрыманы ў пачуццях і адначасна адкрыты, верш — «Ноч. Не спіцца. Чакаю святла...» Верш пра каханне і ўвогуле пра зямное існаванне, пра чалавечую душу. У ім многае выказана — самае запаветнае, з глыбіні душы, але многае застаецца таксама ў падтэксце, у прыхаваным, стоеным выглядзе. Усё не выкажаш словам. «Слоў баюся, як нематы, — // Раптам будуць яны не тыя...» — засцярагае паэт, выяўляючы тым самым сваё разуменне важкасці паэтычнага слова, аўтарскай адказнасці за яго.

Сярод шматлікіх зборнікаў, на якія наогул даволі багаты мінулы год, хацелася б вылучыць яшчэ адно выданне, якое вызначаецца арыгінальным афармленнем. Гэта калектыўны зборнік, у якім сабраны і празаікі, і паэты, прытым жанчыны. Між іх адзіны мужчына, як суаўтар. Асаблівасцю гэтай кнігі, якая і названа арыгінальна — «Кавалер и/і дамы» («Кавалер»), з'яўляецца яшчэ і тое, што яна двухмоўная. І фармат яе, і афармленне з кідкімі партрэтамі аўтараў — усё скіравана на тое, каб прыцягнуць увагу чытача. У такім праекце, на маю думку, ёсць свае станоўчыя бакі. Паэзіі ў нашых умовах, відаць, не шкодзіць рэклама. Не станем тут займацца рыторыкай і казаць аб тым, што сапраўдная паэзія застанецца сапраўднай у любых «апратках». Тым больш, што ў гэтым калектыўным зборніку ў яе беларускамоўнай частцы — два цікавыя, змястоўныя раздзелы: **Валерыі Куставай** і **Вікі Трэнас.**

Звяртаючыся да жанру паэмы, даводзіцца пашкадаваць, што ён займае ў сучасным літаратурным працэсе даволі сціплае месца. Магчыма, час вялікіх эпічных твораў у паэзіі, сапраўды, мінуў. Аднак што тычыцца ліра-эпічнай паэмы, то яна, як нам уяўляецца, усё ж такі актуальная і сёння. Якраз у гэтым напрамку надараюцца часцей за ўсё сапраўдныя ўдачы.

Да ліку іх трэба аднесці паэму **Міколы Мятліцкага** «Апалены золак» («Маладосць», № 1). Эмацыянальна-нервовы цэнтр твора — маналог Юрыя Міцкевіча, сына Якуба Коласа, які загінуў пад Масквой у 1941 годзе. Маналог звернуты да бацькі, радзімы, сучаснікаў. Рэальнае і ўмоўнае пяднаны пачуццём далучанасці да гісторыі, яе эмацыянальным, болевым успрыманнем.

У паэме выяўляюцца характэрныя прыкметы стылю М. Мятліцкага: перш за ўсё спалучанасць увасаблення рэальнасці ў зрокава-ўспрымальных і ў той жа час сімвалічных вобразах з узвышана-трагедыйным пафасам лірычнага прамаўлення, глыбокім пранікненнем у душэўны стан героя. «Мне сняцца сны аб Беларусі» — гэты купалаўскі радок гучыць рэфрэнам у вуснах паўсталага з нябыту героя, з'яўляючыся своеасаблівым ключом да тэмы адзінства нацыянальнай духоўнай прасторы.

Паэтычны відарыс падаецца ў выразна акрэсленай танальнасці, у кантрасным асвятленні:

Застаўся ў снезе дзесь пад Ржэвам
Крывёй акроплены акоп.
Там вецер вые немым спевам,
Вясной вада цячэ ўзахлёб.

Душа героя, якая цяпер назаўжды «жыве між зор», становіцца відушчай, усёпраніклівай, здольнай сумяшчаць праявы мінулага з празарэннямі будучыні.

Яна пяе на небнай Ліры,
Прад ёй палае зорак раць.
Яна ў свае дваццаць чатыры
Усё ж не хоча дагараць.

Не трак раз'юшанага танка,
Што на сыпчак сыры паўзе, —
Ёй бачны рэчка Балачанка
І бор у ранішняй смузе.

Тэму «Апаленага золаку» працягвае верш М. Мятліцкага «Праз столькі год і я наведаў вусце...» («Полымя», № 4). Дарэчы, у зачыне гэтага твора адчуваецца пушкінская элегічная інтанацыя гарманічнай ураўнаважанасці (згадаем: «Вновь я посетил...»). І гэта, мабыць, нездарма, паколькі гаворка вядзецца пра такога ж «сына гармоніі» — нашага народнага песняра Якуба Коласа, пра апеты ім славуты Вусцянскі грудок. У вершы М. Мятліцкага гэта гарманічная паўнаважкасць, устойлівасць быцця выяўляецца ў поўнай меры, хоць у ёй заўважаецца таксама і прадчуванне трагедыйнага:

Цвітуць на доле дзікія гваздзікі,
Стаіць вячыста сосен медных раць.
Камлі на сонцы бронзава гараць.
Тут некалі блукаў паэт вялікі,
Каб скарб жыцця да каліва сабраць.

Барвяніцца мядзведжая маліна,
Бруіць ракі лагодлівая плынь.
І над зямлёй зіхоціцца святлынь.
Тут Колас чуе шчэ жывога сына,
Наперадзе яшчэ самоты стынь.

Мікола Мятліцкі чуйны да ўсіх зломаў і зрухаў нашага трывожлівага часу, паэт, грамадзянскі і лірычны пафас якога заўсёды супрацьстаіць адчуванню катастрафічнасці быцця. Нязменныя пазітыўныя жыццёвыя каштоўнасці, устоі жыцця, яго асновы сцвярджаюцца ў творах у многім дзякуючы яго майстэрству жывапісання, выяўленню прадметнай паўнаважкасці, грунтоўнасці ўспрымання праяў жыцця ў экспрэсіўных, маштабных паэтычных вобразах. Вось, да прыкладу, як узвышана-паэтычна і ў той жа час зрокава-канкрэтна, выяўна паўстае ў адным з вершаў М. Мятліцкага горад яго юнацтва Мазыр:

Над Прыпяццю, на выспах крутабокіх,
З якіх відна усёй айчыны шыр,
Пад самыя пярэстыя аблокі
Ты ўзнёсся белым лебедзем, Мазыр.

Тут адкрываецца шырокая, неабсяжная перспектыва не толькі ў чыста фізічным, прасторавым сэнсе. Гэта таксама і духоўная перспектыва і шырыня паэтычнага бачання свету, у якім знаходзіць выражэнне ўсвядомленая пазіцыя паэта-грамадзяніна, патрыёта.

Нельга абысці ўвагай нізку вершаў М. Мятліцкага ў газеце «Літаратура і мастацтва» (№ 16, 22 крас.), якія кранаюць пякучым болем, узвышаюць душу высокай трагедыйнасцю. Тэма чарнобыльскай бяды для паэта не проста тэма, а жыццёвае наканаванне. Чытаць гэтыя вершы нялёгка, таму што ў іх выяўлена такая ступень душэўнай аголенасці, пачуццёвай напружанасці, якая не можа не выклікаць у адказ суперажывання, працы душы. Хочацца прывесці радкі такой вось пранізлівай і малітоўнай шчырасці, якія, па-мойму, не патрабуюць якога-небудзь тлумачэння-каментарыя; ён якраз мог бы парушыць унутраную раўнавагу гэтай споведзі-малення:

Атуліце мне сэрца, Палесся бары,
У суцішаны морак дасветны лясны,
Дакраніцеся з той дабядотнай пары
Да збалелай душы мяккай лапкай сасны.

Між амшэлых камлёў зырка стужку уплёў
Дзень-сіротнік, якому забыта сканаць:
Не далічаць далоні яго мазалёў,
Працай дужай нічога ім тут не кранаць.

Цераз вёрсты выгнання прывечу зямлю,
Дзе ў бясчассе зліліся гадзіны і дні.
Прыгарнуўшы душой, ад бяды затулю.
Хай свідруюць мяне, не яе, прамяні.

Сёмы нумар «Полымя» адкрываецца цыклам вершаў **Алеся Бадака** «Камяні». Наогул гэты цыкл можна было б назваць і паэмай, паколькі ўсе яго часткі сюжэтна звязаны між сабой і ўтвараюць пэўнае ідэйна-мастацкае адзінства. Гэта яшчэ адно сведчанне таго, што межы ў сучасным паэтычным дыскурсе паміж жанрам паэмы і іншымі формамі кампазіцыйнага спалучэння вершаваных твораў даволі рухомыя. Сучасная паэма вызначаецца якраз сцісласцю, лапідарнасцю, сэнсавай шматзначнасцю. У «Камянях» рэальная жыццёвая сітуацыя, якая праламляецца скрозь аўтарскую свядомасць, набывае рысы філасофскай прытчы пра сувязь чалавека з зямлёй.

Фабульную аснову складае аповед аб тым, як гараджанін купляе дачу, каб такім чынам судакрануцца з адвечным, з тым, што адпавядае яго прыродным схільнасцям, хоць і разумее, што ўжо не ў стане цалкам аддацца пад уладу клічу зямлі. Камяні, на якія аказалася шчодрай набытая зямля («...як аказалася потым, // лепш за ўсё там растуць камяні»), выступаюць сімвалам непераадольнай мяжы ў ладзе жыцця сучаснага чалавека, для якога існуе, як неабвержная дадзенасць, падзел на дзве, хоць і ўзаемаперасякальныя, але аўтаномныя сферы быцця — прыроду і культуру.

У творы А. Бадака шмат біблійных і агульнакультурных алюзій і рэмінісцэнцый, архетыпаў і сімвалаў. З рэальна-побытавага плана дзеянне пераключаецца ў метафізічную прастору, дзе асаблівае значэнне набываюць такія паняцці, як радзіма, род, далёкае, блізкае і г. д. Заканчваецца твор тым, што аўтарам прызнаецца непазбежнасць суіснавання чалавека ў двух прасторава-часавых вымярэннях — рэальна ўспрымаемым і метафізічна ўяўляемым. Спадарожнікі, якія едуць у цягніку ў адным кірунку, заняты кожны думкамі аб сваім, у кожнага з іх свая жыццёвая мэта, таксама як і розныя іх вытокі, «адпраўныя пункты». І ўсё ж жыццё збліжае людзей, дае адчуванне агульнай накіраванасці і мэтазгоднасці.

Тут было пра што думаць *здалёк*.
Рэдкіх фраз выпадковая роднасць.
Я з-пад Ляхавіч, ён — з-пад Гародні.
Кожны ехаў маўкліва ў свой бок.

Кожны вёз з сабой свой успамін.
За маўчаннем — і гэтак бывае! —
Не пачулі: цягнік прыбывае
На канечную станцыю — Мінск.

Адной з самых характэрных асаблівасцей творчай індывідуальнасці **Міхася Пазнякова** («Полымя», № 1) з'яўляецца, на наш погляд, натуральнасць спалучэння пранікнёнага лірызму з палымянай публіцыстычнасцю. Крэда паэта, яго творчая і грамадзянская пазіцыя выразна выяўляюцца як у сцвярджэнні важнейшых для яго духоўных каштоўнасцей (памяць пра бацькоў, вера ў радзіму, у нязломнасць і трываласць народнага духу), так і ў выказванні адносін да таго,

з чым ён не можа пагадзіцца, што не прымае ў жыцці. Рэалістычна малюючы запусценне ў закінутай вёсачцы (а пакінутыя вёскі, чалавечыя котлішчы, з якіх выветрыўся жыццёвы дух, — даўні боль паэта, яго пастанная трывожная тэма), М. Пазнякоў з пагардай і гневам звяртаецца да тых, для каго гэты паэтаў боль усяго толькі падстава для спекуляцый:

Што? Аддаём на пагібель?
Так пакрысе і ў прымус?
Змоўкніце, злыя агіды, —
Вечная Белая Русь!

Любоў да радзімы ў М. Пазнякова неадлучна ад сапраўднага інтэрнацыяналізму, ад пачуцця славянскага братэрства. Паэт знаходзіць цёплыя, прачулыя словы, звяртаючыся да Расіі. Пры гэтым ён удакладняе адрас свайго паслання — Расія для яго перш за ўсё вялікі рускі народ.

Любоўю моцнай і бязмежнай
(Душою тут не пакрывіў я),
Сын Беларусі незалежнай,
Люблю цябе, мая Расія.

Ды патлумачыць тут жа мушу
Пачуцці шчырыя такія:
Твае магнаты і чынушы —
Яшчэ далёка не Расія...

Так афарыстычна, сэнсава ёміста і завострана публіцыстычна выказвае М. Пазнякоў свае пачуцці, сваю грамадзянскую пазіцыі, сваю любоў. У гэтай важкай сканцэнтраванасці паэтычнага сэнсу выразна пазначаюцца адзнакі паэтычнага стылю, у якім грамадзянскасць паяднана з філасофскай глыбінёй і маральнай адкрытасцю.

Палымянская паэзія мінулага года традыцыйна баявітая ў адстойванні ідэалаў духоўнасці, дабра, чалавечай прыстойнасці. У вершах многіх паэтаў выразна выяўляецца непрыманне пошасці маскульту, нізкапробных падробак пад мастацтва. Паэзія як выразніца і зберагальніца духоўнасці няўтульна пачувае сябе ў сучасным свеце, аднак жа яна па-ранейшаму гатова актыўна супрацьстаяць спробам панізіць планку маральных і эстэтычных патрабаванняў і норм.

І паводка ачышчэння
Скіне шэрхлы слоўны друз,
Дачакаецца збавення
Ад брыдоты беларус,—

такім публіцыстычна адкрытым словам выказвае свае спадзяванні на збавенне ад «папсы» М. Пазнякоў.

З такім жа эмацыянальным непрыманнем, хоць і з меншай доляй упэўненасці ў магчымасць збаўлення ад усеўладдзя маскульту, піша пра гэту з’яву, у пэўным сэнсе утрыруючы становішча і завастраючы сітуацыю, **Мар’ян Дукса** («Полымя», № 2). На тэлеэкране, на вялікі жаль,

... не апосталы-празорцы,
не ціхай вёскі дзецюкі —
адны серыйныя забойцы
мільгаюць
і гвалтаўнікі.

Унутрана палемічны верш М. Дуксы «У пыле кніжныя паліцы...». Аўтар канстатуе ў ім зніжэнне цікавасці да мастацкага слова з боку чытачоў, змяншэнне чытацкай аўдыторыі. Аднак ён пры гэтым упэўнены ў тым, што сапраўднае высокае мастацтва, скіраванае да пазнання духоўных глыбінь чалавека, яго экзістэнцыйнай сувязі з сусветам, заўсёды застанецца запатрабаваным.

Мар'ян Дукса — паэт самапаглыблены, разважлівы, здольны на выяўленне тонкіх пачуццяў. Адна з яго лепшых якасцей — вострая назіральнасць, уменне ўхапіць і захаваць у вобразнай форме прыкметы сучаснасці. У вершы «Спальны раён — гэта мікрараён...» паэт дае яскравы малюнак жыцця гарадской ускраіны — у асобных дэталях, магчыма, яшчэ неўладкаванага, быццам часовага, але ўсё ж такі такога звычайнага, чалавечага. Яно паўстае ў яго будзённасці, звыклым кругабегу, з цяжкасцю паддаецца аналітычнаму асэнсаванню з боку саміх суб'ектаў працэсу. Пранікнуць у яго глыбінныя сэнсы якраз задача паэзіі, яе прызначэнне. М. Дукса, падрабязна спыняючыся на асобных дэталях гарадскога краявіду, разам з тым дае і абагульнены погляд на жыццё сучаснага чалавека. У гэтым поглядзе можна заўважыць і пэўную долю іроніі, з якой аўтар падыходзіць да ацэнкі з'яў навакольнага свету. Верш М. Дуксы заканчваецца такім іранічна-парадаксальным падсумаваннем: «Цяжка сказаць, тут ці весела жыць. // Самае важнае — выспацца можна».

Павечная знітаванасць аўтара і лірычнага героя з зямлёй, родным кутам, блізкімі людзьмі — адна з традыцыйных тэм беларускай паэзіі. Па-свойму яна раскрываецца ў падборцы **Казіміра Камейшы** («Полымя, № 5). Тэма вяртання ў апусцелы бацькоўскі дом, да сваіх жыццёвых вытокаў набывае экзістэнцыйнае значэнне, сведчыць пра духоўныя пошукі аўтара. Паэт, аддаючыся элегічным настроям, прымае рэальнасць як непазбежнасць, наканаванасць.

Сем вёрст марудных тупаў ад шашы,
Наніцаваны сумкамі і стомай.
А ў доме ні адной жывой душы,
Але жыве душа самога дома.

Кранае сваёй задуменнай, узнесенай да касмічных быццёвых вышынь, журбою верш К. Камейшы «Смуткам восеньскіх дзён...» Туга па маці зліваецца тут з роздумам над жыццём, сэнсам зямнога існавання. Вершы К. Камейшы маюць часта дыялагічны характар. Яны ўяўляюць сабой своеасаблівую размову-дыялог паэта і з адсутнымі, і з тымі, хто знаходзіцца поруч. Мэта такой размовы знайсці перш за ўсё паразуменне з уласнай душой.

Нізка вершаў «Паданні» **Віктара Гардзея** («Полымя», № 4) адметна тым, што аўтар, засноўваючы сюжэты сваіх твораў на легендарным матэрыяле, раскрываючы паэтычны сэнс этымалогіі асобных слоў, разам з тым вельмі дакладны ў перадачы прыроды і сутнасці выяўляемых ім з'яў нацыянальнага быцця. «Адкуль рэчка Лань», «Хамяк» — у гэтых вершах у паэтычны аповед пранікае думка-трывога пра сучасны стан прыроды, экалагічныя пагрозы, звязаныя з гаспадараннем на зямлі чалавека. Распавёўшы легенду аб тым, як у галодны год збожжавыя запасы хамякоў ураталі людзей ад голаду, паэт звяртае ўвагу на тое, што цяпер самы час ратаваць акурат гэтых звяркоў.

Трапляюць без меры ў раллю аміяк
Ды розныя там пестыцыды.
Знікае паўсюль легендарны хамяк,
Бяднеюць, дзе жыў, краявіды.

Ад веку шматлікім быў мірны звярок,
Цяпер — патрабуе аховы.
Прайдзіся паўз жыта, паўз яр ці лясок —
Не бачна слядоў хамяковых.

Камусьці можа падацца такі стыль выказвання занадта будзённым і празаічным. Толькі што гаварылася пра паэтычныя легенды і раптам — проза жыцця, выказаная амаль што па-газетнаму дзелавым стылем. Аднак, заўважым, што тут магчыма больш паэзіі — рэальнай, жыццёвай паэзіі! — чым у якіх-небудзь штучных постмадэрнісцкіх вершаваннях-экзерсісах.

**Віктар Шніп** апублікаваў у мінулым годзе некалькі цыклаў балад («Маладосць», № 2; «Полымя», № 6). Героі яго балад як постаці аддаленай ад нас, так і больш блізкай гісторыі: пісьменнікі, грамадскія дзеячы, вучоныя... Балады В. Шніпа, прысвечаныя выдатным людзям Беларусі, вызначаюцца сваёй жанравай своеасаблівасцю. Гэта творы перш за ўсё лірычныя, у іх выражаецца галоўным чынам аўтарскае бачанне той або іншай асобы, яе ролі ў нацыянальнай гісторыі. Нельга, аднак, сказаць, што тут пануюць чыста суб’ектыўнае ўспрыманне і суцэльная лірычная эмоцыя, хоць, з другога боку, гэта і не аб’ектывізаваныя накіды партрэтаў.

Віктар Шніп распрацаваў арыгінальную аўтарскую баладную форму, у якой галоўны акцэнт прыпадае на раскрыццё духоўнай сувязі паміж суб’ектам і аб’ектам паэтычнага твора. Балады В. Шніпа сінтэтычныя па сваёй жанравай прыродзе. Яны напоўнены шматлікімі рэаліямі, дэталямі, падрабязнасцямі, якія паўнаважка прадстаўляюць кантэкст гістарычнай эпохі. І ў той жа час гэта, па сутнасці, своеасаблівыя паэтычныя маналогі, дзе дамінуе голас аўтара, паэтычныя пасланні, з якімі ён звяртаецца да сваіх герояў-адрасатаў. Асаблівая набліжанасць, духоўная паяднанасць аўтара з героямі выражаецца тут і праз граматычную форму займенніка другой асобы. Тым самым дасягаецца своеасаблівы эфект двухбаковага выяўлення героя — знутры і звонку, праз спалучанасць асабовага і таго, што ўласціва «іншаму».

Менавіта такі падыход дае В. Шніпу магчымасць выявіць вобразы герояў балад не ў іх забранзавеласці і манументальнасці, а як вобразы жывых людзей у пэўныя моманты іх зямнога існавання. Краявід і духоўная прастора становяцца пры гэтым быццам агульнымі для аўтара і героя, прасякнутымі адзінай настраёвасцю, як гэта добра выявілася ў «Баладзе Генадзя Цітовіча»:

Сцежка дадому цябе саграве,
Быццам бы песня, што маці спявае
Ціха і ўзнёсла, як моляцца Богу.
Светла ўплятаецца сцежка ў дарогу,
Дзе, нібы золата, промні саломы,
Нібы ў нябёсы, умерзлыя ў снег.

Адна з балад В. Шніпа прысвечана памяці Янкі Сіпакова, які сам быў выдатным майстрам гэтага жанру, аўтарам славутага «Веча славянскіх балад». Адыход з жыцця Янкі Сіпакова ў 2011 годзе — балючая страта для беларускай паэзіі.

У сваіх баладах В. Шніп аднаўляе нашу гістарычную памяць, робіць яе асабовай, рэальнай, і ў той жа час міфалагізаванай і паэтычна ўзвышанай. І ў гэтым сэнсе ён прадаўжае справу аўтара «Веча славянскіх балад», які імкнуўся «ажывіць нашу славу ў баладах, // Тую далёкую, нібы зару...».

У баладах В. Шніпа пераважае, несумненна, лірычны пачатак, дамінуе суб’ектыўнае, аўтарскае бачанне. Аднак жанр балады ўсё ж вымагае пэўнай аўтарскай адстароненасці. І таму ёсць некаторае шкадаванне, што паэт апошнім часам засяродзіўся, па сутнасці, выключна на адным жанры, захапіўшыся яго творчымі магчымасцямі. Якімі б ні былі гэтыя творы яскравымі, пазнавальна аўтарскімі, усё ж такі думаецца, што В. Шніп, для якога заўсёды быў уласцівы творчы пошук, не можа абмежаваць сябе пэўнымі жанравымі рамкамі.

Віктар Шніп — лірычны паэт, паэт суб’ектыўнага, імпрэсіяністычнага ўспрымання свету. Вядома ж, для яго завузкія рамкіаднойчы знойдзенага. Гэта пацвярджаюць і вершы паэта, змешчаныя ў «Полымі» (№ 6) побач з баладамі. Гэта лірыка імпрэсіяністычная, узвышаная, элегічна-летуценная. Як, напрыклад, вось гэты верш, які хочацца працытаваць цалкам:

Нябачны хтось іграе на раялі,
Ці сам раяль іграе, як жывы,
Каб вы, вясновыя, не сумавалі,
Як у нябёсах мёртвых журавы,

Надоўга пакідаючы Айчыну,
Трывожна плачуць, плачуць і лятуць,
Як лісце пачарнелае рабіны
Ляціць, нібы ў нябёсы, у ваду,
Дзе хтось нябачны грае на раялі,
Што створаны з аблокаў і дажджу,
І музыка плыве, нібыта хвалі,
І б'ецца, як аб бераг, аб душу...

Зрэшты, публікацыя В. Шніпа ў газеце «Літаратура і мастацтва» (№ 6, 11 лют.) засведчвае, што паэт — майстар не толькі ў жанры балады, але і хоку. Асабліва ўдалыя творы гэтага няпростага жанру ў цыкле «На могілках у Гарошкаве». Гэта вострыя назіранні, у якіх схоплены імгненні быцця, і разам з тым гэта вершы-роздумы, якія ўражваюць сваёй глыбінёй, філасофскай значнасцю. Імгненне і вечнасць судакранаюцца тут у непасрэднасці паэтычнага адчування.

Падарожнічае ў прасторы і часе лірычны герой **Валянціна Лукшы** («Полымя», № 7), звяртаючыся да жыццёвых вытокаў, у той час, які ўяўляецца ўжо, у параўнанні з меркамі асобнага чалавечага жыцця, гістарычным. «Дрыбінскія шапавалы», «Выцінанка» — вершы, у якіх час адлюстраваўся ў выніках працы народных майстроў, у тых рэчах, якія нясуць у сабе іх адносіны да свету, іх бачанне прыгажосці. Гэтыя рэчы — «дрыбінскія слынныя валёнкі», карункавыя ўзоры выцінанкі — захоўваюць часцінку душы сваіх стваральнікаў. Экфрасіс, з дапамогай якога паэт перадае характво твора народнага мастацтва, быццам ажыўляе малюнак, прадстаўляе яго як увасабленне той рэальнасці, якая была крыніцай натхнення аўтара: «Вунь лебедзі мілуюцца на люстры // Вады маўклівай возера глухога... // Сава ўзнялася і крыляе шустра — // Злавіць імкнецца галубка ляснога...».

Прастора ў паэтычным свеце В. Лукшы таксама прадстаўлена ў розных вымярэннях. Яна можа лакалізавацца ў якісьці нявялікі локус — мясціну, асабліва дарагую і блізкую сэрцу паэта. Так адбываецца ў вершы «Студня», дзе прастора абмяжоўваецца традыцыйным месцам збору вяскоўцаў — «Ля студні камлачок зямлі, як плошча, — // Тут тайну можна людзям давяраць, // Тут праўдай па вачах зласліўцам хвошчуць // І шлях надзейны могуць падказаць». Аднак гэты «камлачок зямлі» можа пашырацца і да вельмі значных абсягаў. В. Лукша выяўляе такую ж зацікаўленасць падрабязнасцямі жыцця, дэталямі, якая ўласціва яму пры апісанні роднага свету, і тады, калі ён звяртаецца да далёкіх, але духоўна асвоеных, краёў і земляў. Таемнасць і прыгажосць свету раскрываецца лірычнаму герою праз усведамленне ўзаемнай паяднанасці ўсіх праяў быцця:

За кветкаю пунсовай доўга-доўга
Ісці і дзень і ноч на край зямлі...
Я сведкам дзіва быў:
                у дэльце Волгі
Спякотным жніўнем лотасы цвілі.

Падборка вершаў **Міколы Маляўкі** ў «Полымі» (№ 11) названа «Радаводнае дрэва». Перш за ўсё звяртае ўвагу верш «Хто падае́ нам...» шчырым зваротам-прызнаннем да продкаў, журботнай думкай аб тым, што нацыянальная гісторыя спазнала нялёгкія часы і многія асобы вяртаюцца да нас запозднена. Паэт жадае аддаць ім усім — і вядомым, і безыменным — даніну павагі, ушанавання і павініцца перад іх памяццю:

Без вестак
І без імені прапаўшыя,
Яны вяртаюцца ў наш час.
Даруйце, продкі нашы, прашчуры,
Што позна мы
Пачулі Вас.

Адчуванне радаводнай сувязі з людзьмі, радзімай, роднай зямлёй — асноўная тэма вершаў М. Маляўкі. Паэт маркоціцца над тым, што «сцежкі тыя, па якіх хадзіў // Некалі з бацькамі, на зямлі // Дождж размыў, травой зараслі».

**Лявон Валасюк** змясціў у другім нумары «Полымя» падборку вершаў-верлібраў. Верлібр не такая і частая з'ява ў сучаснай беларускай паэзіі. Верлібры Л. Валасюка як быццам без якіхсьці асаблівых паэтычных аздоб, без залішніх мудрагельстваў — аб простым, паўсядзённым быцці, якое, тым не менш, мяжуе з вечным. Адзін з найбольш сэнсава ёмістых верлібраў — «Калоссе».

У сучаснай паэзіі можна вылучыць дзве асноўныя тэндэнцыі выяўлення светаадчування. Адна з іх вядзе да настальгічнага ўспрымання мінулага, элегічнага роздуму над хуткацечнасцю жыцця, звароту да тых духоўных каштоўнасцей і запаветаў, якія вызначалі сабой шляхі развіцця ў эпоху, якая ўжо становіцца гісторыяй. Другая ж тэндэнцыя звязана з выяўленнем устойлівасці быццёвага існавання ў наш час, скіравана на раскрыццё духоўнага патэнцыялу сучаснасці, выяўленне перспектыў далейшага развіцця грамадства, чалавека. Безумоўна, паміж гэтымі двума лініямі не існуе непераходнай мяжы, яны часта ўзаемапераcякаюцца ў сучаснай паэзіі.

Чытаючы вершы **Уладзіміра Мазго** («Полымя», № 6) заўсёды зараджаешся мажорным настроем, які ад іх сыходзіць, энергетыкай жыццепрыняцця, якой яны прасякнуты. Што гэтаму спрыяе? Можа, лёгкая інтанацыя радка, акцэнтаваная рыфма, якая гучыць бадзёра і задзёрыста («адрадзіла — Радзівілаў»; «мелодыя — Мефодзія» і г. д.)? Або іх лірычна-песенная характэрнасць, ці ледзь прыкметная іронія? Мабыць, усё гэта разам і ствараe непаўторны стыль У. Мазго. Несумненна, што практыка і паэта-песенніка, і дзіцячага паэта аказвае пэўнае ўздзеянне на адметнасць яго стылю. Уражваюць паэтычныя знаходкі, запамінальныя вобразы ў «Дыптыху лета»:

Авансам мора раздае
Прызнанні шчырыя свае

І страсна б'ецца аб прычал
Твайго дрыготкага пляча.

Дзівоснай музыкай гучыць,
Што сэрцы здолела злучыць.

А навальніца, як тыгрыца,
Раве, шалеючы, над Рыцай.

«Мірскі замак», «Берасцянка», «Паклон, Нясвіжчына...», «Аўгустоўскі канал» — вершы У. Мазго, у якіх паэтычна асвойваюцца абсягі радзімы; дух мінуўшчыны, гістарычнай велічы спалучаецца з сучаснасцю.

У вершах **Юркі Голуба** («Полымя», № 3) пульсуе па-юначы неўтаймоўнае пачуццё, якое захліствае ўстойлівыя межы слова, пашыраючы яго семантычныя, вобразна-выяўленчыя магчымасці. Метафарычна ёмістае слова Ю. Голуба здольнае да ўвасаблення розных бакоў рэчаіснасці ў нечаканых ракурсах бачання. Верш «Да партрэта сланечніка»— не толькі замалёўка з натуры. У ачалавечаным, персаніфікаваным вобразе сланечніка раскрываецца сімволіка экзістэнцыйнай трываласці і жыццёвай паўнаты. Праз гэты сімвал перадаецца энергетыка быццёвай невычарпальнасці («...Дзе дзірван задрамаў, // Ці ўчынялася ляда, // Сам сябе нездарма // Ён у глебу закладваў. // А пасля напралом // Лез груваcтка праз цемру...») З такой жа выяўленчай сілай паэт узнаўляе не толькі прыродныя з'явы, але і праявы духоўнага жыцця чалавека. «Мазгавая атака» — твор, у якім уважліва-спагаднаму погляду на інтэлектуальнае жыццё спадарожнічае лёгкая іронія.

Паэзія творыцца паэтамі, а паэтычная агульнасць падтрымліваецца садружнасцю паэтаў, духам сяброўства, узаемаразумення. Таму вершы пра паэтаў-сяброў,

спадарожнікаў, паплечнікаў — гэта заўсёды сведчанні жыццяздольнасці і трываласці паэтычнага таварыства.

«Акардэон» («Полымя», № 9) — верш **Казіміра Камейшы**, прысвечаны памяці сябра-земляка паэта Хведара Чэрні. З верша паўстае жывы, летуценны вобраз паэта, якога ўжо даўно, на жаль, няма сярод нас. Як гучыць у прасторы памяці паэтаў акардэон, яго нязменны спадарожнік:

Ці ў даўняй згадцы ці на здымку
Заўсёды бачу, як праз сон:
Ідуць удвух яны ў абдымку —
Паэт і ён, акардэон.

Пранікнёны верш прысвяціў памяці адышоўшых у вечнасць сяброў-паэтаў Уладзіміра Марука і Алеся Пісьмянкова **Навум Гальпяровіч** («Полымя», № 11). Аблічы паэтаў, іх непаўторныя галасы ўсплываюць за журботнымі радкамі верша.

Праплылі, нібыта крыгі,
Па цішы вясновых вод...
Я чытаю вашы кнігі
Ўжо без вас каторы год.

І каб ведалі вы самі,
Што, схінуўшы галаву,
Сёння вашымі радкамі,
Бы ўспамінамі жыву,

Што над ціхім полем голым,
Дзе асенні ліст дрыжыць,
Для мяне гучыць ваш голас,
Што ўжо з вечнасці ляціць.

Прыкметы прыроднага свету пададзены ў танальнасці, адпаведнай агульнаму мінорнаму настрою верша, яны быццам таксама нясуць у сабе матыў рэквіема.

Н. Гальпяровіч, што пацвярджае і палымянская падборка, паэт, які чуйна фіксуе душэўныя зрухі, знаходзячы ім адпаведныя праявы прыроднага кругабегу. Адзін з лепшых лірычных вершаў у падборцы Н. Гальпяровіча — «Лісток кляновы апячэ далонь...» Тэма радзімы таксама асвойваецца паэтам лірычна, праз пачуццёвае судакрананне («Пакахаў, як жанчыну, Айчыну, // Дзе мой родны, мой полацкі кут»).

У падборцы **Анатоля Шушко** («Полымя», № 11) варта вылучыць верш, невялікі па сваім аб'ёме, усяго з васьмі радкоў, які, аднак, змяшчае ў сабе вялікі паэтычны зарад, напоўнены пачуццём жыццёвай энергіі, прасякнуты адчуваннем радасці жыцця і жыццёвай умудронасцю. Паэт падштурхоўвае сваіх чытачоў зарадзіцца гэтай жыццядайнай энергіяй, звяртаючыся да іх з пэўнай доляй усмешлівай іранічнасці, за якой прыхоўваецца шчырая захопленасць:

Якое шчасце! Сочыцца прырода!
Якая мудрасць, згода і нагода
У існасці няўрымслівай — вясне!
Усё тады ва ўладзе і цане.

Надыхайцеся ж ёю, верхагляды,
Каб у душы запанаваў парадак,
І наталяйцеся жывільным сокам,
Глядзіце не звысоку, а зглыбоку.

А. Шушко — паэт-словатворца, які верыць у творчую жывільную сілу паэтычнага слова, у яго здольнасць прыадчыняць перад чалавекам новыя, неспазна-

ныя гарызонты. Мова ўспрымаецца ім як «радаслоўнае дрэва», якое шуміць над Айчынай сваёй лістотай.

Звяртаючыся да рэалій навакольнага свету, **Васіль Макарэвіч** прадстаўляе іх у сваіх вершах («Полымя», № 10) у вобразна-пластычнай форме, надаючы ім пры гэтым непаўторнае адценне незвычайнасці, нават казачнасці. Так, напрыклад, малюецца ім экспрэсіўнымі фарбамі, буйнымі мазкамі карціна тарфянога пажару — як з’ява сусветнага маштабу, калі, ахінутае полымем, «кудысьці ў прорву, як на дно, // Ляціць карчэўе васьміногае». Карціна, убачаная паэтам, паўстае відовішчам, якое набывае ў нейкім сэнсе апакаліптычныя рысы:

І голай пусткаю, дзе цень
Сарвацца з месца парываецца,
Бяжыць па шэрым прыску дзень,
Пакуль у пекла не праваліцца.

І ў той жа час выява паварочваецца іншым бокам, адкрываецца ў сваёй неспазнанай чарадзейнасці: «І недзе там сваёй чаргой // Не жар, а груды, сама меншае, // Брыльянтаў, срэбра качаргой, // Нібы скупеча, перамешвае».

Дасканалы ўзор паэтычнай казкі-мроі ўяўляе сабой верш В. Макарэвіча пра лясную красуню сыраежку, што паўстае паненкаю, якая ля хваіны шукае сваю ларнетку, што «знячэўку выпусціла з рук». Казачнае, прасвечанае добрай усмешкай аўтара, спалучаецца з рэальным, і тым самым свет паўстае ў сваёй узвышанай красе, дзівоснай непаўторнасці:

А пад раскосаю асінкай,
У тым прасмоленым ляску,
Ларнетка ранішняй расінкай
Блішчыць іззяе на лістку.

Убачыць цудадзейнае ў звычайным жыцці — прызванне паэта. В. Макарэвіч умее і ўбачыць гэта і перадаць, выявіць у ёмістым метафарычным вобразе. Убачыць і ўявіць, напрыклад, вось такое: «Над сціхатою задушнай // І астроўком ярыны // Звалены ў груд, нібы ў крушню, // Спяць перуны». Так перадаецца малюнак летняга спякотнага дня з прадчуваннем будучай навальніцы.

Увагай да пабытавай дэталі, да факта рэальнай паўсядзённасці вызначаецца творчасць **Фелікса Баторына**. Рэаліі быцця, трапляючы ў сімваліка-міфалагічны кантэкст, засвойваючыся псіхалагічна, становяцца з’явамі паэзіі. Яскравы прыклад таму — верш «Зіма і сцюжа на двары. Зіма і сцюжа...»

Зіма і сцюжа на двары. Зіма і сцюжа.
І хохлік коціцца з гары, як белы кот.
Брыкет падмок, але гарыць. Дыміць не дужа.
І каля печы на вядры макрэе лёд.

Маўчы, маўчы, не гавары. Не трэба словаў.
Няхай завейныя віры туманяць даль.
Пяюць задумліва вятры. З іх спеўнай мовы
Цячэ, як плынь, у свет стары сусветны жаль.

Пад тыя песні выць ваўку, кугакаць соўцы,
А нам заснуць на лежаку — пры боку бок.
Прыснім вясну, прыснім раку, што песціць сонца,
І салавейку, што шпаку задаў урок.

У вершах **Яўгена Хвалея**, змешчаных у восьмым нумары «Полымя», выразна абазначаюцца два прасторавыя кантрапункты: родны кут, дарагая сэрцу паэта Стаўбцоўшчына, Нёман, Налібокі — і ўражанні з далёкай вандроўкі ў замежжы, увасобленыя ў цыкле «Вершы з Міжземнамор’я». Родны край — тут і боль паэтаў,

і радасць. У вершы «Дарога на Стоўбцы» выяўляецца і сум, і ў той жа час удзячнасць паэта за тое, што ён у родных мясцінах змог адчуць духоўнае ўзрушэнне, «з сабою змог тут сустрэцца, // Нібы з маці ў маленстве // На роснай мяжы».

Характэрнай асаблівасцю замежнага цыкла з'яўляецца тое, што паэт, знаходзячыся далёка ад радзімы, захапляючыся цудоўнымі экзатычнымі краявідамі, не парывае ў той жа час духоўнай сувязі з родным кутам. Па сутнасці, асноўнай тэмай дадзеных вершаў якраз і з'яўляецца повязь з роднай зямлёй, якая дае аб сабе знаць ва ўсе моманты жыцця, і, магчыма, яшчэ больш востра адчуваецца ў аддаленасці. У вершы «Ластаўкі над Барселонай», назіраючы за палётам птушак, паэт думае аб тым, што «ластаўкі рыхтуюцца дамоў // Туды, адкуль закінуў мяне вецер: // У родны край шпакоў, сініц, буслоў...»

Ва ўсіх перыядычных выданнях побач з паэтамі старэйшых пакаленняў актыўна друкуюцца маладыя творцы, тыя, для каго дарога ў чароўны свет паэтычнага слова толькі пачынаецца. У пэўным сэнсе яны знаходзяцца нават у лепшых умовах, чым іх папярэднікі. Сёння больш магчымасцей для аператыўнага выдання зборнікаў. Тым самым значна скарачаецца дыстанцыя да чытача, што ў сваю чаргу спрыяе хутчэйшаму станаўленню голасу паэта, яго больш упэўненаму адчуванню сябе ў кантэксце сучаснага літаратурнага працэсу.

Першы нумар часопіса «Полымя» за 2011 год адкрываецца вершамі **Алеся Бараноўскага**, тады студэнта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны. А ён, як аб гэтым сказана ў суправаджальнай нататцы, аказваецца, ужо аўтар дзвюх паэтычных кніг («Чуйнае акно», 2008; «Вясляр», 2010). Можа, яшчэ не ўсё адстаялася як мае быць у вершах А. Бараноўскага, магчыма, малады паэт яшчэ толькі на подступах да знаходжання свайго ўласнага голасу, асабовай непаўторнасці, аднак яго падборка робіць добрае ўражанне, паказвае, што гэта сапраўды здольны паэт са значным патэнцыялам развіцця. Тэматычная шырыня, гнуткасць і рухомасць формы, непасрэднасць лірычнага прамаўлення — усё гэта дае спадзяванне на тое, што ў А. Бараноўскага добрая паэтычная будучыня.

У падборцы А. Бараноўскага запыняе ўвагу верш «Успамін пра вайну». У ім паэт здолеў выказаць свае адносіны да даўно мінулай вайны, якая для яго пакалення з'яўляецца ўжо гісторыяй. Нават такая вялізная часавая дыстанцыя не перашкодзіла маладому аўтару сказаць пра вайну па-свойму, з лірычнай пранікнёнасцю і светлай журботай — як пра тое, што самым непасрэдным чынам звязана, знітавана з яго ўласным жыццём.

Абтрушу валасы ад пялёсткаў вішнёвае квецені,
Развярэджу ўспаміны што мне нагадалі яны?..
Праляцелі гады, прамільгнулі, а мы не прыкмецілі,
Быццам сам я учора вярнуўся з крывавай вайны.

Год за годам сваю вышыванку ладуе сумёціца:
Нараджэнне пазначыла крыжыкам, нулікам — смерць.
Перамога у сны партызанскаю песняю просіцца.
Хоць і нулікаў болей у войнаў, ды каб іх не мець!

Ахінае пяшчотаю май, дзень угрэты, замаены,
І нікуды не дзецца ад гэтай салодкай маны.
Хмельным водарам траў, як ніколі, чамусь, адурманены,
Быццам сам я учора вярнуўся з крывавай вайны.

Штосьці тут, можа, і ад літаратурнай традыцыі, але і асабовая шчырасць, пачуццёвая непасрэднасць адчуваюцца — а гэта галоўнае. Музычная, песенная танальнасць таксама надаюць вершу пэўную адметнасць.

Водсветам Вялікай Айчыннай вайны асветлены верш **Станіслава Валодзькі** «Партызанскія кастры» («Полымя», № 5). У ім рэальныя прыкметы знітаваны з характэрнай для гэтага паэта канцэптуальнай метафарычнасцю. Вобраз пар-

тызанскіх кастроў успрымаецца і ў яго рэальным, прадметным увасабленні, і ў сімваліцы пазачасавага, вечнага.

Дымкі, як сцежачкі, віліся,
Ляцелі ўвысь іскрынак восы,
Што і дагэтуль засталіся
Ў нябёсах.

Нечаканыя вобразныя ракурсы, кантрасныя спалучэнні прадметнага і ўмоўнага надаюць вершам С. Валодзькі індывідуальную стылёвую характэрнасць. Расказ пра тое, як паэт займаўся калісьці камінарскай справай, чысцячы комін роднай хаты (верш «Камінар») быў бы няпоўным, не такім эмацыянальна ўражлівым і маляўнічым, калі б ён не меў такога завяршэння, у якім прыкметы рэальнага сплятаюцца з вобразнасцю паэтычна ўзвышанай, метафарычна трансфармаванай:

... Ў жыццёвых клопатах спрадвечных
аб тым найлепш мне ўспамінаць,
калі блішчыць вачамі вечар,
нібыта ў сажы камінар.

Вершы **Таццяны Мушынскай**, змешчаныя ў «Полымі», № 12, вызначаюцца спалучэннем лірызму і філасафічнасці. Інтымная тэма, як наогул цэнтральная ў «жаночай паэзіі», раскрываецца ў вершах паэтэсы ў сваёй падключанасці да экзістэнцыйнага вопыту асобы. Таму так часта вершы Т. Мушынскай змяшчаюць у сабе пытанні, заканчваюцца запытаннем. Гэта сведчыць пра няспынны пошук аўтара, які засноўваецца перш за ўсё на індывідуальным успрыманні быцця. Экзістэнцыйныя пытанні, якімі задаецца лірычная гераіня, скіраваны на высвятленне сутнасці чалавечага жыцця ў яго самых пагранічных выяўленнях.

Што значыць шчасця міг або гады,
Што значыць боль, знявагі, мукі
Прад тайнаю знікнення назаўжды,
Прад безданню заўсёднае разлукі?

Псіхалагічнае і прыроднае ў паэзіі Т. Мушынскай суіснуюць у адной прасторы, спалучаючыся з дапамогай паэтычнай метафары. «Душэўны шторм» прыпадабняецца сапраўднаму разгулу прыроднай стыхіі. Прырода вучыць душу цярплівасці, спакойнаму прыманню хады жыцця.

Магутнасць водаў
грозны шторм шпурляе,
Кружляе хіжае,
злавеснае крыло...
А ранкам хваля гэтак светла ззяе,
Нібыта ўчора шторму не было.
*(«Літаратура і мастацтва». № 13, 1 крас.)*

У палымянскай падборцы вершаў **Ніны Маеўскай** (№ 3) звяртае на сябе ўвагу верш «Ах, сонейка гаючае, ратуй...» — сваёй пяшчотнай замілаванасцю, элегічнай прасветленасцю пачуцця. Гэта верш-маленне, звернуты да сусвету, яго жыццядайных асноў:

Ах, сонейка гаючае, ратуй
Маленькую зялёную хваінку,
Што мкнецца ўвысь, каб з небам гаварыць.
Стаіць яна ў бары цяністым тут.
На гліцы завушніцамі расінкі.
Прашу ёй промнік ранні падарыць.

Гэтая прачулая і кранальна наіўная інтанацыя, на якой трымаецца верш, ідзе ад глыбокага асабістага ўспрымання навакольнага свету, ад адчування паэтэсай сваёй душэўнай неаддзельнасці ад агульнага быццёвага парадку.

Успрыманне свету скрозь прызму асабістага, інтымнае з ім судакрананне характэрна для паэзіі **Таццяны Сівец**. Адметнасцю яе мастацкага свету з’яўляецца яго ўскладненасць, напоўненасць душэўнымі зрухамі, антаганізмамі. Адпаведна гэтаму і паэтыка верша выбудоўваецца ў нервова-імпульсіўным алгарытме. У верш пранікаюць размоўныя інтанацыі, ён насычаецца ўнутраным дыялагізмам. Падборка Т. Сівец у «Маладосці» (№ 4) змяшчае творы з шырокім дыяпазонам гучання — ад верлібраў да вершаў, дзе выразна прысутнічае музычны пачатак (напрыклад, «Словы — вада, ды, калі мы ішлі на дно...»).

Рытміка-інатанацыйная, сінтаксічная разняволенасць верша Т. Сівец звязана з аўтарскімі інтэнцыямі, з імкненнем выявіць у творах складанасць чалавечага пачуцця, няпростасць узаемадачыненняў паміж блізкімі людзьмі. Чытаючы адзін з найбольш характэрных у гэтым плане твораў — «Самы праўдзівы верш» — пераконваешся ў тым, што форма тут дакладна адпавядае зместу. Яна — не застыглая «структура», а ўвасабленне жывой і непасрэднай размовы, якая доўжыцца менавіта ў дадзены момант, і таму можа тут жа ўдакладняцца, падлягаць пэўным карэктывам, змяшчаць самапярэчанні:

Нават калі б гэты горад змяшчаўся ў ракавінцы смаўжа
І не было куды ўпасці ні яблыкам, ні дажджам,
Я ўсё адно змайстравала б сабе сцяну, каб не дакрануцца, не дакрану...
Маню!
Мне адменна знаёмае гэтае рамяство:
Знітоўваць надзеі, каб зраніцы зноў — па швох!

Жанравай адметнасцю, своеасаблівасцю вершаванай формы вылучаюцца творы **Таццяны Беланогай** («Маладосць», № 2). Ва ўступе, які суправаджае публікацыю, Віка Трэнас называе іх тэкстамі, падкрэсліваючы, што «гэта не вершы і не песні ў традыцыйным разуменні». Сапраўды, дадзеныя творы займаюць у пэўным сэнсе прамежкавае становішча паміж уласна паэзіяй і песеннай творчасцю, паколькі іх аўтар з’яўляецца бардам. У творах, змешчаных у падборцы Т. Беланогай, адчуваецца, несумненна, скіраванасць на музычнае выкананне. Гэта тэксты, у якіх музыка нібыта ўжо прысутнічае, гучыць у сінтаксічнай спалучанасці слоў. Разам з тым неабходна заўважыць, што ў дадзеным выпадку перад намі не звычайныя песенныя тэксты. Вершаваныя творы Т. Беланогай валодаюць істотнымі якасцямі, якімі вызначаецца іх паэтычны статус. У іх значную ролю адыгрывае медытатыўна-філасофскі пачатак. Яны маюць спецыфічную форму (наяўнасць паўтораў, адсутнасць рыфмы). Вершы Т. Беланогай, адпавядаючы пэўным агульным патрабаванням бардаўскай паэзіі, выяўляюць разам з тым творчую індывідуальнасць маладой паэтэсы.

Да стылёвай плыні «жаночай паэзіі» можна аднесці вершы **Ірыны Чарняўскай**, паколькі ў іх дамінуе тэма кахання, тэма знаходжання сябе ў каханні. Варта, аднак, адзначыць, што творчы патэнцыял гэтай здольнай паэтэсы значна шырэй адной асобна ўзятай тэмы. Вершы І. Чарняўскай, надрукаваныя ў «Маладосці» (№ 10), даюць падставу для такога меркавання. У іх прыкметны рух думкі, выяўляецца ўменне арганізаваць «сюжэтную прастору» верша. Гэтыя ўласцівасці, думаецца, выдатна раскрываюцца ў загалоўным вершы падборкі:

У маёй восені — надвор’е на шалях:
То дождж, то снег.
У тваёй восені — мае духі і мой шалік,
Мой смех.
У маёй восені — халодныя рукі,
Замерзлыя пальцы.

У тваёй восені — мае рухі
І мае танцы.
У маёй восені збітыя рытмы
Жыццё вершаць.
У тваёй восені — мае рыфмы
І мае вершы.
У маёй восені цяжар адносін
Лягчэйшы ўдвая,
Бо ў маёй восені... ужо восень,
А ў тваёй — яшчэ я.

Вядома, глыбокія вершы пра каханне пішуць і мужчыны-паэты. «Успаміны пра каханне» — так названа нізка вершаў **Рагнеда Малахоўскага** («Літаратура і мастацтва», № 12, 25 сак.). Вершы, у якіх і ўзнёсласць пачуцця, і стрыманы, прыглушаны боль, і драматызм адносін паміж ім і ёю.

Паэзія мінулага года, паэзія нашай сучаснасці, разнастайная — шматфарбная, шматтэмная, шматдумная, разняволена пачуццёвая і стрыманая, класічна строгая і эксперыментальная, пошукавая... І ўсё ж галоўнае ў ёй — яе зямная, жыццёвая аснова, трывалая спалучанасць з запаветным, першародным, тым, на чым ад веку трымаецца род чалавечы. Менавіта з гэтага трывалага грунту бярэ яна ўзлёт у высі духоўнасці.

Пра паэзію можна было б яшчэ многа гаварыць, называючы імёны, згадваючы творы. На наша шчасце, гэта тэма невычарпальная. Не ўсё вартае, мабыць, успомнена і ў гэтым аглядзе.

Завяршыць жа хочацца на той аптымістычнай ноце, якая прагучала ў адным з вершаў М. Мятліцкага. Азіраючыся на гісторыю чалавецтва з усімі яе катаклізмамі, паэт выказвае ўсё ж такі цвёрдую веру і перакананасць у тым, што чалавек выстаіць. Галоўнай рухальнай сілай, як лічыць ён, ёсць жыццёвая адвага, якая надае трываласці роду чалавечаму.

Ды выстаўлю ўсё-такі ў процівагу
Дням скрушным — чалавечую адвагу.
Багата ёй асветлена падзей.
І без яе парыўнага узлёту,
Закутая ў павечную самоту,
Ты б не была, зямля, зямлёй людзей!



Анатоль ТРАФІМЧЫК

# ЯК ЛЮСІНЦЫ ПРАСІЛІ ПЕСНЯРА ШКОЛУ ПАБУДАВАЦЬ І ШТО З ГЭТАГА ВЫЙШЛА

110 гадоў таму Якуб Колас у якасці настаўніка народнага вучылішча ступіў на зямлю вёскі Люсіна. Сувязі з палешукамі ён захаваў да канца свайго жыцця. Па сённяшні дзень адкрываюцца новыя моманты гэтых стасункаў. Два дагэтуль невядомыя лісты люсінцаў народнаму песняру знойдзены нядаўна ў архіве Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа. Расследаванне падзейных кантэкстаў звароту палешукоў да народнага паэта прывяло да выяўлення цэлай гісторыі.

На доўгія чвэрць стагоддзя сацыяльныя катаклізмы разлучылі Якуба Коласа з Заходняй Беларуссю, дзе на Стаўбцоўшчыне засталіся яго маці і шматлікія родныя, дзе ў палескіх вёсках пачынаўся шлях у самастойнае жыццё будучага літаратурнага класіка, а на той час — звычайнага настаўніка ўбогай народнай школкі. З 1915 па 1939 год Якуб Колас не наведваў тых мясцін. А калі пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР народны паэт зноў займеў магчымасць бываць у родных краях, то першае, што зрабіў, — пачаў клапаціцца пра сваіх землякоў — жыхароў вёскі Мікалаеўшчына. Аднаго дня дзеці пяклі яечню. Не ўпільнавалі, як агонь перакінуўся на сялянскія гасподы, што стаялі адна пры адной. Дарослыя ж былі ў полі. За хвілін сорак полымем злізала больш за дзвесце хат. У сувязі з такім няшчасцем Якуб Колас звярнуўся ў Саўнаркам і асабіста да кіраўніка рэспублікі Панцеляймона Панамарэнкі з просьбай адбудаваць вёску з новаю планіроўкай, школай і бальніцай. Відаць, просьба з'яўлялася цяжкавыканальнай для ўлады, таму Колас не абмежаваўся дакладной запіскай, а, як вынікае з ліста расійскаму пісьменніку Сяргею Гарадзецкаму, удзяляў самую пільную ўвагу, ахвяруючы сваімі асабістымі і пісьменніцкімі справамі. Свой родны кут пясняр не выпускаў з-пад увагі ніколі. Пасля вызвалення Беларусі ад нямецкіх захопнікаў паэт зноў звяртаецца да клопатаў мікалаеўцаў, якія мелі ўсё тыя ж праблемы са школай (намі не ўстаноўлена, ці пабудавалі па яго ранейшай просьбе школу да нападу Германіі). Ізноў дзеля вырашэння гэтага пытання Колас ідзе да Панамарэнкі.

Тут нездарма ўвага звяртаецца на дапамогу паэта адбудоўваць перш за ўсё школы. Таму што аналагічны клопат Якуб Колас праяўляў не толькі адносна сваіх аднавяскоўцаў, але і пра іншыя беларускія вёсачкі, у шэрагу якіх апынулася ў свой час і Люсіна.

Акрамя радзімага Наднямоння, Якубу Коласу палюбілася сваёй прыродай Палессе. Гэта стала вытокам стварэння «палескіх» аповесцей. У *палескай глушы* мастак пранікся яшчэ адным куточкам Беларусі не менш, чым наднямонскімі краявідамі: «Яму (Лабановічу. — **А. Т.**) па душы быў і гэты глухі куток Палесся, аб якім яшчэ дома так многа цікавага наслухаўся ад аднаго старога аб'ездчыка, і гэты народ з яго асабліваю моваю і звычаямі, так не падобнымі да мовы і звычаяў тых беларусаў, з гушчы якіх выйшаў Лабановіч; гэты некрануты край старажытнасці, якая на кожным кроку кідалася ў вочы і затрымлівала на сабе ўвагу, і гэты выгляд самой мясцовасці, агульнага тону якой не мог яшчэ ўлавіць Лабановіч, але ў якой таксама было многа цікавага і, на яго погляд, павабнага», — піша

Якуб Колас пра перыяд свайго жыцця ў Люсіне. Паводле даследчыцы, кандыдата гістарычных навук Ганны Дулебы, «ён прыехаў у Люсіна пасля заканчэння Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Якуба Коласа вельмі непакоіла масавая непісьменнасць тутэйшых людзей, а таму ён усяляк імкнуўся, каб сялянскія дзеці наведвалі школу. Ён падрабязна азнаёміўся з жыццём і бытам мясцовага люду, сабраў шматлікія звесткі аб ім, на аснове гэтага пачаў пісаць аўтабіяграфічную аповесць «У палескай глушы»... У кнізе Якуб Колас яскрава і праўдзіва адлюстраваў жыццё і быт людзей гэтай вёскі».

Дамо слова і самому класіку, які, як мы ведаем, з’яўляецца прататыпам свайго галоўнага героя Андрэя Лабановіча. І каб чытач не сумняваўся ў тоеснасці літаратурнага героя і жывога чалавека, прывядзём наперад словы прызнання Якуба Коласа, знойдзеныя ў адным з яго лістоў: «Лабановіч — мой двайнік. Выдуманага ў яго паводзінах і характары нічога няма». Таму захапленні літаратурнага героя тоесныя пачуццям яго аўтара і прататыпа ў адной асобе.

Люсінцы заўжды памяталі свайго маладога настаўніка, які жыў побач з імі ў 1902—1904 гг. Падчас віхураў Першай сусветнай вайны, дый і ў 1920—1930-х гадах у іх не было магчымасці звяртацца да славутасці: вёска, належачы да заходняй часткі Беларусі, засталася пад Польшчай. Але і ў часы паланізацыі творы Якуба Коласа шырока хадзілі ў беларускіх масах. Верыцца, што і тады люсінцы чыталі аповесць «У палескай глушы». Радаваліся сустрэчам са сваім нядаўнім мінулым, успаміналі апісаныя ў творы падзеі і людзей. І пра свайго настаўніка, які праз аповесць, перакладзеную затым на 8 еўрапейскіх моў, адкрыў свету Люсіна, заўсёды захоўвалі памяць і амаль праз паўвека — пасля Другой сусветнай вайны.

Таму, калі сціхла апошняе на нашай зямлі ваеннае ліхалецце, а Пінскае Палессе назаўсёды стала неад’емнай часткай Беларусі, сувязь аднавілася. Ведаючы дабрыню Коласа яшчэ па колішніх часах — двух навучальных гадах настаўнічання «Лабановіча» ў «Цельшыне» — яны, калі настала патрэба, звярнуліся да яго. Патрэба з’явілася не абы-якая: не было дзе вучыцца дзецям люсінцаў. На жаль, гэтага прашэння не выяўлена. Аднак пра яго вядома з апублікаванага ліста народнага паэта (арыгінал захоўваецца ў Музеі беларускага Палесся ў Пінску):

«Мае дарагія сябры-прыяцелі,

мае былыя вучні і суседзі-люсінцы!

Радасна мне атрымаць ад вас пісьмо. Ваша Люсінская школа была маім першым настаўніцкім месцам, з якога пачалася мая дарога ў жыццё. Радасна таксама і тое, што мы сягоння, аддзеленыя такім доўгім часам, можам проста і ясна паглядзець адзін аднаму ў вочы, бо нічога непрыемнага, прыкрага не было між намі. Я вас любіў чыстым юнацкім сэрцам, хацеў дапамагчы вам знайсці лепшую дарогу ў жыццё, лепшую за тую дарогу, па якой ішлі вашы дзяды і бацькі…»

Шчырыя словы, што кладліся на паперу 24 чэрвеня 1948 года, хочацца цытаваць і цытаваць:

«Радасна было мне даведацца з вашага пісьма і аб тым, што слаўныя люсінцы ваявалі і супраць польскіх паноў і супраць нямецкіх захопнікаў, як партызаны, як салдаты Савецкай Арміі. Чэсць вам і хвала!»

З гэтых Коласавых слоў мы даведваемся і пра тое-сёе, што распавялі люсінцы ў першым сваім лісце:

«Я зраблю ўсё, што ад мяне залежыць, каб у вас на месцы старой драўлянай школы, каля якой стаяў высачэзны крыж, была пабудавана *новая, прасторная, светлая школа з цэглы*. Я напісаў заяву міністру асветы. У сваёй заяве прашу яго адпусціць грошы на будаўніцтва *Люсінскай поўнай сярэдняй школы*. Спадзяюся, што такая школа ў вас будзе» (курсіў наш. — **А. Т.,** у далейшым да выдзеленых слоў вярнуся).

На развітанне класік выказаў жаданне наведаць Люсіна, «калі пазволіць жыццё і здароўе». Пісьменнік, што высылае кнігу пра Люсіна, названае Цельшы-

нам (зразумела, маецца на ўвазе аповесць «У палескай глушы» ці ўся трылогія «На ростанях») і перадае прывітанне «ўсім, падпісаўшым пісьмо».

Справа ў патрэбным кірунку аднак не закруцілася. У самым канцы 1948 г. даволі шырокім колам прадстаўнікі люсінскай грамадскасці вырашылі напісаць чарговы калектыўны ліст Якубу Коласу з просьбай пасадзейнічаць займець у іх вёсцы прыстойную школу. Гэтае пісьмо доўгі час было невядомым. Яно толькі нядаўна знойдзена ў архіве літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа.

Выклікае цікавасць структура і змест ліста. Пасля разгорнутага прывітання люсінцы апісваюць актуальную сітуацыю са школьнай асветай у вёсцы, дзе яшчэ стаяла школа, у якой працаваў некалі Канстанцін Міхайлавіч. Аднак будынак быў ужо непрыгодны для навучання звыш 200 вучняў. Таму для якіх даводзілася арганізоўваць заняткі ў непрыстасаваных памяшканнях (звычайных сялянскіх хатах) у дзве змены.

Люсінцы, відаць, пашкадавалі час песняра. Інакш яны маглі б распісаць становішча з асветай у іхняй вёсцы больш падрабязна. А яно не радавала нават у параўнанні з іншымі школамі раёна. Так, ганцавіцкая раённая газета «Сялянская праўда» паведамляла, што па забеспячэнні школ падручнікамі і сшыткамі «горш усяго справа абстаіць у Люсінскім сельсовеце».

Перш чым падступіцца да просьбы люсінцы падкрэсліваюць сваю лаяльнасць да савецкай улады і ўведзеных ёю эканамічных парадкаў: кажуць, што цалкам разлічыліся з падаткамі. Сапраўды, на сялян у той час былі ўскладзены з боку саветаў вельмі значныя паборы, што для некаторых стала непасільнай ношай, а невыкананне выклікала пакаранне ў выглядзе штрафаў, экспрапрыяцыі маёмасці і хатняй жыўнасці, а часам нават высылкі ці зняволення. Тым не менш яны справіліся, як самі паведамляюць у лісце, з гэтай эканамічнай перашкодай.

Аднак тое паведамленне вяскоўцаў пярэчыць афіцыйным дадзеным, апублікаваным у ганцавіцкай раёнцы. Прычым менавіта люсінцы па сплачванні падаткаў называюцца аўтсайдарамі ў раёне: «Патрэбна адзначыць, што ў раёне выкананне фінансавага плана 4 квартала праходзіць нездавальняюча. На 20 кастрычніка квартальны план мабілізацыі грашовых сродкаў па раёне выканан толькі на 15,5 процанта. Асабліва нездавальняюча праходзіць выкананне фінансавага плана ў Люсінскім сельсовеце».

Гэтай праблеме ў Люсіна прысвячаліся і асобныя артыкулы на старонках «Сялянскай праўды». За ўвесь 1948 г. па стане на люты 1949 г. нядоімкі жыхароў Люсінскага сельскага савета склалі 47 тыс. рублёў. Спагнанне доўгу з сялян (а ён у некаторых даходзіў да 2 тысяч рублёў) працягвалася. Цягам часу ўсё ж сітуацыя па выплаце падаткаў сапраўды пачала выпраўляцца, таму на старонках мясцовай прэсы сталі з’яўляцца і станоўчыя нататкі на гэту тэму. Але гэтак адбылося ўжо пазней напісання ліста да Якуба Коласа, якому падпісанты, такім чынам, сітуацыю і сябе ў ёй рэпрэзентавалі значна прыфарбавана, фактычна казалі няпраўду (пры ўмове, што яны пісалі ад шырокага кола люсінскай грамады, як гэта нібыта падаецца ў тэксце пісьма, а не ад падпісантаў асабіста, якія самі па сабе маглі сапраўды і не быць даўжнікамі ў дзяржавы). Напэўна, так хацелі наблізіцца да мэты.

А вось стараннасць люсінскіх настаўнікаў вылучалася на агульным фоне іншых школ. Прынамсі раённая газета «Сялянская праўда» прысвяціла некалькі пахвальных радкоў: «Нядрэнных вынікаў у гэтай благароднай і пачэснай рабоце (ліквідацыі непісьменнасці і малапісьменнасці. — **А. Т.**) дабіліся настаўнікі і культармейцы Люсінскага сельсовета. Абучэннем тут ахоплены ўсе непісьменныя і малапісьменныя. З пачатку навучальнага года (1948/49. — **А. Т.**) у сельсовеце абучана грамаце 98 чалавек. Лепш другіх праводзяць работу па абучэнню непісьменнага і малапісьменнага насельніцтва Беленкова Т. Я., Хмялеўскі М. І., Галай Н. І., Пазднякова Е. А., культармейцы Амельяновіч С. А., Семановіч М. І., Барташэвіч Г. М., Занько Г. І.».

У канцы ліста вяскоўцы зноў падкрэсліваюць сваю прыхільнасць да палітычнага курсу таго часу: «Мы не пашкадуем ні сіл, ні здароўя на заканчэнне сталінскай пяцігодкі ў 4 гады і хутчэйшаму пераходу да камунізма».

Прашэнне палескіх вяскоўцаў выражана немудрагеліста: адным сказам яны просяць пабудаваць у наступным навучальным годзе васьмігодку. Тут, праўда, узнікае пытанне, чаму гаворка ішла пра васьмігодку, пераход на якую — з сямігодкі — у савецкай сістэме адукацыі пачалі ажыццяўляць куды пазней. Дагэтуль структура школьнай асветы ў СССР была наступнай: пачатковая школа — 4 класы, базавая — 7, сярэдняя — 10.

Аднак сапраўды на такую вялікую вёску пачатковай школы яўна не хапала. Можна меркаваць, што, акрамя дэклараваных у лісце 200 вучняў 1—4 класаў (гэта значыць ад 7 да 11 гадоў), было недзе гэтулькі патэнцыйных школьнікаў 5—8 класаў. А з улікам таго, што пасля вайны наспяваў дэмаграфічны выбух, то нават васьмігодка падаецца вельмі сціплым рашэннем праблемы.

Ліст сведчыць, як моцна, прагна вясковы люд цягнуўся да ведаў. У фармулёўцы просьбы кідаецца ў вочы яе пачатак: «Мы яшчэ раз звяртаемся да Вас, а таксама да партыі і ўрада…» Фраза «яшчэ раз» гаворыць пра тое, што люсінцы мелі на ўвазе ранейшы ліст-просьбу. У адказ на яго Якуб Колас паабяцаў самую дзейсную дапамогу. Аднак адсутнасць зрухаў падштурхнула жыхароў Люсіна нагадаць пра становішча з адукацыяй у іхняй вёсцы. Прычым яны нават не выказвалі надзеі на сярэднюю школу, аб якой прасіў у заяве пясняр. Пэўна, разумелі, што гэта проста не рэальныя пражэкты.

Два лісты люсінцаў, такім чынам, сталі ці не першым за доўгія-доўгія гады кантактам люсінцаў са сваім былым настаўнікам. І штуршком для пісьмовага звароту да народнага паэта паслужыла вострая неабходнасць у грамадскай установе асветы.

Тэкст ліста, які захоўваецца ў фондах музея пад нумарам КП-13534, публікуецца ўпершыню. У ім захаваны правапіс і пунктуацыя арыгінала. Канверт датаваны 26 снежня 1948 г.

*Вялікаму Беларускаму пісьменніку —*
*Якубу Коласу*

*ад сялян вёскі Люсіна,*
*Ганцэвічскага раёна*
*Пінскай вобласці.*

*Паважаны Канстанцін Міхайлавіч!*

*Мы, сяляне вёскі Люсіна, калектыў настаўнікаў Люсінскай пач[атковай] школы і ўся інтэлігенцыя Люсінскага с/совета шлем Вам, паважаны Канстанцін Міхайлавіч, большэвіцкае прывітанне!*

*Прайшло многа год з таго часу, калі Вы, Канстанцін Міхайлавіч, жылі і працавалі ў нашай вёсцы настаўнікам. Многія Вашы вучні цяпер ужо сталі старыкамі. Школа, у якой Вы працавалі, яшчэ стаіць, але ўжо непрыгодная для вучобы. Дзеці нашы вучацца ў наёмных непрыгодных пад школу памяшканнях і ў дзве змены (звыш 200 вучняў у школе).*

*Выконваючы рашэнні партыі і ўрада аб аднаўленні і развіцці народнай гаспадаркі нашай Беларусі, мы поўнасцю разлічыліся з дзяржавай па ўсіх відах налогаў, — і ўсе як адзін дастойна сустрэнем 30-ю гадавіну нашай Беларусі.*

*Паважаны Канстанцін Міхайлавіч!*

*Мы яшчэ раз звяртаемся да Вас, а таксама да партыі і ўрада з просьбай: пабудаваць у 1949 — 50 гг. васьмігадовую школу ў в. Люсіна, якую з вялікай пашанаю назавём Вашым іменем.*

*Мы не пашкадуем ні сіл, ні здароўя на заканчэнне сталінскай пяцігодкі ў 4 гады і хутчэйшаму пераходу да комунізма.*

*Жадаем Вам, Канстанцін Міхайлавіч, добрага здароўя і лепшых поспехаў у працы на карысць нашай Радзімы!*

*Старшыня выканкома*
*Люсінскага с/совета*
*дэпутатаў працоўных*
*/Жалезны/*
*Загадчык Люсінскай пач. школы*
*/Санько/*

*Настаўнікі: (подпісы ў колькасці пяці пазіцый неразборлівыя. — А. Т.)*
*Сяляне 1) ад сялян в. Люсіна*
*2 сакратар Комс[амольскай] арг[анізацыі] (Занько)*
*3 сакратар с/с выканкома (Телушко)*
*Вучні 3 і 4 класаў.*
*(усяго 65 чал[авек])*

Невядома, ці Якуб Колас адпісаў гэты ліст. Бывала, што на атрыманых пісьмах ён рабіў пазнаку «адказана», якой на пасланні люсінцаў няма. Аднак праблемы са школай пачалі канструктыўна вырашацца. Прычым вельмі хутка — у наступным сезоне.

Ужо ў 1949 г. пачатковая школа была пераўтворана ў сямігадовую. Па ўсёй верагоднасці, першаснай прычынай гэтай прагрэсіўнай трансфармацыі стала ўвядзенне ў тым годзе па заходніх абласцях БССР абавязковага сямігадовага навучання (дагэтуль яно тычылася толькі гарадской мясцовасці, у сельскай абавязковай была пачатковая адукацыя).

Аднак ужо ў тым жа, 1949 г., ганцавіцкая раённая газета паведаміла пра планы пабудаваць у раёне некалькі новых школ, у тым ліку ў Люсіне (але без указання тэрмінаў). Тут жа і крытыкуецца Люсінская школа ў сувязі з кепскім выкананнем рамонту: «Безадказна, антыдзяржаўна адносіцца да гэтай важнейшай справы загадчык Люсінскай пачатковай школы т. Санько. Не гледзячы на адпушчаныя сродкі, на прапаноўваемую сельскім советам дапамогу, рамонт школы яшчэ не распачат. Загадчык школы т. Санько фактычна бяздзейнічае, не зважаючы ўвагі на непрыстасаванасць школы да заняткаў, на дрэнную пастаноўку вучэбна-выхаваўчай работы».

Неўзабаве з’яўляюцца паведамленні пра разгортванне будаўніцтва новай школы:

«У вёсцы Люсіна *метадам народнай будоўлі* (курсіў наш. — **А. Т.**) распачалося будаўніцтва сямігадовай школы. З вялікай актыўнасцю ўдзельнічаюць сяляне ў гэтым будаўніцтве. Кожны селянін абавязаўся адпрацаваць не менш 5 дзён. Але многія сяляне, у якіх маюцца дзеці школьнага ўзросту, не задаволіліся гэтым. У падзяку за тое, што іх дзецям адкрыты шлях да навукі, яны бяруць на сябе значна вышэйшыя абавязацельствы.

У сельскага актывіста Цялушкі Філіпа трое дзяцей наведваюць школу. Тав. Цялушка ўнёс на будаўніцтва школы 100 рублёў грашыма і абавязаўся скласці сам 8-мятровую сцяну.

Столяр Жалезны Сямён даў абавязацельства зрабіць трэцюю частку ўсіх сталярных работ, а дэпутат сельскага совета тав. Дзічка Павел абавязаўся зрабіць два акна і ўнесці 50 рублёў грашыма.

Кожны з сялян лічыць справай чэсці паспяхова выканаць узятае абавязацельства. На нарыхтоўку лесаматэрыяла для будаўніцтва школы штодзённа выязджае да 15 падвод і выходзяць у лес дзесяткі лесарубаў.

Для сталярных работ ужо распілована 25 кубаметраў дошак.

Закончыць будаўніцтва сямігадовай школы сяляне абавязаліся да новага навучальнага года».

Прыкладна тое ж чытаем у артыкуле наступнага нумара раёнкі. Энтузіязм насельніцтва і першыя вынікі працы вясковай талакі распісваюцца яшчэ ў ярчэйшых фарбах. Называецца шырокае кола актывістаў ініцыятывы будаўніцтва школы. Артыкул мае на мэце стварыць рэзананс падзеі, каб іншыя вяскоўцы актыўна бралі прыклад з люсінцаў.

Больш за тое, пабудова школы ў Люсіне стала нават адным з пунктаў дагавора аб міжабласным сацыялістычным спаборніцтве Брэсцкай і Пінскай абласцей. Здавалася б, такі імпэт павінен быў прывесці да скорага дасягнення мэты. І праўда, неўзабаве інспектар раённага аддзела народнай асветы Е. Берлінская паведамляла: «У вёсцы Люсіна сяляне заканчваюць зруб будынка сямігодкі». Аднак рэчаіснасць пакідала жадаць лепшага.

Дастаткова зірнуць на інфармацыю годам пазней: «Асабліва дрэнна абстаіць справа з будаўніцтвам. Ужо даўно прайшлі ўсе тэрміны, але будынак Люсінскай сямігадовай школы да гэтага часу знаходзіцца ў стадыі будаўніцтва. Сельскі совет (старшыня т. Мельнікаў) і праўленне калгаса імя Калініна (толькі-толькі створанага. — **А. Т.**) самаўхіліўся ад аказання дапамогі школе».

Відавочна, ініцыятыва знізу патухла. Таму патрэбна была дапамога мясцовых органаў улады, але яны праігнаравалі праблему, што мела востры характар і на наступны год: «У Люсінскім сельскім совеце яшчэ ў 1949 годзе пачалося будаўніцтва новай сямігадовай школы. Але да гэтага часу школа не пабудавана. Маруднымі тэмпамі вядуцца будаўнічыя работы і ў гэтым годзе. Старшыня Люсінскага сельсовета т. Занько і дырэктар школы тав. Місько своечасова не прынялі мер, каб у гэтым годзе будаўніцтва школы было закончана».

Гарызонт заканчэння гэтай гісторыі яшчэ не быў відзён, а Якуб Колас у пачатку 1950 г. думаў, што люсінцы ўжо маюць «новую, болей прасторную» школу, якая б задаволіла іх патрэбы ў навучанні.

У юбілейны для народнага паэта — 1952 — год святы з нагоды дня ягонага нараджэння люсінская грамадскасць праводзіла таксама не ў новым школьным будынку, якога па-ранейшаму не існавала. Не прамінулі вяскоўцы тады і яшчэ адну дату — 40-годдзе з часу настаўнічання Канстанціна Міцкевіча ў Люсінскай народнай школе, пра што меліся распавесці на свяце колішнія ягоныя вучні — «калгаснікі Занько М. В. (пра яго будзе яшчэ трохі ніжэй. — **А. Т.**), Рылко В. С. і Занько М. І.» Адпаведны літаратурны вечар давялося праводзіць у мясцовай хаце-чытальні, хаця ў іншых вёсках імпрэза адбывалася ў школах.

Тэма незавершанага ў Люсіне школьнага будынка ўсплывала на старонках мясцовай прэсы з году ў год. Вясной 1953 г. асноўныя матывы гэтай праблемы паўтарыліся: «Між тым у многіх сельскіх Советах работа па падрыхтоўцы школ да новага навучальнага года яшчэ не праводзіцца. Не ўдзяляе ўвагі пытанням работы школ Люсінскі сельсовет. Больш чатырох гадоў таму назад у вёсцы Люсіна была распачата будаўніцтва новага будынка для сямігадовай школы. Аднак і да гэтага часу будаўніцтва яго не закончана. У выніку гэтага школа размяшчаецца ў трох аддаленых адзін ад другога непрыстасаваных будынках. Патрэбна адзначыць, што і зараз ні раённы, ні Люсінскі сельсовет не спяшаюцца з заканчэннем будаўніцтва школы».

На будаўніцтва школы было патрачана чатыры поўныя гады і пяць летніх сезонаў, калі, нарэшце, яна была здадзена ў эксплуатацыю. У ёй распачаўся 1953/54 навучальны год. Відаць, цяганіна з будоўляй не дазволіла навіну пра гэта зрабіць пампезнай. Прынамсі, раёнка абмежавалася сціплай нататкай: «Добры падарунак атрымалі школьнікі вёскі Люсіна. У гэтым годзе тут закончана будаўніцтва новага памяшкання для сямігадовай школы. У новым памяшканні размешчана 5 класных пакояў, фізхімкабінет, піонерскі і настаўніцкі пакоі».

Як бачым, даўгабуд аказаўся зусім не маштабным па плошчы будынка. Нават сямігодка не магла працаваць у адну змену. Коласава просьба не атрымала належнай рэалізацыі: ні новай, прасторнай, светлай школы з цэглы, ні тым больш поўнай сярэдняй школы вялікая вёска тады не атрымала. Тым не менш гэта сталася істотным паляпшэннем наяўных на той час у Люсіне ўмоў для навучання вучняў.

Думаецца, Якуб Колас да такіх пераўтварэнняў меў самае непасрэднае дачыненне (у Люсіне нават ходзіць паданне пра грошы, накіраваныя паэтам ці па яго ініцыятыве на ўзвядзенне школы, якія нібыта былі пераведзены раённым начальствам на іншы аб'ект). Аднак пакуль не ўстаноўлена, якія канкрэтна захады, акрамя ўпамянутай у яго лісце заявы, ён рабіў (адказ на многія такія пытанні магла б даць даследчыцкая праца ў архівах). Галоўнае: вынік прашэння, прычым аператыўны, рэальны і канкрэтны быў намечаны — будаўніцтва распачалося. Аднак, па-першае, ад дзяржавы дапамогі не было (прынамсі доўгі час), выкарыстоўваўся рэсурс мясцовы (дзелавы лес, працоўная сіла, урэшце грошы сялян), па-другое, будоўля ператварылася ў даўгабуд. Сваімі сіламі люсінцы, відавочна, не справіліся з узвядзеннем вялікага будынка. Улада таксама не спяшалася з дапамогай (тым часам у Заходняй Беларусі якраз праводзілася масавая калектывізацыя і саветам было не да такой драбноскі, як школа). Аўтарытэтнага кантролю, які мог бы быць у абліччы Якуба Коласа, зноў-такі не існавала.

Ёсць і яшчэ адзін важны вынік калектыўных лістоў люсінцаў да народнага паэта. Тымі пісьмамі быў пакладзены пачатак невялікай перапіскі люсінцаў з Якубам Коласам.

Яшчэ вясною 1949 г. па сутнасці па пратаптанай сцежцы (адрас быў ужо вядомы), «па даручэнню вучняў і сялян вёскі Люсіна» напісаў Якубу Коласу ліст загадчык мясцовай школы К. Санько. Пасланне вельмі кароткае. Акрамя «бальшавіцкага прывітання», «камсамольцы, піонеры, а таксама і сяляне» віншуюць народнага паэта «з атрыманнем Сталінскай прэміі» і жадаюць яму «яшчэ лепшых поспехаў і здароўя ў працы на карысць нашай Радзімы». Ці меў ліст пэўнае прыхаванае значэнне або мэту — цяжка сказаць. Таму логіка можа быць у тым, што гэтае пісьмо-віншаванне выконвала ролю напамінання пра папярэднія пасланні-просьбы люсінцаў. Але не выключана, што ліст з'яўляецца свайго роду жэстам удзячнасці вучняў і сялян песняру, які ўжо замовіў слова ў справе пабудовы новай школы ў сяле. Неўзабаве пасля ліста К. Санько, датаванага 20 красавіка 1949 г., і распачалося ўзвядзенне новага будынка школы.

Гісторыя эпісталярных кантактаў люсінцаў з Якубам Коласам мела працяг. Шырока вядома, што ў 1950 г. ён абмяняўся некалькімі лістамі з адным са сваіх вучняў, які сам сябе падпісваў, як «Занько Міхаіл Васілёў» (імя па бацьку сярод беларусаў не прынятае, таму звычайна называў прозвішча і імя, часам для паўнаты ідэнтыфікацыі дадаючы, як у нашым выпадку, чыйго бацька сын). Ліст Якуба Коласа ад 2 лютага 1950 г. апублікаваны, — то быў ужо адказ Міхаілу Занько: «Атрымаў я, браток, тваё пісьмо», — напачатку піша народны паэт. З гэтага пісьма вынікае, што яму папярэднічаў ліст Коласава вучня, у якім М. Занько хацеў азнаёміць класіка з вершамі (магчыма, сваімі ці каго з родных або землякоў), але Якуб Колас адмовіўся з-за таго, што мае «мала часу і сілы, каб апрацоўваць іх».

А вось чарговы ліст М. Занько да свайго колішняга настаўніка захаваўся: ён даўно ўпрыгожвае экспазіцыю музея класіка ў Мінску. Гэты ліст датаваны 12 лютага 1950 года. Такім чынам, адпісаны даволі аператыўна — праз дзесяць дзён пасля пісьма Коласа. У пісьме аўтар распавядае пра лёс аднавяскоўцаў, найперш герояў аповесці «У палескай глушы» У той жа час папярэдняга пісьма М. Занько ці больш разгорнутых звестак пра той ліст пакуль намі не знойдзена. Як і не выяўлена, ці адпісаў чарговы раз пясняр свайму колішняму вучню.

Відавочна, што далейшая пошукавая праца прынясе новыя адкрыцці ў стасунках люсінцаў і народнага паэта, шлях у самастойнае жыццё якога пачаўся менавіта ў Люсіне — некалі глухой палескай вёсцы. Да таго ж напэўна жывуць і людзі, якія памятаюць тую перапіску, а то і мелі дачыненне да яе. Калі такія знойдуцца, то ласкава просім звяртацца да аўтара гэтага артыкула праз электронны адрас **tolik1976@tut.by.**